# Змест



# ВЕРАСЕНЬ
# ПАЭЗІЯ

дар'я антановіч кацярына сянкевіч
глеб лабадзенка наста кудасава
таццяна лапцёнак іна снарская
эдуард акулін алесь гібок-гібкоўскі
фелікс баторын





# Дана Антановіч

**паэтка. Студэнтка мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Машэрава. Друкавалася ў «Новай газеце», «Народным слове» і «Дзеяслове». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Полацку. Жыве ў Наваполацку.**



## Песні ў ліфце

***

Сыпаць метафарамі,
Эпітэтамі.
Недавершанымі,
Нязвыклымі вершамі.
Палітыкамі
Так і не збыцца,
Не стацца.
Прачнуцца
Аднойчы
Не ў сваім ложку.
Не лезці ў бутэльку.
Любіць і пяшчоціць
сваю любімую кошку.
Не мружыцца
Ад ліхтарыкаў.
Маляваць у сшытку
Незнаёмыя тварыкі.
Прыпомніць усё,
Як было ў дзяцінстве...
Шаптаць прама на вуха.
Заінтрыгаваць і змыцца.
Праліцца
Нарэшце,
Як летні дождж з навальніцай...
Прарвацца,
Каб назаўжды застацца.
Знайсці каханне і казку.
Набыць дзесьці Кена Кізі,
Перачытваць некалькі разоў.
Атрымацца адразу.
Нарэшце?
Цалаваць і маліцца
На адзін з тысячы абразоў.
Заплюшчыць вочы ад раптоўных мрой.
Ведаць ангельскую
І ведаць адзіны нумар тэлефона.
Твой.

***

І будуць няспыннымі вершы
І нечаканымі — песні.
Песні ў ліфце спыненым,
Дзе нікога з былых няма.
І будзе час са мною,
І будуць рудыя выраі
Хавацца ад лёсу выраку,
Дзе буду калісьці і я...
Анёл за маімі плячыма
Знойдзе новыя сцежкі,
Там, дзе сябры — не здраднікі,
Там, дзе са словам — жыць.
І бэзу куст фіялетавы.
І кроў пральецца, як дадзенасць.
Няхай будзем спаць валетамі,
І нельга пакутам быць!
І крылы анёлаў сплятуцца
У радасць, пяшчоту, смех.
І мары няхай разлятуцца.
І падае белы снег.

***

Пакуль ты яшчэ маленькі,
І крылы твае не трапечуцца,
І думкі — нібы паперкі,
Ад подыху ветру шэпчуцца.
Ты крылы дастань са скрынкі.
Павер, яны таго вартыя.
Калі ты шчэ быў пылінкай,
Бог выйграў у лёса партыю
У карты... Каб быў упартым ты.
Бо сонца не сніцца зверу,
Што ноччу выходзіць з пячэры.
Яго ты не бойся, вер яму...
Вяртайся дамоў вячэраць.
Цябе уратуюць вершы,
Бо ты ў іх здалеў паверыць.
Ідзі гэтым шляхам верным,
Толькі вяртайся вячэраць...



## Неба

Ружовае. Блакітнае.
Нерухомае... Сакавітае.
Яблычна-крывавае.
Белым снегам уздоўж працятае.
Ад зямлі адарвацца хочацца.
Знічкам у снезе не крочыцца.
Табе больш не патрэбна глеба,
Закахана глядзіш у неба.
На машыне водбліск гарачага сонца...
Мо яго пакінуў для цябе кіроўца?
Ці яно засталося над полем Грунвальда?
Ці яго напісаў Леанарда?..

Зноў халоднае, зноў разбітае,
Шэрым колерам апавітае.
Зябкай птушкаю рвецца ў дом.
Сонца ў снезе — рудым катом.

## Малітва

Божа, дапамажы рыжым коткам выжыць!
Арэлям скрыпучым — ціха песні плесці.
Кволаму волю вярні, каб дыхаць.
Маці — моцныя рукі, каб анёлка ў іх несці.
Прабач Каралеву Бону.
Схавай нас ад раптоўнай маланкі.
Цару вярні яго карону.
І не будзі немаўлятка зранку.
Не дай завірухі тры дні запар.
Дай сэрцу каменнаму любоў адчуць.
Дай сціпламу самых смелых мараў.
І крый цябе, Божа, нас пачуць...



# Кацярына Сянкевіч

**паэтка, мастачка. Друкавалася ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва», гадавіку «Тэрмапілы». Сяброўка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Выдала зборнік паэзіі «Дачка ружы» (2011 г.). Студэнтка мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Гайнаўцы. Жыве на хутары Граматнае на Беласточчыне.**

# Ліст незнаёмаму

## Знайдзі словы

знайдзі ў словах
электронных
кроплю
вельмі мокрую
што робіцца рэальнай
думкамі
найбольш смелымі марамі

## ДНК

Лішак сораму шкодзіць
Я не сабою і не магу
Твой штодзённы, скрупулёзны
зрок інтэрпошукавіка
памылкова здаецца блукаць
час ад часу
мяняеш толькі ДНК

***

Не распазнаю ўласных пачуццяў,
пачуцці робяць збой у разумовых працэсах.
Я магла б успамінаць увесь час.
Увесь дзень твой твар.
Увесь дзень тваю сумную
ўсмешку. Увесь дзень
выпадковае слова.

## Калі яе няма

калі яе няма толькі тады я ёсць
прысвячаеш мне нават позірк
дзякую

калі ты з ёю і бачыш мяне
апускаеш галаву
каб паглядзець у вочы мурашкам

***

я знайшла сухія вусны і пару алоўкаў
знайшла наіўнасць
намаляваную чырвоным
самота чалавека чакае мяне толькі
на беразе неіснавання

***

Прабачаю ўсё, на ўсё я заслужыла —
Пакуты, самоту, выдуманы праклён.
Даспадобы было мне лічыцца невядома кім.

Я пакінула людзей, засталася адна.
Лічы за нікога.
Толькі цяпер ведаю як вельмі

Я ёсць.

***

Няма лякарства толькі дождж
Цуду
Можа памыць маё сэрца.
Госпадзе,
развяжы клубок душы.

## Ліст незнаёмаму

Калі змагу цябе
Пакахаць
Узаемна
Буду маліцца на цябе
Калі цябе не будзе блізка

буду трактаваць як храм
найшчаслівейшая з жывых

Калі мяне пакінеш
Не перажыву смерці
Бога



***

страхі хіміі дэманічнай нефізічныя
экстрасенсорныя адчуванні афізіялагічныя
жаху ад слова дастаткова не больш чым ад ільва
павялічанага да павышэння з хвалявання
паднятага да ступені маўчання

***

можа параніў мяне гэты малы павук
можа параніла мяне муха
можа параніў мяне ты
а можа я сама сябе параніла

***

Каханне гэта шкодны наркотык
Чорны кот на якога палююць самалёты
Паміраем з ім тысячу разоў
І яшчэ жывем!
І яшчэ жывем!

***

калі паміраюць мары
пакута мае смак папсаваных яблык
прыгадваюць жывых вос
нічога на памагае нават прасціна
поўная слёз,
апошні покліч гасіць агонь

Калі паміраюць мары
паміраюць таксама душы людзей
хачу ўсмешкі, ледзь чутнага слова

Рукой ветру ёсць надзея,
а над намі ўсё плыве неба,
не хачу ісці жыць глыбока
ў нядзейсненую зямлю
д'ябла

Божа



# Глеб Лабадзенка

**паэт, журналіст. Аўтар кніг: «Пагер-вершы» (2005 г.) і «Дзіцячая заМова» (2012 г.). Як журналіст напісаў больш за 1200 артыкулаў. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

## Перамовы з ветрам

***

ад гэтага храма
Бог
не пакінуў ключы
праўдзівыя храмы
звыкла не замыкае
там, дзе ланцуг
на браме —
там і абраз
маўчыць
толькі кандуктар спраўна
цэтлікі выбівае
храм на замку?
не вер
у храме няма
што красці
толькі сабака
тлусты
на ланцугу
жыве
а вартаўнік спакою
з ветрам
шукае
шчасце

***

лепшы дарадца — вецер
носьбіт мільёна словаў
змушаны перабежчык
ценяў і далячынь
з ветрам на перамовы
ходзяць цары і дзеці
вецер дае парады
сціпла перамагчы
вецер нясе па колу
думкі і пераспевы
той, хто спазнае вецер

той утаймуе час
вецер жыве ў дрэвах
і пераходзіць у смолы
каб знітаваць паветра
і перастаць маўчаць
вецер не дасць парады
а пералічыць лёсы
каб выбіраць і думаць
кропка, працяжнік, крыж
вецер заўжды дарослы
з высі пяе балады
сонечным чалавечкам
з промнямі дагары

***

з раждаством —
джаліць вуха драбінка настрою
і ўсмешкай каляднаю
спакваля
аблятае зямлю
ялінка
і зямля
з недакладнасцю
прымаецца за старое.
І, Хрыстосе,
здзіўляючы богавым
словам
залатых матылькоў
адпускае ў
кожную хатку
спрытна цемру
абстаўляючы нанова
пачынаецца сусвет
з пачатку

***

кожны дзень
без цябе —
трагедыя
як кава



без кавы
як хлеб
без сала
ты вяртайся хутчэй —
дастала
жыццё
будзем разам з табой —
мас-медыі
пільнаваць
што зямля
напісала
і спрадвеку
і пэўна
да скону
калекцыянаваць
тэлефоны
а пасля
залатыя зубы
ты шуеш любая
шую
любы

***

ты рушыш на ўсход —
і горад
заносіць снегам
і з небам
ты робіш дамову
чакаць вартавых
ты дзеліш на год
свае
захваёвыя спевы
ты слухаеш неба
і вецер
ўспрымаеш
на слых

ты едзеш на ўсход
і ўсе мае душы
з табою

***

неба змывае наш горад
у сне
я запытаю яго: чаму?
лепей каб нам давялося
не
перажываць зіму
будуць свістаць на рагу
басякі
па тэлевізары будуць
дажджы
хлусіць нам будзе толькі адзін
мужык
я прапаную цяляці соль
раптам мяне пачуе
трава
і не пушчу бабулю больш
галасаваць

***

я той казаў,
што той я быў
сляпы.
у той
утойваць
было чаго.
я краў сябе свайго
да шантрапы,
я забываўся
на сваіх
багоў.
я рэзаў вочы
ды крышыў на брук,
я хрызантэму
выдумаў сабе.
я крэсліў ромбы
і чакаў, што круг
прыкрые чорны
сонечны прабел.
выходзіць



месяц чысты
на шпацыр.
я сябру ў ногі
пакланюся шчыра.
я верыў,
што знайду
без дзірак сыр.
я думаў
што хачу
кавалак сыру...

***

ад соку соладка
ад піва горка
віншую аблокі
ад імя дарадцы
сяджу на даху
а побач зорка
на ночку вырашыла
застацца

***

малюнкі на скалах
маркоцяць замала
малюнкі на крыгах
звыклыя, спробныя
пішу табе,
каб адказала
вылучаю цябе ў лігу
асобную
і на веснавым
даазёрным досведзе
выносіш прысуд
расе на ландышах
я раней да цябе
увесь адносіўся
я крычаў на аблокі
торкаў гландамі
стадыёнамі раннімі
ты адказвала

рэйкі зыбкай
глебаю
кідала
лес
і той
рыпеў палазамі
я чакаў
покуль пыл
абляціць
ды з ідалаў
і не сёння
марэнавы лад
утвораны
лісце ведае
вырай
заносліві
кліча месяц
зямлі
скорую
я гадую
сваіх
вослікаў

***

паціху ўсё
па ці хурме
ці мандарынцы
кропля крочыць
снег быў —
і мы ў яго
турме
канвертавалі
дні
на ночы
снег быў —
ён ведаў
свой расклад
ён ведаў
што чакаюць дзеці
раптоўны снегаў пераклад

галля
у белыя суквецці
на горках
змерзлыя насы
нагоды дачакалі мілай
ткаць ледзяныя паясы
адгэтуль —
і да небасхілу
снег быў —
хто б даў цяпер
яму не быць?
хто зазлуе
на белакулі?
на голку
што любіла
ніць
на пчолаў
што любілі вулей
ды ўсё ж пайшоў
на галаву
не папрасіўшы нат
прытулку
і дворнік зранку
чэша вулку —
бы рыпае стары
ківун
шматкі аблокаў
рэшткі неба
снег —
моднік белы
насурочыў
мы ніцавалі
дні на ночы
снег быў —
была у тым
патрэба

***

круціцца ўсё —
словы ды гукі

круціцца месяц
горы ды травы
круцімся мы.
цёплыя рукі
круцяцца —
ад ромнаў да лібавы
круцяцца грэкі
круцяцца хмары
сонейка —
і тое
круціцца
занураюся
ў твае мары
хто патануў —
ужо не атруціцца

***

няпэўны рух
і людзі дзівакі
ідуць па колу
сноўдаюць як кросны
маўчым за двух
глядзім як жабракі
бо кожны смутак
хоча быць
узнёслым

дзе ўсе масты
ідуць па дну ракі
дзе вадаспады
просяцца ў нябёсы
мы паспытаем
рух ва ўсе бакі
і абярэм адзіны
самы просты

хадзі сюды,
я дам табе руку
і перадай далей
на поўны голас
рука ў руцэ, дзівак пры дзіваку
хай будзе так, як, можа,
не было ў нас

дзе ўсе масты
ідуць па дну ракі
дзе вадаспады
просяцца ў нябёсы
мы паспытаем
рух ва ўсе бакі
і абярэм адзіны
самы просты

на пляцы смех,
на пляцы карнавал
святло не верыць —
і перамагае
і дзівакі бягуцца цалаваць
і кожны свой
сакрэт ў сабе трымае

дзе ўсе масты
ідуць па дну ракі
дзе вадаспады
просяцца ў нябёсы
мы паспытаем
рух ва ўсе бакі
і абярэм адзіны
самы просты



# Наста Кудасава

**паэтка. Аўтар кнігі паэзіі «Лісце маіх рук». Скончыла філфак і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Полацку. Жыве ў Санкт-Пецярбурзе.**



## Рачная замова

### Акрыяць

акрыяць гэта крылы і хлеба акраец
родны край і крый Божа не скрадзены вырай
гэта выкрываніць да раскаяння памяць
і на ветразі перакраіць свае шырмы
гэта прага няскоры і скарбы адкрыццяў
піць паскораным сэрцам крынічнае слова
каб урэшце зрабіцца прыўкраснай сініцай
і сагрэцца пад пахай святарнай каровы

***

легчы і боль аблегчыць,
у неадольны лог
злезці душой пакамечанай,
уткнуцца табе ў крыло
і слухаць, як топіцца наледзь
пад роднага сэрца крок,
запамятаваўшы памяць
найлепшай з маіх дарог.

***

сцеражы гэтых рытмаў няўстойлівы смак,
даражэннай цаною здабыты.
так хавае сваіх цуда-юдаў касматых
рака міліярдалітрая,
так стрымаць бы ў грудзёх трапяткое «люблю»,
так вароне б за сыр ухапіцца,
каб ігольнымі вушкамі сонмы вярблюдаў
ішлі ў твой аазіс напіцца...

***

там, дзе рэчы стануць рэкамі,
рэйкамі для ўцёку душаў,
я пайду з нутром парэпаным
марнадзёнства абцярушваць,
я пайду, пакіну многае,

дараванняў не чакаю,
бо была занадтаногаю
і ўпівалася шляхамі,
бо як здраднікаў адрынула
ўсе падручнікі й парэнчы,
я пайду — паўсюды вінная —
ў край без роспачаў і рэчаў...

***

разбягаюцца anni domini —
новых зморшчынак разбяры,
я й сама на зямлі паломная —
вечны восеньскі пілігрым,
я й сама, што ні ўдых, рухомая —
пругкіх сэрцаў гартую спрыт!
закунежу і вылечу ў комін...
варажбітка. завея. ліліт.

***

недарэчна мне тут — рачной!
залячы хоць якой лячбой —
накармі з небасяжных далоняў,
рытмаплёскатам адары
і ў віры мяне забяры —
я ссыхаюся ў гэтым палоне...

***

мінатаўрамі шчэрацца заўтры
з лабірынта чатыры сцяны,
не ратуюць ні сутры, ні мантры,
гаспадар не зніжае цаны,
я ўсім сэрцам шукаю тырана,
што стварыў гэтых будняў клішэ,
і сляпая спяваю асаны
тым, хто не раскрывае вушэй

***

выспеюць новыя выспы,
з мора павысунуць пысы,



вырай правераных душаў —
вырастуць новыя сушы,
вырвуцца з воднае выдмы —
вечнасці велічны выдых,
край без марнечы і псуты,
верамем не закрануты.

***

непрабудныя пенелопіны будні:
зазіраць у будучыні
студню,
затыкаць раты
успамінам-прорвам,
заліваць адчай
вершатканым морам,
вечары залечваць,
залізваць золкі...
адзінота —
вытанчаная голка —
пракалола
полае сэрца-мячык
і на жылах аголеных
танчыць.

## На рачэнне Дняпра

абярэгі тваіх берагоў
ратавалі мяне ад шаленства,
вартавы самых сэрцавых сэнсаў,
найтрывалы з усіх багоў,
агаліў мне такую глыб,
што дыхнуць не магу, каб не хлынуць,
і раку, бы ў суроку, няспынна,
лашчу ў роце харалы рыб,
лаю роўных, пяю крывым,
нюхам чую адных крылатых...
раю вірны! спатоля і латы!
нарачоны мой пілігрым!



# Таццяна Лапцёнак

**паэтка. Аўтар паэтычнага зборніка «Я з Табой» (1996 г.). Працуе рэдактарам у выдавецтве Нацыянальнай акадэміі навук «Беларуская навука». Нарадзілася ў 1972 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

## Паланэз начы

### Эцюд

Адзінота — старая пальчатка,
якую згубіла ўчора.
Ты стаіш на прыступках касцёла,
і чакаеш мяне да прычасця.

Не зямля пад нагамі, а мора;
неба ў зорах, як доўгі пагост.
У вялікім горадзе морак,
але заўтра пачнецца пост.

### Тры дачкі

Шматкроп'ем
у трыпціху лёсу —

народзіны
трох сёстраў:

расчытваю іх абліччы,
як прытчы,

пішу ў дзённікі душ
тушшу —

чорнай на белі —
і не пазнаю сябе!

***

Цябе, як лісціну ў гербарый,
заклала між бачынаў дзён.

Лістоту з-пад дрэваў зграбаюць
каб звозіць у небыццё,

і вогнішчаў больш не паляць...
Сагрэемся несустрэчай?

Мая дзявочая памяць
каханню паставіць свечку

за гора і радасць,
за цяжкі спакой.

Рассыпецца лісцік пад нечай рукой.

***

Праўнук каваля,
ты выкрасаеш
з маёй душы то жар,
то золь...
Гартуеш самоты лязо —
іду па ім, як русалачка,
спяваю прыгожыя псальмы,
і капае кроў у пясок...

***

Вецер, як птушка, цёхкае:
на табе крыхі — садзьмі!
Нехта прыдумаў жыццё
і падзяліў між людзьмі —

лусту штодзённага хлеба,
жменю зямлі «на потым»:
знаёмы смак пылу і неба,
прапахлага Божым потам.

## Спадчына...

*Марыі Ахрэмаўне Цюхай*

на вышках —
(з вышыняў — крок!)
дзе промні — бабчыны рукі —
ткуць на забытых кроснах
мярэжу зямной разлукі —

цуркамі ці пылу, ці скрухі
ссыпаюцца мне на голаў



яе няўцямныя рухі...
Ў пахавальні радзіны — холад

з пахам застылай маёлікі,
утаптанай асколкамі ў лёс —
яе следам праз сэрца маё
час сыходзіць наўпрост...

***

неба змялела
дзе тыя сіні прадонныя
вяртаюся ў цела
мой дом

***

стоўпяцца дні
пайду ад іх
куды вочы вядуць
пачую думку
паверу на слых

***

кожны мой верш —
развітанне і стрэча з табой.
ведаць аб тым не павінен ніхто —
нават Бог...

## Пасля зімы

Адтану ад сцюжнай зімы,
Душу захутаю ў пуховую хусту,
Забуду, як трубна грымелі грамы,
І стане на сэрцы пуста,
Як быццам не стрэліся мы.

## Каханак

А дождж не прыйшоў —
і не прыйдзе...
Павярнуся спінай да вакна.

Усё роўна мне ты дзе.
Я адна.

## Захад сонца

Восы пакінулі гнёзды.
Восень.
Вёска палае агнём —
Восень
галосіць.
Хаты, як свечкі.
Вечар...

***

Сіні снег. Паланэз начы.
Ты маўчы...

А сняжынкі ляцяць,
і заснула дзіця.

Ты патушыш святло.
Цішыня, як сіло,

схопіць сэрца ў палон
і завяжа вузлом

быццам травы ў вянок,
нашы лёсы ізноў.

Ты мужчына.
Маўчы...

## Grush

Шэравокі мой жораў,
вырай нас не міне:
зачакалася мора
цябе і мяне.

Шум віруе ў грудзях:
чуеш хваляў уздыхі?



Зледзянелы прасцяг
заўтра вызваляць крыгі.

А на дне — нашы цені,
быццам жомчуг, бязважкія.
Што далей — невядома,
няважна...

## Вятрак

*«У сонцы і ў ветры круцяцца крылы млына:*
*яны будуць круціцца так доўга,*
*як мы будзем разамісці па жыцці.»*

У гэтым жыцці
ты мяне не пакінеш —
не адпусціш рукі.

ці...

увойдзем у вогнішча
ўдвох,
і ўспыхне салютамі сонца:
ты мой сон?

І не ведае Бог,
што Яму рабіць з намі.
Амін.



# Іна Снарская

**паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Кветка гарынь», «Дзве зямлі — дзве долі», «Верасовыя песні зары». Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве на Украіне.**

## Сіні сон

***

Хутка прачнуцца пралескі
І запяюць уголас,
І прыгалубіць лес іх,
Як птушанятак кволых.

Будзе адчайна-пявучай,
Шчырай сурма зямная.
Толькі ў слязе гаручай
Свеціцца зорка Раю.

І зацвітуць пралескі
Там, дзе згарэлі зоркі...
Сэрца натоліць лес мой
Цудадзейнымі зёлкамі.

***

Сон-трава кранае сэрца.
Сон мой дзе?
Сэрца ў сэрцы адзавецца —
Быць бядзе.

Сон-трава сагрэе душы
Дзіўным днём.
Тоне сіні лёд у мушлях,
Хутка дно.

Душы-мушлі — шлях адважных.
Лес шуміць.
Казку сон-трава раскажа
І... згарыць.

***

Праз вокны дрэвы прарасталі,
Спяшаліся да сініх сноў.
І снег на сцежцы хутка таяў,
І пахла ў горадзе вясной.

Анёлак мой ружовакрылы
Хадзіць вучыўся, як дзіця,
І веі цёплы вецер снілі
Да шалу і да забыцця.

І падымаўся цёплай паскай
Над домам нашым новы дзень...
А я тваёй чакала ласкі
Усё радзей.

***

А сэрца да сэрца бліжэй і бліжэй...
Сцяжынка бяжыць басанож да людзей.
Дзе жэўрае свечка, там поўніцца дзень
Крынічнай вадою гаючых надзей.

А сэрцу да сэрца ўсяго толькі крок.
Вясна загаворвае раны і кроў,
Бяжыць апантана па венах зямлі
І верай натольвае песні-палі.

А сэрца і сэрца — будзе душа.
Царыца паўднёвая ў госці прыйшла,
Зара залатая з манеткай ў руцэ...
Цалуй жа мяне, мой каханы, мацней!

***

Валадар майго сэрца адзіны,
На каленях малю:
Давай паслухаем вецер
І залатую зямлю.

Як спявае крыніца, чуеш?
Травы, травы пяюць.
Мёдам, мёдам частуюць
Душы ў раю.

Слухай: саве не спіцца.
Чуеш сястру маю?
Я у савы папрасіла
Ноч у гаю.



Тут і зямля, і неба,
Як пацалунак твой,
Шчодрага лесу нетры
Наталяюць расой.

Валадар майго сэрца адзіны,
На каленях малю:
Давай паслухаем вецер
І залатую зямлю.

***

Прыляцелі, прыляцелі
На мой ганак карасцелі,
Прынята на крылах сонца
І птушыны шлях бясконцы.

## Лён

Сеяла лён — лівень, лівень...
Бачыла сон — сіні, сіні...
Ложак сцяліла зары
                    белакрылы.
Успамінала цябе, мілы.

***

Гэты мой крок —
                    зарок ад пытанняў.
Безліч вакол дарог,
                    безліч світанняў.
Адзіны мой, лічаны,
                    свечка грамнічная на акне,
Вусны твае сунічныя,
                    веі — сны.
Душамі хмары парушаны.
                    Там наш дом.
Дзе загарацца сцены —
                    на чаўне паплывём.
Вёсны — ветразя росы
                    нагбом піць...
Лёс ты мой паднябёсны,
                    няўтольны блакіт.

***

Я спяю табе пра мора
І вялікіх рыб.
Ты даверлівы і ўмееш
Шчыра гаварыць.

Я спяю табе пра скалы
І лясны ручэй,
Толькі гэтага так мала
Для тваіх вачэй.

Я спяю табе напэўна
Тое, што заўжды...
Лепш не слухай мае песні,
Пі мае мяды!

***

Воды падымуцца —
будзе бяссонне вясне.
Я паяском абвязала нябёсным цябе,
Каб не ўтапіўся,
за хмарку ўхапіўся.
Адчуваеш? — Цягну.
Гнуся,
гайдаюся,
гіну...
Цябе я ў бядзе не пакіну.

***

Калі стомяцца вочы твае,
Вазьмі мае.
Калі табе не зімна,
А пранізліва-пяшчотна,
Калі табе самотна,
Калі табе — не ўсхліпу
І не ўздыху,
Калі замест нашчага ранку —
Ліха,
Ліхалеццем,
Веццем

Счарнелым і зморшчаным...
Кнігаўкай шчасце.
Не вечна,
Але ... велічна.
Нерушам поле.
Яго нам на двох даволі.
Белыя крылы — воля.

## Сон

Вось ты трымаеш ветразь у руках,
А можа вецер, я ніяк не ўспомню.
Мне сон прысніўся на сямі вятрах,
А восьмы громам цішыню напоўніў.

Твой твар бялеў, а вочы спапялялі,
Так горача, так голасна... Так шкло
Дрыжала і слязой маёй гуляла,
Так кола сонца бегла за сяло.

І я нібыта страціла прытомнасць:
Была рака, і вечар, і зара,
І неба-смага пад рукой няўтольнай
Няўтомнага сівога ваяра.

А я была расою і сцяблінай,
А ты быў ветразем, і ноччу, і святлом...
Калісьці мяне звалі, мабыць, Інай,
Калісьці мяне ведалі ваўком.

І вечнасць паглынула нас у нетры,
І не ўтрымала бура паясок.
А мы ляцелі па дарозе ўверх ... і
Дажджом ліліся ў залаты пясок.

Вось ты трымаеш вецер у руках...

***

Спіце. Я буду ваш сон шанаваць.
Спіце дрэвы і спіце дарогі.

І паляцяць дзьмухаўцы вандраваць,
І зара будзе доўгай-доўгай.

І паляцяць дзьмухаўцы, нібы лёс,
Над дарогай з гарачым пылам...
Падымуся з калень залацістая скрозь.
Дом мой там, дзе адчую крылы.

***

Бура, бура, я — жывая,
Мой адчай — трава-кавыль,
Тая рана нажавая
Дадала радкоў і сіл.

Навучыла быць прыгожай
І глядзець за далягляд,
У маёй далоні можа
Зацвісці бацькоўскі сад.

Бараніся, бура, сэрца,
Будзь ціхмянай да пары.
Пакахаць — амаль што ўмерці.
Бура, бура, гавары!..

***

Бездань ночы
Шчэрыць пашчу,
У той ночы —
Плечы насцеж.
У той ночы —
Вусны-вёсны,
У той ночы —
Рукі-кросны.
Ясны месяц
Яснай пані:
«Пацалуй,
Калі не камень!»
У той ночы —
Вецер-войнік,
Замілуе,
Як дагоніць.
У той ночы —
Белы човен.
Сядзеш плыці
І не ўспомніш,
Як імя тваё,
Дзе вугал...
Знепрытомніць
Сэрца ў вугаль.

***

Вусны — дзічкі,
  беражыся,
Калі камень —
  схамяніся,
Калі вецер —
  разгуляйся,
Станеш рэхам —
  райся, райся...

Рай на яблыню падобны,
На духмяны, чысты водар,
На празрыстую крыніцу,
На мяне і вочы рысі.

***

Гавары са мной, гавары,
Сівагрывы вецер лясны,
Сівачолы вечар-крумкач,
Ты мяне гайдай на плячах.

Выпівай, як віно, спакой
І ляці басаног за мной.
Ты сукенкі бярозавы гай
З цішыні навакольнай зрывай.

З твайго неба пусціцца дождж,
З майго цела вырасце ноч.
І будуць блакітныя вочы
У расы верасовай, прарочай.

***

Неба ў далонях калыша кветкі —
Колькі бяссонных вачэй!
Мы з табой ухапілі за крылы вецер,
Нам імчацца яшчэ вышэй.

Сядзе сонца, вярбіны на захад лягуць,
Закрывавяць зямлю,
І натоліць сусвет верасовую смагу
Па жывому агню.

Мы з табой ухапілі за крылы вецер.
Сон на веях дрыжыць.
Недзе чуецца спеў, як надзея на вечнасць.
Шалёна хочацца жыць...

***

Гром, грымі,
Грудзі мае напаўняй малаком!
Неба з зямлёю мілуецца,
Дом зялёны не цісне замком.

Белы свет, мо святліца,
У якой парадзіха — я.
Неба з зямлёю мілуецца,
Дыхае небам зямля.

Гром, грымі,
У знямеласці вуліц каханне кліч!
Неба з зямлёю мілуецца,
Каб нарадзіўся Зніч.

***

*«Высока сябе несучы,*
*Сплываюць вякі ды аблокі...»*
(Р.Барадулін)

Надзену на плечы кашулю з дажджу,
У нядзелю мяне дачакайся.
Я вякоў і аблокаў звязала мяжу
Рушніком васільковым, райскім.

Я пайшла напрасткі цераз ноч басанож,
Дзе ступіла — там выраслі дрэвы,
А з далоняў маіх ліўся сонечны дождж.
Будзе так, пакуль любіш і верыш.



# Эдуард Акулін

**паэт, перакладчык, бард. Аўтар кніг паэзіі: «Лес дзённага асвятлення», «Пяшчота ліўня», «Крыло анёла», «Радно», «Непрычалены човен», «Вітражы», «Малітва воч», «Святая ноч», драматычнай містэрыі «На Каляды» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Жыве ў Мінску.**



## Слова і Дух

### У трубе

*Ахвярую Рыгору Сітніцу*

Я сябе уявіў у трубе...
У бясконцай трубе Газпрому.
Газ прапаў і сказалі мне,
што труба — гэта шлях дадому.

Хочаш выжыць? Труба заве...
Страх адпрэч і забудзь пра стому:
па смярдзючай, сляпой трубе
на каленях паўзі дадому...

— На каленях? Які кашмар!
— На каленях, а як іначай!
На калені! Народ-Ікар!
Раз згадзіўся на лёс сабачы...

Раз забыўся на запавет,
што пакінуў табе Купала.
Можна йсці у вялікі свет,
ці паўзці, калі Духу мала...

А спытае крывіцкі Бог:
— Дзе ж народ, што стварыў Купалу?
Прашуміць у адказ быльнёг:
— У трубе пракладае шпалы...

Бо калі ўжо ў трубе, то што ж?
Трэба ж неяк прыстасавацца...
Бо «сляпы і глухі, як крот»,
бо адвык беларусам звацца...

Я сябе уявіў у трубе...
Вось і ты уяві сябе,
сына, жонку, старых бацькоў
у трубе — да канца вякоў!..

*31.12. 2012*

## Пушча

*Ахвярую Міры Лукша*

Пушчу з сябе выганяе зіма...
Пушча да нас падыходзіць сама.
Нібы жабрачка, стаіць пад вакном,
Грукае ў шыбу савіным крылом...
Двор апусцелы ўзяла у палон.
Разам з зубрамі просіцца ў дом...

*14.12. 2012*

## Ці шчаслівы?

Ці шчаслівы я, пытаеш, —
не шчаслівы...
Бо табой не налюбуюся ніяк,
бо няўмольны лёс, а час імклівы
харáство тваё раскрадвае няўзнак...

Ці шчаслівы я, пытаеш, —
не шчаслівы...
Бо на самым дне перадсвітальных сноў
я убачыў позірк палахлівы
двух маіх асуджаных сыноў...

Гэта ж я, хоць горка ў тое верыць,
гэта ж я, і толькі я адзін
іх прыгаварыў жыццём да смерці,
да апошніх роспачных хвілін...

*9.01.2013*

## Не аддзяляй...

Не аддзяляй сябе ад Бога,
з малітвы слоў не выдзяляй,
бо непадзельная трывога
за ўласны лёс і родны край.

Не аддзяляй сябе ад неба,
сузор'і ў ім не выдзяляй,
як непадзельная патрэба —
маліцца, а не намаўляць.

Не аддзяляй сябе ад хлеба
і ад віна не аддзяляй,
бо хлебам стане ўрэшце неба,
з тваёй крыві паўстане Край...

*19.01.2013*

## Гамер

Кагосьці гукаюць галеры,
вандроўны, прыгодніцкі дух,
а я ўспамінаю Гамера,
пагляд, што, як свечка, патух...

Не стаў бы вялікім ніколі,
не стаў бы Гамерам Гамер,
калі б у сабе не зняволіў
ён жарсці грахоўных хімер...

Калі б не стаяў на каленях
прад Словам, таймуючы страх,
каб нават у сонцазацьменне
свой шлях не згубіць у вяках.

*19.01.2013*

## Не трымай

Не трымай мяне моцна, не трэба...
Хіба вецер магчыма ўтрымаць,
калі ветру захочацца ў неба,
як яму закарціць палятаць?

Не трымай мяне, любая, чуеш,
калі крылы мне муляюць спаць...
Бо паэты не з жонкай начуюць,
Бог дазволіў ім з Музамі спаць...

Не трымай мяне, родная, болей
за жыццё немагчыма ўтрымаць.
Я цябе не пакіну ніколі —
навучыся са мною лятаць...

*19.01.2013*

## Ікар-паэт

*Міколу Купрэеву*

Калі адпадаюць ногі
ад болю ці ад журбы,
не вабіць душу дарога
і мыліцай — цень вярбы...

У птушак няма магілаў...
І дадзена так не ўсім —
калі адпадаюць ногі,
тады вырастае німб...

Калі адпадаюць ногі
на самай крутой з вяршынь,
тады дазваляюць богі
стаць Духам святым вышынь.

Бо што там якіясь ногі,
калі ты такі Паэт,
што д'ябал, схаваўшы рогі,
лье ў чарку табе Сусвет...

На самым краю дарогі,
дзе воляй завецца свет,
табе не патрэбны ногі,
калі ты Ікар-паэт...

*22.01.2013*

## Да Вінчы

Ад пэндзля — агню агрызак...
Малююць агнём не ўсе,
а тыя, хто Мону Лізу
у сэрцы, як Зніч, нясе...

Хто крочыць да сонца пешкі
па воблаках, як Ікар,
хто ў тайну чужой усмешкі
уклаў свой нябёсны дар...

Скажу не ў дакор каменням,
што цэлілі майстру ў скронь, —
бывае духазацьменне,
як Бога зацьміць Агонь.

*1.02.2013*

## Аліва

Вы ў душу мне запалі спевам,
хоць я ведаю нельга так.
Вы аліва — святое дрэва,
што належыць чужым вятрам...

Вы уцеклі калісь з Эдэма,
рай-жанчынам Эдэм — астрог...
Вы аліва — святое дрэва,
а святое стварае Бог...

Вы з Гасподняга выйшлі гнева,
з галубіных узніклі слёз...
Вы аліва — святое дрэва,
нам гайдацца у такт — не лёс...

*21.02.2013*

## Адкрыццё

У час начнога азарэння,
калі душа трымціць, як ліст,
я перад Словам на каленях
стаю, як Марк Евангеліст.

Стаю, дыханне затаіўшы,
перад набегам завірух...
Гляджу, як Слова, крылы ўзвіўшы,
ператвараецца у Дух.

*19.01.2013*




# Алесь Гібок-Гібкоўскі

**паэт, публіцыст. Аўтар кнігі паэзіі «Насамрэч» (2007 г.). Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро» (1999 г.), Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001 г.). Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.**

## На пераломе

### Недасяжная

На шляху ты няўзнак з'явілася,
як анёлак, з нябёс вышыняў,
а жыцця ўжо пара бруілася,
калі скроні крануў іней.

Я ж за словамі ўсё хаваўся
ад самоты сваёй няўмела,
да тваёй душы прыхіляўся,
адчуваючы сэрца збалелае.

Позна ўвечары і на золку
пад сляпы вадаспад заранак,
я маліўся адно на анёлка,
што паслаў мне Гасподзь нечакана.

Бачыў — разам ўзляцець немагчыма,
бо між намі — бездані просінь!
І банальнай была прычына:
ты — вясна толькі, я ўжо — восень!..

З-за цябе свет крывіў вусны,
павяртаўся нярэдка спінай,
ды адчуў я, быццам прачнуўся,
не ўзляцець — значыць загінуць!

Дык магчыма і ёсць выйсце
з гэтай вечнай як свет дылемы?..
Бо, здаецца, страчаў я калісьці
тваіх дзіўных вачэй цемень...

### Поўнае сэрца

Як ты моцна мяне скаланула,
маё сэрца пад ногі шпурнула,
потым доўга яго таптала,
і было табе гэтага мала!

Я не меў у той міг ратунку
ні ў гарачым тваім пацалунку,
ні ў пяшчотных тваіх словах,
што казала мне адмыслова.

Можа быць, мне ратунку ніколі
ўжо й не будзе па Божай волі...
Але сэрца шэпча ўсё роўна:
«Хоць і бітае я — ды поўнае!..»

## Сапернік

На вуліцы мінус пяць...
Я ўвесь у абдымках тугі,
як жа не хочацца знаць,
што ў сэрцы тваім быў другі.

Што дзверы яму туды
сама адчыніла ты,
хоць ён няўлоўны, як дым,
ды й зусім не святы...

Ён быў твой найдзіўны зман,
грэшнай спакусы ўрок!
Як жа я ўчас твой стан
не захінуў, не збярог

ад той волі благой,
што нас ішла разлучыць?
Нашай любові магло
проста болей не быць!

Што ж ты была ў ім знайшла,
сілы якой знак,
калі спаліць датла
магла мне сэрца няўзнак?

## Запозненае

Погляд твой нечакана халодны
ўсё акрэсліў жорсткай мяжой,



ты была маёй самай роднай, —
раптам стала зусім чужой.

Ты была... Дзеяслоў страшны!..
Але ж ты, безумоўна, ёсць!
Толькі міг я — той, самы важны —
не адчуў, і ў душы — злосць

на самога сябе — сляпога,
небяспека ж была відна!
Бо ішла твайго сэрца аблога,
і змагалася з ёй ты адна!

І прасіла мяне слёзна:
«Ты мяне яму не аддавай!»
Спахапіўся потым, ды позна...
Ты сышла ўжо ў чужы рай...

І цяпер я цябе ашалела
ў невыноснай заву журбе:
«Ты вярніся, і ўвесь свет белы
я пад ногі кіну табе!»

## Рубікон

Госпадзі, мяне Ты ўразумі,
на маім суровым раздарожжы,
дай душы маёй нарэшце мір,
пра які таемна марыць кожны!

У аблозе болю і трывог,
Дай святла мне промнік, хоць найменшы,
каб пераступіць урэшце змог
я свой Рубікон — ў жыцці важнейшы!

## Раздарожжа

Зноў да болю пустое шматслоўе!..
А шукаю я аднаго —
абароны тваёй любоўю
ў пераломны свой, цяжкі год.

Твая міласць ужо ўратавала,
калі грукала цемра ў акно,
духу й целу дала трываласць,
каб жыццё шанаваць змог зноў.

Ў балбатні ледзь зусім не страціў,
твой каштоўны, як сонца, давер...
Відаць, трапіў ад Бога я ў зацень
бо не ведаю, як быць цяпер!

## Паразуменне

З тых сціплых творчых узроўняў,
што Бог ўсё ж адкрыў мне,
дарыў я радкі сэрцам поўныя
тым, хто ў бяздушшы марнеў!

Гарталі яны паспешліва
узрослае ў муках святых,
казалі: «Прыгожыя вершы!»,
ды не разумелі іх!

Знаю, што чуеш мяне ты,
хоць гам стаіць на ўвесь свет!
Бо адчуць сэрца паэта
можа толькі паэт!

## На пераломе

Не мару больш зрабіць адкрыццяў я
і скарбы адшукаць ужо не прагну —
была б вакол мяне мая сям'я,
і шлях душы не вёў наўпрост у багну.

І каб сябры праз справаў гвалт і шум
хаця б раз на паўгода пазванілі,
спыталі: Ці жывы? Пра што пішу?
І ці не надта свет мне апастылеў?

О Госпадзі! На пералом дарог
пашлі спакой мне з Тваёй вечнай высі!



Каб сам даплыць да берага я змог
і каб перад чужым не сыпаў бісер!



# Фелікс Баторын

паэт. Аўтар кніг паэзіі: «Раніца» (1981 г.), «Зялёны тралейбус» (1986 г.), «Я дрэва пасадзіў» (1991 г.), «Паглядам акідваю шлях» (2002 г.), «На вуліцы Багдановіча» (2007 г.), дакументальнай аповесці «Чорны год» (2011 г.). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

## Зямное прыцягненне

### 1. Язэп Лёсік

Скрозь час узахліп я лячу і сябе апярэджваю,
Як кінуты нож.
Я нават у ботах з таўшчэзнай трывалай падэшваю
Хаджу басанож.

Я нават у футры падвойным, уздзетым на світары,
Гол нібы сакол.
Растрацяць сваё красамоўства дарэмна прасвітары,
Што чэшуць свой кол.

Паходня іх свеціцца новай узнёслаю вераю,
Да шчасця вядзе.
Ды бачыцца гэтая вера мне новай хімераю,
А край — у бядзе.

Як пугай, я сечаны крыўдай ды вучаны здрадаю.
Таго не забыць.
Не збіць мяне з тропу падступнай маной і паўпраўдаю —
Дык мусяць забіць.

### 2. Браты Луцкевічы

Беларускія Макавеі,
Замялі вашы сцежкі завеі,
Паглынуў вашу веру касцёр.
Сталі іскрамі вашы надзеі.
Па-над краем паболела зор.

### 3. Акадэмік Ігнатоўскі

Цемрашал на амбоне — не Бог яшчэ,
Яго сіла ў бяссіллі людзей.
Перад Вамі — Джарданава вогнішча.
«Выракайся!» — крычыць ліхадзей.

А наўкола цясняцца шматлікія:
Хто з паленам прыйшоў, хто з галлём.

Вы, прамовіўшы: «Sancta simplicitas...»[1] —
Узняліся святлом над агнём.

## 4. Максім Гарэцкі

Далёка ад роднай зямлі
І з моваю роднай у сэрцы —
Што ж, многія гэтак жылі
Супольнікі-адзінаверцы.

Ды перш, чым па доле зямным
Развеецца прах твой вятрамі,
Хай думкі твае ўсе і сны
На аркушы ўстануць радкамі.

З-за кратаў спецсховаў радкі
Прарвуцца ў абсягі радзімы —
Няхай праз гады, як вякі,
Няпраўды спавітыя дымам,
Праз хіжых чужынцаў выццё,
Праз лёкайскай здрады шыпенне.

І доўгім іх будзе жыццё,
Што непадуладнае тленню.

## 5. ***

Добра ведаюць Курапаты:
Зброя ката — наган ды лапата,
І абачлівых боязь дрыготкая,
І няўдзячных памяць кароткая.

*2012*

## Гарэла вада

Гарэла вада, і каменне цякло,
І парай рабілася кроў.
І з гэтай крыві ап'янелае зло
Людзей абяртала ў звяроў.

1 Святая прастата (лац.).



Было так не раз, і не два, і не тры,
Згасала нібы назаўжды,
А ў сэрцах не-не — дый прачнуцца звяры —
І дымам пацягне з вады.

Змарноўвае ўмельства сваё чалавек
На цвік для сваёй жа труны...
Не, Творца ў Эдэме ствараў не калек:
Калечацца самі яны.

*2012*

***

Прадонны й безбярэжны небасхіл
Ёсць радаснай прасторай для палёту.
Няма ў ім ні куточка для магіл
І одуму з жалобнаю маркотай.

На гэта ёсць зямны жвіровы дол,
Шчымлівае зямное прыцягненне,
Прытулак наш часовы й вечны дом,
Палі, дзе рассяваем мы насенне.

*2012*



# ВЕРАСЕНЬ
# ПРОЗА

настасся грук уршуля шубзда
аляксей палачанскі марына яўсейчык
сяргей белаяр таццяна барысік
міраслава лукша галіна каржанеўская







# Настасся Грук

**празаік. Вучаніца 11 класа Вяляціцкай СШ. Друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў», «Бярозка», «Маладосць». Нарадзілася ў 1996 годзе ў вёсцы Вяляцічы на Барысаўшчыне. Жыве ў Вяляцічах.**




## Покуль зорка Венера ўсміхаецца...

Мінулае лета запомнілася мне шэрай пахмурнасцю, сырасцю, імжыстым дожджыкам-гарэзам, невылазнай слотай і бясконца-доўгімі днямі. Быццам не лета, а восень нейкая, са сваім свавольным, абыякава-зайздрослівым характарам. І што рабіць у такія часіны, апанаваныя воглым надвор'ем?.. Падумаўшы некалькі хвілін, я падышла да палічкі з кнігамі. Перада мной паўстаў незвычайна цікавы і маляўнічы свет рознакаляровых кніжных вокладак. Аж вочы разбягаюцца! Увагу прыцягнула з выгляду самая звычайная: зеленаватая, з чырвона-сінім, абплеценым па краях вянком, кніжачка — «Вянок» Максіма Багдановіча ...

Не разгортваючы, ухапіла яе і пабегла без парасоніка ў альтанку. Звычайна я чытаю ў поўнай адзіноце, а тут мне склалі кампанію лівень, які толькі што распачаўся, і кот, што вымак з лап да галавы. Кот прытуліўся да мяне і пачаў слухаць. З нейкай зачараванай невядомасцю разгарнула кнігу — і на імгненне мне здалося, што я адчыніла чыёсьці жыццё. І, нібыта, усе пачуцці і перажыванні «выбіты» вершаванымі фарбамі на пажоўклай ад часу паперы. З захапленнем чытала і чытала, прыслухоўваючыся да кожнага верша, кожнага радочка, кожнага слова. Склалася ўражанне, што размаўляю з мудрым вандроўнікам, які пабачыў ужо жыцця і можа расказаць — навучыць чаму-небудзь:»крыламі ўзмахнуць» заклікае; «зёрны надзеі» ў душы пакідае. І праўда, так і хочацца ярка, свабодна пражыць —

*«Ўсё кругом на мамэнт асьвяціць»...*

Схамянулася тады толькі, як падышоў да мяне мужчына, высокага росту, худы, як вярба, са злёгку віхраватымі, нібы чарнаморскія хвалі, цёмнымі валасамі і густымі, быццам жыта, вусамі. У позіркае яго шэрых вачэй была строгасць, якая паступова змянялася лагоднасцю і затоеным смуткам. Ён ласкава прывітаўся і папрасіў дазволу прысесці; расказаў, што заблукаў і аж паміраe ад смагі. Дзіўна, бо толькі што ліў дождж, а зараз сонейка робіць сваю працу, ды так спраўна, што аж пячэ. Я падала незнаёмаму кухлік з салодкай вадой. Ён папіў і назваўся Максімам Кніжнікам.

Мы размаўлялі аб усім і ні аб чым. На душы быў спакой і давер. Здавалася, што я ведаю Максіма ўсё сваё жыццё і быццам ён не той дарослы і строгі мужчына, а падлетак, такі ж, як і я. І захапленні ў нас таксама падобныя: абодва любім вандраваць, чытаць, глядзець у начное неба, абсыпанае мільярдамі светлячкоў, і складваць з іх словы. Наша гаворка была настолькі цікавай, што мы не заўважылі, як надышоў вечар, надышоў час расставання. Я была вельмі задаволена, што знайшла суразмоўцу (ці ён мяне знайшоў), што ёсць чалавек, з якім мы паразумеліся, як кажуць, «на адной хвалі».

Максім падняўся, ускінуў на плечы плашчык і сабраўся сыходзіць, але я яго аклікнула. Ён павярнуўся і, убачыўшы на маіх вачах слёзы, зноў падышоў,

узяў мяне за руку, зазірнуў пяшчотна ў мае вочы і сказаў, што яму час ісці, а яшчэ папрасіў, каб я запомніла некалькі радкоў:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

Адпусціўшы маю руку, Кніжнік выйшаў з альтанкі, але я кінулася за ім. Мне было незразумела, аб чым ён толькі што гаварыў, што ўсё гэта значыць. Я спытала ў Максіма, але ён адказаў, што калі-небудзь я сама ўсё зразумею.

...Кот, які спаў у мяне на каленях, рэзка саскочыў і зашыпеў, ад гэтага ...я і прачнулася. У душу моцна запалі радкі Максіма Кніжніка, як зрэшты, і вобраз самога самотнага вандроўніка.

Роздумы не давалі мне спакою: «А можа, ён?.. Ды не... Гэтага ж быць не можа. Ну, а можа, усё ж такі ён?.. Трэба пацвердзіць.» Я была ўпэўнена, што гэта ён, але думкі: «Чаму менавіта я? Чаму да мяне ён прыйшоў?.. Ды хто — ЁН, а хто — я!»

...Схапіўшы «Вянок», пабегла дахаты, каб зайсці ў інтэрнэт. Усё паўтарала і паўтарала радочкі, каб не забыцца ж ніводнага слова з верша. Калі перада мной адкрыўся фотаздымак, я зноў убачыла знаёмага мне чалавека, таго, каго бачыла ў сне, праўда, звалі яго не Максім Кніжнік, а Максім Багдановіч. Мне ўсё стала зразумела. Гэта ўсё той жа чалавек са строгім позіркам і юнацкімі думкамі. Гэта наш класік!

Зараз, калі гляджу я на зоркі, думаю пра ЯГО, незвычайнага, загадкавага і такога простага майго Максіма.

...Вунь толькі што праляцела знічка, але я не паспела загадаць жаданне... Што?.. Быць не можа! Вы не паверыце, але ў небе выразна напісана: «ПРЫВІТАННЕ АД КНІЖНІКА!».

Цуды бываюць, толькі трэба ў іх верыць!

*Вер, Максім, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня,*
*Покуль Зорка Венера ўсміхаецца,*
*І хвалюецца сэрца штодня...*

# Ажынавае варэнне

Няма нічога лепшага, як размова з прыемным чалавекам у незвычайна цудоўным месцы. Дарэчы, знайсці сур'ёзнага і адначасова вясёлага суразмоўцу амаль немагчыма. Але мне пашанцавала ў жыцці, бо ў мяне самы лепшы дзядуля ва ўсім свеце... пісьменнік Якуб Колас.

Мы з ім вельмі часта хадзілі па беразе дзівоснага Нёмана, які спакойна і павольна плыў і бруіўся срэбрам, нібы голас дзядулі. Ён распавядаў пра ранейшае, невядомае мне жыццё, пра тое, як ствараў творы, як маляваў вобразы герояў. Але нас заўсёды падслухоўвалі. Хто — не магла зразумець ...

Зараз я жыву ў іншым месцы і ў іншым часе, а Бацьку-Нёмана магу бачыць толькі на фотаздымках. Роўна год таму мне вельмі захацелася на той бераг, дзе былі мы з дзядулем. Я ўзяла з сабою сяброўку Марыльку, і мы адправіліся ў падарожжа.

Дарога выдалася доўгая. Прыехалі на месца.Затрымцела, зашаптала сэрца... Хата з бярвенняў...пашэрхлая тапаля...сапраўдная буслянка. Мая Марылька ніколі не бачыла гэтага. У Мінску жыве. У хаце, як і звычайна, расчынены вокны. Пад страхой усё гэтак жа ляжаць пасечаныя дзядулем дровы, на плоце —гліняныя збаны. А сцежка вяла прама ў хату.

— Бачыш вунь тыя дубы? — спытала я ў Марылькі.

— Бачу.

— А хату бачыш пад дубамі?

— Канешне.

Гэта хата, у якой нарадзіўся славуты пісьменнік Якуб Колас.

...За хатай — дубовы гай, у якім мы з дзядулем збіралі баравікі, крамяныя чорнагаловікі. Восенню ён асабліва прыгожы: звілістая залаціста-медная сцежка, бліжэй да хаты — ручаёк, жэўжык-пястун.

Я, не чакаючы сяброўку, пабегла на знаёмы бераг ракі.

Хутчэй за ўсё вы не паверыце, але гэта было так. Я села на самы абрыў — і... знячэўку пачула голас дзядулі. Гэта шапталіся векавечныя старадрэвіны-хвоі, якія стаялі побач са мной.

«Ну, вось сакрэт і раскрыты», — падумала я.

У гэты час падбегла Марылька:

— Чаму ты так хутка пабегла?

— Сваё пачула, роднае...

— Дык раскажы.

— Ну, слухай. Было гэта летам. Сукрыстыя воблакі гойсалі па небе, сонейка прыпякала. Вакол усё жыло.Сядзелі мы з дзядулем на гэтым самым месцы... Ён мне расказваў, як пісаў трылогію «На ростанях».

— Чакай, дык твой дзядуля...

— Ён самы.

— Ого! Як цікава. Ну, расказвай жа.

І я пачала...

Кажа ён мне, што пісаў амаль усё жыццё, хадзіў па лесе, вяртаўся дадому, адпачываў на панадворку пад хвоямі. Тупаў каля дому, аглядаў сад, потым садзіўся на лаву пад вязам. Яго цешыла, што гэта дрэва разрасталася, і давала цень у спёку, і хавала ад дажджу.Тут абдумваліся далейшыя старонкі «На ростанях».

Мне, калючай Ядвісьцы,было так прыемна слухаць і ўяўляць.Толькі вось я дзівілася: як можна сесці і напісаць усё да канца. Але дзядуля раскрыў сакрэт:

«Перапыняць пісанне трэба на самым цікавым месцы, каб самому карцела даведацца: а што ж будзе далей». За расповедам дзядуля піў чай, а я ўсё прасіла расказаць, як пішуцца творы, хоць бы пра адзін эпізод які.

— Ну, слухай. Мой герой Лабановіч ішоў борзда (трэба неяк падрабязней размаляваць гэты эпізод). Напрыклад, так: яму было лёгка, проста хацелася бегчы, ганяцца за гэтымі белымі пушынкамі, нібы яны былі жывымі або ён сам быў яшчэ дзіця... Робіцца яшчэ колькі штрыхоў — і карціна ажывае.

— Ну, ты проста чараўнік! Я табой захапляюся.

Ён павярнуў галаву ў бок празрыстага Нёмана, дзе з-за кустоўя віднеўся захад сонца. Я аж заплюшчыла вочы ад такога хараства. Тут немагчыма не пісаць. А з такім талентам, як у майго дзядулі, немагчыма не быць самым знакамітым пісьменнікам.

А ён у гэты момант неяк хітравата паглядзеў на мяне, нібыта зразумеў, аб чым я думаю, і сказаў:

— А пойдзем, унучка, у хату. У мяне смачнае варэнне з ажыны ёсць...

— Слухай, а чаму ты раней мяне сюды не прывезла? — спытала Марылька.

— Часу не было неяк...

— Ну, цяпер мы на кожных канікулах сюды будзем прыязджаць і кніжкі твайго дзядулі чытаць.

— Згодна! Яму было б прыемна. Ён вельмі любіў прымаць гасцей.





# Уршуля Шубзда

**празаік. Студэнтка беларускай філалогіі ўніверсітэта ў Беластоку. Пераможца XV агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы за 2012 год. Нарадзілася ў 1989 годзе. Жыве ў вёсцы Хадароўка на Беласточчыне.**



# Попел на вецер

Якраз Вера сушыла на шнуры свае каляровыя хусты. Некаторыя ўражвалі шматлікасцю колераў і ўзораў. Найпрыгажэйшая, светлая, з дробненькімі блакітнымі кветкамі, лёгка лунала на лістападаўскім ветры. Я магла сабе ўявіць, у якой хусце Вера ходзіць у будзень, а якую надзявае ў час свята ці ў нядзелю. Вельмі сумна выглядалі чорныя хусты, якіх таксама некалькі вісела на шнуры. Напаміналі пра тое, што і такія трэба будзе яшчэ надзець.

Сама Вера нічым не адрознівалася ад іншых жанчын у яе ўзросце. Невялікая, дробненькая бабуля, трохі прыгорбленая, але не моцна. Выглядала больш так, як бы нахілялася, каб лепш пачуць другую асобу. Хаця была адна рэч, якая прыцягвала ўвагу, а нават выклікала неспакой — менавіта вочы.

Вера расказвала пра сваю хваробу.

— Нават вы не ведаеце, як мяне людзі напалохалі: казалі, што ў мяне рак вока! Куды я не ездзіла, — і ў Парцава, і ў Орлю, дзесьці ў Чаромсе быў якісь чалавек, што лячыў. Мела я аперацыю на абодва вокі. Я доўга лячылася і мала што магла ўбачыць...

Мне, аднак, здавалася, што Вера глядзіць на чалавека і бачыць больш, чым іншыя людзі.

— Я толькі вецер качаць умею, — прызналася Вера без ніякай штучнай сціпласці.

Гэтыя словы выклікалі ўражанне, што гэта сапраўды простая справа. Праз хвіліну кожны мог бы падумаць, што сам умее качаць вецер і знаходзіцца ў якімсьці чароўным свеце. У сапраўднасці гэта не казачны свет, толькі шаптуха з Сакольшчыны і штодзённы свет беларусаў!

Вера адчыніла дзверы ад прыбудоўкі. У куце стаяла невялікая печ, сцяна за ёю была абвешана рознымі прыладамі. Былі там рэшата, кацялок, два сярпы перавязаныя белаю анучай, якія ўжо, напэўна, даўно не бачылі залатога калосся.

— У нашай кухні рамонт рабілі, а я гэта ўсё пазбірала і сюды прынесла.

Пад печчу стаяў падрыхтаваны пакецік попелу:

— Калі хтосьці прыедзе хворы, тады карыстаюся ім. Ён лечыць хутка і добра. Людзі прыязджаюць нават з Беластока...

Вера пачала шукаць слоічка, якім заўсёды качае. Бразгала дзверцамі ад старой посуднай шафы:

— Зараз я дастану мае прылады, ужо я і памяці добрай не маю, добры такі слоічак, куды ён дзеўся?.. Зараз я яго знайду.

Заглядаючы ва ўсе куты прыбудоўкі, Вера расказвала, як пачала лячыць попелам.

— Мусіла навучыцца, малыя дзеці былі. Мы калісь перад хатай церлі лён. А мой сын яшчэ зусім маленькі быў, усё скакаў, скакаў, а потым так стаў плакаць

і ўпаў на калені. Нават да хаты не мог сам дайсці. А тут лён мне трэба церці!.. Я ўсё ж тое кінула і забрала малога, кажу: што я табе рабіць буду?.. Можа... вецер? Ну, праўда. Я ўзяла слоічак цёплага попелу і качала па малым. Памагло! — Вера кінула пошукі свайго слоічка і ўзяла якісьці кубак. Не спяшаючыся, павольнымі рухамі распакавала торбачку, з якой набрала кухоннай лыжкай попелу. Верх кубка накрыла белай анучай: — Калі вецер, а слоічак поўны попелу, тады ён у ім патрэскае, а калі няма ветру, тады нічога няма, — Вера не тлумачыла дэталёва — гэта ж было для яе звычайнай справай. Мяне цікавіла, адкуль узяўся звычай лячэння попелам. Жывуць розныя знахаркі, што лечаць зеллем, ёсць і такія, што маюць незямную сілу ў руках. Веры патрэбны былі толькі попел і вецер.

— А як будзеце лячыць?

Вера паглядзела на мяне са здзіўленнем:

— Так выкачваюць, здавён, і мяне так лячылі.

Невядома, чаму выкачванне дапамагае. Ці галоўнай прычынай гэтага ёсць попел, ці шаптанне, а, можа, гэты самы вецер?.. Напэўна, ёсць у гэтым народная мудрасць... Мне здалося, што Вера ўгадала мае думкі.

— Я і «Ойча наш» гавару, выкачваючы. Малітва таксама патрэбна...

Мне здавалася, што ў жыцці Веры мяшаюцца два светы: свет, у якім ёй прыйшлося жыць, які не зусім яе разумее, і свет продкаў, іх абрадаў, веры ў магутнасць сонца, агню ці ўласна ветру!

Вера ў нядзелю не выкачвае:

— Мне здаецца, што брыдка гэта рабіць пры свяце. Не так даўно было, прыйшоў да мяне сусед і кажа: «Качайце, што хочаце рабіце, бадай памру!». Яму так спіна балела. Я пакачала і кажу: «Прыйдзі пасля заходу сонца, заўтра нядзеля, тады не прыходзь». Усюды службы адпраўлаюць, ці ў праваслаўных, ці ў каталікаў. Не хачу! — Вера здрыганулася ад самой думкі пра гэта. Схавала далоні ў рукавы швэдра.

З прыбудоўкі было добра відаць падворак суседкі. Вера штурханула мяне пад бок і шапнула са смехам:

— О, глядзі, ужо Валя пайшла. Пэўна, цікавіцца, аб чым гаворым!

Суседка заглянула праз плот і знікла за горбай пален.

— Мне грошы даюць. Я не бяру, таму што няможна. Толькі кажу: хай вам памагае. Зараз скажуць — «багацееш». Не ведаеш, як на вёсцы?! Я не хачу грошай. За што? Але то шакаладку, то каробку цукеркаў пакладуць...

Вера стаяла пры печы і лёгка калыхалася на нагах. На кружках ляжала некалькі свечак:

— Гэта грамніцы. Прыязджалі такія. Ужо цяпер не так, але раней адзін за адным ехалі. Аднаму дапаможа, тады той зноў накажа каму-небудзь, і так едуць... Колькі я дзяцей прымала! Дай Божа, каб усе здаровыя былі. Звяроў дзеці баяцца. Мястовыя заедуць на вёску, то бык, то карова, авечка малое напалохае. Прыехала нядаўна жанчына з такім хлопчыкам, а ён такі перапалоханы быў! Не глядзеў нават на мяне, толькі засланяўся рукамі. Я ўзяла лыжку, паклала тры кавалачкі грамніцы, о такія маленькія, — Вера паказала кончык пальца, — і трымала над яго галавою. Толькі трэба пакласці анучку, каб не капнула на валасы. Дзяцей трэба шанаваць. Гэта не старому, але і старому трэба накрыць, каб гарачы воск на галаву не ўпаў. Потым у міску з халоднай вадой гэты воск трэба выліць: і выходзіць якісьці звер, што спалохаў дзіця. Гэта таксама дапамагае і старэйшым людзям. Кожны, хто прыязджае, потым удзячны за дапамогу. Можа так Бог дае мне, каб людзям дапамагаць. Кожны можа выкачваць, але аднаму дапаможа, а іншаму не. Нават калісь сюды прыехала такая кабета, якой доктар сказаў, каб да бабак ехала!

Вера ўсміхнулася да мяне і рашыла, што расказала ўжо пра ўсё. Зачыніла дзверы ад прыбудоўкі. Адвяла мяне да форткі, напамінаючы, каб прыязджаць, калі пачне нешта балець.

Быў цёплы лістападаўскі дзень. Дзьмуў лёгкі вецер.



# Легенда з Камяніцы

У часы, калі ўсё яшчэ мела свой лад і парадак, калі сонца ўставала над Навадворскай пушчай, а заходзіла на даху хаты Віктара з Купліска, жыхары Камяніцы вялі сваю спакойную сялянскую жытку. На некалькі дзясяткаў метраў ад вёскі распасціралася неабсяжная пушча. З яе багацця людзі чэрпалі ад пачаткаў існаваня ў гэтым куточку зямлі. А сама пачыналася цёплая восень. Палі, з якіх ужо ўсё прыбралі, павольна набіралі цёмна-кучаравых колераў. Бабінае лета зіхацела ў праменнях бледнага ў гэтую пару года сонца. Такі краявід спрыяе роздумам і думкам, якія амаль усе суправаджаліся да пушчы. Глянуўшы на яе, людзі не маглі забыць беднага Толіка, які выйшаўшы ліпеньскім днём, да сёння не вярнуўся дахаты.

Набліжаўся час вячэры, а гэта ніколі не здаралася, каб хлопцы не вярнуліся да сёмай гадзіны з пушчы, у якой выраблялі дзёгаць. Вячэра была смачнай як мала калі. У чыгунным гаршку Лёдзя наварыла маладой бульбы, якая ўжо нарасла ў агародчыку. Калі Віталь увайшоў у хату, на стале ўжо стаялі міскі поўныя смачнай стравы, з якой падымалася густая паравіна. Не паспеў добра пад'есці, калі з падворка далося пачуць крыкі: «Віталь, Віталь!» Аднак Віталь або не чуў, або не хацеў пачуць голасу, які мог бы перашкодзіць яму павячэраць. Лыжкай узяў крыху бульбы, абмакваючы ў кіслае малако. У гэты момант у хату ўвалілася старая Шчэрбіха. «Што ты, аглух!? Дзе наш Толік?» — спыталася з парога. Віталь, не маючы ахвоты на даўжэйшую гутарку, адказаў, што застаўся ў лесе. Паглынуўшы чарговую лыжку бульбы з кіслым малаком дадаў, што застаўся ён з дзяўчынай. Шчэрбіху раззлавала гэтая навіна. «Якая дзяўчына валочыцца ў такую пару па лесе?!» — злосна выгукнула старая суседка. Віталь, пад'еўшы, устаў ад стала: — «Не сумуйце, Шчэрбіха, прыгожая

была, няма такой у вёсцы ні ў Купліску, ні ў Хвашчэве». Віталь, схапіўшы шапку, выйшаў на падворак. Шчэрбіха выляцела за ім: «Калі яна такая прыгожая, чаму сам не застаўся?!» Але Віталь ужо прапаў за гумном .

Мала хто ведаў, што Віталь, якому было пад пяцьдзясят гадоў, ужо даўно адмовіўся ад усіх спакус, якія магла даць яму дзяўчына ўзамен за даўгавечнасць. Хто яму падказаў гэтакі спосаб на тое, каб адкласці смерць — невядома. Бясспрэчным фактам, аднак, з'яўляецца тое, што Віталь дажыў ста гадоў.

Шчэрбіха паправіла хустку і пайшла да сябе. Ідучы збітай жвіроўкай праз вёску, падумала, што Толік, магчыма, ужо сядзіць у хаце і чакае, раззлаваны, што яшчэ няма вячэры на стале. Шчэрбіха, суцешаная такой перспектывай, падняла крыху доўгую спадніцу, якая перашкаджала бегчы. Дапаўшы да дзвярэй, якія былі закрытыя на ключ, зразумела, што няма нікога ў хаце, а ключ, якога месца ведала толькі яна і Толік, спакойна ляжаў паміж бэлькамі хаты. Шчэрбіха закруцілася, перахрысцілася некалькі разоў, паглядзела на сонца, якое ўжо амаль хавалася за хату Віктара з Купліска і зразумела, што яе сын адзін застаўся ў пушчы. У пушчы, якая днём так многа давала для людзей, якая з'яўлялася дабрадзействам. Ноччу пушча зусім змяняла аблічча. Шчэрбіха пабегла на загуменне. Згэтуль даволі было крыкнуць уголас, а рэха несла словы па цэлай Навадворскай пушчы. Аднак Шчэрбіха гэтага не любіла. — А хто знае, ці няма ў гэтым нейкіх чартоўскіх штучак? — падумала. Яшчэ больш раззлаваная вярнулася на вуліцу і пачала плакаць і заклікаць людзей, каб ратавалі яе сына ад русалчыных падманаў.

Толіка Шчэрбу не знайшлі. Хаця жыхары Камяніцы яшчэ ў той вечар пайшлі ў пушчу шукаць маладога хлопца. Ніхто ўжо не верыў у тое, што Толік знойдзецца. Людзі гаварылі, што з гэтай пары пушча змянілася. У бязветраны восеньскі дзень маўчала, як заклятая. Не было чуваць ніводнай жывёлы, ні шолаху лісця, толькі роўны грукат сякеры нёсся па ўсёй ваколіцы. Як быццам уся пушча разам з надыходам восені памірала, ствараючы месца для народзінаў ліха, якое пачынала дзейнічаць на балотах векавога лесу.

Янка Казёл да Хвашчэва аддаў дачку за хлопца, які не быў багаты на той час, але меў атрымаць яшчэ па сваім дзядзьку дзве моргі зямлі. Апрача таго любіў Ксенію і шанаваў яе. Нарадзіўся ім сын і якраз таму Янка Казёл з жонкай выбраліся на хрэсьбіны ў Хвашчэва. Пасля доўгіх восеньскіх дажджоў дарога праз пушчу была амаль непраезджая для людзей, што добра не ведалі гэтых балот. Янка Казёл не баяўся дарогі. Штодзень бываў у пушчы. А то па дрэва, а то па дзёгаць. Аднак заўсёды стараўся вярнуцца дахаты перад змрокам. Янка Казёл з жонкай крыху засядзеліся ў дачкі на хрэсьбінах і выехалі ад яе ўжо пасля дзявятай гадзіны. А ў гэтую пару года ўжо было цёмна, аднак стары Казёл, захмялелы ад гарэлкі з хрэсьбін, не баяўся нават і таго. Жвава ўзяў лейцы ў рукі і пагнаўся ў напрамку пушчы. Ужо набліжалася поўнач, калі стары Казёл убачыў нейкую постаць на дарозе. Незнаёмы прывітаўся з Казлом і запрапанаваў ехаць іншай дарогай чым заўсёды. — Але тут балота! — адказаў здзіўлены Казёл. — Дзе! Па костачкі вады ніколі не было! — гэтае сказаўшы, незнаёмы чалавек пайшоў дарогай, якой прапанаваў ехаць падарожнікам. Казёл, паглядзеўшы, што нават боты дзіўнага чалавека не грязнуць у балоце — значыць, сухая дарога, завярнуўшы каня, пусціўся за незнаёмцам. Не праехаўшы і ста метраў, колы воза запаліся ў балота. Конь стагнаў і не мог зрушыцца наперад нават на крок. Стары Казёл праклінаў незнаёмага, злез з воза і, схапіўшы за заднюю ручку, пачаў пхаць дапераду. У моцным возе, які зрабіў яшчэ яго бацька, штосьці трэснула, а стары Казёл упаў у балота. Выламалася ручка. У гэты момант стары Казёл не вытрымаў. Устаў з балота, выцер рукавом твар і пачаў уголас праклінаць незнаёмага, махаючы выламанай ручкай. Хутка замоўк, і пачуўшы, што рэха не нясе так як заўсёды слоў, толькі нялюдскі смех.

Так было заўсёды, калі хтосьці не паспеў вярнуцца з пушчы перад дванаццатай гадзінай ночы. Нейкае ліха мусіла на чалавека найсці. Каго гэта сустрэла, той доўга памятаў смех, які ўнутры перацінаў чалавека.

Людзі казалі, што мабыць Толікава душа блукае па балотах, шукаючы дапамогі. А там, дзе згублена душа, там і чэрці выпраўляюць свае гарцы. Такім чынам, сам солтыс Камяніцы занёс да касцёла ў Янаве на імшу за маладога Толіка. Ксёндз нават асвяціў крыж, які людзі павесілі на ростані дарог у пушчы. Якраз тое месца было праклятым, і там чэрці найчасцей мучылі людзей. Крыж прыбілі да магутнага дуба, што стаіць тут ужо некалькі стагоддзяў. Ад гэтай пары не было чуваць, каб хтосьці спазнаў нейкую бяду ў пушчы.

У той жа час у Янаве жыло многа габрэяў. Людзі з Камяніцы не заўсёды мелі час і магчымасць, каб паехаць у Янава ці Сідру на рынак па пакупкі. Габрэі ведалі аб гэтым і часта самі прыязджалі ці прыходзілі пяшком на вёску прадаваць прылады, без якіх цяжка было абысціся. Габрэі з Янава куплялі таксама многа драўніны з Навадворскай пушчы. А кавалкам пушчы, якая ляжала пры Камяніцы, валодаў нейкі Хвяцько. Нягледзячы на гісторыю старога дуба, на якім вісеў крыж, яго магутнасць і красу, Хвяцько загадаў зрэзаць яго. Быў упэўнены ў тым, што габрэі заплацяць яму за дуб шмат грошай. Хвяцько наняў людзей, якія некалькі дзён рэзалі дуб. Жыхары Камяніцы не мелі магчымасці недапусціць гэтага злачынства. Хадзілі і прыглядаліся, колькі ўжо зрэзалі і турбаваліся, што ўсё кепскае вернецца ў пушчу.

У гэты дзень габрэй як штотыдзень прыехаў на гандаль у Камяніцу. Яшчэ не паспеў уехаць у вёску, а ўжо можна было пачуць яго крыкі: «Анучы з-пад кучы, шматкі з-пад лаўкі! Давайце тутай!» Людзі выходзілі натоўпам. Любілі сустрэчы з габрэем не толькі таму, што меў многа цікавых навюсенькіх рэчаў, але перадусім ведаў, што чуваць у ваколіцы. І так ля воза габрэя паставалі людзі, аглядалі рэчы, якіх шмат ляжала на возе. У момант, калі Віталь думаў, ці купіць новую сякеру, таму што старая зусім ступілася, з пушчы пачулася жахлівая грымота. Некаторыя з месца пабеглі дарогай у пушчу, каб даведацца, што здарылася. Габрэй, нягледзячы на пакупнікоў, схапіў за лейцы і пагнаўся ў пушчу. Людзі ўжо здалёк ведалі, што зрэзалі дуб. Не было відаць кароны, якая

распасціралася па-над іншымі дрэвамі. На ростані дарог людзі, якія працавалі на лесапавале, пападалі на калені. З малітвай на вуснах бралі ў рукі пілавінне, якое толькі засталося па вялізным дубе. Усе плакалі, падымалі рукі ў неба, каб Бог прабачыў ім іхнюю прагнасць. «Што вы зрабілі? — спытаўся стары габрэй, зыходзячы з воза. — То ж вы зруйнавалі хату вашага Бога!»

Усе зразумелі, што дуб упаў на дарогу, але пасля яго засталіся толькі гэтыя трэскі і крыж. Да сёння на старой сасне ля месца, дзе стаяў дуб, вісіць цудоўна ацалены крыж, які нагадвае часы русалак і чартоўскіх гарцаў.

Людзі, якія яшчэ памятаюць тыя часы, задумваюцца, чаму прапалі ўсе прывіды, здані і чэрці. Задумваюцца: ці гэта ўсё існавала? Таму што яны і даўней былі больш багабоязнымі і даставалі многа знакаў пра тое, што з'яўляецца дабром, а што ліхам.





# Аляксей Палачанскі

**празаік, паэт. Студэнт 5 курса факультэта радыёфізікі і электронікі БДУ. Друкаваўся ў «Верасні» і альманаху «Пасейдон». Нарадзіўся ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**



# Двое

Яны ляжалі ў халодным пакоі пад скавытанне ветру і крыкі наглядчыка. Раніцай нехта мусіў памерці.

Святло з калідора прабівалася праз дзверы. Там увесь час чуліся крокі, бразгат іржавых кратаў, гудкі сірэны. Здавалася, што вось-вось дзверы адчыняцца, і нясцерпнае святло залье пакой. А там...

— Колькі ўжо часу?

— Яшчэ не хутка. Пакінь.

— Мне ўзгадалася маці. Калі ўзімку трэба было выходзіць з дому, устаць з ложка было, як устаць на страту. А маці хадзіла па кухні, пры святле...

— Я ведаю.

Наглядчык загрукатаў у дзверы: «Ціха!» Ён пайшоў і сеў за пісьмовы стол. Дастаў аркуш і аловак.

— Ён заўсёды адзін.

— Канешне. Таму і жыве.

Шэпты круціліся ў паветры, як колцы дыму. За акном пайшоў дождж. Дрэвы запахлі.

Наглядчык падышоў да акна і прыхіліўся ілбом да шыбы. Яго адлюстраванне змрочна глядзела праз буйныя кроплі на халодным шкле. Ён вярнуўся за стол і напісаў: «Я не мог больш...» Ён спыніўся, зламаў аловак і з'еў аркуш. З шуфляды выцягнуў часопіс.

— Ты памятаеш?

— Я ўсё памятаю.

— Няўжо ў нас не будзе больш апошняй размовы?

Наглядчык здрыгануўся. За шыбай разгарнулася маланка. Ён нічога не пачуў.

У халодны пакой заносіла кроплі дажджу, і ветрам зрывала лісце і кветкі чаромхі.

— Прыгожая ноч.

— Віднее.

Апошнія словы заглушыў гром. Можна было амаль крычаць.

— Колькі ў нас яшчэ засталося? Гадзіна? Калі гадзіна, то няхай яна будзе, як год!

— Калі дзесяць хвілін, то няхай іх хопіць на дзесяць жыццяў!

— Калі ў нас засталося імгненне...

Наглядчык павярнуў ключ і адчыніў дзверы. Пасярод камеры заставаліся толькі два няпэўных цені, якія адразу здзьмула ветрам.

— На выхад! — крычаў ён чатыром сценам у насталай цішы. — На выхад!

*2012 г.*

# У гасцях

— Хлопцы, ну нарэшце! Праходзьце, калі ласка, не саромейцеся. Зачакаўся я вас ужо. Ну давайце, не стойце. Во сюды, здымай, правільна.

— Дзень добры.

— Дзякуй.

Гаспадар нібыта ведаў усіх ужо вельмі даўно і нават не проста ведаў, але быццам былі яны яго лепшымі сябрамі, з якімі ў свой час наеўся солі ўдосталь. Між тым яны бачылі яго ўпершыню і такі нечаканы прыём трохі збянтэжыў іх.

— Заходзьце, — гаспадар пляснуў першага госця, які ўсё яшчэ стаяў на парозе, па плячы і сам пачаў здымаць з яго паліто.

— Не трэба, я сам... — зусім сумеўся першы і пачаў расшпільваць гузікі, а гаспадар заняўся наступным госцем.

Гасцей было трое. Першы — які быў у паліто — быў з іх старэйшы. Ён насіў акуляры, вусы і скураны партфель і выглядаў так, быццам быў ва ўсім упэўнены. Другі госць быў больш падобны да студэнта — не да сучаснага, а да ранейшага, неіснуючага — з рудым шчаціннем на запалых шчоках, кругамі пад вачыма ад бяссонных вышукаў, са скуламі, раскарачанымі ўбакі, як другія локці; ён заклапочана назіраў за тым, што адбываецца, збоку, са свайго падпольнага вымярэння. Трэці госць — або апошні — спачатку ўвогуле не хацеў уваходзіць. Ён упарціўся і казаў, што не трэба клопатаў, але гаспадар канешне зацягнуў яго да сябе. Але, увайшоўшы, госць стаў зладзеявата азірацца і крыўляцца. Ён выглядаў даволі падазрона і было дзіўна, як гаспадар мог запрасіць такога госця да сябе, тым больш, відаць, увогуле не ведаючы яго. Першы госць хацеў заўважыць гэта гаспадару, але сам быў толькі госцем, таму вырашыў прамаўчаць, каб не трапіць у няёмкае становішча.

Апошні госць куртку здымаць адмовіўся, сказаў, што ён тут ненадоўга і не хоча нікога непакоіць. Ён запытаў, дзе ў гаспадара ванная, каб памыць рукі, і працягнуў уперад патрэсканыя далоні. Гаспадар адвёў яго і запаліў святло, але госць адвярнуў кран і доўга недаверліва глядзеў на мыла. Чамусьці ён не мог да яго дакрануцца. Вада заварочвалася ў сцёку і непрыемна буркатала. Сцёк быў пакрыты дробнымі трэшчынкамі, а ванная пахла хлоркай. У люстэрку, што вісела над кранам, нікога не было. Госцю пачало здавацца, што яго самога ўкручвае разам з вадой, і ў галаве ўсё паплыло. «Пацяклі...»

У дзверы загрукаталі, і госць здрыгануўся. Ён схапіўся за мыла, каб утрымаць раўнавагу, але адразу ж з агідай адкінуў яго прэч, паслізнуўся і выцяў нагу. Хапаючыся за гладкія сцены, госць пачаў узнімацца. Уся ванная загрукатала: кафля, пральная машына, зубная шчотка самотна скакала ў шклянцы.

— Выходзьце. Выходзьце! — крычаў звонку першы госць. З ваннай чуліся неакрэсленыя гукі.

— Што ён там... — прамовіў студэнт.

— Выходзь, ты, чуеш? Куды ты яго падзеў?!

Нарэшце дзверы адчыніліся і, вырачыўшы здзіўленыя вочы, выпаўз апошні госць.

— Пра што вы казалі? — спытаў ён, застаючыся на карачках.

— Устань, што ты...

Апошні спалохана заматляў галавой і паспрабаваў забіцца ў кут, але першы схапіў яго за каўнер і прысунуў носам да сябе.

— Гаспадар знік.

Апынулася, што ніхто не бачыў гаспадара з таго часу, як ён павёў госця ў ванную. Першы госць і студэнт стаялі ў вітальні, а потым пачалі шукаць яго па ўсёй кватэры. Яны сталі грукаць у ванную, але апошні доўга не адказваў. Калі ён выйшаў, яны праверылі ванную, але нічога падазронага не заўважылі. Апошні цішкам падаўся па калідоры. Ён збіраўся сыходзіць. Дабраўшыся да вітальні, ён пачаў ліхаманкава азірацца, а потым ціха заскуголіў. Ён закусіў кулак і залыпаў вачыма.

— Ты пакуль пачакай, — ні то зычліва, ні то пагрозліва сказаў першы і паклаў руку яму на плячо. — Тут трэба ва ўсім разабрацца.

Апошні спалохана глянуў на яго і прашаптаў:

— Мы не можам сысці. Тут няма дзвярэй...

— Што ты вярзеш? Вось жа дзверы, перад табой.

— Гэта не дзверы!

Студэнт нахмурыўся і зайшоў за спіну першаму. Той працягваў нешта даказваць, а апошні глядзеў на дзверы, намагаючыся вывудзіць нешта з памяці.

— Колькі часу? — запытаў ён адхілена.

— Я не ведаю, — сказаў студэнт, а першы палез у кішэню:

— Без дзесяці тры.

— Гэта значыць, што я быў у ваннай...

— Амаль чатыры гадзіны.

Яны пераглянуліся, а студэнт пахітаў галавой:

— Чамусьці мне здаецца, што мы тут хутчэй дзень і чатыры гадзіны. Так доўга...

— Не можа быць. Ніяк, — адрэзаў першы. — Мы чакалі спадара з ваннай чатыры гадзіны, за гэты час гаспадар кудысьці знік.

— Не дзень мы тут. І не два, — прагудзеў са свайго кута апошні. — А нашмат даўжэй. Мы з вамі тут, панове, заўсёды...

Першы толькі пляснуў рукамі і ўзяўся хадзіць па вітальні. Студэнт жа асцярожна нахіліўся і спытаў у апошняга, што ён мае на ўвазе. Той заплюшчыў вочы і казаў, нібыта пляваўся:

— Напрыклад, вы. Ну, напрыклад, вы памятаеце, што было перад тым, як вы прыйшлі сюды? Кім вы былі, напрыклад?

— Я памятаю, — выступіў наперад першы — Канешне, я памятаю, кім я быў.

Ён расчыніў свой партфель і стаў выцягваць яго змесціва.

— Вось я. І вось я. Гэта ўсё я. Тут напісана, што я — інжынер...

— Ну а вы? Вы таксама памятаеце? — звярнуўся апошні да студэнта.

— Я быў... хіба студэнтам. Так, студэнтам!

— Як усё недарэчна. Я так стаміўся. Ну канешне, і вашае адбіццё на сценах і ў люстэрках будзе казаць вам тое самае.

Апошні схіліў галаву ўбок і пачаў засынаць, як інжынер скалануў галавой і павёў усіх у пакой, каб там «разабрацца як след». Пакой быў амаль пусты: адзін фатэль, канапа, маленькі столік ды паліца з кнігамі, назвы якіх яны не маглі разабраць. І акно, за якім нічога не было бачна. Інжынер сеў у фатэль і пачаў разважаць уголас. Студэнт падышоў да акна.

— Што мы маем... — інжынер запінаўся, глядзеў на астатніх, зноў пачынаў гаварыць, зноў змаўкаў. — Такім чынам, што мы маем...

Мужчыны пасуравелі. Апошні сядзеў у куце за канапай усё яшчэ ў сваёй непрыемнай сіняй курткі і крыва глядзеў на студэнта. Той падышоў да кніжнай паліцы і стаў шмальцаваць старыя пажоўклыя вокладкі. Інжынер глянуў на гадзіннік і, нахмурыўшыся, схаваў у кішэні.

— Я ўвогуле не памятаю, чаму я тут. Хто-небудзь штосьці разумее? Можа быць, вам ён казаў нешта?

— Я таксама не ведаю, — адгукнуўся студэнт, гартаючы нейкі тоўсты фаліянт з пачарнелымі старонкамі. — Які сэнс?

Апошні скалануўся і ўзвёў угору мокрыя вочы.

— А ты там што маўчыш? — нахіліўся да яго інжынер.

Ён узняўся з фатэля і прайшоўся ад акна да канапы. Потым спытаў, ці хоча хто гарбаты і пайшоў на кухню. Хвілін праз дзесяць ён вярнуўся з двума кубкамі. Апусціўся ў фатэль і запаліў. Студэнт узяў сваю гарбату і адкрыў акно. Усе зірнулі туды, але так і не зразумелі, ці было што за акном, ці не.

— Можа, гэта эксперымент, — здагадаўся студэнт. — Чамусьці ў мяне такое пачуццё, што мы штосьці зрабілі не так.

— Не ведаю, як вы, панове, — адказаў інжынер, — а я зараз дап'ю і пайду. Шчыра кажучы, я нават не памятаю ўжо, чаму я тут...

— Ды не можам мы сысці! — заплакаў у сваім куце апошні. — Не можам, мы тут, у гасцях, а тое, адкуль мы прыйшлі... я ўвогуле не памятаю, адкуль я прыйшоў.

— Ды хто ты? — крыкнуў яму інжынер — Чаму не памятаеш нічога, п'яны хіба?

— Ну так, не памятаю. Не п'яны я. Не памятаю.

— Як можна такое не памятаць? Гаварыць не хочаш? Што, можа, забіў каго?

— А можа і забіў. Можа і яшчэ горш. Толькі нічога ў мяне не засталося з таго, пустэча адна. Як баба на базары з вёдрамі, з жыватом пустым, халодным...



Яму ўзгадалася халодная слізкая ванная і ліпкае мыла. Трэба было намазацца ім, уключыць ваду, садраць з сябе ўсё... Інжынер пільна, амаль дзіка, глядзеў на яго, потым страсянуў галавой, нібы адганяючы бачанне.

— Ну так я адразу і бачу, што злачынец нейкі. Во кампанію знайшоў! Ну добра, трэба ісці.

— Ну куды вы пайдзеце, ну куды?!

— Ну як жа, — працягнуў інжынер і пацягнуўся за партфелем: — Ну вось, вось. Куды я пайду! Вось куды, вось!

Ён па чарзе трос рознымі паперамі, іншымі рэчамі, прызначэнне якіх рабілася ўжо ўшчэнт незразумелым. Ён вывернуў змесціва партфеля на стол і запусціў у яго рукі. Укінуў недапалак у гарбату і паставіў кубак на падлогу, а потым стаў разбіраць свае рэчы і складваць іх на стале.

— Што вы робіце? — засычэў апошні. — Няўжо думаеце, што гэта дапаможа?

— Вось што, — зноў узняўся інжынер. — Ты кажаш, няма дзвярэй. Хадзем, я дакажу табе.

Ён рашуча пакрочыў у вітальню, схапіўся за ручку, павярнуў зашчапку і адчыніў дзверы. У праёме быў бачны звычайны лесвічны пралёт, зялёныя патрэсканыя сцены, іншыя дзверы.

— Усё ёсць, бачыш? Захачу — прэч пайду, захачу — тут застануся!..

Ён замоўк, а апошні спалохана глядзеў на яго. Інжынер сам сумеўся і нібыта ўбачыў сябе з боку. Ён стаяў у вітальні, трымаючы за ручку дзвярэй, другой рукой паказваючы на калідор. Упэўнены, мажны мужчына, у якога ўсё на сваім месцы. Які сам на сваім месцы.

— А я... а я не памятаю, што... — ён адвёў позірк, каб не глядзець на прыціснутага да падлогі апошняга. — Я не памятаю, што тут быў хтосьці яшчэ.

Пасля гэтага яму стала прасцей гаварыць і голас упэўнена грубеў з кожным словам.

— Няўжо вы не памятаеце нашага гаспадара? — заныў апошні. — Гэта ж ён запрасіў нас сюды! Вы ж самі шукалі яго, няўжо не памятаеце?

— Дзе ён? — інжынер нахіліўся і ціха паўтарыў: — Дзе? Чаму я яго не бачу? Вось што я скажу табе: сапраўдныя гаспадары тут — гэта мы! Але які з цябе гаспадар, — дадаў ён, гледзячы, як апошні вынюхвае нешта на падлозе і матляе галавой: «Не... не...»

Ён вярнуўся у свой фатэль, дастаў аднекуль пляшку каньяку, глынуў і выцягнуў ногі. Перад ім на стале былі раскладзеныя стосы паперы, бліскучыя асадкі і іншыя прылады. Інжынер засяроджана перасоўваў іх з месца на месца. Апошні прыпоўз следам і, выгінаючыся, зазірнуў яму ў вочы:

— А ён жа быў такі добры, такі ветлівы. Гаспадар наш, ну? Няўжо не памятаеце? Гэта ж не ваша кватэра. Вы забылі, што мы — госці...

— Гэта вы госці. Кожны сам вызначае, кім яму быць. А я сам гаспадар сабе — бачыш, колькі ў мяне ўсяго? Захачу — выйду вонкі, захачу — тут застануся.

— А вы б хацелі... нават калі не памятаеце, хацелі б, каб ён вярнуўся? Гаспадар наш?

Інжынер памаўчаў і ціха паўтарыў:

— Захачу — выйду, захачу — застануся...

— Вы не можаце выйсці. Вам няма куды ісці. Тое, што вы расклалі перад сабой — гэта вы ўсё ілжэце! Вас няма такога. Паспрабуйце выйсці адсюль — у вас не атрымаецца!

Апошні пачынаў ужо ў роспачы крычаць, а інжынер уздымаўся з фатэля, каб адказаць яму, але тут студэнт, які ўвесь гэты час перабіраў кнігі на паліцы, падышоў да іх, трымаючы адну ў руках. Ён мярцвеў і хваляваўся.

— Ці быў гаспадар, ці не было?! Я не ведаю, і ніхто не ведае. Немагчыма сказаць дакладна, немагчыма вызначыць, дзе мы з вамі зараз і дзе былі раней. Усе доказы — лухта, і вашыя рэчы, і мае ўспаміны! Нічога ніколі нельга сказаць і таму мы, няшчасныя, можам толькі сядзець і спадзявацца на чыюсьці літасць, — ён запнуўся і працягваў: — А можна праверыць, што там звонку, ці заставацца тут і ўяўляць сябе ўсемагутным гаспадаром! Але што, калі мы выйдзем праз дзверы і толькі трапім у іншы пакой? І там таксама сядзяць няшчасныя, і плачуць, і моляцца! Што мы ім скажам? І што мы самі будзем памятаць? Можа, мы самі вечна ходзім з пакоя ў пакой і вечна шукаем, сварымся, чакаем гаспадароў! А ім толькі гэтага і трэба, так яны і задумалі! Або і самі яны — такія ж як мы, падсудныя, — Ён спахмурнеў і рэзка кінуў: — Але я вырашу ўсё раз і назаўсёды, бо ёсць яшчэ адзін выхад, пра які вы не хочаце думаць!

Студэнт адышоў убок і стаў, разгойдваючыся, каля расчыненага вакна.

— Адно з двух... адно з двух.

Над пустымі землямі колеру перапрацаванай нафты круціўся выцвілы вецер. Усё круцілася ў гэтых краях. На пустых землях грувасціліся пустыя пабудовы, у якіх круціліся пустыя мяхі. Зрэдку рэха разносіла гук стрэлу або плач і бразгат пабітага шкла. У рэшце рэшт усё круцілася не па коле, а па спіралі.

Нехта ўвесь час крочыў па паверхні з канца ў канец, зазіраючы ў вокны, мармычучы пад нос нешта незразумелае. Старажылы, якіх ужо даўно не было, маглі б распавесці, што гэта — пастух — дзівак, які брындае днём і ноччу, шукае нешта і нікога не прызнае. Мянушку сваю ён атрымаў за тое, што хадзіў у доўгай белай кашулі, абапіраючыся на кій. І хадзіў ён так, колькі яны сябе памяталі, ад самага іх нараджэння. Хацелі былі яго ў лякарню здаць, але неяк не атрымалася, а потым не да таго было, забылі, а потым і не заўважаў яго ніхто.

Першы госць ляжаў у сваім фатэлі, паклаўшы ногі на стол, і глядзеў перад сабой. Ён быў задаволены: сёння быў у гуморы, шмат жартаваў, пазнаёміўся з супрацоўніцай, потым купіў кілаграм сардэлек, а зараз адпачываў. На працы абяцалі падвышэнне. Часам ён глядзеў тэлевізар у іншым канцы пакоя. Калі паказвалі нешта смешнае, ён весела хмыкаў або тыкаў у экран пальцам і звяртаўся да кагосьці за плячом:



— Не, ты бачыў?! Ну дае, а?

Другі госць стаяў у аконным праёме і балансаваў на раме. Думкі апярэджвалі адна адну, несліся наперад, захрасалі ў тупіку, а ззаду напіралі наступныя, душачы і займаючы іх месца. Некалькі разоў госць не стрымаўся — і званітаваў — то па адзін бок ад акна, то па другі. Часам ён хапаўся за чарговую кніжку, гартаў яе і пачынаў хіліцца ў той ці іншы бок. Але пасля наступнай кніжкі ён зноў вяртаў раўнавагу ці нават нахіляўся назад.

Урэшце ён стаў дзяліць кнігі на дзве столкі і прывязваў іх да сябе такім чынам, каб адна цягнула ў адзін бок, другая — у другі.

Ён змог падзяліць усе кнігі, акрамя адной.

Апошні госць выпаўз з-за канапы і паваloкся па калідоры. Скрозь слёзы праступалі няпэўныя плямы, сцены перакасіліся і выступалі вострымі вугламі. Ён асцярожна абыходзіў іх бокам, каб не параніцца. Калідор звузіўся і выцягнуўся так, што не было бачна канца, падлога выходзіла з-пад ног. У галаве было пуста, і душа замірала і захлыналася чаканнем.

Госць уваліўся ў ванную і замкнуў дзверы. Адкрыў ваду і палез пад душ, не здымаючы сваю сінюю куртку. Ён схапіў кавалак мыла і дрыготкімі вуснамі стаў аблізваць яго, цалаваць. Вяхоткай ён люта шараваў па сваім адзенні. Яно размокла і не хацела злазіць, толькі распаўзалася па ўсім целе. Госць пачаў задыхацца. Ён у паніцы ірваў адзенне зубамі і скуб пазногцямі. Паслізнуўшыся, ён упаў і абадраў запавесу.

За ёй стаяў гаспадар. Ён выцягнуў цела свайго апошняга госця і вызваліў яго ад адзення. Рукі мёртва ўпалі, галава закінулася назад. Потым ён зноў апусціў госця ў ванную і абмыў усяго свежай вадой. Ён пасадзіў яго на крэсла, дастаў цэбар і асобна вымыў ногі, і выцер насуха.

Калі госць ачуняў, гаспадар працягнуў яму сухое адзенне: бялізну, кашулю і штаны.

— Гэта маё, яно чыстае.

Госць схапіў яго і пачаў апранацца. Ён дрыжаў і яшчэ не мог цалкам нармальна дыхаць, але пакрысе супакойваўся. Ён падняў вочы на гаспадара і спытаў:

— А зараз што?

— Зараз? Што хочаш. Прапаную павячэраць.

*2012*



# Марына Яўсейчык

празаік, журналіст. Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» у намінацыі «Дэбют» (за 2012 г.). Пераможца літаратурнага конкурсу газеты «Звязда» на лепшае апавяданне 2012 года. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Брагіне на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Пачуццi, як i людзi...

## Добры дзень!

Добры дзень! Улетку сонца павадзілася забірацца ў рукі твае. Радасна яму там хавацца. Свеціць, нібы ўсміхаецца. Вітаю цябе, Чараўнік! Мой сонны прыпынак скончаны. Штодня прачынаюся і думаю пра цябе. Што ты ёсць. Што побач рукі твае, якія трымаюць зямлю, а на ўскрайку іх жыве сонца прамень. І я на гэтай зямлі ў святочнай сукенцы. У вясельнай. Нібыта планета сышла на мяне паглядзець. Таму я не сплю. Лашчу вокам сваім рукі твае, на якіх я жыву. Так хораша мне. З табою побач. Ты ж ведаеш, што я маленькая. Але яшчэ падрасту. Успомніш тады і скажаш, ці добра было табе трымаць у руках малую дзяўчынку, якая вельмі любіць цябе, нібыта дарослая.

*24 кастрычніка 2011 г., Мінск.*

## Зоры хавацца ўздумалі

Зоры хавацца ўздумалі. Ад нас. Не ў час. Пакрысе развіднее, і яны самі ўбачаць нас. Двух людзей. Звычайных і сціплых. Якія побач ляжаць. Рука ў руцэ. Сэрца да сэрца. Цешымся тым, што дастаць не можам нябесны Коўш, Жырафа і Дракона. Зоры хаваюцца. Ім часам становіцца сорамна, што на іх глядзяць, калі яны такія безабаронныя. Калі зусім цнатлівыя і наіўныя. Свецяць з вышынь сваіх ды на зямлю. Мы не з палахлівых. Паказваем ім сябе. Зоры, глядзіце, на нас няма той цноты, што на вас. А ўсё роўна мы свецімся. Не згасаем. Святло — гэта каханне. Для чалавека. Для мужчын і жанчын. Зоры, уяўляеце, колькі такіх ліхтароў па ўсёй планеце! Глядзіце-глядзіце, а то ад зайдрасці згаснеце вы. Вы першыя. Вы лепшыя. Увышыні. Хораша вам граць музыку свету. Горшыя мы. Але ж ці можна прымаць за грэх тое, што страцілі цноту сваю Адам з Еваю? Перапалох. Ператрус. У сэрцы. Без звычкі мы часта страчваем запаветы, якія напісаны ў Бібліі. Неймаверная стома страсае былльнёг з чалавечай душы. І мы, як знічкі, адрываемся, ляцім, граем у паветры, так і не даведаўшыся, што зямля, да якой так імкліва несёмся мы, усяго толькі адлюстраванне таго дрэва, з якога ўпаў яблык у далонь Евы. Свядомасць, права выбару — гэта і ёсць той грэх, які абралі людзі, наўздагад ткнуўшы пальцам у неба: раптам нешта будзе. Каб не спаць, не падпарадкоўвацца. Ствараць, захоўваць свой Дар, Богам дадзены. Мы — не помнікі! Мы людзі! Марым, думаем, плануем. Кожны з нас. Такія як мы. Ляжаць пад зорамі і вобразы ствараюць. Самі сабе. Малююць. Пісанкай па дрэве, на якім вісіць яблык спелы. Права выбару свабоду выбірае. Зоры, нам не сорамна цнатлівымі не быць. Мы знічкі, бо кахаем. Мы людзі. І не можам вечна жыць.

*27 кастрычніка 2011 г., Чыркавічы.*

## Ты браў сваё

Ты браў сваё, а я глядзела ў неба. У неба не вачэй тваіх — нябёсаў. Нябёсаў, што долу збочылі, з прасторы, дзе выгадаваў нас Гасподзь. Ты браў сваё: мае вусны і грудзі. І паглынаў, і падмінаў іх. Ланцужок твой — спакуса. Ланцужком мяне ты трымаў. А я глядзела ў неба без думак. Без абурэнняў. Клічнікаў, пытальных знакаў і злучнікаў не было. Маўчанне. Толькі маўчанне. Як засланнё. Ад усяго свету.

А я глядзела ў неба, калі ты браў сваё.

*15 кастрычніка 2011 г., Мінск.*

## Толькі кубачак кавы

— З чаго зроблены кубачак твой? Кубак, з якога ты п'еш.

— З акіяна. Акіяна вачэй тваіх, каханы мой. Кубак дае цяпло далоням маім, якія мерзнуць, нібы іх праклялі. І агонь, што ў грудзях, не растопіць лёд той, які ў далонях жыве. Плыні — палонкі — вадавароты — жаданні — імпэты — пачуцці. Усё тваё. Усё маё. Лета было на дваіх. Тваё — марское. Маё — акіянскае. І абодва ляжалі на грудзях зямлі. І абодва паглядалі ў бездань вачэй марскіх — акіянскіх. Тваіх — маіх. Сонца растала на мяжы недахопаў кахання. Я за табой ішла. Цяпер ты за мной. Чую голас твой з бездані маёй акіянскай. Пацалунак табе ў няголеную шчаку. Бусь! Ты адчуў цяпло, мой любы-каханы? На ўскрайку. Мяжы. Самаадданне. Далёка ты. Няблізка я. Толькі кубачак кавы злучае нас. Калі разам п'ём. Ты там. Я на канапе. На чужыне ты, на Радзіме я. Вярнулася, ты ж з'ехаў. Вось мяжа. Тая самая. Нашага акіяна.

*13 кастрычніка 2011 г., Мінск.*

## На мове дзікіх сабак

Імгненне поўніцца выццём сабак. Мінута — ныццём чалавека. Што агульнага тут, калі часавыя прасторы не супадаюць і не могуць з дакладнасцю сказаць, хто і як жыццё сваё пражывае. Сабакі раніцу маю сустракаюць. Гаўканнем, лаянкай. Поўніцца гукам тым увесь мікрараён загрувашчанага горада. Поўніцца гукам тым кожны пад'езд туманнага горада. Прадбачылася ўбачанае мною шмат дзён таму. Калі на ўскрайку дарогі ляжаў дуб. Волат-асілак. Сканаў чалавек. Памерла дрэва яго. Цень стаў туманом, што з узгорка коціцца ў горад, апантана абдымае шматпавярховікі, якія лезуць у неба. Таму не сустрэнуцца ніяк з'ява прыроды і праява чалавека. Не ў лад ідуць справы. Раз'яднанне: «Гаў-гаў! Таму не дам!» — гаворыць чалавек з чалавекам на мове дзікіх сабак.

*1 снежня 2011 г., Мінск.*

## Ты хочаш паклікаць мяне

Ты хочаш мяне паклікаць. Адчуваю гэта. Выгукні ўслых маё імя. Я адкажу табе ўзаемнасцю. Таму што каханне ёсць такая сіла, якая руйнуе, разбурае, у магілу гатова загнаць. Але ж каханне ёсць такая сіла, якая адбудоўвае. Крылы дае, каб лятаць. Ты проста баішся. Я проста ўдзячная. Не складанасць — лёгкасць быцця. Нават калі няўдача стварае сябе сама. У нас быў трыпціх — тры спатканні. І кожная сустрэча — нібыта знаёмства. І кожная сустрэча — нібыта развітанне. Нас чакае вечар, рог месяца. П'яўкай бераг вісіць дагары. Так у вадзе ён месціцца адбіткам сваім. Ты чакаеш. Адзін. Ты хочаш паклікаць. Выгукні. Толькі мацней.

*3 лістапада 2011 г., Мінск.*

## Дурні гуляюць у каханне

Спрадвечнасць таямніц стварае досвіткі ліхія. Ты не спіш. І мы адны. Чакаем суквецці сноў. Суквецці залатыя. Калі ўжо прыйдуць і да нас яны. Запаляць свечку і — ў люлю. Паклічуць як дзяцей малых. Падымеш ты мяне — і панясеш. На руках сваіх. Да ложка. Пасадзіш на яго. А сам на ўколенцы. Перада мною. Нібыта хочаш прасіць прабачэння. Але мне яно не трэба. Надта дорага каштуе. Не маю сродкаў, каб яго купіць. Тады на спіну ляжаш. На падлозе. Абы са мною побач быць. Магчыма, людзі, якія падглядаюць у шчыліны фіранак, думаюць, што мы нейкія незвычайныя дурні, калі ў палаце нумар шэсць не паміраем. Усяго толькі... гуляем у каханне.

*16 траўня 2012 г., Мінск.*

## Чарканёмся ілбамі!

Прыйшоў час нанова стварыць амбіцыёзны план дзеянняў. Грае Келіх Кола. Давайце чарканёмся адзін аб аднаго! Ілбамі! Каб жылося дружна, нават калі пакрысе сінякі павырастаюць. За сяброўства п'ем!

*22 кастрычніка 2011 г., Мінск.*

## Чалавек адзін

Вярблюд ідзе праз пустыню за сваёй каханай. Бусел ляціць праз усю вёску да буслíхі сваёй. І ўсе мужчыны: жывёлы і птушкі, хочуць забраць каханне з сабой. Чалавек не глядзіць у неба. І ўдалеч ён не глядзіць. Калі хочаш ісці хутка — ідзі адзін. Чалавек ідзе.

*16 траўня 2012 г., Мінск.*

## Як на рагу неба

Вецер слізгануў па ўскрайку далоні. На рагу неба гэтак жа ўтульна.

*16 траўня 2012 г., Мінск.*

## Пачуцці, як і людзі

Пачуцці, як і людзі, часам здзяйсняюць самагубства.

*13 кастрычніка 2011 г., Мінск*

## Да цябе моцна хочацца

Дождж па зямлі ідзе. Я крочу за ім наперад. З зямлі поўня расце. Такая як у небе. А ці быў ты на сівой гары? Ці размаўляў ты з Небам? І толькі чуткай пранесліся словы мае да цябе. Да цябе мне вельмі хочацца.

Дарога каштуе дорага.

*31 ліпеня 2012 г., Чыркавічы.*

## Анархісту

Зацалую цябе, мой анархіст! Рукі мае, як ліяны. Абвілі шыю тваю. Галава мая на тваім правым плячы. Мне чутно, пра што ты марыш. Думаеш пра нас дваіх. Я табе не адмаўляю, хоць ты і анархіст.

*3 сакавіка 2012 г., Мінск.*

## Выберы!

Чаго маўчыш, страсаючы з галінак сум? Ты заблукаў у знаёмым месцы. Парк Чалюскінцаў падаўся табе прыгожай нявестай. Адной. Дрэвы-сосны. Хістаюць сваім станам. Ты малы яшчэ. Каб быць для іх волатам. Ты ўсяго толькі — чалавек. І рукі твае не дацягнуцца да вершалін гэтых дрэў. Застанешся без нявесты. Бо ўсё роўна не можаш скласці вобраз сваёй адзінай. У свеце безліч дрэў. І столькі ж паркаў. Дрэвы табе — як напамін пра тое, што ў словах кахання не можа быць шматвобразнасці ды памяркоўнасці. Вырашальным становіцца слова. Ты адзін. Дык выберы!

*19 сакавіка 2012 г., Мінск.*

## Love history

Калаварот. Ад варот да варот. Хваля твая да маёй хвалі. Прысталі. Як мокрае апалае лісце да асфальту. Гэта я. Прысталі. Як звычайна прыстае мужчына да жанчыны. Гэта ты. Гісторыя кахання такая складаная. Шкада, што твая hisroty складаецца з хлусні. А мая паэма — без героя. Праспалі. Як на грудзях спіць малое. Гэта я. Праспалі. Як дарослы мужчына спіць уабдымку з манекенам. Гэта ты. Хто да каго прыстаў? І хто каго прыспаў? Адказы — для цябе толькі згадкі. Маўчыш. Мне думаць ахвота. За дваіх. І за трэцяю. Што паміж намі. Рассякае сузор'і яна. Яна — не я. Яна — твая каханая. Значыць, трэцяя тут я, але не верыцца. Праўда няпраўдай можа стаць, калі закрыюцца-адкрыюцца дзверы. Ключык у цябе. На грудзях тваіх свеціцца. Выберы ўжо ты, паміж дзвюма верамі. Жанчыны — верац. Табе і ў цябе. Толькі помнік твой — твой уласны недавер. Руйнуй яго. Ты сам не свой. Свой — не твой. Я твая — дык не свая. Адна — але з табой. Другая твая, ці трэцяя я — не варта роздуму. Жыць. Кахаць. Любіць.

*13 кастычніка 2011 г., Мінск.*



# Сяргей Белаяр

празаік. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ», альманаху «Своя стихия». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.



# Леанід

*Год 1466-ы.*

З'язджаць у чужыя краі вельмі не хацелася. Шкада было расставацца з роднай зямлёй — лясамі, палямі, рэкамі, невыносна цяжка пакідаць бацькоўскае гняздо, развітвацца з сябрамі і таварышамі, кідаць каханую, сыходзіць у пошуках лепшай долі. Але нічога іншага проста не заставалася... Што рабіць, калі дзяржава не разумее і не прымае цябе? Як трымаць сябе ў руках, калі дзяржаўцы — сельскі войт, староста павятовы, рэферэндарый, канцлер вялікі — глядзяць на цябе як на вар'ята? Як быць, калі тваё імкненне дапамагчы Княству і Кароне не знаходзіць водгуку, калі твая любоў да Айчыны застаецца без адказу? Як не завыць ад бяссілля, разумеючы, што абысці праклятыя забабоны, перамагчы грэблівае стаўленне вышэйшых саслоўяў да прадстаўніка акольнічай шляхты немагчыма? Як не ўпасці ў роспач ад беспрасветнасці?

Было горка і крыўдна ўсведамляць невуцтва дзяржаўцаў. Тое, што яны не прынялі карціны і накіды, яшчэ можна было неяк зразумець. Не ўсе разбіраюцца ў мастацтве. Але тое, што дзяржаўцы адмовіліся ад чарцяжоў, проста не ўкладвалася ў галаве. Машыны для вядзення войнаў, штурму крэпасных сцен, арыгінальныя віды зброі ў цяперашні смутны час далі б войску Княства і Кароны перавагу на полі бою...

Новым ідэям не ўдалося перамагчы коснасць і недальнабачнасць. І войт, і староста, і рэферэндарый толькі смяяліся, калі Леанід распавядаў ім пра перспектывы, што адкрываліся перад краінай, дзяліўся сваімі планамі. Дзяржаўцы называлі хлопца летуценнікам, раілі менш думаць, а пабольш займацца справай. Канцлер увогуле разарваў чарцяжы, а затым кінуў шмаццё ў твар Вінчуку, прыстрашыўшы пакараць за непавагу да Госпада. Пра якую непавагу да Бога можа ісці гаворка, калі Леанід толькі хацеў зрабіць свет лепш?..

Пагроза трапіць у астрог была зусім не эфемернай. Тым не менш, Вінчук усё ж рашыўся сустрэцца з Вялікім князем Літоўскім і Каралём Польскім. Прыклаў да гэтага ўсе намаганні. Але надзеям на аўдыенцыю ў Казіміра не наканавана было спраўдзіцца. Да сына Ягайлы хлопца проста не пусцілі, спаслаўшыся на тое, што нядобра кіраўніку краіны выслухоўваць вар'яцкія ідэі нейкага беднага шляхціца...

У Караля і Вялікага князя хапае клопатаў і без таго. Не трэба яму забіваць галаву нейкай лухтой!

Атрымаўшы адказ, Леанід заплакаў. Ён зусім па-іншаму ўяўляў сабе будучыню сваіх работ. Удар аказаўся вельмі моцным, аднак падкасіць хлопца ўсё ж не змог. Пасля працяглай унутранай барацьбы ён зрабіў выбар. Дабраўшыся да хаты, Вінчук сабраў рэчы, пазычыў у бацькі трохі грошай, развітаўся з роднымі і вырашыў падацца да Фларэнцыі.

Немілагучнае ліцвінскае імя акольнічы шляхціц надумаў памяняць. Цяпер ён будзе звацца не Леанідам Вінчуком, а Леанарда.

Леанарда да Вінчы...

# Прагрэсар

Прытомнасць вярнулася яркім нясцерпным выбліскам. Чалавек тузануўся як пасля ўдару токам. Расплюшчыў вочы, але не ўбачыў нічога, акрамя чарнільнай цемры.

«Аслеп...»

Думка апаліла. Прымусіла сэрца зваліцца кудысьці ў бездань. Некалькі імгненняў чалавек быў не ў стане думаць ні пра што, толькі бяссільна скрыгатаў зубамі. Аднак прастрацыя доўжылася нядоўга — цемра аказалася неабсалютнай. Адкульсьці зверху падала слабое святло. Па меры таго, як вочы патроху прывыкалі да змроку, злосць слабела. Тым не менш, канчаткова не знікла. Стаілася недзе ў нетрах падсвядомасці ў чаканні спрыяльнага моманту для контратакі. Жаданага палягчэння чалавек не дачакаўся.

Разам з прытомнасцю вярнуліся і болевыя раздражненні. Раптоўны параксізм страшнага, выварочваючага болю дзявятым валам накрыў мозг. Цела закалола дзясяткамі, сотнямі, тысячамі распаленых іголак. Па скуры нібы правялі буйназярністым наждаком. Пасля прыйшла чарга солі. Здавалася, балючымі адчуваннямі была напоўнена кожная малекула, кожны атам. Усё цела з'яўлялася болем. І ён пульсіраваў. На секунду слабеў толькі для таго, каб зноў абрынуцца на розум, раздушыць, распляскаць, аддаць агню, рассекчы. І ад гэтага магутнага націску не было паратунку. Хацелася выць, вось толькі звязкі наадрэз адмаўляліся нараджаць хоць які гук, акрамя звярынага мычання. Язык стаў калючым камяком, які замінаў не толькі вырваць з сябе крык, але і ўпусціць у лёгкія паветра. Язык здаваўся неадушаўлёным прадметам. А гэта пужала. Прымушала думкі ў паніцы наскокваць адна на адну.

Праз некаторы час зрок прывыкнуў да цемры настолькі, што чалавек змог распазнаць навісаўшае над ім скляпенне, што складалася з мноства featureрознапамерных, груба абчасаных камянёў. Сцены «упрыгожвалі» брудныя пацячы і шчыльныя «астраўкі» моху. Аб вышыні столі заставалася толькі здагадвацца. Як і пра прызначэнне самога памяшкання.

Чалавек слізгаў каламутным поглядам па мураваным мяшку, беспаспяхова спрабуючы зразумець, дзе знаходзіцца. Цемра і камень. Цяжкае скляпенне ціснула на гатовы «выбухнуць» ад непасільнага напружання мозг. Укалочвала ў яго гіганцкія сталёвыя мыліцы. Шумела ў вушах, перад вачыма мільгалі рознакаляровыя іскры. Ад бясконцага мільгацення агнёў кружылася галава, а да горла падступала млоснасць. Ванітавыя спазмы ішлі адзін за адным, прымушалі цягліцы жывата сутаргава скарачацца. І кожны новы прыступ толькі дадаваў болю. Але якімі б моцнымі і невыноснымі не здаваліся болевыя раздражненні, неўзабаве боль удалося лакалізаваць — «гарэлі» рукі і ногі, ламала шыю, шчымеў пазваночны слуп ды яшчэ нагадваў пра сабе анус...

Усведамленне таго, што болевыя раздражненні канцэнтруюцца толькі ў некалькіх месцах, дазволіла прыменшыць боль. З рэзкага і выварочваючага ён стаў тупым і нудным. Вось толькі на тое, каб трываць яго нават такім, сыходзіла рэшта сіл.

Зрабіўшы некалькі спроб зразумець, дзе знаходзіцца, чалавек быў вымушаны капітуляваць. Нагрузка на мозг аказалася занадта вялікай. Шум у галаве стаў проста невыносным, а канечнасці нібы акунулі ў вадкі азот. Сэрца шалёна калацілася аб рэбры, як быццам збіралася праламаць грудную клетку. Паветра з цяжкасцю знаходзіла шлях у лёгкія.

Вырашыўшы пакінуць спробы зарыентавацца на потым, чалавек засяродзіўся на тым, каб успомніць хоць бы сваё імя. Некалькі бясконца доўгіх імгненняў адказам быў толькі нудны звон у вушах, агульная слабасць і галавакружэнне, а затым у мазгу пачала фарміравацца думка. Нясмелая, гатовая знікнуць пры першых прыкметах небяспекі. Чалавек інстынктыўна, нібы баючыся спудзіць яе, затаіў дыханне. Цярпліва чакаў, калі думка набярэцца сіл. Чаканне дало вынік: праз хвіліну ці тры, ці пяць, ці дзесяць — меркаваць было цяжка — думка адужэла. Настолькі, што ў мазгу ўсплылі два словы. Трыхат Ратэнгут. Мужчына пра сябе паўтарыў словы. Затым яшчэ раз. І яшчэ...

Два словы дарылі цяпло, відавочна былі знаёмыя. Праз імгненне ўсплыла падказка: імя і прозвішча. Акрылены першым поспехам, чалавек зноў паспрабаваў зразумець, дзе знаходзіцца. Каменныя сцены, скляпенне, што гублялася ў вышыні, халодная падлога... Напруга нарадзіла боль. Давялося ўзяць тайм-аўт. На дзве ці тры хвіліны цалкам адключыцца ад рэальнасці. Дапамагло. Болевыя адчуванні адступілі. У тым, што яны яшчэ не аднойчы нагадаюць пра сябе, сумнявацца не даводзілася.

Глыбока ўдыхнуўшы (наколькі гэта дазвалялі рэбры), Ратэнгут трохі павярнуў галаву. да сваіх адчуванняў. Лёгкае раздражненне і не больш. Асмялеўшы, Трыхат павялічыў кут нахілу. Хруснулі косткі. Цягліцы звяло курчай. Аднак адпусціла ўжо праз секунду. Дзякуючы павароту галавы Трыхат здолеў павялічыць бачную зону. Прыблізна ў двух метрах ад Ратэнгута высілася каменная сцяна.

Трыхат асцярожна павярнуў галаву ў другі бок. Тая ж карціна. Яснасці ніколькі не дадалося. Паглядзець назад немагчыма. Не ўстаць. А вось прыпадняць галаву, глянуць на тое, што знаходзіцца перад ім, Ратэнгут мог. Коштам неймаверных намаганняў мужчына ажыццявіў задуманае. Сцяна... Доўга ўтрымліваць галаву на вазе Трыхат быў не ў стане. Апусціў яе на падлогу, са спазненнем зразумеў, што адчувае холад. І не толькі галавой, але і ўсім целам. Насуперак чаканням, холад не раздражняў, а наадварот — прыглушаў боль. Прымушаў мозг працаваць хутчэй. Каменны мех, земляны дол. Чалавек

нечакана злавіў сябе на думцы пра тое, што яму знаёма падобнае спалучэнне. У галаве пачаў плесціся асацыятыўны ланцужок: камень-зямля-цемра-волкасць...

Вязніца! Разгадка дасталася дарагой цаной — па розуму нібыта сцебанулі бізуном. На момант ад рэзкага болю Ратэнгут нават страціў арыентацыю, але вытрымаў, не страціў прытомнасці. Дачакаўшыся, калі болевыя раздражненні аслабеюць, Трыхат пачаў патроху раскручваць клубок Арыядны. Турма. Пакаранне за злачынства. Правіна. Але якая? Хто і за што кінуў Ратэнгута ў каменны мяшок, папярэдне падвергнуўшы яго доўгім катаванням?..

Знямога і боль. Жудасны. Нялюдскі. У параўнанні з якім цяперашнія яго пакуты — лёгкае недамаганне. Путы. Цьмяна адрозны голас святара, які праводзіць допыт. Патрабуе... Што? Памяць здрадліва маўчала.

Мужчына зрабіў яшчэ адзін глыбокі ўдых, дазволіўшы сэрцу прагнаць кісларод па артэрыях і венах. Ратэнгут павінен успомніць, знайсці адказ. Гэта вельмі важна. Сказаць чаму Трыхат не мог. Адчуваў... Мужчына сабраўся з думкамі, паспрабаваў вывудзіць з памяці падзеі апошніх гадзін. Дарэмна. Розум наадрэз адмаўляўся складаць асобныя элементы мазаікі. Падкідваў толькі разрозненыя ўспаміны. Але здавацца Ратэнгут не збіраўся. Сам не ведаючы чаму, быў упэўнены ў тым, што гэта не ў яго правілах. Што мог патрабаваць святар? Што наогул патрабуюць тыя, хто праводзіць допыт?.. Прызнанне! Думка была падобная на выбліск маланкі. Ну, вядома, ж — прызнанне віны! А, калі допыт вёў святар, значыць, патрабавалася прызнанне ў граху або віне ерасі. Грахоў за сабой Трыхат, як ні намагаўся, прыгадаць не мог, а вось ерась... Гледзячы што разумець пад ёй. Для некаторых ерась — гэта адступніцтва, для іншых — жаданне выправіць дагматы, зрабіць свет лепшым...

Думкі варочаліся нібы масіўныя, даўно не змазаныя шасцярні. Болевыя раздражненні не дазвалялі мужчыне цалкам задзейнічаць патэнцыял мозгу. Давялося задавольвацца малым. Крок за крокам спрабаваць намацаць верны шлях. Ерась. Абвінавачаны ў ерасі. Ніякіх сумневаў быць не можа. Бо за грэх на вогнішча не адпраўляюць. Трыхат уразіўся падкінутай падсвядомасцю думцы. Прысуд вынесены. З таго моманту мінула нямала часу. Вогнішча. Усёпажыральнае полымя палохала да ікаўкі, прымушала рукі і ногі дробна падрыгваць, а скіўцы стукаць адна аб адну. Прытомнасць, што знаходзілася на краі правалу, ледзь не павалілася ў яго. Мужчыну ахапіла трапятанне. Потым было толькі адчуванне быцця. Без думак і пачуццяў. І гэта цягнулася бясконца доўга...

Трыхат ачуняў ад грукату ўласнага сэрца. Раптам накаціў жах. Некалькі бясконца доўгіх імгненняў Ратэнгут імкнуўся ўсвядоміць, што ж з ім ўсё ж такі адбылося. Пагарджаючы болем і шумам у галаве, усё глыбей апускаўся ў падсвядомасць.

Знойдзенае ў ёй спалохала яшчэ больш.



Працяглыя знясільваючыя катаванні. Патрабаванне прызнаць віну. Бяссілле і расчараванне ў сабе. Трыхат аказаўся слабы. Не вытрымаў здзекаў. Прызнаўся ва ўсім. Нават у тым, чаго не рабіў і пра што не думаў. А як не прызнацца, калі табе расцягваюць жылы на прэнгу, садзяць на «іспанскага асла», дробняць косткі прэсам для канечнасцяў, раздзіраюць анус «грушай»...

Чарада ўспамінаў выклікала эфект даміно. На разгарачаны мозг нібыта выплюхнулі вядро халоднай вады. Яна імгненна працверазіла розум і прымусіла яго працаваць. І адразу ж мужчына прыгадаў святара, сакратара, гарадскога галаву, бюргераў. Для суддзі ўсё было зразумела і без «добраахвотнага» прызнання Трыхата, але закон патрабаваў выканаць усе юрыдычныя фармальнасці. І прызнанне вінаватага было адным з краевугольных камянёў судовага працэсу. Святому аддзелу расследаванняў ерэтычнай грахоўнасці патрабавалася вяртанне «заблуднай авечкі» ва ўлонне Царквы...

Вяртанне нават праз аўтадафэ.

Ад адной толькі думкі пра смерць мужчыну пачынала калаціць. Не столькі ад страху, колькі ад абурэння. Падумаць толькі — убогія гнаявыя чарвякі караюць смерцю звышістоту!

Трыхат прыгадаў усё...

Раптам захацелася зноў пагрузіцца ў непрытомнасць. Пачаць усё з чыстага аркуша. На жаль, мінулага не вярнуць. Памылку не выправіць. Місія праваліласе. Колькі часу і працы выдаткавана марна. Як шмат мараў і планаў разбілася аб маналіт рэальнасці. Тысячы светлавых гадоў выкінутыя на сметнік. Горш за ўсё было тое, што памерла надзея падцягнуць братоў па розуме, якія знаходзіліся ў змрочным Сярэднявеччы, да ўзроўню вышэйшай цывілізацыі... Скоку не адбылося. Праклятая чэрнь не зразумела добрых намераў, пагрэбвала новымі ведамі, наплявала на будучыню.

Людзі Зямлі аказаліся не гатовыя прыняць новы, напоўнены яркімі фарбамі свет. Адкрыць сэрца і душу пасланцу добрай волі, прыняць як роўнага прадстаўніка высокаразвітай цывілізацыі, якая апярэдзіла чалавечую расу ў развіцці на многія тысячы, калі не мільёны гадоў. Зямляне адмовіліся ад шанцу выбрацца з багны...

Усведамленне паразы напаўняла сэрца Трыхата горыччу. Няўмольная цвёрдасць святара, які ўпіваўся ўласнай уладай, жорсткая пагарда суда Інквізіцыі, непахісная рашучасць вярнуць грамадству яго сябра...

Людзі нават не зразумелі, з кім мелі справу. Для іх Ратэнгут быў не іншапланецянінам, а ўсяго толькі апантаным Д'яблам адзінапляменцам. Вартым жалю, не знаёмым з асабістай гігіенай тубыльцам...

Перад вачыма Трыхата пранеслася чарада малюнкаў. Зала пасяджэнняў Арэапага разумных светаў. Прадстаўнікі дзясяткаў рас. На парадку дня толькі адно пытанне: лёс насяляўшай планету Зямля гуманоіднай формы жыцця. Разумнай, але той, што спынілася ў сваім развіцці. Працяглыя спрэчкі па пы-

танні наконт будучыні чалавецтва. Канчатковы вердыкт, вынесены большасцю галасоў: дапамагчы людзям далучыцца да Кааліцыі разумных светаў. Арганізацыя міжзоркавай экспедыцыі. Доўгі, стомны палёт да Зямлі. Пасадка на планету і першы кантакт...

Ратэнгут дакладна следваў інструкцыям, аднак рэакцыя зямлян аказалася зусім не такой, якой ад іх чакалі. Чэрнь не пранікласяся важнасцю зорнай місіі Трыхата. Замест таго, каб абагаўляць пасланца Кааліцыі, людзі палічылі яго слугой Д'ябла. Занадта моцна над сялянамі дамінавалі мясцовыя прымітыўныя рэлігійныя вераванні. Чэрнь накінулася на Ратэнгута і па-зверску збіла яго. Разграміла бот і знішчыла падарункі. Трыхата адвезлі ў бліжэйшы горад і перадалі Святой Інквізіцыі...

Няўдача садзейнічання гістарычнаму прагрэсу. Палон. Пагроза смерці. Трыхат ніяк не чакаў, што ўсё так павернецца. Ніхто і не казаў, што будзе лёгка, але каб вось так... Было ад чаго знервавацца і ўпасці ў засмучэнне. Самым дрэнным аказалася тое, што ў Ратэнгута адсутнічала магчымасць паведаміць пра свой лёс таварышам. Перадатчык быў знішчаны разам з ботам. Трыхата хопяцца толькі праз трое сутак, калі ён прапусціць запланаваны сеанс сувязі. Пачнуць шукаць па пеленгу маяка, прымацаванага да вопраткі. Бяда ў тым, што каты адабралі ў мужчыны камбінезон. Узамен далі бруднае, смярдзючае рыззё...

Праклятая чэрнь! І навошта толькі астранаўт пагадзіўся ляцець да Зямлі?.. Сядзеў бы лепш на роднай планеце. Самаўдасканальваўся. Дык не ж. Захацелася адчуць сябе героем, які нясе святло і прагрэс дзікунам...

Лёгкі шум прыцягнуў увагу Ратэнгута. Мужчына схамянуўся. Абвёў позіркам скляпенне і сцены. Нягледзячы на тое, што вочы прызвычаіліся да змроку, знайсці крыніцу шуму не атрымалася. Невядомасць пужала. Прымушала цела пакрывацца халодным ліпкім потам.

Гук паўтарыўся. На гэты раз бліжэй. Трыхат прыўзняў галаву, некалькі імгненняў углядаўся ў цемру. Нарэшце заўважыў у нейкім метры ад сябе чорны камяк. Доўгі хвост, маленькія лапы і вушы.

Пацук...

Да слыху астранаўта данесліся шамаценне і піск. Недзе злева. Ратэнгут павярнуў галаву. З дзіркі ў куце цямніцы з'явіўся яшчэ адзін пацук. Ён павёў галавой, абнюхваючы паветра, затым зрабіў некалькі маленькіх крокаў. Замёр. Вачэй пачвары мужчына бачыць не мог, але ніколькі не сумняваўся, што пацук вытарэшчыўся на яго.

Трыхат з цяжкасцю зглынуў, адчуваючы, як страх разліваецца па целе. Як аказалася, два монстры былі толькі авангардам. Праз некалькі імгненняў з дзіркі з'явілася яшчэ адна тварына. За ёй — яшчэ. І яшчэ...

Істот станавілася ўсё больш. Беспардонныя звяркі пішчалі, білі хвастамі і тупалі лапамі па зямлі, прымушаючы Ратэнгута ўздрыгваць ад жаху і агіды. Трыхат паспрабаваў паварушыць канечнасцямі, каб узняцца, аднак ні рукі, ні ногі не адгукнуліся. Падобна на тое, што каты перастараліся...

Бездапаможнасць нараджала безвыходнасць. Астранаўт ніяк не мог узяць сябе ў рукі. Блізкае суседства канкурэнтаў у барацьбе за выжыванне прымушала трапятаць, успамінаць першабытныя страхі, клясці той дзень, калі Ратэнгут даў згоду на ўдзел у місіі. Астранаўт прадставіў сабе, як вечна галодныя монстры накінуцца на яго, стануць драць плоць вострымі, як брытвы, зубамі, піць кроў, атрымліваць асалоду ад яго пакут...

Жах Трыхата мала чым адрозніваўся ад жаху дыназаўраў, уся браніраваная моц і тоўсты панцыр якіх не ратавалі ад нахабнай пражэрлівасці пацукоў. Цяпер ужо і смерць ад рук тубыльцаў здавалася астранаўту не такой зневажальнай.

Чорная маса, нібы адчуўшы страх чалавека, ускалыхнулася. Завіравала і накінулася на астранаўта.

Ратэнгут заенчыў...



## Таццяна Барысік

**празаік. Аўтар самвыдатаўскага зборніка «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (2003 г.). Творы друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «ARCHE», газетах «Наша Ніва», «Навінкі» і інш. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.**



# Без чытачоў

— Люблю я Амара Хаяма, яго рубаі!

«Уж лучше голодать, чем что попало есть...» — натхнёна прамаўляў хрыпаты голас пасярод вясковай вуліцы.

На хвіліну мне падалося, нібы я знаходжуся на пасяджэнні літаб'яднання ці на лекцыі па замежнай літаратуры. Але п'янкі пах бэзу ды павалены плот насупраць імгненна вярнулі да рэчаіснасці. Не гэта не ўніверсітэт і не карпаратыў у рэдакцыі. Мы сёння на нашых сотках талакой бульбу садзілі. Потым,як належыць, пілі магарыч. Папаліць і адпачыць ад міні-банкету выйшлі на свежае паветра. І прыхільнік Амара Хаяма не спіты выкладчык-філолаг, не пазаштатны аўтар раёнкі, а адзін з нашых дабраахвотных памочнікаў Міша — ці-то бульдазерыст, ці-то трактарыст па спецыяльнасці, майстар з залатымі рукамі і гэткай жа душой — апошняя надзея пенсіянераў.

У маладосці падчас вайсковай службы, або мо на цаліну з'ехаўшы, ён апынуўся ў Казахстане. Пасля вярнуўся на бацькаўшчыну. Зараз сям'і сваёй не мае, жыве на цётчыным лецішчы без сталай працы, з казахскім грамадзянствам і дыягназам — сухоты. П'е, паліць і чыфірыць. З горада да яго шчэ дзядзька прыязджае чырванатвары здаравец з наборам гэткіх жа шкодных звычак, але зусім адрозным характарам. Міша працавіты і чулы, дзядзька — гультаяваты і нахабны аматар дармаўшчыны. Цётка звычайна перадае сала ці масла. Але ўвесь харч імгненна прадаецца і прапіваецца. Да таго ж хітры дзядзька мае звычку цягацца за пляменнікам па заробках бы бясплатны дадатак. Крыху глынуўшы для настрою, Міша йдзе працаваць. Дзядзька ж часцяком спасылаецца на кепскае самаадчуванне імкнецца, прылегчы і праз якую хвіліну храпе, як пшанічку прадаўшы!

Не, вы ж хаця не падумайце! Нашыя мясціны славутыя не толькі Мішам і ягоным сваяком. У вёскі багатая падзеямі мінуўшчына, спрадвечныя традыцыі, вось толькі людзей амаль няма. Усяго восем-шаснаццаць чалавек у залежнасці ад сезону. Сярод іх ёсць, канешне, і былыя настаўнікі, заатэхнікі, ударнікі працы, але ўсім ім пад восемдзясят ці за восемдзясят. Міша ж тут не толькі самы малады (няма й пяцідзесяці ), але й самы адметны.

Ну, скажыце, хто ж яшчэ здатны дзябнуць конаўку брагі, з запаленай папяроскай у зубах залезці на тэлеграфны слуп, пастроіць ліхтар і гэткім жа чынам спусціцца долу, не выкінуўшы з зубоў папяроскі? У чыстым полі восенню разам з суседам усю ноч вартаваць выкапаную ў кааператыве бульбу, каторую сусед не патрапіў завезці дахаты. Сваю ж уласную карову аднойчы забыць на вуліцы, не загнаўшы ў хлеў. На шчасце, бедную жывёлу не ўкралі. Не было каму.

Але мяне захаплялі, найперш, нават не гэтыя неардынарныя ў разуменні сярэднестатыстычнай асобы ўчынкі. А Мішава прыхільнасць да Амара Хайя-

ма, ягоны падарунак сябру — былому настаўніку — кніга «Уладзімір Высоцкі. Выбранае», пільная ўвага да ўніверсітэцкага паэтычнага зборніка. Што ўжо казаць пра Міхасёвы размовы на бяседах! Людская гамана даўно ўжо ператварылася ў перадачу малацікавай інфармацыі пра асаблівасці ўласнага побыту.

— Буракоў дробных наварыла, пад'ела. От, смачна!...

— Мой унук паступіў на завочнае, на платнае, другі курс ужо, на сесію паехаў. Дык я ўжо сяджу, думаю хаця ж бы ён здаў экзамены тыя...

— Я такая чысцёха! Люблю парадак у хаце. Як маладзейшая была, усё павымываю, павычышчаю, фіранкі накрухмалю, мост пашкрабу, пыл з фікуса анучкай выцеру...

Вось так бывае сядзіш слухаеш і маўчыш, лянота язык аб зубы біць. Бо смак буракоў не змяняецца год ад года, бабулін унук абавязкова вывучыцца, уладкуецца і шчэ папап'е людское крыві. Бо калі, пражыўшы жыццё, табе няма чаго распавесці нашчадкам апроч прыбірання ў хаце дык пэўна не хваліцца, а галасіць варта.

Міхась жа ў гутарках не кранаў тэлесерыялаў, не ўзвялічваў сябе, пахваляючыся штодзённымі клопатамі. І тут справа, бадай, не ў адсутнасці тэлевізара ды наладжанага побыту, проста для гутарак знаходзілася нешта цікавейшае, больш важнае.Так аднаго разу ён прызнаўся, што не толькі чытае чужыя вершы, але й мае свае ўласныя:

— У мяне іх багата. Я іх пішу і пад ложак кідаю! Лебедзь, рак і шчупак — у перайманне Крылова — абвесціў Міша назву ўласнага твора і пачаў чытаць. Твар ягоны адразу пасвятлеў, бы на імшы, але голас... Голас хрыпеў і зрываўся. Каб разабраць праз хрып і сіпенне тэкст змоўклі ўсе, хто сядзеў побач. Тое, што ўдалося пачуць, мо і не з'яўлялася скарбам сусветнай літаратуры, але было куды лепшым за скляпаныя наспех шэдэўры зорак раёнкі. Дый заканчэнне байкі атрымалася цалкам сучасным. Героі Крылова цягнулі воз у розныя бакі, персанажы Міхася ўвогуле адмовіліся брацца за працу.

На жаль, голас паэта я тады чула ў апошні раз. Нейкі час сустрэцца не выпадала. Казалі нібы Міша быў бы не супраць надрукавацца хаця б на старонках мясцовай прэсы. Але ў хуткім часе яму стала не да вершаў. Урачы выявілі апроч сухотаў яшчэ й анкалогію. Некаторыя ў вёсцы імкнуліся не стыкацца з Мішам, каб хвароба на іх не перайшла.

Ён завітаў да нас напярэдадні дзявятага траўня. Знакам папрасіў у мяне асадку з папераю. Павіншаваў старых са святам. Я ў адказ пажадала яму здароўя.

— Мне засталося год ці паўтара, — прачытала я на аркушы сшытка. Вось так і скончылася наша гутарка-ліставанне.

Чакаеце трагічнага фіналу? А трасцу ў бок! Стары, які напярэдадні дня Перамогі збаяўся паціснуць Мішу руку, нечакана перакуліўся праз тыдзень з невядомай прычыны. Мішавага дзядзькі-здараўца не стала праз год. А Міхасю зрабілі аперацыю. Ён акрыяў, нават звычкі выпіваць не кінуў. Праўда, свой голас паэт страціў назаўжды. Далі інваліднасць. У вёсцы ён не з'яўляўся. Цётка прадала лецішча. Болей з Міхасём я не бачылася, у друку ягоныя вершы так і не з'явіліся, ды і наўрад ці ён працягвае іх пісаць. Навошта? Уголас іх чытаць няма як, а напісанае ад рукі, хто ж цяперашнім светам разбіраць будзе. Некаторыя толькі друкаванымі літарамі чытаць умеюць.

Ну, й такое бяды! Адным графаманам меней — прабурчыць нехта. І будзе мець рацыю. Нашай квітнеючай краіне патрэбны графаманы іншага кшталу — маладыя здаровыя, без шкодных звычак, каб скапыцілася не хутка, амбітныя, усюдыісныя, адукаваныя настолькі, што аж жах бярэ і, галоўнае, з абсалютнай няздатнасцю шпурнуць чарговы твор пад ложак, цытаваць усходніх паэтаў без узгаднення і пільнай на тое патрэбы. Толькі ці ўслухоўваецца хто-небудзь кольвечы ў іхняе гучнае, бы мацюгальнік да вуха прыклалі, дэкламаванне, як услухоўваліся мы тады ў знікаючы голас вясковага паэта Міхася, хворага на сухоты і анкалогію грамадзяніна Казахстана. І хаця ён ніколі не меў сваіх чытачоў, але ўсе ягоныя нешматлікія слухачы, што пакуль шчэ не адышлі ў лепшы свет, дасюль памятаюць і самога паэта, і назву яго самага вядомага твора — «Лебедзь, рак і шчупак». У перайманне Крылова...



# Няўдалы прарок

Маладзёнам Паўла назваць было цяжка: — першая сівізна кранула скроні, дзеці ягоныя ўжо ў школу бегалі. Але сам Паўлік лічыў інакш. І дасюль пачуваўся юнаком, ледзьве не падлеткам, асобай творчай, пакуль малавядомай, але з вялікай будучыняй і ўсеагульным прызнаннем у перспектыве.

Нездарма ж з маленства чуў ад бацькі: «Мой Паўлік нас на ўвесь свет праславіць!» У школьныя гады хлопец наведваў і мастацкую студыю, і музычную школу і ў хоры спяваць спрабаваў. Ды толькі нідзе надоўга не затрымаўся. А калі дзясяты клас заканчваў, дык вылепіў на лецішчы сабаку Рэкса з гліны — ну, як жывы! Абяцаў шчэ і ката Мурзіка зрабіць. Вось, нагледзеўшыся на таго сабаку бацькі, і вырашылі — сын мусіць паступаць у вучэльню, дзе на скульптара вучаць. Інстытут маладому таленту не свяціў усё роўна — адны траякі ў атэстаце. Але ж, як кажуць, — не лёс. На адзін экзамен Паўлік праспаў, на другі — забыўся. Па восені ў войска забралі. Адслужыў, вярнуўся дадому. Пагуляць хацелася, глузды засохлі. Кар'ерны рост спыніўся, так і не пачаўшыся. А тут Ларыса Мацьвеенка з першага пад'езда — вочы блакітныя, валасы бялявыя, бацькі заўсёды на лецішчы... А грошай няма! Вось тады і ўзгадаў Паўлік пра сілу мастацтва ды свае музычныя здольнасці. Пазычыў гітару ў суседа — і да Ларысы. Штовечар прыходзіў і ўсё граў, граў, пакуль тая Ларыса не зацяжарыла. Што рабіць, ажаніўся, бацька ўладкаваў на завод вучнем слесара. Пацягнулася шэрая будзённасць. Тут ужо не да музыкі!

— Дрыньканнем гэтым сыты не будзеш,— бурчэла цешча.

— Песні твае мне заўжды да лямпачкі былі, замуж хацелася, дурніцы, вось і слухала — прызналася Ларыса.

Але творчы пачатак упарта не даваў сябе забіць. Унікаючы ад хатніх клопатаў, прыахвоціўся Паўлік цягацца ў інтэрнат да сябра Васі, халасцяка і шырокай душы чалавека. У якога тады магнітафон зламаўся, а сяброў і выпіўкі — быў поўны пакой. Паўлікавы спевы і гранне там шанавалі! На адной з бяседаў пазнаёміўся музыка з Васевай сяброўкай Марынай. Марына працавала выкладчыцай у ПТВ і, у адрозненне ад прадавачкі Ларысы, умела цаніць мастацтва, а галоўнае самога Паўла.

Цяпер, ідучы да каханкі, Паўлік заўжды цягаў з сабою гітару, выдумляючы неіснуючыя рэпетыцыі самадзейнага аркестра, гастролі на раёне. Ларыса не крыўдавала і нават, здаецца, была задаволеная, не п'е, у хаце не дрынькае — што яшчэ трэба! А вось сябар Вася задаволены не быў. Прыраўнаваўшы Марыну, ён патэлефанаваў Паўлавай жонцы ды распавёў пра ягоныя «музычныя захапленні». Ларыса выперла мужа з хаты, з Марынай таксама нешта разладзілася. Абедзьве падалі на аліменты. Давялося да бацькоў вяртацца. «Такі хлопец, такі хлопец, а вось з жонкамі не шанцуе», — уздыхала маці. На працы Паўлік пасварыўся з майстрам і звольніўся. Спачатку патужыў трохі, а потым зразумеў — не так-то яно і блага! Талерка супу заўжды ёсць, аліменты бацька з пенсіі плоціць, каб сына не пасадзілі. Дзеці гадуюцца самі сабою. Вольнага часу шмат — а гэта важна для творчага чалавека. Узяўся нейкія кітайскія таблеткі для пахудзення распаўсюджваць, заробак абы-што, але на кішэнныя расходы хапае. Грошы ж у жыцці не галоўнае. На жаль песні ягоныя ў інтэрнаце ўсім абрыдлі, ды і з Васем пасварыліся, а гітару скраў нехта. Тады Павел пачаў цікавіцца містычнымі вучэннямі і пісаць вершы.Толькі бацька ўжо не пахваляўся таленавітым сынам, а ўсё часцей наракаў на ягонае раздзяўбайства і ляноту ды абцяжарваў землеробчымі клопатамі. Вось і сёння прымусіў ехаць да бабы Валі капаць бульбу, папярэдзіўшы: «Будуць усе, дзядзька Валера з сям'ёй прыедзе, толькі паспрабуй праспаць!» І Паўлік пагадзіўся, бо меў наконт гэтых дакопак таемны намер. Не так даўно ён напісаў даўжэзную паэму на ўвесь сшытак. Як вядома, душа паэта патрабуе прызнання. Вось ён і вырашыў, што кампанія сваякоў за сталом можа стацца удалай аудыторыяй для літаратунага дэбюту.

На бабіных сотках пачынаючы літаратар не дужа каб шчыраваў, але мяшкі з бульбаю пацягаць усё ж давялося, куды ж ты падзенешся. А ўжо селі за стол, яго нібы прарвала. Гаманіў без перапынку, ніхто слова ўставіць не мог. Спачатку бубнеў пра нейкія звышчалавечыя здольнасці, паралельны свет і акультызм. Сваякі рэагавалі па-рознаму. Баба Валя праз слова перапытвала: — Га, унучак? Стрыечная сястра з цёткай цішком пасміхаліся, прыгадваючы колішнія бацькавы словы: «Да, праславіў бацьку з маткай, дык праславіў — нарабіў дзяцей па ўсім свеце!» «Якой халеры ты тут выдзелваешся? У цябе ж нават ПТВ за плячыма няма!» — прамовіў уголас дзядзька Валера, не вытрымаўшы пляменнікавага маналогу.

Далей маўчаць пра паэму не было як. «Трэба неадкладна ратаваць свой гонар», — падумаў Паўлік, выпіў чарку і ўрачыста абвесціў:

— Я вось кнігу напісаў!

— Ну, і пра што? — запытаўся дзядзька дзеля прыліку.

— Пра маё жыццё.

—Ты што, Ленін хіба? Чым тваё жыццё знакамітае? — задаўшы рытарычнае пытанне, дзядзька павярнуўся і пайшоў валюхаючыся да канапы.

Стратаю аднаго слухача Паўлік асабліва не засмуціўся, але дарма. Хаця й быў абазнаны ў містыцы, інтуіцыя ягоная пакідала жадаць лепшага. Не змог прадбачыць, што слухачоў не застанецца ўвогуле літаральна праз некалькі хвілін.Чытаць напісанае глухой бабе Валі не мела сэнсу. Маці паэзіяй не цікавілася, затое ўмела добра закатваць памідоры, і са школьных гадоў мо і літары пазабывала, бо з кніжкай яе ніхто ніколі не бачыў. Бацька буркнуў: — Ачарцеў ты мне са сваімі вершамі, — і ўтаропіўся ў тэлевізар. Цётка пабегла на паратунак дзядзьку, той зваліўся з канапы і ніяк не мог ускараскацца назад. А сястра настолькі замарылася, пакуль капала бульбу, гатавала пачастунак, падавала кожнаму то лыжку, то гурок са слоіка, што ў канцы бяседы страціла магчымасць успрымаць навакольны свет наогул, а ўжо пра Паўлікавы вершы дык няма чаго й казаць. Хацеў непрызнаны паэт у роспачы узяць рэшту паўлітры і пайсці да суседзяў з паэмаю, але дзядзька Валера ўсё выжлукціў. А куды ты з пустымі рукамі пойдзеш.

Тады Паўлік, мармытнуўшы нешта пра нейкага прарока ў сваёй айчыне, са злосцю шпурнуў сшытак у грубку. А, засынаючы, прыгадаў ката Мурзіка, якога ў юнацтве так і не вылепіў, хаця і абяцаў. Ці вартай была паэма? Гэтага мы ўжо ніколі не ўведаем — рукапіс згарэў дашчэнту.



# Міра Лукша

**празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы: «Дзікі птах верабей», «Выспа»; паэзіі: «Замова», «Ёсць» і інш. Нарадзілася ў 1958 годзе ў Гайнаўцы на Беласточчыне. Жыве ў Беластоку.**

# Чартоўскае пітво

Па абодвух баках палявой дарогі калыхаліся на чэрвеньскім ветры высокія травы, папярэшчаныя квеццем. Аўтамашына аб'язной крамы гайдалася і падскоквала на выбоінах, а ў салоне макрэў расчырванелы Красны Рыгор. Рыгор змахнуў са свайго пукатага з залысінамі ілба тое, што магло быць краплістым потам, калі б было, спрацаванага чалавека ў полудзень у летнюю пару. Кроплі аддалі перагарам. Запахла не спаленым, ды гаручым.

З боку дарогі з разнатраўя шугануў чорны кот. Кот нават не зірнуў на ўздымаючы пыл «люблін». Не цікавіў яго ні Рыгор, ні тавар, які той вёз у гэтым «любліне», а нават і драбніца, што гудзела ў траве. Што там якая мыш ці машкара! Кот Васіль Шарсцюк не паляваў сёння. Яго ў прыполе прынесла баба Жэнька, што схавала сваю гарбаценькую постаць сярод зеляніны. Баба Жэнька цікавала ўжо здаўна за Красным Рыгорам, хоць па прыездзе «любліна» можна было звяраць гадзіннікі. Ды баба Жэнька прыйшла сюды не па пакупкі, хоць у яе вялікай абвіслай кішэні курткі пукаціўся кашалёк. Баба Жэнька прынесла Васю Шарсцюка, каб пусціць яго перад «люблінам». Баба Жэнька шкадавала сваю вёску Хваёвае, у якой жыла ўжо 97 гадоў. Засцерагала яе ад рознай чартоўшчыны яшчэ здавайны. Ратавала сяло ад усялякіх аканомаў, аднавіцеляў, камуністых і антыкамуністых, галандскіх кароў, бройлераў і штучных квактух, ад граду, залеў і ўсушша. А Вася Шарсцюк, у яе ўжо сямнаццаты, дапамагаў ёй у гэтым усім, як мог. Зусім не па просьбе ці па ласцы. Проста ведаў сваё чарнашэрснае заданне і вёска Хваёвае спакойна чыпела пасярод лугоў і пушчанскіх узлескаў. Дарога ў апошні час ішла ў адзін бок з гэтага, з Хваёвага. Вяртаўся сюды мала хто. У апошні час зачасцілі госці, якім даспадобы было салодкае і кіслае малако ды сыр тутэйшых непародзістых кароў, яйкі ад шэрапёрых нясушак, а баба Жэнька асацыявалася ім толькі з харошымі настойкамі на травах. А ката Васю Шарсцюка-Сямнаццатага нават не прыкмячалі. Больш дапытлівыя журналісты, калі трапілі ў гэтае старонне, лічылі коней, авечак і кароў на пальцах сваёй адной рукі, а звычайныя турысты цікавалі за лепшымі хатамі, у большасці ўласнасцю жыхароў сучасных магілак, уквечаных штучнымі пякнотамі.

— Не пайду! — у гэты раз Вася Шарсцюк узбунтаваўся. — Без асекур-р-р-рацыі не палезу на р-р-р-ражон.

Ды выхаду не было, баба Жэнька ўхапіла Васю за каршэнь і шпурнула на дарогу. Вася дзыгануў без аглядкі на пыл дарогі і аж зачхаўся. Адчуў на сваёй выгібастай спіне штосьці як пякучы стрэл. Гэта спачыла на ёй у адну драбіну секунды зялёнае вока Краснага Рыгора. Вася ўсёй сваёй кашэчай моцай адбіў прамень злога вока, ушчаперыўся кіпцямі за спечаную зямлю. Ух, пайшлоо-о-о! З-пад падушачак Васевых пальцаў задымілася. Быццам перуновым токам сцебанула Шарсцюка, убіла яго ў глебу. Страпянуўся, здрыгануўся, і

ледзь ачомаўся. У галаве мільганула адно: «Як найхутчэй дахаты!» У склеп залезці, у цемру! І ад Краснага ўцячы, і ад бабы Жэнькі, каб не ганяла па сваіх чарадзейскіх справах. А то з кагосьці ляк выганяе: «Ідзі, ляк, на чорны лес, дзе птушкі не пяюць і звяры не ходзяць!» — а там Вася чагосьці якраз шукае!.. І той ляк налятае і між сухімі дрэвамі сунецца, і ў кацінаю душу, што ў ім жыве, уціснецца! А потым шукай ты, баба Жэнька, свайго беднага чорнага сямнаццатага ката!..

Баба Жэнька перажагналася, сплюнула праз левае плячо і амаль на карачках пасунулася да мяжы, на якой стаяла старая ігруша. Вось гэтая ігруша была старэйшая і за бабу Жэньку.

Красны Рыгор вёз у вёску атруту. З яе меў грошы, каб за іх набыць яе яшчэ больш, ды не самай лепшай. Атрута, калі яе піць, патрабуе за кожным разам усё большай дозы, неабавязкова лепшай якасці. Атруту мералі па аб'ёме, не ўзважваючы яе на шалях. Атрута была вадкасцю, так, як і большасць рэчываў, з якіх складваецца матэрыяльнае цела чалавека, ды называлі яе чамусьці духоўна: «Спірытус»! Хоць і з чыстым спіртам мела яна невялікае дачыненне.

— Цьфу, нячыстая сіла! — баба Жэнька нюхнула паветра. Сярод духмянасцей чэрвеньскага лета ўчула перагар, які біў ад постаці Краснага Рыгора, не толькі з яго ротавай поласці, з якой не спускаў сваёй ухмылкі зажытачнага гаспадара. — Яшчэ б Васю не пашкодзіў!

Коцік справіўся і з несумленнымі землямерамі, і са старшынёй калгаса, і з сышчыкамі якіх хочаш паліцый. Толькі ў партызанах не вельмі разбіраўся, як і сама баба Жэнька. Ці то «чырвоныя», ці «зялёныя», ці «чорныя», ці «рабыя», — ніколі не было часу ў іх пытацца, адкуль яны і чаго хочуць. А хацелі толькі аднаго: узяць не сваё. Дасі ці не дасі, лепш даваць драла ў лес самому. Кожнаму важнейшая ўласная скурка! Калі жывеш на мяжы, азірайся па баках.

А тут той Красны Рыгор вязе атруту па памежжы. І ведае, у каго за паваротам у сасмяглую глотку ўліецца тая атрута, як у прорву. Паглыне чалавек атруту, і атрута паглыне чалавека, спаліць яго думкі, душу і цела. І стане чалавек, як гэтыя выпетраныя паскі зямлі шостага класа, дзе нішто не хоча вырасці. Дзе не ўтрымацца расліне, каб запусціць карэнне ў глыбінныя нетры зямлі. А туды дастанецца не кожны! Які трэба мець моцны корань, каб трымацца зямлі!

Баба Жэнька, стомленая ад дзеянняў, якія чыніла ўжо трое сутак, пачаўшы ад модлаў на Белым камені звечара, як пачаўся Дзень першы, прысела пад дзіваннамі. Выцерла ўпацелае парааранае маршчынамі чало хустачкай. Дзіванны-дзіўныя панны схілілі ў здзіве свае залатыя галовы: на хустачцы бабы Жэнькі зачырванеў мак! Расклала баба Жэнька хустачку на траве: з яе ўзіраўся плямісты твар, зусім як у старым вершыку: кропка, кропка і выклічнік — вось і выйшаў ганавічнік! Зусім не сімпатычнае аблічча!

Бабе Жэньцы стала блага. Укленчыла пад дзіваннамі, з торбачкі дастала бутэльку з-пад кока-колы з напарам. Адвінула слабеючай рукою горлечка, глынула цудадзейнага напою. З горла бутэлькі ўзвілася хмара пары.

— Пара, пара, ідзі ўгару, упадзі горкай кропляй на няўрадлівую зямлю, дзе чэрвя няма, і скуль каменне нават не нараджаецца.

Ды злыдух не ўзвіўся вышэй, а расснаваўся вакол бабы Жэнькі і ўдушліва стаў уціскацца ў яе дых.

— Вася, Вася! — ледзь прашаптала бабуля, ды кот учуў яе стогн. Заварушыліся травы і кветкі, выдзыгнуў адтуль Вася і са злосным вуркатаннем і шыпеннем кінуўся на страшную пару. — Кыш! Кыш! Кыш! — заверашчаў пагрозліва Вася і стаў біць паветра ашчаперанай лапай. — Ай!

З хмаркі па кашэчых лапах сталі біць іскры маланак.

Усё сціхла. Вася лёг побач з бабай Жэнькай, што пакацілася на мураву, прымяўшы сваім кволым целам куколь, лебяду і валошкі. Абое заплюшчылі вочы.

— Меў бы я прапанову, — мяўкнуў Вася. — Мо хопіць нам змагацца з нячысцікамі? Не ўратуеш таго, хто ратавацца не хоча.

— Можа і годзе, — уздыхнула баба Жэнька. — Але ж праўнукаў шкода, зямлі шкода.

— А колькі нам зямлі тае трэба! А ім, відаць, зусім! А Рыгор атруціць усю рэшту тутэйшых. Што там нам, катам!.. Вернемся ў дзікае становішча. А яны... Людзі... Чаму аддаюць сваё?.. Труцяцца — ну і хай!

І так над прымятай травіцай перакідаліся словам старэчымі галасамі баба Жэнька і кот Васіль. І не ведалі, што Красны Рыгор не жадае пакінуць іх ды іхніх дзеянняў без належнай увагі. І так ужо напсавалі яму крыві сваімі дурнымі чарадзействамі!

Не, не на такога трапілі! Спыніў гандляр атрутай свой «люблін» у садку за стадолай на былой гаспадарцы Нічыпара Дулі, а сам пешшу звярнуў на палетак, дзе адпачывалі ягоныя праціўнікі. У руцэ трымаў бутэльку з хітрай наклейкай «Чыстая», ды ў шкле боўталася міла-ружовая вадкасць. У Рыгоравай кішэні пакоіўся кавалачак цялячай каўбасы, а ў другой — торбачка шакаладных цукерак «Белорусские».

Баба Жэнька расплюшчыла свае светла-блакітныя вочы і абыякава глянула на прысеўшага побач Рыгора.

— О, сам чорт завітаў на наш родны загон! — крэкнула ды села. — І чым ты нас спакусіш?

— Не такіх я... спакушаў, — ухмыльнуўся Рыгор. — Частуйся, Жэня, і ты, Васіль, вазьмі на зубок...

Чорт паклаў свой частунак на раскладзеную хустку, якую выцягнуў з рукава.

— Чаго табе трэба? Ніякай атруты з тваіх рук браць не будзем! — усхваляваны Вася стаў біць сябе хвастом па баках.

Ды баба Жэнька наліла сабе ружовага напою ў шклянку, якую чорт дастаў з другога рукава.

— Ну, поўны сервіз, і не з муштардоўкі, і не з пластмасы! — задзівілася старая. — І смак кока-колы! Ці хоць «ляйт» яна?

— Вядома. Я да вас, Жэня, маю просьбу. Не мяшайце мне ў інтарэсах. Хопіць з вас гэтых смешных чарадзействаў.

— Ці ты мусіш гэтым «люблінам» вазіць тую атруту? Сядзіш у тэлевізары, і ў камп'ютары, і ў газеце, і гэтага табе мала? Колькі табе ўсяго трэба? І так намяшаў у мазгах!

— Мушу парадак зрабіць з генатыпам. Калі поўнасцю змяню геном, які даў Госпад беларусам, вось тады буду рады. І ўбачыць Госпад, што яны яму не ўдаліся!

— А што — мо ўдаліся? — пырхнуў кот. — Госпаду ўдаліся толькі мы!

— І калі будзе размнажацца мой папсаваны праект, дык урэшце дакажу Яму!

— Размнажацца? Дык як гэта плануеш? Як жа ж яны пладзіцца будуць, па-твойму?

— Нармальна: атручаны мужык з атручанай бабай...

Тут баба Жэнька аж папярхнулася «Чыстай»:

— Ну, Рыгор, гэта быццам бы ты сам мне прапанаваў! А адкуль мужыкі баб возьмуць?!

— Вас жа ж будзе ў ваколіцы каля паўсотні!

— Ну і што?

— А кавалераў столькі ж?!.

— От, стары чорце, табе ў вечных ліках тое-сёе паблыталася. Бабам жа ўсім жывым пад дзевяноста будзе, а кавалерам — недзе пад сорак...

— Ну, і што? — Рыгор сам кульнуў шклянку.

— Дык як гэта ўяўляеш? Мо ў прабірцы, такой як твая бутэлечка, будзеш майстраваць свой генатып? — і баба Жэнька паклала ў штучна-белазубы беларускі рот беларускую цукерку.

Вася прыжмурыў вочы з задавальненнем: чорт ад злосці ляснуў пляшкаю ў зямлю, аж адпала донца.

— Дарэмная мітрэнга, Рыгор! Няма чаго гнаць аб'язную краму на гэтыя пяскі. Дарма сюды ходзіш, дарма ножкі б'еш! На чорта табе гэта, гэты дурны генетычны праект! З Госпадам змагаешся ўжо тысячы гадоў. Гэта табе не яблычак даць укусіць Еўцы! Раз табе ўдалося. А на беларусаў няма чаго выцягваць такія гарматы! Гм... а цукеркі «Белорусские» зусім някепскія. Столькі ад іх моцы я адчула ў сваіх членах!

І старая беларуская ведзьма ўхапіла чорта ў свае хударлявыя абдымкі. Спрабаваў Рыгор вырвацца, ды цётка кульнула яго ў маладое жыта. Не каштавала ж чыстай атруты, якую чорт вазіў па тутэйшых вёсках. А цукеркі, вырабленыя ў «Камунарцы» ў Мінску, не на еўразвязавых штучных кампанентах, — мацату даюць магутную!

Вася заняўся каўбаскай, зробленай у Бераставіцы, таму і смачнай, і карысгай. Пасля пабег у садок і папрабіваў кіпцем шыны ў чартоўскім «любліне». І пад вінт кожнай бутэлькі запусціў свой сталёвы пазур. Цяпер тая атрута, калі выдыхаецца, будзе менш шкоднай, чым прадзіраўлены кандом.



# Галіна Каржанеўская

**паэт, празаік, драматург, крытык. Аўтар кніг: «На мове шчасця», «Мой сад», «Жыла-была», «На што падобна аблачынка?», «Вечны водгук», «Невымоўнае» і інш. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Жыве ў Мінску.**



## Павучок

Пасяліўся ў адным доме павучок. Не важна, дзе — у вёсцы ці ў горадзе. Бо нават у самай чыстай, дагледжанай гарадской кватэры дзе-небудзь у куточку можа завесціся — невядома адкуль — дзіўнае стварэнне. Яно падобна на шарык хлебнага мякіша, а па баках лапкі-дужкі прычэплены.

Дык вось, з'явіўся сабе павучок, падрастае, нікому не замінае, на людскія вочы стараецца не трапляць. Сплёў павуцінку за ноч і сам парадаваўся: моцная, трывалая. Бо што за павук без павуціны? Калі ўжо дадзена ад роду такое ўменне — з сябе выцягваць нітачку і плесці, — дык трэба ім карыстацца.

Сплёў, палюбаваўся — і не ведае, што яму рабіць далей. Ну пагайдаўся трошкі, пагушкаўся... Ну падрамаў. Потым гульню прыдумаў, у хованкі. Сам ад сябе хаваецца, сам шукае. Ды як залез у шчыліну — ледзьве выбраўся. Дурная гульня. Небяспечная.

І вырашыў павучок агледзець наваколле. У разведку, значыцца, падаўся. Пад ложкам, дзе ён жыў, нічога цікавага не аказалася. Далей пайшла мяккая пушыстая дарожка. Ледзь не заблытаўся ў ёй, але ўсё ж перапоўз. Пакуль азіраўся, куды далей скіравацць, паблізу штосьці зашорхала: «Шусь, шусь, шусь...» Гэта гаспадыня падмятала падлогу. Чысцюля, напэўна, бо змудрылася малечу выгледзець.

— Ты адкуль? — пытаецца.— Нядаўна прыбірала, нікога не было.

Павучок ажно лапкі падкурчыў, нежывым прытварыўся.

— Не трэба нам кватарантаў, — рашуча заявіла гаспадыня і падабрала няпрошанага госця на мятлу. У сметніцу зараз панясе...

Але тут на дапамогу прыйшла дачушка гаспадыні — прыкладна таго ж узросту, што і сам павучок. (Па чалавечых мерках, вы ж разумееце.)

— Ой, бедненькі! — пашкадавала яна павучка. І папрасіла: — Не выкідвай, мама! Не зможа ён жыць у сметніцы.

Смелая была! Узяла «кватаранта» на далоньку, разгледзела ўважліва. Імкнулася нават у вочкі зазірнуць, але павучок ад страху іх заплюшчыў.Усё чакаў: вось-вось зграбуць і выкінуць...

Маці між тым дабралася мятлой да павуціны. Падчысціла, як не было, нават следу не засталося.

Дзяўчынка трошкі паразмаўляла з павучком, пазабаўлялася, а потым пайшла на балкон, каб выпусціць. Паверх іхні, на шчасце, быў невысокім, пара яшчэ не халодная — толькі восень пачалася, дні стаялі сонечныя, цёплыя. Выпусціла яна павучка з рук, услед яму памахала... Добрай дарогі, як ён зразумеў, пажадала. І панесла яго ветрам у новае жыццё.

Вецер — істота пераменлівая. Мог занесці куды хочаш: і на суседскі балкон, і на асфальт машынам пад колы, і на траву вароне ў дзюбу. Але на гэты раз

злітаваўся: пасадзіў напалоханага павучка прама на дрэва. Няхай ачомаецца, а там паглядзім.

Такі ён, вецер, несур'ёзны. Бывае, што і дрэвы паваляе-паломіць, і дах можа знесці з хаты, а назаўтра — лагодны, добранькі, як ні ў чым не бывала. І даравання нават не папросіць. Як яго сумленне не мучае?

Павучок, можа, і не думаў пра ўсё гэта, бо масціўся на галіне, пераводзячы дух. Супакоіўся і давай азірацца — куды яго занесла. Ого, як высака... Долу не відаць.

Акрамя таго, на дрэве ён аказаўся не адзін. Непадалёку сядзеў невялікі шэранькі каток. Ад сабакі ўцякаў, знянацку на дрэва заскочыў, а назад, галавой уніз па ствале — боязна. Мяўкае на ўсю ваколіцу: здымайце, ратуйце!

Прыляцелі два вераб'і, але зусім не коціка ратаваць. Гвалт між сабой паднялі, нешта не падзялілі. Павучка, праўда, не заўважылі, пырхнулі і прапалі з воч. На каціны голас зрэагавалі дзве сарокі: круціліся побач з невядомымі намерамі і дабаўлялі катку страху.

Гулялі каля дома дзеці. Гаспадары выгульвалі сабак — хто здаравенных, а хто нізенькіх, кароткалапых. Паблізу снавалі аўтамабілі розных памераў і колераў. Увогуле на вуліцы было цікава. Каб толькі ведаць, чым скончыцца нечаканая воля...

Завечарэлася, без сонца адразу пахаднела. Напалоханага коціка знялі з дрэва два хлапчукі і панеслі ў цёплую кватэру. Засвяціліся зоркі ў зеленаватым небе. Павучок адчуў сябе такім адзінокім, такім беспрытульным, што, каб умеў — заплакаў бы, так шкада было сябе самога. Ён яшчэ не ведаў, што сябе шкадаваць — апошняя справа, толькі сілу дарма траціш. А сіла нам патрэбна, каб з усім спраўляцца.

— Дзе мой дом? — думаў павучок. — Дзе мой прытулак?

Яму ўспомніўся ціхі закуток, дзе ніхто не трывожыў. У такіх самых прыхаваных ад воч куточках жылі ўсе ягоныя родзічы і сваякі. Адзін пра аднаго нічога не ведалі, навінамі не абменьваліся, бо павучынай пошты яшчэ не прыдумалі, а тэлефона тым больш. Ткалі серабрыстую сваю павуціну — кожны як мініфабрыка — і марылі, што ў гэтую сетку заляціць здабыча.

Зрэшты, наш герой ніводнай мухі злавіць не паспеў. Не бачыў нават. Дый чаго цяпер думаць пра нейкіх мух, калі спаць пара?

Павучок зашыўся пад лісток, склаў лапкі і соладка заснуў. А ранкам, калі прыгрэла сонейка, адна за адной паляцелі ў паветры весеньскія павуцінкі. Гэта былі не хатнія, а іншыя — пералётныя, можна сказаць, павучкі. Падарожнічалі на ўласным паветраным транспарце.

Адзін з іх за галінку зачапіўся, убачыў свайго самотнага таварыша і кажа: «Што ты тут робіш? Паляцелі разам. Мой парашуцік вытрымае.»

Павучок, доўга не думаючы, асядлаў чужую павуцінку — і панесліся яны ўдвух. Над вулкамі, дамамі, скверамі...Аж дух займала!



Так імчыцца лісцік на плыні ракі. Так імчыцца хмарка ў высокім небе. І калі адкрыліся перад ім прасторы нямераныя, калі павучок зліўся з ветрам, з рухам, з усім, што траплялася на яго шляху, тады ён зразумеў: ягоны дом — не змрочны запылены кут. Ягоны дом — цэлы свет.



# Леся Моўчун

паэтка, празаік, філолаг, перакладчык. Пастаянны аўтар рубрыкі «Наш скарб — родная мова» ў часопісе для дзяцей «Барвінок», аўтар і вядоўца радыёперадачы «Загадкі мовы». Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, у тым ліку для дзяцей: «Неслухмяныя яблычкі» (1997 г.), «Чапурыцца чарапаха» (1999 г.), «Усё падрастае» (2010 г.), «Арфа для павучка» (2011 г.) і інш. Нарадзілася ў 1969 годзе ў Кіеве. Жыве ў Кіеве.

## Выкуй голас, як звон, кавалю!

***

Сягоння ўсе каты заплакалі,
мяняцца ўздумала надвор'е.
І паміж імі, небаракамі,
бы пошасць — пра Месію мроя.

А я ўжо ведаю: ад холаду
Каціны бог не абароніць,
засыпле места белым золатам
і вартай чорнай абвароніць...

***

Абабраная забаронамі
па найвышняй тугой струне
йдзе душа мая за варонамі —
за варотамі толькі снег.

Не паіла яе прываротамі,
толькі рвецца душа наўслед,
за варонамі крываротымі,
за варонамі ў белы свет.

Загублюся між хмараў кронамі,
дзе пярынкі трымцяць, як лес.
За варонамі, за варонамі...
Бог не выдасць, а свет не з'есць.

***

Пасадзілі штандар на палю —
ну якой яму болей кары?
Выкуй голас, як звон, кавалю,—
можа, выберуся з атары.

Бо з паўголасу жыць недарэчна,
бо паўслова гучыць злачынна...
Спакавала паўкраю рэчы
і пакінула нам Украіну,

Каб на нейкім глухім кардоне
абтрусіцца ад роднага пылу...
...А ў напаўапусцелым доле
цэлыя толькі бацькоў магілы.

***

Дождж
Не вясёлы і не самотны.
Дзень зачапіўся
За мокры стаўбур.
Дождж
Ад суботы
І да суботы.
Зноў ад сябе я
У дождж
Бягу.
Клён падстаўляе
Пад дожджык лапкі.
Я прытуляю
Да іх шчаку...
А у кішэні прамоклы аркуш —
Сляпыя словы да пальцаў мкнуць...

***

А пачуццяў парэнчы —
Для душы — недарэчнасць.
Бо сцюдзёна у снежні,
Я у снезе па плечы...
Кветка сумнай усмешкі —
Як прывід сярод дому...
Мне б дайсці туды — пешкі,
Ды... смяротная стома.

***

снег
закіпае свет
холадам
маладым
я выпіваю дым
не парушаю
цноты
нават на долю
ноты
нерушам стылых рыфм
крочу па белым полі

***

А ноч, як нож,
Параніла святло.
Тады чаго ж —
Баліць душы — было.
Шкада, што «цік»
Не зробіцца «цвіком».
... Як маладзік
Не стане маяком.

***

Аднойчы старэй я стану,
І восень з нясцерпным болем
Падорыць мне сум растання
Навекі з самой сабою.
І там, на парозе раю,
У цесным сіле спакусы
Апошняе, што згадаю —
Твае залатыя вусны.

**З украінскай мовы пераклаў Эдуард Акулін**



# Віктар Баранаў

паэт, празаік, перакладчык. Старшыня Нацыянальнай спілкі пісьменнікаў Украіны, галоўны рэдактар літаратурнага часопіса «Кіеў». Аўтар кніг паэзіі: «Нараджэнне полымя», «У сераду рана», «Вяргіні ў маміным садзе», «Паваражы на ранішняй зары», «Хата сінявокая»; прозы: «Пераступаючы парог», «Смуга белая, смуга чорная» і інш. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывушы на Палтаўшчыне. Жыве ў Кіеве.

## Кватэра з вокнамі на Лаўру

Прэм'ер падаў эфектна — як у кіно. Ён ледзь ступіў на зямлю з падножкі шыкоўнага спецаўтобуса, як нехта з натоўпу, сабранага ці сагнанага для сустрэчы кандыдата ў Прэзідэнты, кінуў у высокага госця (і пацэліў!) нейкім прадметам, што апынуўся сырым курыным яйкам, і яно, разбіўшыся і расцёкшыся па магутных прэм'ерскіх грудзях, выклікала ў чалавека панічную збянтэжанасць — у яго ажно падкасіліся ногі, і ён, зняможаны, пачаў асядаць назад, як падстрэлены ў скачку лось, прадбачліва раскідваючы рукі і ведаючы, што іх неадкладна падхопяць вернападданыя суправаджальнікі, слугі з незлічонай світы амаль каранаванай асобы, якой да трона засталося некалькі фармальных крокаў. Слугі сапраўды кінуліся ратаваць патрона з няштатнай сітуацыі, на шчасце не спазніліся і геніяльна своечасова падхапілі велічэзны змалочаны сноп, да яго якраз быў падобны кандыдат у Прэзідэнты, дзейны кіраўнік урада, чый усмешлівы твар, разлічаны на неадменны давер шараговага выбаршчыка, навісаў растыражаванымі рэкламнымі шчытамі (жартаўнікі ахрысцілі іх «біг-мордамі») над цэлай краінай — куды ні пайдзі і ў які бок ні глянь.

Доўгаль яшчэ нейкі час, як прыклеены, сядзеў перад тэлевізарам, пакуль згадаў, што на кухні даўно чакае яго рытуальная гарбата. У іх сям'і чаяванне гэтым вячэрнім часам сапраўды было рытуалам, невядома калі і невядома кім уведзеным. Можа, акадэмікам-бацькам, а мо, акадэмікам-дзедам ці акадэмікам-прадзедам... Вось яны — на партрэтах і фотаздымках, у тамах энцыклапедый і напісаных імі манаграфіях і кнігах, у шматлікіх адзнаках і ўзнагародах, нарэшце — у гэтай акадэмічнай кватэры ў гістарычным цэнтры горада, якая ўжо сама з'яўляецца помнікам некальким пакаленням Доўгаляў, і ён, Анісім Юр'евіч, іхні ўдзячны нашчадак з гарчынкай віны ў душы перад вялікімі сваімі папярэднікамі. Акадэмічная традыцыя спынілася на бацьку, Георгію Ігнатавічу; сям'я Доўгаляў спыніцца на ім, Анісіму, як зараз кажуць да патрэбы і без патрэбы, звычайным, простым чалавеку без ніякіх схільнасцяў да навукі, без Гіменеевых путаў на руках і сэрцы — таму і без ненароджаных Анісімавічаў, якія працягнулі б род. І ён тут — дакладненька як у фільме: адзін дома.

З пакоя, дзе тэлевізар, на кухню, дзе чайнік на пліце, — няблізкі свет, як па цяперашніх мерках стандартных гарадскіх кватэр. Пакуль дайшоў, не адразу і пачуў, што нехта дамагаецца гаспадара, звонячы ў дзверы. Доўгаль нікога не чакаў, да яго даўно ніхто не прыходзіў, хіба час ад часу наведвалася паштарка з традыцыйнай прапановай падпісацца на нейкую газету адразу ў яе, а не ў паштовым аддзяленні (ёй у такім выпадку ідзе нейкая даплата) — але ж паштарка такім познім часам, мабыць жа, пераймаецца іншымі клопатамі. Такая маладая і па-вядзьмарску прыгожая ў іх паштарка — і чаго яна на той пошце губляе гады свае маладыя і прыгажосць... Калісьці Доўгаль быў у такую закаханы...

Званок у дзверы гучаў усё больш нецярпліва — ну дык няхай гарбата пачакае. Адчыніў дзверы — стаяць два хлопцы, атэставаць якіх па іх знешнасці сын і ўнук акадэміка адразу не наважыўся.

Яны па той бок парога — добра ўкормленыя, па-спартыўнаму «накачаныя», з выклікам апранутыя ва ўсё дарагое, упэўненыя ў сабе. Ён па гэты бок — у замытым халаце паверх цёплай сподняй бялізны, змяняць якую з таго часу, як у пунктах пральных паслуг загнулі цэны проста завоблачныя, ён неяк спраўляецца самастойна. Нечаканыя госці няўдала выдавалі сябе за прыстойных, але і Доўгаль, разгубіўшыся ў трывожным прадчуванні, спытаў па-дурному:

— Вы да мяне?

— А к кому же еще! — нахабнавата рагатнуў адзін за парогам.

— І... чым абавязаны?

Хлопцы пераглянуліся, нібы былі іншапланецяне, якія не разумеюць мовы тубыльцаў.

— Ты, слышь... — пачаў адзін, ды Доўгаль яго мякка, але рашуча абарваў:

— Прашу мне не тыкаць. Майго дзеда яшчэ імператар гузікамі абтыкаў, калі той служыў. Таму паводзьце сябе прыстойна, панове.

Нібы пасаромеўшыся ўласнай смеласці, гаспадар апусціў вочы, прасачыў, каб з-пад крыса халата не выглянула калена, абцягнутае злінялымі кальсонамі.

Маладзёны ад здзіўлення ажно разгубіліся, але толькі на хвілінку.

— Ты, слышь, это... Дело есть!

— Я — з вамі — ніякай — справы — мець — не хачу!

І зачыніў дзверы, імгненна шчоўкнуўшы двума надзейнымі замкамі.

...Ляжаў, і здавалася, быццам у ваннай з крана капае вада. Padняўся, пайшоў і паглядзеў — не, не капае, гэта толькі здалося. Запіў проста з чайніка дзве таблеткі валяр'янкі, паволі супакоіўся і заснуў. Прачнуўся ад званка ў дзверы. Гадзіннік паказваў чвэрць восьмай раніцы. Адчыніў — за парогам стаяў Юрко.

— За каго будзем галасаваць? — замест «добрай раніцы» спытаў госць, яшчэ і парога не пераступіўшы. Пэўна, штосьці вялікае ў лесе здохла.

— І дзеля гэтага ты прывалокся і не даў мне выспацца? Відаць, усю ноч вачэй не змружыў, філасофскую праблему вырашаў... Заходзь.

Юрку, як і гаспадару, ішоў семдзясят другі, але ён так і застаўся для ўсіх Юрком — непрыкаянай душой, з няўдалым калісьці хаджэннем у прымы да генеральскай дачкі, з якой прыжылі дзяўчынку, і тая дзяўчынка вырасла і ашчаслівіла Юрка ўнукам Генкам, які зрэдчас забягаў да дзеда — самотнага пенсіянера, да якога нікому няма справы і якіх налічваецца па ўсёй краіне процьма. Юрко наведваў Доўгаля спантанна, пераважна тады, калі ў пастаянных сваіх роздумах-развагах пра сусвет і жыццё заходзіў у тупік, а якраз гэтага ён не любіў найболей, бо, яшчэ са студэнцкіх часоў празваны Спінозам, склаў для сабе ўласнае ўяўленне аб светабудове, дзе ўсё трымалася на лагічных сувязях. Дагэтуль апошнім тупіком для яго была вычытаная ў нейкай газеце інфармацыя пра неадзінкавыя выпадкі змены людзьмі полу: з мужчынскага на жаночы і наадварот, хто як пажадае. Тады Доўгаль доўга адпойваў Юрка гарбатай, і ўсё роўна той пайшоў дадому з вялікім сумневам адносна правільнасці свету і рэчаў у ім, калі Гасподзь ужо блаславіў такія эксперыменты з людзьмі. Што завяло Юрка ў тупік гэтым разам?..

Доўгаль умеў запарваць гарбату; гэта было ці не адзінае, у чым ён паспяхова працягваў сямейную традыцыю. Даў напою належную вытрымку, разліў у два кубкі, пра якія зараз сказалі б, што яны ў стылі рэтра, сеў за сталом насупраць Юрка з выглядам самага ўважлівага слухача.

— Растлумач, — сёрбнуў Юрко з кубка, — як такое можа быць у дваццаць першым стагоддзі, у зеніце росквіту цывілізацыі...

— Прабач, хто табе сказаў, што чалавечая цывілізацыя дасягнула зеніту развіцця?

— Ну, не разводзь антымоніі, — з прыкрасцю і нецярпеннем адначасова скрывіўся госць. — Бліжэй да сутнасці. Дык вось, сярод белага дня ў рэдакцыю газеты раптам заяўляюцца дзябёлыя хлопцы і кажуць галоўнаму рэдактару, што ён тут больш не працуе. Ні ён асабіста, ні хто-небудзь іншы з работнікаў. І што памяшканне павінна быць вызвалена праз дзве гадзіны, бо праз тры гадзіны сюды ўселіцца новы «трудовой коллектив», які і будзе выдаваць газету далей. У рэдактара вочы на лоб: «Як? Хто вы такія? Што гэта значыць? А дзе ж мы на хлеб зарабляцьмем? — «На хлеб?» — перапытваюць маладзёны. — Вось вам пад'ёмныя. Па дзесяць «кускоў» на кожнага хопіць?» — І кладуць на стол пачкі даляраў. «Увогуле гаворка ідзе не пра грошы...» — намагаецца нешта растлумачыць хлопцам рэдактар. А яны яму: «Ну, ты, козел, не трепыхайся, а бери, пока дают. И через два часа, чтоб духу вашего здесь не было!» Ты сабе можаш такое ўявіць?

Доўгаль сёрбнуў гарбаты таксама.

— Адкуль ведаеш?

— Дык Генка ж мой там працаваў, унук! Учора прыбягае, вочы ашалелыя, двух слоў звязаць не можа... Вось ты, Анісіме, скажы, як жа гэта так — прыйшлі нейкія бандыты і камандуюць: прэч адсюль? Дык ці ёсць у нас улада і закон, ці не? Я ў цябе пытаюся... Ты ж з акадэмікаў...

На кухні было цёпла, аднак Юрко — мабыць, па звычцы — хутаўся ў благенькі палітончык, з-пад якога выглядаў грубага вязання швэдар (Юрко яго зваў «камізэлькай»), зношаны і замыты, як і сам яго ўладальнік, і званы Анісімам гаспадар, які ўжо раз пашкадаваў чалавека насупраць сябе за кухонным сталом, што вось яму ідзе восьмы дзясятак, а ён — Юрко. Не Юрый Дзмітрыевіч, як па пашпарце, а проста і безаблічна: Юрко, Юрко і яшчэ раз Юрко. Для яго, Доўгаля, для суседзяў, паштаркі, работнікаў ЖЭКа і ўсяго свету, нават найменшай логікі ўпарадкавання, якога той Юрко дашукваецца цягам усяго жыцця.

А сам ён, Анісім, унук акадэміка і сын акадэміка, хіба не дашукваецца і хіба не заходзіць у тупікі? Свет стаіць на краі прорвы. Юрко апелюе да ўлады і закону — і што ж? Дбае аб ім улада, аберагае закон? Стукай, гукай, крычы, прасі ратунку — vox clamantis in deserto. Уся краіна, калі палічыць у ёй жывыя, непрадажныя, няспітыя і няспячыя душы, — суцэльная пустыня. Закон — марыва, міраж, fata morgana. Улада — штосьці такое, чым хіба непаслухмяных дзяцей палохаць на ноч. Юрко пытае парады: знайшоў у каго пытацца! Доўгаль сам гатовы ў каго-небудзь спытацца, што ж гэта робіцца і да чаго ідзе. Але не да дабра — гэта дакладна.

— Што было — бачылі, што будзе — пабачым, — заспакойліва для госця і самога сябе мовіў Доўгаль і даліў у абодва кубкі. Юрко яшчэ пасядзеў трохі, потым таропка зазбіраўся і пайшоў. Доўгаль стаяў у пройме дзвярэй, глядзеў, як той спускаецца па сходах, што ўтвараюць прасторны квадратны калодзеж усярэдзіне пад'езда (дом для акадэмікаў, вядома!), і Юрко раптам здаўся яму старым, адзінокім, знявераным Дыягенам, які з ліхтаром у руцэ рушыў сярод белага дня на пошукі чалавека і сам найбольш сумняваецца ў паспяховым дасягненні гэтай мэты.

Толькі зачыніў дзверы — забрынькаў званок. Мабыць, Юрко вярнуўся, нешта забыўся. Але гэта быў не Юрко: за парогам стаялі знаёмыя ўжо маладзёны.

— Значит, так! — без усялякага ўступу з металам у голасе загаварыў адзін. — Есть человек, ему приглянулась твоя нора. Проси какие хошь бабки. В пределах разумного, естественно.

Доўгаль зразумеў, пра што гаворка: яму прапаноўваюць прадаць кватэру. Так хоча якісьці там «человек». А ён, Анісім Георгіевіч, атрымліваецца, не «человек». Яго меркаванне нічога не варта, яго ні пра што не пытаюць — толькі ставяць перад фактам. Але ж не, шаноўныя, па-вашаму не будзе!

— Перадайце вашаму патрону, што кватэра не прадаецца. Таму што яна не мая.

— Не понял! — набычыўся адзін за парогам.

— Ты, дед, не мути! — дадаў другі. — Мы навели справки, так что давай без мансов!

— Вы не зразумелі. Гэтая кватэра — наша сямейнае гняздо. Тут жыў мой бацька, жыў мой дзед і прадзед. Гэта мая бацькаўшчына і спадчына. І я адсюль нікуды не паеду. Так і перадайце вашаму «человеку».

— Значит, так! Ты, дед, либо туго догоняешь, либо удумал нас лохонуть. Времени у тебя — до вечера, понял? И шевели мозгами! Мозгами, понял?!

Маладзёны, гучна грукаючы абцасамі, рушылі ўніз па лесвіцы. Бразнулі ўваходныя дзверы ў пад'ездзе. Рэха ўзляцела да верхніх паверхаў — і сціхла. Ледзь далятаў з двара гоман ахопленага мітуснёй вялікага горада. Доўгаль вярнуўся ў кватэру, хадзіў з пакоя ў пакой, не знаходзячы сабе месца. Стукала ў скронях. Паклаў пальцы левай рукі на запясце правай — пульс ажно «зашкальвае». Дзесьці ў аптэчцы быў анапрылін і карвалол...



Зімовы дзень праляцеў хутка, і калі па кутках ужо туліўся змрок, Доўгаль падумаў, што трэба рыхтавацца неяк сустрэць надакучлівых хадакоў, бо ведаў пэўна — прыйдуць. І прыйшлі.

Калі яны з'явіліся на парозе — з брыдкімі пысамі бультэр'ераў замест звычайных чалавечых аблічча ў і налітымі крывёю вачыма, — Доўгаль выйшаў да іх, трымаючы перад сабой, нібы абраз падчас хроснага ходу, партрэт дзеда ў рамцы пад шклом, зняты са сцяны ў пакоі, які некалі служыў кабінетам чалавеку, выяўленаму на партрэце. Дзецюкі, што відавочна не спадзяваліся ўбачыць такое тэатралізаванае дзейства, разгубіліся і не знаходзілі слоў, якіх, можа, ніколі і не шукалі толкам, а ўжывалі, як смажаныя семкі сланечніку: выплюнуў ды забыўся. Таму Доўгаль скарыстаўся гэтым і загаварыў:

— Хлопцы, я вас прашу... Імем майго дзеда прашу: адступіцеся. Вы ж бачыце — я не таргуюся. Не пра грошы гаворка. Ідзіце з Богам! І так і скажыце вашаму заказчыку...

Бультэр'ерскія пысы павярнуліся адзін да аднаго, пераглянуліся і моўчкі падаліся сходамі ўніз, не забыўшыся на выхадзе з пад'езда гучным бразганнем развітацца з дзвярыма.

Доўгаль усеўся перад тэлевізарам, пераключаў каналы — усюды адно і тое ж: палітыка, палітыка, рэклама, зноў палітыка, зноў рэклама, хтосьці кагосьці вінаваціць за жонку-амерыканку, хтосьці хваліцца чыстымі рукамі, якія не кралі, тут спяваюць асанну прэм'еру, які робіць па тры «рабочыя» паездкі ў тры вобласці за адзін дзень, там кандыдат ад апазіцыі, кімсьці няўмела атручаны, ставіць да сцяны дзейную ўладу... І скрозь — слоўны бруд, нечыстоты, што, здаецца, сцякаюць з экрана і напаўняюць усю кватэру пахам застаялых памыяў. Доўгаль міжволі здрыгануўся. А яшчэ праз імгненне да яго вуха данесліся ад уваходных дзвярэй — масіўных, падвойных і, калі верыць рэкламе, браніраваных — глухія ўдары, выразныя і недвухсэнсоўныя ў сваёй мэтанакіраванасці, бо тычыліся менавіта яго, Доўгаля. Ён асцярожна і разам з тым паспешліва падышоў да дзвярэй, вызірнуў у вочка. Тое, што ён убачыў, прымусіла яго здрыгануцца невымерна мацней, чым сузіранне тэлевізійных сюжэтаў: знаёмыя ўжо яму бультэр'ерскія пысы, засопшыся, секлі масіўнымі сякерамі-калунамі металічнае палатно дзвярэй.

Грукат, напэўна, чуўся на ўвесь пад'езд, аднак ніводнай душы да гэтага не было ніякай справы: усе — па сваіх норах.

Калі Доўгаль перасіліў здранцвенне, першай думкаю было камусьці патэлефанаваць. Вядома, каму ж яшчэ: Юрку. Пачуўшы жахлівую навіну, Юрко некаторы час маўчаў (чарговы тупік!), нешта там percatraўліваў, асэнсоўваў і нарэшце выдыхнуў:

— У мяне сусед — вялікая шышка ў міліцыі, сапраўдны генерал. Я табеператэлефаную.

Доўгаль паклаў слухаўку. Удары ў дзверы гучалі з жудаснай аднастайнасцю, нібы працавалі магутныя машыны, якім невядомая стомленасць. Ён стаяў

над тэлефонным апаратам і глядзеў на яго нават не ўмольна, а асуджана, бо толькі ад гэтага прадмета зараз усё залежала. Юрко адазваўся неадкладна:

— Анісіме, супакойся. Я назваў генералу твой адрас. Ён нават мацюкнуўся на такое бясчынства! Сказаў — міліцыя прыбудзе з хвіліны на хвіліну. Паведамі мне, што там і як.

Як загіпнатызаваны, Доўгаль падышоў да дзвярэй. У верхняй іх частцы, уздоўж, ужо бачыліся шчыліны ў тоўстым і, здавалася, такім надзейным металічным палатне, яны ўсё болей шырыліся і паўзлі ўніз. Абы толькі міліцыя прыбыла ў час...

Ад дзвярэй яго паклікаў тэлефон.

— Прабач, — пачуўся ў слухаўцы вінаваты голас Юрка, — толькіператэлефанаваў генерал. Сказаў — гэта вышэй за яго магчымасці. Але ты трымайся! Я еду да цябе!

...Пакуль Юрко дабраўся, была першая гадзіна ночы. У дзверы званіць не давялося, бо тое, што ад іх засталося, наўрад ці можна было назваць дзвярыма... Знешняе палатно наводзіла жах ірванымі зазубрынамі на знявечаным метале, унутранае пацярпела толькі ў некалькіх месцах: як пасля Юрко даведаўся, гаспадар сам адчыніў дзверы і тым спыніў здзекаванне з іх. Дакладней — здаўся. А што рабіць? Часам чалавекам кіруе не розум, а інстынкт самазахавання.

Доўгаль сядзеў у крэсле і няўцямна глядзеў на партрэты на сцяне насупраць. Юрко кашлянуў, і гаспадар павярнуў да яго сівую, з рэдкімі валосікамі, падобнымі на пажоўклую травіцу позняй восені, галаву. Вочы Доўгаля былі да краёў затоплены слязьмі, але слёзы не выцякалі з вачэй, бо гэта ўсё адно не прынесла б палёгкі змардаванаму сыну і ўнуку акадэмікаў.

— Анісіме, — толькі і мовіў Юрко, — вазьмі сябе ў рукі. Жыццё не скончылася.

— Не ведаю ... — варухнуў сухімі вуснамі Доўгаль. — Дзякуй, што прыйшоў. Калі хочаш, запар гарбату. Бо я не магу.

***

Доўгаль сапраўды не таргаваўся. Хвала Богу, хлопцы ад «человека» і сам «человек» трапіліся прыстойныя — спыталі, дзе б ён хацеў жыць. «Няхай з відам на Лаўру», — сказаў на гэта Доўгаль. І тыя ж самыя хлопцы, ужо зусім не падобныя на брыдкіх бультэр'ераў, перавезлі яго ў новае памяшканне з двума прасторнымі пакоямі, па-сучаснаму адрамантаванае, ды яшчэ і з паверхам угадалі — любімы яго трэці, не высока і не нізка. Яны адкрылі яму валютны дэпазітны рахунак у банку, навучылі, як ім карыстацца, пакінулі дысконтную картку. На развітанне пажадалі змястоўна праводзіць вольны час і не хварэць.

Доўгаль хацеў быў павесіць у новым жытле дарагія яго сэрцу партрэты, але штосьці быццам абарвалася ў душы, і партрэты засталіся нераспакаваныя. Прыязджаў Юрко і цешыўся, які файны краявід адкрываецца з вокнаў кватэры — ад адной толькі Лаўры так і струменіць, так і накатваецца магутная энергетыка. «Вось я б на тваім месцы абавязкова знайшоў сабе маладзічку ў целе! Думаеш, гэта праблема? На твой дастатак і дваццацігадовая прыскача, толькі пальцам кіўні!» — «Ну, хіба на дастатак... — вяла рэагаваў разбагацелы «жаніх».

Час ад часу яму сніцца адзін і той жа сон. Быццам ён жыве на старым месцы, і да яго прыходзяць у госці бацька з дзедам. Пытаюцца, дзе ён падзеў іх партрэты. Тады ён прачынаецца з дрыготкаю ва ўсім целе, падыходзіць да акна і доўга глядзіць на асветленую начнымі пражэктарамі Лаўру: яна і сапраўды мае дабрадатную аўру, Доўгаль нарэшце сунімае цяленсае і душэўнае трымценне, зноў кладзецца і спакойна засынае. Тым больш, што недзе ў канцылярыі новага Прэзідэнта ляжыць і чакае разгляду яго ліст, у якім ён просіць вярнуць яго ў сямейнае гняздо. Грошы на банкаўскім рахунку ён верне да капейкі, бо ніводнай так і не ўзяў.



# Грэх недаравальны

Хто позна ходзіць — сам сабе шкодзіць. У гэтым Сямён Гірыч пераканаўся на ўласным вопыце.

Патэлефанаваў стары сябра, даўно не бачыліся, а ён цэлых два дні ў Кіеве, у камандзіроўцы, увесь у справах аж па самае няма куды, і ўжо сёння ад'язджае, квіткі на дваццаць адну пятнаццаць, дык ці не мог бы Сямён падскочыць у гатэль — павячэралі б на дарожку і пагаманілі па-сяброўску. Аднак, як высветлілася пазней, камандзіраваны Яўген, якога жонка яшчэ з часоў яго халасцякоўства і небеспаспяховых да яе заляцанняў перахрысціла ў Геніка, наклікаў у госці мясцовых дзялкоў, з якімі цягам гэтых двух дзён меў бізнэсовы кантакт, дзялкі ў прадчуванні дармавой выпіўкі і закускі не прымусілі сябе доўга чакаць, і калі Сямён увайшоў у нумар, то вольнага крэсла для яго ўжо не засталося, і ён сеў на тумбачку. Лепш бы не сядаў. Толькі выпілі па першай і пачалі смакаваць вэнджанага вугра — валынскі далікатэс, што прадаюць на Бесарабцы за шалёныя грошы, якіх у Сямёна ніколі не было, — як за спінай у яго азваўся тэлефон: стаяў на той жа тумбачцы, прыхінуты да сцяны з невядома калі наклеенымі шпалерамі, выцвілымі і выцертымі, з рудымі плямамі ад клапоў, патоўчаных тысячамі папярэдніх жыхароў гэтага гасцінічнага нумара, разлічанага на непераборлівых прыхадняў у сталіцу, згодных пракантавацца ночку-другую хоць дзе і хоць як, абы не на вакзальнай лаўцы.

Тэлефон і не думаў змаўкаць, дык каму выпадала ўзяць слухаўку, як не Сямёну: грукатаў жа на версе парожняй тумбачкі якраз ззаду яго.

— Пронто, — сказаў Сямён, імітуючы нейкага героя якогасьці італьянскага фільма, а яшчэ больш збываючы адчуванне самотнасці ды іншароднасці ў гэтай прасякнутай меркантыльнымі інтарэсамі кампаніі: як ім толькі не абрыдне ўсё пра кошты, працэнты, транспарціроўкі, тэрміны дастаўкі, растаможкі,

хабары рэкету бандыцкаму ды дзяржаўнаму, рынкавую інфраструктуру і яшчэ чортведама што! У працівагу гэтым занадта сур'ёзным рэчам Сямён мовіў: «Пронто».

— Добрый вечер, — адказаў яму мілы жаночы голас. — Будьте любезны, который час?

— За пяць сёмая, — спакойна зрэагаваў на гэты голас Сямён, назіраючы, як хутка карацее на стале яшчэ нядаўна даўжэзны вугор, які адрэзанымі кавалкамі перакачоўвае ў замасленыя рукі ды раты едакоў, чаго яны ніколькі не саромеліся.

— Не поняла. Я по-украински плохо понимаю. Я из Алматы, — падаў голас надзвычай каштоўную інфармацыю аб асобе, якой належаў.

— Без пяти семь вечера, — пераклаў Сямён.

— Благодарю.

Генік або схітраваў, запрашаючы Сямёна для сяброўскай балбатні, або не да канца вырашыў з кіеўскімі дзялкамі свае праблемы, або тыя дзялкі занадта захапіліся экзатычнай закускай — словам, Сямёну ніяк не ўдавалася ўставіць у хаатычны хор галасоў за сталом уласныя «пяць капеек». Генік апраўдальна глядзеў на яго, але ад чаркі да чаркі радзей, ужо амаль без пачуцця віны перад аднакурснікам, з якім былі калісьці як злыганыя, а калі раз'ехаліся кожны па размеркаванні, у розныя бакі ад Кіева, цёпла адгукаліся адзін да аднаго, вышуквалі нязначныя нагоды для сустрэч, наўзамен ахрысцілі сваіх дзяцей, хоць іх і перасцерагалі, што кумаўство «вяртаць» не прынята.

Што тыя забабоны, калі — сяброўства да магілы!

Але цяпер выпаў такі момант, калі сяброўства павінна было саступіць Генікавай справе. Сямён прасякнуўся разуменнем сітуацыі таварыша, і ўсё ж на душы было няёмка ад нечаканага дыскамфорту. З пачуцця, што ён тут лішні, яго вывеў тэлефонны званок. Ён узяў слухаўку, зноў сказаў «пронто» і пачуў той самы жаночы голас:

— Ты случайно не из Кишинева?

— А як вы адгадалі? — вырашыў не расчароўваць суразмоўніцу Сямён.

— Ну, это твое «пронто»... Кажется, я слышала его в Кишиневе. Кстати, мы могли там и встретиться.

— Бачыце, не лёс. Дык я вас уважліва слухаю.

— Где здесь можно достать спиртного?

— Ды дзе заўгодна! На Храшчаціку процьма гандлёвых кропак.

— Да нет, я имею в виду — не выходя из гостиницы.

— У кожным гатэлі на другім і сёмым паверхах абавязкова ёсць буфеты.

— Ты так думаешь?

— Я проста ўпэўнены!

— Ну, спасибо.

Канец сувязі.

— З кім гэта ты? — вылучыў хвілінку ўвагі сябру Генік.



— Сэкс па тэлефоне, — надаўшы твару загадкавасці, сказаў Сямён.

Генікавы госці перасталі аблізвацца, аплятаючы вугра, і насцярожыліся. Сямён вырашыў іх разыграць і пачаў наводзіць туману: — Праз сем хвілін зноў патэлефануе.

Мінула не сем, а пяць хвілін, і тэлефон задрынчаў зноў, гучна рэзаніруючы ў парожнюю тумбачку пад сабой.

Сямён, як сапраўдны інтрыган, па-воўчы ўпэўнена і павольна павярнуўся ўсім тулавам, стаў над тумбачкай і прыклаў да вуха слухаўку:

— Пронто!

— Это ты, из Кишинева?

— Я.

— Знаешь, мне так не хочется рыскать по этажам...

Шматзначная паўза. Сямён, праявіўшы належную вытрымку, спытаў:

— А навошта табе спіртное?

— Ну, как сказать... Расслабиться хочется! С тобой так не бывает?

— Шчэ як бывае!

— Слушай, как тебя зовут?

— Сямён.

— Сеня, что ль? А я — Галина. Вот и познакомились. Ты в номере один?

— Самотны, як сабака.

— Давай расслабимся вместе. У меня очень приятные вспоминания о Кишиневе. И я могу быть нежной. Ну и как?..

— Ты ў якім нумары?

— В шестьсот десятом.

— Я ператэлефаную, калі буду выходзіць з свайго.

На Сямёна былі скіраваныя сем пар вачэй, і амаль ва ўсіх прачытвалася зайздрасць: так чалавеку шэнціць, дармавая любоў сама плыве ў рукі, хоць ён і пальцам для гэтага не варухнуў.

Пераміргнуўшыся і вырашыўшы атрымаць задавальненне хаця б на словах, кіеўскія дзялкі пачалі адзін перад адным пераказваць гісторыі «пра баб», з якіх яны, акулы сярэдняга бізнэсу, паўставалі амаль легендарнымі донжуанамі, якія патаўклі столькі маладых і гарачых цел супрацьлеглага полу, што калі б іх пашыхтаваць у адну чараду, дык чарговай іхняй прыхільніцы, каб яна пажадала ўдастоіцца іхняга сэксуальнага гігантызму, давялося б забегчы далёка за межы Украіны і дзесьці там прыстроіцца ў самы хвост чаргі. Сямён такой балбатні не любіў. Тым больш, што яму трэба было іграць ролю найноўшага Казановы, і ён ужо ўваходзіў у ролю.

Абыякава, з падкрэсленай няўвагай, не зважаючы на легенды і міфы ад сталічных дзялкоў, якія самі сябе ўзбуджалі ўласным містыфікатарствам на тэмы любоўных прыгод і перамог, пацягнуўся рукой да абавязковага ў кожным гасцінічным нумары буклета з прымітыўнай інфармацыяй аб паслугах, якія тут можна атрымаць.

Тых паслуг — як мяса з прусакоў, якімі аблеплена рудая, даўно не мытая і зацухмоленая кафля ў каморцы, дзе планіроўшчыкі гэтай начлежкі прыхітрыліся размясціць адразу ракавіну для мыцця, унітаз, так званы стаячы душ, кошык для смецця, сушылку для ручнікоў ці, найперш, для шкарпэтак пастаяльца, якія ён памые перад сном і вільготнымі надзене раніцай, бо куды ж падзенецца перад моцай сталічна-гасцінічнага сэрвісу.

Буклет падказаў Сямёну, на які тэлефон можна званіць у шэсцьсот дзясяты нумар. Вядома, ён і не збіраўся туды тэлефанаваць; вобраз Казановы ствараўся ім выключна для гэтых кіеўскіх снобаў, каб як след іх падражніць, тонка адпомсціўшы не столькі за расхапанага імі вугра — напхаліся ім, маладыя яшчэ ўкормленыя трыбухі, быццам бы прыцягнуліся сюды з галоднага краю! — як за дурную прагнасць на дармаўшчыну, ды яшчэ калі ўладальнік яе ў чымсьці ад іх залежаў.

Сямён помсціў ім за Геніка, бо бачыў, што ў таго нешта не клеіцца, што бурбалка ўдалага бізнэсмена, якую ён выдзімае перад сталічнымі партнёрамі, слаба змяняецца ў перспектыўныя фарбы, і што Генік плавае мелкавата, хоць трымаецца ліха.

Відавочна, Генікавы кампаньёны, ласыя на дармавую гарэлку «Віче» (адна толькі трохкутная, у выглядзе будынка старажытнаўкраінскага сабора бутэлька-тара чаго вартая — цуд шклярскага майстэрства!) ды закускі, здагадваліся ці, можа, і ведалі пра яго цяжкасці ў справах, бо нічога толкам не абяцалі, а толькі нахвальвалі дары валынскага краю, прытопліваючы ўхваламі Генікавы спадзяванні дачуць нейкія кавалкі таго, што не пачуў на працягу двух перагаворных дзён.

Сямён ужо не злаваўся на сябра і толькі шкадаваў, што той запланаваў сустрэчу з ім пад канец сваёй камандзіроўкі ў Кіеў, а трэба было — на пачатак.

Госці пачалі пазіраць на дарагія свае гадзіннікі на руках, Генік прапанаваў наліць на дарожку, хаця гэта яны павінны былі прапанаваць, бо далёкая дарога чакае менавіта яго, Геніка, але цяпер свет бізнэсу перавярнуў усё дагары нагамі, дык хто прасочыць за логікай даўніх звычаяў і хто яе свята прытрымліваецца; ды яшчэ калі не засталося нічога святога ў царстве ўлады і волі жоўтага д'ябла.

Госці дружна ўсталі, хтосьці з іх першым ускочыў у каморку з умывальнікам адмыць з рук сляды вэнджанага вугра, астатнія быццам бы казалі нешта Геніку, але пры гэтым уважліва пільнавалі сваю чаргу ў каморку, і Сямён міжволі набраў тэлефонны нумар гасцінічнага нумара шэсцьсот дзесяць.

Налічыў нешта з дванаццаць доўгіх гудкоў. Нарэшце там узялі слухаўку. Колькі секундаў Сямён чуў нейкі незразумелы шум замест голасу, да якога ўжо прызвычаіўся. Прыслухоўваўся, адгадваў, што гэта можа быць. І за імгненне перад тым, як Галіна з Алматы словам засведчыла сваю прысутнасць на тым канцы дрота, бліснула яму здагадка: душ! Там, у глыбіні шэсцьсот дзясятага нумара, шуміць вада ў такой самай каморцы, куды па адным заскокваюць Генікавы госці тут, каб хоць крыху пазбавіцца едкага паху вэнджанай рыбы, перш чым рушыць дахаты, да сваіх распешчаных жонак, звыклых да шыкоўнай парфумы, якую яны заслужылі ўжо хоць бы таму, што маюць такіх здатных у бізнэсе мужоў.

Сямён зразумеў: Галіна з Алматы чакае яго, Сеню з Кішынёва, і мігцяць ім нечуваная ноч шалёнага кахання, на працягу якой Галіна бясспрэчна дакажа, што можа быць пяшчотнай, не абы-як пяшчотнай, стакроць пяшчотнай і такой, у якой да папярэдніх успамінаў пра Кішынёў дададуцца ўражанні свяжэйшыя, мацнейшыя, незабыўнейшыя...

— Сеня, это ты? — задыхаючыся, пытаецца Галіна і дае зразумець, што яна доўга не чула званка і мела бегчы да тэлефона, каля якога стаіць голая, цалкам голая, ва ўсёй паўнаце сваёй маладой прыгажосці, даючы Сямёну выразна ўявіць, як вада сцякае па яе бездакорнай формы плячах, руках, грудзях, па тугім жываце і точаных нагах, сцякае з пальцаў рук на слухаўку, і Галіна перакладае яе з далоні ў далонь, тым часам стрэсваючы кроплі з вольнай рукі; як ёй няўсцерп у прадчуванні расслабленасці на два галасы, на два фужэры, на дзве пары вуснаў, на чатыры нецярплівыя і нястрымна-смелыя рукі, на два целы, якія адпусцілі ў шаленства — на каханне Алматы і Кішынёва.

— Я ўжо іду, — кажа Сямён.

— Дверь будет не заперта, — кладзе слухаўку Галіна.

Генік ужо сабраны ў дарогу, да адыходу цягніка застаецца паўгадзіны, але колькі тут дабірацца: тры прыпынкі на мятро. Яны выходзяць, здаюць ключы дзяжурнай на паверсе і спускаюцца ліфтам. На вакзал з Генікам едзе толькі Сямён, і гэта лагічна, бо сталічныя дзялкі не могуць сабе дазволіць такога марнатраўства часу, бо тады іх бізнэсу — поўная хана.

На пероне Генік глядзіць на Сямёна — нарэшце глядзіць знаёмымі, роднымі вачыма! — і пытаецца:

— У цябе ўсё ў парадку?

— Усё добра, — усміхаючыся, кажа Сямён, а ў вушах у яго б'ецца шум вады з душа ў гасцінічным нумары шэсцьсот дзесяць. І варушыцца пад сэрцам чарвячок дакору: не трэба было разыгрываць ролю перад жанчынай, якая яго, можа, сапраўды вельмі чакала...

Пройдзе некалькі месяцаў. Аднойчы ўвечары, калі муж і жонка Гірычы будуць глядзець па тэлевізары італьянскі фільм, у якім герой кожны раз, калі бярэ слухаўку, кажа «пронто», Сямён прызнаецца жонцы ў сваім недаравальным граху перад незнаёмай жанчынай, якая тады ў гатэлі так яго чакала... Жонка, выслухаўшы, паглядзіць на яго, як на марсіяніна, і пакруціць пальцам ля скроні.

— Ты ідыёт. Не ведаеш, як у гасцініцах лохаў чысцяць?.. Калі б ты сапраўды там жыў і пайшоў да той з Алматы, твой нумар тут жа абшманалі б наскрозь. Адна хеўра, зразумеў?

Сямён слухаў і думаў: як добра, што ў яго такая мудрая жонка!

**З украінскай мовы пераклаў Юрась Кур'яновіч**





# ВЕРАСЕНЬ

## КРЫТЫКА
## ПУБЛІЦЫСТЫКА
## ЭССЭ

ала петрушкевіч марыя ганько
зінаіда бандарына леанід дайнека
алеся грыбок раіса крывальцэвіч
дзіяна балыка генадзь лапацін
ларыса раманава анатоль трафімчык
вадзім кажан вітаўт мартыненка





# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.



# «Патаёмнае» Наталлі Арсенневай

**20-га верасня споўніцца 110 гадоў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай — знакамітай паэткі XX-га стагоддзя, чыя творчасць усё яшчэ не можа вольна вярнуцца ў Беларусь, так, як ніколі не вярнулася сама аўтарка. У лісце літаратара Антона Адамовіча да яе чытаем: «Вы зусім правільна пісалі, што Вас будуць чытаць і разумець па сьмерці. Гэта ж з паэтамі часта бывае, а з запраўднымі — бадай заўсёды». Час — чытаць і разумець паэтку — хіба ж не прыйшоў?**

Нішто не вечна. Усё таемнае мусіць стаць вядомым. Паўтараючы гэта, чалавек зайшоў хіба занадта далёка, дазваляючы сабе літаральна ўспрымаць гэтыя ісціны. Дакладней, збіўся са шляху. Дазволіў сабе абыходзіцца з тым, што вызначана яму, каб чалавекам застацца. Бо вырашыў падкарэктаваць Творцу, адкінуць тое, што дадзена, здавалася б, аднойчы і назаўсёды: прыходзіць у свет мужчынамі і жанчынамі. Людзі, аднак, у некаторых краінах і гэта ўжо перакрэслілі, адкінуўшы нават у дакументах пазнаку роду. Тым больш, на думку такіх, ужо вельмі шматлікіх асобаў, рамантычныя адносіны між ім і ёю састарэлі. Але ж жывое яшчэ маё пакаленне. І тыя, што прыйшлі ў гэты свет раней за нас. І тыя з маладзейшых, хто будуе сваё жыццё паводле спрадвечных законаў. Менавіта такіх чытачоў можа зацікавіць гэты артыкул.

Неаднойчы ў працах, прысвечаных творчасці Наталлі Арсенневай пазначаецца: у яе паэтычнай спадчыне абыдзены любоўныя матывы. Узнікае пытанне — чаму? Хіба магла яна, паэтка, надзвычай прыгожая жанчына, чыё сэрца было адкрыта насустрач красе, не зведаць гэтае пачуццё? Хіба не дадзена было ёй сустрэць тых, хто абудзіць душу дзеля вялікага шчасця — кахаць? Відавочна, так не магло быць.

Наталля Арсеннева была асобай адметнай, замкнутай, скрытнай, эмацыйным інтравертам, што вельмі ашчадна ставілася да выяўлення інтымных пачуццяў. У аўтабіяграфічным нарысе паэтка пісала пра гэтую асаблівасць: «Я мела нейкую дзіўную натуру ад самога маленства. Я не ўмела быць шчырай, не ўмела дзяліцца ні з кім сваймі перажываннямі. Я цешылася, я цярпела, я хацела таго ці іншага, ... але ўсё гэта паціху, у сабе. Ніхто ніколі не ведаў маіх думак» [1, с. 463].

Ад самага пачатку сваёй паэтычнай творчасці гэтая юная асоба не дазваляла сабе выказваць самае патаёмнае, чым жыло сэрца маладой дзяўчыны. І хіба ж не зразумела, што толькі перажытае ці непасрэдна, ці апасродкавана, праз уяўленне, дае магчымасць адлюстраваць тое ў творчасці. І Наталля Арсеннева пакінула ў сваёй спадчыне некалькі вершаў, у якіх і распавяла пра свае, як мне падаецца, самыя светлыя каханні. І зрабіла тое ў манеры, характэрнай менавіта ёй, схаваўшы гэтае пачуццё глыбока, перанёсшы яго на свет прыроднай красы, дзе ніхто і нішто не парушыць адвечную таямніцу. Гэта

два вершы пачатку 20-ых гадоў і творы значна пазнейшага часу, напісаныя ў акупаваным Менску і ў Берліне ў саракавых гадох. Героямі вершаў-прысвячэнняў былі Максім Гарэцкі і Францішак Кушаль. Адзін — вядомы пісьменнік, выкладчык беларускай літаратуры Віленскай беларускай гімназіі, другі — малады вайсковец, які і стаў мужам паэткі.

Верш «У лесе» прысвячэннем мае ініцыялы — Ф.К. Быў 1921 год, выпускны для юнай гімназісткі. У аўтабіяграфічным нарысе Наталля Арсеннева вельмі скупа піша пра Францішка Кушаля: «Удзень я вучыла ў школе..., а па абедзе хадзіла на лекцыі ў універсітэт. Сюды ж прыходзіў і мой будучы муж, з якім я пазналася яшчэ будучы гімназісткай на адной з нашых суботніх вечарынкаў. Хутка сталася так, што, праслухаўшы адну ці дзве лекцыі, мы апыняліся ў Бернардынскім садзе або на Замкавай гары» [1, с. 470]. Відавочна, любоў да Беларусі таксама аб'ядноўвала маладых людзей, бо Франак з маленства быў шчырым патрыётам. Далучыўся да беларускасці яшчэ ў нашаніўскія часы.

Францішак Кушаль пройдзе з Наталляй Арсенневай праз усе жыццёвыя выпрабаванні і трагедыі, найвялікшай з якіх будзе страта першынца — сына Яраслава ў 1942 годзе. Боль ад яе не пакіне паэтку ніколі. З Францішкам пройдуць яны праз ростані і эміграцыі.

Па-рознаму ацэньваюць розныя людзі гэтага чалавека, на якога шмат бруду выліта. І не толькі ворагамі беларушчыны. «Павароты яго жыццёвага шляху дагэтуль змушаюць гісторыкаў распачаць зацятыя спрэчкі» [2, с. 206]. Што да мяне, то веру найперш нашай вялікай паэтцы, нязломнай змагарцы Ларысе Геніюш, якая была знаёма з сям'ёй Кушаляў, прыпынялася ў іх у часе свайго прыезду ў акупаваны немцамі Менск у 1944 годзе. У сваёй знакамітай «Споведзі» Ларыса Геніюш пісала: «Мала ў жыцці я сустракала такіх шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў, толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі» [3, с. 88].

Наталля Арсеннева напіша біяграфію мужа, якая будзе ўпершыню надрукавана ў 1999 годзе ў кнізе Францішка Кушаля «Спробы стварэння беларускага войска», праз шмат гадоў пасля ягонага сыходу. І тут мы ні слова не прачытаем пра яе пачуцці. Ва ўспамінах пра сустрэчу з паэткай Генадзь Бураўкін заўважыў, што пра мужа «Арсеннева старалася амаль не ўспамінаць. Магчыма, не сумнявалася, што тое-сёе са зласлівых публікацый пра яго было вядома і мне, а хоць неяк апраўдвацца не ў яе характары» [17, с. 541]. Але самае галоўнае тут, відавочна, у тым, што паэтка «многае хавала ў сабе і не любіла выпускаць на людзі. Пра свайго абранніка яна сказала толькі, зноў жа па-маладому ўсміхнуўшыся:

— Стройны быў, абыходлівы, у прыгожай вайсковай форме. Чаго ж болей хацець дзяўчыне?..» [1, с. 541].

Паэтка з дзяцінства вельмі любіла лес. Значна пазней пра жыццё ў пасляваеннай Заходняй Нямеччыне, у няпростых варунках лагероў для перасяленцаў у другой палове 40-ых гадоў, яна напіша: «Кожную вольную хвіліну я праводзіла ў лясох. Каб не гэты лес, не ведаю, што сталася б са мной за гэтыя гады жыцця ў лагернай турме. Лес ратаваў мяне» [1, с. 463].

І так было заўсёды. Таму невыпадкова, што верш, у якім паэтка прыадкрывае таямніцу свайго кахання, мае назву «У лесе». Лес тут не толькі і не столькі дэкарацыя для лірычнага дзеяння, а непасрэдны герой. Закаханым адкрываецца свет красы і пяшчоты. Усё вакол вітае іх пачуццё. Усё спрыяе ім. Бо каханне — цуд, які даруецца так рэдка і далёка не ўсім. І недарэмна месцам сустрэчы — лес. Гэта не тлумны свет натоўпу. Гэта свет цішыні, калі словы страчваюць сэнс, а замест мовы людзей, так мала дасканалай у хвіліну ўзрушэння, калі патрэбна выказаць патаемнае, гучыць моваспеў прыроды. Ствараецца ўражанне, што закаханыя адны ва ўсім свеце:

*Лес вітаў нас нячутнымі словамі,*
*нам смяялася неба празрыстае,*
*а над намі, ўгары над дуброваю,*
*хмаркі таялі лёгкія, чыстыя* [4, с. 20].

Нявінны, пяшчотны эротык уводзіць Наталля Арсеннева ў гэты верш. Тут яна не пайшла ўслед за сваім «улюбёным паэтам» Максімам Багдановічам, першаадкрывальнікам эратычных матываў у беларускай паэзіі. Цнатлівасць — галоўная рыса яе лірыкі. Жаданні не выказваюцца. Гэта шчаслівае блуканне па свеце кахання, дзе галоўнае — чаканне, пошук чагосьці неўсвядомленага, і ўрэшце — зліццё ў адно, да поўнага растварэння ў іншым. Ізноў жа не з чымсьці, а з ценем. І не чыімсьці, а сонечнымі косамі. Гэта мроя кахання, а не яе вышэйшы ўзлёт. Недагаворанасць перадаецца праз няпэўнае — нечага, калі пачуццё нельга выказаць:

*Па узгорках, па травах уквечаных*
*косы сонца нізкога туляліся,*
*у ваўсох запыняліся нечага,*
*адплывалі, із ценем зьліваліся...* [4, с. 20]

Лес уяўляецца адначасна і храмам, дзе адбываецца ўрачыстая таямніца далучэння да чагосьці высокага і светлага, і гэтак жа месцам, дзе зводзяцца ў адно душы і целы: *«Штось шасцеў лес... дубровай зялёнаю // слаў із ветрам нам шэляхі зводныя»* [3, с.20]. Лес пасылае сваё блаславенне, зводзіць маладых людзей. Мова кахання, нават пачутая ўпершыню, знаёма кожнаму, бо яна адпачатку закладзена ў чалавечую душу і толькі чакае той хвіліны, калі надыдзе абуджэнне. Тыя цудоўныя *«шэляхі зводныя»* якраз і прамаўлялі на гэтай самай універсальнай мове: *«І здавалася дзіўна знаёмаю // мова іх, і чужая, і родная...»* [3, с.20]. Аўтарка часта выкарыстоўвае шматкроп'е — знак паэтычнага ўмаўчання, што яшчэ раз падкрэслівае недагаворанасць, непрамоўленасць.

Верш «Красавік», з прысвячэннем — Максіму Гарэцкаму, быў напісаны зразумела ж, у красавіку, апошняй гімназічнай вясной Наталлі Арсенневай.

Адносіны між Наталляй і яе ўлюбёным настаўнікам былі вельмі няпростыя. Наталля ўспрымала Максіма Гарэцкага найперш праз прызму ягонай творчасці, якую добра ведала яшчэ да знаёмства, якой захаплялася. Якраз першай беларускай кнігай, прачытанай будучай паэткай, і стаў зборнік апавяданняў Максіма Гарэцкага «Рунь». Ён для яе — аўтар патаёмнага. Праз многа гадоў, ужо на эміграцыі, напіша пра яго Наталля Арсеннева ў сваіх успамінах. «Як два чорныя зьнічы» — якое шыкоўнае параўнанне! З чорнымі знічамі яна параўноўвае вочы настаўніка. І як многа праз гэта сказана! Знічы — зоры, а яшчэ — агні. І ні тое, ні другое насамрэч не бывае чорным. А вочы Максіма Гарэцкага ва ўяўленні юнай гімназісткі чорнымі былі, бо хавалі за змрочнай завесай яркае полымя. У іх бачылася Наталлі тая невыказная таямніца, да адкрыцця якой ён набліжаў наша прыгожае пісьменства — таямніца чалавечай душы. І сам быў для дзяўчыны гэткай жа таямніцай: «Постаць ягоная з самага пачатку была для мяне ахіненая нейкім рамантызмам. Аўтар кнігі, што мне спадабалася, пісьменнік... Настаўнік літаратуры, якую я так любіла... Як тут было застацца зусім халоднаю, абыякаваю? На змену Юліям Цэзарам і Рычардам Ільвіным Сэрцам прыйшоў, зусім зразумела, Гарэцкі, першы жывы

*Наталля Арсеннева*





чалавек, які мне падабаўся (а мне было ўжо тады 17 год!)» [1, с. 468]. Безумоўна, ніяк не можна было застацца абыякавай, немагчыма было не закахацца ў гэтага незвычайнага чалавека, новага рамантычнага героя, які зацьміў усіх тых, што паўставалі з глыбіняў часу. Наталля Арсеннева ў гэтых успамінах (а пісаліся яны праз дзясяткі гадоў) мо ўпершыню прызналася ў сваім пачуцці. Але слова «каханне» так і не прамовіла.

Ні пра якую ўзаемнасць размова ісці не магла. Ніхто ніколі і не размаўляў. Гэта была яе таямніца. Максім Гарэцкі ў тым часе, нядаўна ўзяўшы шлюб з прыгажуняй, разумніцай, пявунняй, таксама настаўніцай, пісьменніцай Леанілай Чарняўскай, пэўна ж, быў шчаслівым, закаханым. Не апошнім сведчаннем таму — прысвячэнне самай важнай у той перыяд кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры» ёй — Леаніле Усцінаўне Чарняўскай. Цярплівая Ласка — гэтак пяшчотна называў яе ў жыцці, такія імёны мелі і гераіні з ягоных твораў жахлівых трыццатых гадоў, дзе прататыпам ізноў жа — яна. Але тады, на пачатку дваццатых, самыя страшныя цярпенні былі яшчэ наперадзе.

Максім Гарэцкі быў строгім, патрабавальным крытыкам першых беларускіх вершаў Наталлі Арсенневай. Пра гэта мы таксама ведаем з яе успамінаў, дзе відавочны нават цень даўнішняй крыўды, якую перажыла на самым пачатку творчасці юная паэтка. Але гэта толькі невялікі цень, бо вялікай крыўды на Яго, творцу патаёмнага, ці магла яна дапусціць у сэрца, дзе панавала зусім іншае пачуццё. Зрэшты, Наталля Арсеннева не зусім паслядоўная тут: з аднаго боку яна піша, што ніколі не хваліў яе вершаў, адсюль ледзьве не комплекс паэтычнае непаўнавартасці, зжыты толькі праз дзясяткі гадоў, калі ўзяла ў рукі важкі том сваёй паэзіі «Між берагамі» (1979). А а з другога — паслухаем ізноў яе ўспаміны пра вялікую неспадзеўку, якую зрабіў настаўнік, прапанаваўшы грамадзе на шматлюднай вечарыне ў гімназіі яе вершы. Атрымаў іх толькі што, у той дзень пасля заняткаў. Перажывем разам з юнай паэткай яе такі яркі, урачысты дэбют: «Раптам на эстраду выйшаў Гарэцкі і папрасіў слова на пару хвілінаў. Усе думалі, што ён хоча зрабіць якую заўвагу вучням, так думала і я. Але што са мной стаалася, калі я пачула, у чым справа. Гарэцкі звярнуўся да публікі так: «Я хачу вас сёння пацешыць, асабліва тых, хто любіць беларускае слова. Дай Бог, каб я не памыліўся, але мне здаецца, што ў нас сёння нарадзілася паэтка, большая і за Цётку, і за Буйлянку» [1, с. 468].

Хіба магла быць больш высокай ацэнка твораў юнай паэткі, якая да таго ж упершыню напісала вершы на беларускай мове? Чаму Максім Гарэцкі параўнаў напісанае сваёй вучаніцай з творамі Цёткі і Буйлянкі. Мяркую, не толькі таму, што гэта былі самыя знакамітыя паэткі нашаніўскай пары. А яшчэ і таму, што Канстанцыя Буйло — пачынальніца беларускай жаночай (калі больш дакладна — дзявочай) паэзіі, дзе ўпершыню ва ўсёй паўнаце і шматграннасці адлюстравана пачуццё кахання. Відавочна ён, пісьменнік-псіхолаг, тонкі знаўца чалавечай душы, разумеў, што схавана за быццам бы адсутнасцю інтымных матываў у творчасці Наталлі Арсенневай.

Верш «Красавік», які Наталля Арсеннева ахвяравала Максіму Гарэцкаму, надзвычай светлы, пяшчотны, сапраўды вясновы, якім было і рамантычнае пачуццё юнай паэткі да таго, каму ён быў прысвечаны. У вершы — бязмежнае сіняе неба, кволая квецень пралескаў, срэбны пух лазнякоў высвечваюцца праз тонкія зрухі юнай душы, здольнай адгукнуцца на шматгалосы спеў цішыні, здольнай адчуць *«водар салодкі вясны»* — а гэта і ёсць слодыч кахання. Бо вясна прыходзіць у душу толькі тады, калі там расквітнее пачуццё, якое і асвеціць сваімі залатымі промнямі ўсё вакол, расквеціць усё самымі зіхоткімі, яркімі фарбамі:

*Неба сіняе, сіняе, сіняе...*
*ані межаў у ім , ані дна.*
*На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю*
*пазірае мне ў вочы вясна* [4, с. 19].

Паэтка пераносіць сваё пачуццё на гэты дзівосны свет, яе каханне як быццам раствараецца, разліваецца ў бязмежнай прасторы:

*І нічога мне ўжо не жадаецца,*
*Ні каханьня, ні светлых мінут,*
*У душы маёй штосьці зрываецца,*
*Што няўзнак адцьвітае...* [4, с. 19]

Штосьці — гэта і ёсць каханне. Наталля Арсеннева старанна ўнікае гэтага слова. Яно ўжыта паэткай толькі дзеля таго, каб засведчыць: не жадаю кахання. І гэта не ёсць адзінай ісцінай, бо ўвесь верш — далікатнае прызнанне ў каханні, чыстым, светлым. Без надзеі на ўзаемнасць. Без ніякіх просьбаў і патрабаванняў. Гэта разуменне таго, што каханне ўжо само па сабе шчасце, хай і без узаемнасці. І ў гэты момант яно і сапраўды *«зрываецца»*, падае з той недасяжнай вышыні, куды ўзнесена. Верш гучыць як бы наўздагон таму пачуццю, праз якое паэткай было столькі перажыта.

У канцы верша ўзнікае матыў сну. Відавочна, невыпадкова. Тое яе каханне — гэта і ёсць сон, чароўны сон, навеяны вясной, *«прыгажуняй-княгіняю»*, якая шчодра разлівае любоўны элексір у адкрытыя насустрач каханню сэрцы. Згадаем вобраз маці Вясны з цудоўнай рускай казкі «Снягурачка». У вершы Наталлі Арсенневай вясна — гэта і ёсць валадарка кахання, якая шчодра дзеліцца ім з людскімі душамі, жывымі, нястомнымі ў сваёй празе кахаць...

Невядома, што прачытаў адрасат у гэтым вершы, які быў надрукаваны ў тым жа красавіку 1921 года. А праз пару месяцаў навучанне была скончана. Захаваўся цудоўны фотаздымак першага выпуску Віленскай беларускай гімназіі, гэтай знакамітай кузні беларускага духу. Якія імёны, якія асобы і між выкладчыкаў, і між выпускнікоў! Усе дзяўчынкі ў далікатных белых строях. Наталля Арсеннева стаіць недалёка ад свайго ўлюбёнага настаўніка. Зазірніце ў энцыклапедыю «Гісторыя Беларусі», там знойдзеце гэты здымак.

Гэтыя дзве асобы — між самых знакамітых, хто меў дачыненне да працы Віленскай беларускай гімназіі. Таму невыпадкова, што ў Вільні на будынку, дзе месцілася гэтая ўстанова, былі адкрытыя мемарыяльныя дошкі ў гонар Наталлі Арсенневай і Максіма Гарэцкага. Ці магла ў сваіх самых смелых мроях уявіць гэта юная гімназістка?

Менавіта з Максімам Гарэцкім параўнала паэтка таго, хто ўскалыхнуў яе сэрца ў часе, калі перажывалася яе сягоння — творча-ўздымнае і балесна-трагічнае, у якім блiснула надзея на Адраджэнне Краю, каб ураз жа захлынуцца крывёю. Такое ж, юнае, далікатнае і недасяжнае, нарадзілася ў сэрцы жанчыны, што прайшла праз доўгія шляхі-дарогі, на якіх так часта сустракала яе гора. Каханне і тут не ў апошнюю чаргу паўставала з захаплення талентам: «Ён, як некалі Гарэцкі, здаваўся мне нечым вышэйшым, нейкім жыхаром Алімпу, ці што» [1, с. 486]. Гэта быў Антон Адамовіч, знаны літаратар, рэдактар «Беларускай газеты». Прызнанне, што баялася яго, прачытваецца як страх перад пачуццём, якому нельга было ісці насустрач. Але ў паэткі ёсць надзейны лек ад душэўных парыванняў — слова, у якое пераносіцца пачуццё, калі яно перапаўняе сэрца. Так, пануюць вайна, смерць і боль. Але ж і вясна не жадае здаваць свае правы валадаркі. Выразныя водгукі глыбокага пачуцця знаходзім у вершах «Крыгі», «Ня ўмею я тужыць», «Вясновае». Апошні відавочна пераплятаецца з тым даўнім вершам-прысвячэннем Максіму Гарэцкаму і вясновай колеравай палітрай, і адчуваннем нястрымнага вясновага панавання, што разнасцежыла жаночае сэрца:

*Мне вясна ў галаве закруціла,*
*я сягоньня п'яная вясной.*
*Зацьвітае вясновай цьвіляй*
*у сасоньніках сіні сон,*
*сонца золатам косы чаромхаў*
*падплятае,*
*мігціць у траве,*
*сяньня сэрца усё навонках,*
*хоць зь вятрамі вазьмі, разьвей!* [4, с. 152]

Першая сустрэча паэткі і яе будучага крытыка таксама нагадвае тое даўняе, вясновае, віленскае. Той яе паэтычны дэбют. Яна гэтак жа баялася Адамовіча, як калісь Гарэцкага. А ўжо ж была знанай паэткай, аўтаркай адной выдадзенай («Пад сінім небам») і адной нявыдадзенай («Жоўтая восень») кнігаў. «Дні два» збіралася, каб нарэшце асмеліцца і пайсці ў рэдакцыю. «Сэрца маё моцна білася, калі я ўваходзіла ў цесны пакойчык... Я перадала Адамовічу вершы. Ён пераглядзеў іх моўчкі, а тады голасна зачытаў...» [1, с. 486].

Яны працавалі побач, побач у рэдакцыі стаялі іх сталы. І з імі жыла іх таямніца, што, відавочна, так і засталася недасяжнай для чужых вачэй. А пасля прыйшло развітанне, якое і нарадзіла шчырае ліставанне, сумоўе блізкіх людзей, калі так многа патрэбна было сказаць пра розныя справы, што іх лучылі. Наталляй і Алегам Гардзіенкамі падрыхтавана публікацыя тых лістоў. У прадмове хіба ўпершыню прыадкрываецца гэтая таямніца: «Пісаў ёй шмат, пісаў

часам па некалькі дзён адзін ліст. Чаму? За часы працы ў рэдакцыі ў Менску абое адчулі блізкасьць сваіх творчых і чалавечых памкненняў і пачуцьцяў, але ня толькі... Ужо самыя першыя лісты адкрываюць таямніцу асаблівага стаўленьня Антона Адамовіча да паэткі — ён быў закаханы ў яе яшчэ з маладых гадоў... Пачуцьцё юнацкай закаханасьці перарасло з часам у вялікую павагу, у адчуваньне духоўнага сваяцтва, роднасьці творцаў...» [5, с. 113].

Лісты падпісваліся нязменна: «Заўсёды Ваш...» Часам дабаўлялася імя і прозвішча. Часцей заставалася шматзначнае шматкроп'е. Гэты подпіс, відавочна, шмат гаварыў адрасатцы, шмат гаворыць і сёння. Як і выгукнутае ў пачатку першага ліста адно слова, вылучанае аж на цэлы абзац: «Нарэшце!» — нарэшце дачакаўся Вашага ліста, нарэшце ён дайшоў да мяне не столькі праз далёкія вёрсты, колькі праз тыя шматлікія перашкоды, якія створаныя вайною, людзьмі. І таму цалкам зразумелае прызнанне: «Вашыя лісты былі найчаканейшымі і аказаліся найцікавейшымі» [6, с. 121]. Усё, што мае адносіны да яе, «даражэнькай сяброўкі» (так аўтар звяртаецца да свае адрасаткі) — у найвышэйшай ступені. Што да творчых стасункаў, то Антон Адамовіч звыкла выступае ў якасці крытыка, сур'ёзнага, удумлівага, які часцей звяртае ўвагу аўтаркі на моўныя недахопы. Часам выказвае непрыхаванае захапленне: «Будучы апошні раз (30.01) у Бэрліне, бачыў крыху Вашых у «Беларускай газеце» — вельмі спадабаліся, мо яшчэ й таму, што даўно вершаў не чытаў і асабліва Вашых» [6, с. 132]. Некаторыя лісты незвычайна доўгія: у «Запісах...» на старонках 121—142, 142—165, што ёсць сведчаннем зацікаўленасці шчырай размовай.

Відавочна, ліставанне, гэты надзвычай інтымны сродак зносінаў між людзьмі, дапамагаў ім пазбавіцца адчування скаванасці ці няёмкасці, як гэта звычайна бывае з асобамі сціплымі, выхаванымі, з тымі, што прывыклі глыбока хаваць свае пачуцці. «Добра Вы напісалі ..., пра што й мне не раз думалася: гаварыць у лістох лепш і лягчэй. Гэта й я адчуваю заўсёды. Гэта сьведчыць, што мы з Вамі — такія ўжо літаратурныя «пісьменныя» людзі, можа нават — кніжныя. Ну што ж, няхай і так» [6, с. 192]. Развагі Антона Адамовіча пра асаблівае ўспрыняцце свету і адносін між людзьмі «кніжнай культуры» надзвычай цікавыя, бо ён тут выказвае не проста сваё стаўленне, а ідзе ўслед за развагамі на гэтую тэму паэткі, што яшчэ раз сведчыць пра асаблівую роднасць іх душаў: «Для шмат каго слова «кніжны чалавек» гучыць зьнявагаю. Для мяне ж — ніколі. Кніжны сьвет — куды лепшы за той, што ў ім мусім жыць. Дык жывучы ў гэтым сьвеце, «акніжваць» яго — ці ня значыць — паляпшаць? Кажуць, што «кніжны чалавек» пазбаўлены асалоды беспасярэдняга, пачуцьцяў сьвежых і мамэнтальных. Ці праўда? Мне здаецца — не. Усё гэта ёсьць, бывае, але апрача таго — і нейкі плюс наверх: беспасярэдняе, пачуцьці яшчэ й затрымваюцца, шліфуюцца, замацоўваюцца, могуць быць паўторна-перажытымі» [6, с. 192]. Гэта выказана менавіта пра іх адносіны, бо яны і былі такімі «кніжнымі людзьмі», якія замацоўвалі, шліфавалі, наноў перажывалі ў лістох свае пачуцці.



Новае спатканне Наталлі Арсенневай і Антона Адамовіча адбылося ў Берліне. З гэтых сустрэчаў у трывожным 1945-ым годзе паўстаў верш з такім выразным назовам, заклікам-просьбай — «Забудземся»:

*У ночвах завулкаў вечар*
*марознай імглы намясіў...*
*Цалуе ў твар мяне вецер,*
*згарнуўшы на бок валасы* [4, с. 170].

Гэта быў змрочны, страшны час, час сцюжы і начной цемры, калі «сочыць, як той ганчак, // сьмерць нашы сьляды і сьцені». У фінале верша — нязвычнае для лірычнай гераіні паэткі: адчайны парыў, бо так доўга спелілася ў душы, і так доўга хавалася жывое, цёплае пачуццё, якое так і просіцца вырвацца на волю:

*Да рук маіх туліцца вецер,*
*згартае на бок валасы.*
*Абвій-жа мне шыю,*
*варта*
*даткнуць маіх цёплых губ.*
*Хай будзе, што будзе заўтра —*
*Дап'ём наш п'яны багун!* [4, с. 171].

У «Запісах БІНіМ» змешчаны фотаздымак Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР (1957-ы год), дзе ў гурце беларускіх дзеячаў бачым усё яшчэ па-вайсковаму стромкага Францішка Кушаля. Яны, Наталля Арсеннева і Антон Адамовіч, сядзяць побач.

Няшмат таямніцаў свайго сэрца прыадкрыла нам Наталля Арсеннева. Прачытваюцца яны сёння зусім не як пікантныя падрабязнасці з жыцця паэткі, а як сведчанні яе прыгожай, светлай душы, адкрытай насустрач каханню, але закрытай для чужых.

**Літаратура:**

1. Арсеннева, Н. Аўтабіяграфічны нарыс // Н. Арсеннева. Выбраныя творы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 461—501.
2. Арлоў, У. Імёны свабоды / У. Арлоў. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё свабода, 2007. — 576 с.
3. Геніюш, Л. Споведзь. / Л. Геніюш. — Мінск: 199. — 271 с.
4. Арсеньнева, Н. Між берагамі. Выбар паэзіі Натальлі Арсеньневай / Н. Арсеньнева. — Нью-Йорк — Таронта, 1979. — 350 с.
5. Гардзіенка, Н. Лісты з часу страчаных надзеяў: Антон Адамовіч да Натальлі Арсеньневай / Н. Гардзіенка // Запісы БІНіМ. — 2010. — №33. — С. 111—120.
6. Адамовіч, А. Лісты да Натальлі Арсеньневай / А. Адамовіч // Запісы БІНіМ. — 2010. — №33. — С. 121—216.



# Марыя Ганько

літаратарка, грамадская дзяячка. Аўтар кнігі «Каб сведчылі пра Беларусь» (2005 г.). Нарадзілася ў 1930 годзе ў вёсцы Шчокаўшчына на Вілейшчыне. Жыве ў Таронта.



# Яго ўзгадавала беларуская літаратура...

**Вось ужо пяцьдзясят трэці год Марыя Ганько штотыдзень, а то і часцей, прыязджае ў Беларускі Рэлігійна-грамадскі Цэнтр, што месціцца на вуліцы Сан Кларэнс Авеню,Таронта. Тут усё знаёмае да драбніцаў і дарагое ейнай душы — пачынаючы з лістапада 1960 года, калі яна па запрашэнні свайго брата прыехала ў Канаду. Жонка вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча Міколы Ганька, які ў розныя гады ачольваў Згуртаванне беларусаў Канады і парафію св.Кірылы Тураўскага, яна стала своеасаблівай «жывой повяззю» пакаленняў — тых, хто арганізоўваў тут, у Канадзе, беларускае жыццё, і тых, хто пасля распаду СССР і кароткай дэмакратычнай адлігі вырашыў не заставацца ў Беларусі. Яна — аўтарка кнігі «Каб сьведчылі пра Беларусь» і заснавальніца прэміі імя Міколы Ганька, лаўрэатамі якой сталі Вольга Іпатава, Віялета Кавалёва, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», а таксама Зінаіда Крупская і Ніна Сакава. Прэмія ўпершыню была прымеркаваная да 10-гадовай гадавіны смерці Міколы Ганька ў 1999 годзе і з таго часу (г.зн з 2009 г.) прысуджаецца штогадова.**

**Чытачам часопіса «Верасень» мы прапаноўваем гутарку са спадарыняй Марыяй Ганько.**

**В.** — *Спадарыня Марыя, у Інтэрнэце можна знайсці шмат матэрыялаў і спасылак, якія тычаць Вашага мужа Міколы Ганька. Гэта значыць, што цікавасць да ягонай постаці з гадамі не змяншаецца. Як Вы думаеце, чаму?*

**М. Ганько.** — Я думаю, што нам, беларусам, трэба па-сапраўднаму асэнсаваць той вопыт, які набыла беларуская эміграцыя. Яна, прыехаўшы ў чужыя краіны, не растварылася сярод іншых народаў (магчыма, трэба сказаць гэта не пра ўсю эміграцыю, а пра найбольш свядомую яе частку). І гэтаму ёсць тлумачэнне. Савецкая прапаганда з усяе сілы старалася схаваць той парадаксальны факт, што падчас вайны ў Беларусі працавалі беларускія школы, а каля ста тысяч маладых людзей уступілі ў шэрагі Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). Гэта быў пратэст супраць бальшавіцкай русіфікацыі, супраць жахлівай сталіншчыны, што забіла мільёны людзей, толькі таму, што яны былі самыя працавітыя і супраціўляліся калектывізацыі, бо хацелі быць гаспадарамі сваёй зямлі. Мікола быў з тае кагорты, якія добра ўсведамлялі небяспеку знішчэння нашае нацыі. Гэтаму ён прысвяціў сваё жыццё і тут, у Канадзе.

**В.** — *Аднак жа ў інтэрв'ю Лявону Юрэвічу («Вырваныя бачыны», 2001) ён сказаў: «Наагул не люблю гаварыць пра ваенны час. Гэта перыяд страчанай маёй маладосці. Пачынаючы ад 15 год, я ўжо быў ня дома. І да 24 год, пакуль не трапіў у Канаду, гэта было не жыццё, а існаваньне.»*

**М. Г.** — І працягваў там жа: «Калі б гэта не датычыла беларускай справы, я пра гэты перыяд і не ўспамінаў бы.» Вось гэта і ёсць, і было ў ім галоўнае: беларуская справа. У драўляным сундучку, з якім ён прыехаў у Канаду, было што-кольвечы з адзення і паэма «Сымон-музыка» Якуба Коласа (гэтая кніга і сёння самая дарагая ў нашай хаце). Але і ў Аўстрыі, дзе ён быў у лагеры перамешчаных асобаў, ён разам з паэтам Алесем Салаўём, Уладзімерам Дудзіцкім і Алесем Грыцуком ствараў часопіс «Пагоня» са старонкай «З беларускага жыцьця». Быў там тэхнічным рэдактарам, друкаром, займаўся кальпартажам. Гэта значыць, што ён з самага юначага ўзросту разумеў важнасць беларускага слова, беларускага друку. Разумеў, што калі не ён — то хто?

У Канаду ён прыехаў з тымі ідэаламі, якія былі закладзеныя ў ім на радзіме бацькамі — любіць Бога, шанаваць усё сваё роднае, быць чэсным і справядлівым, дапамагаць бліжняму. Вольга Грыцук (Дуброўская), якая таксама ўваходзіла ў тэхнічны склад часопіса «Пагоня» ў Аўстрыі, піша пра яго ў сваіх успамінах: «Мікола не раз дзяліўся са сваімі сябрамі кавалкам хлеба і апошняй кашуляй. На Бацькаўшчыне Мікола належаў да Саюза Беларускай Моладзі, якая навучыла яго дысцыпліне, вытрыманасьці, мужнасьці ў розных сітуацыях у часе вайны й на чужыне. Мікола яшчэ ў маладым веку меў вялікі патэнцыял, каб стацца ў будучыні беларускім грамадзкім дзеячом.»

**В.** — *На жаль, гэты патэнцыял раскрыўся ў ім толькі падчас эміграцыі. Пра гэта думаецца з горыччу: колькі маладых, натхнёных, таленавітых людзей змушаныя былі пакідаць радзіму! Іх замяшчалі прыхадні, якія не хацелі разумець мову народа і праводзілі палітыку русіфікацыі, саветызацыі і таталітарнай свядомасці ў Беларусі, як, па сутнасці, праводзіцца гэта і зараз...Нягледзячы ні на што, Саюз беларускай моладзі даваў маладым веды па сапраўднай гісторыі Беларусі, якая была амаль поўнасцю пахаваная пад русіфікатарскімі міфамі. Яго стварэнне было значнай падзеяй для маладых. Мікола Ганько адзначыў яе ў сваім выступленні на першым з'ездзе беларусаў свету «Бацькаўшчына»: «Памятаю, у Лебедзеўскай школе 22 чэрвеня 1943 года нас сабралі ў залю, быў пастаўлены радыёпрыёмнік і ўсе слухалі акт заснавання Саюза беларускай моладзі. Некалькі дзён пазней была нейкая чутка пра выбух у Мінскім тэатры і пра ахвяры таго выбуху.» Гэта пра той выбух, арганізаваны партызанамі, які быў накіраваны не столькі супраць немцаў, колькі супраць той моладзі, якая сабралася ў тэатры, і дзе загінуў сын паэткі Наталлі Арсенневай...»*

**М. Г.** — Міколу было цяжка ўзгадваць пра вайну. Яна разлучыла яго з сям'ёй, якую ён моцна любіў, прымусіла пакінуць радзіму і з цяжкасцю прыжывацца на чужой зямлі. Яму давялося, згодна кантракта, два гады адпрацаваць на сельскагаспадарчай ферме ў 35 кіламетрах ад Таронта. Аднак пасля гэтага ён перабраўся ў Таронта, каб далучыцца да беларускага грамадскага жыцця, і 28 траўня 1949 года ўдзельнічаў у Першым агульным з'ездзе Згуртавання беларусаў Канады. Там вырашылі друкаваным органам ЗБК лічыць штомесячнік «Беларускі эмігрант», які годам раней пачаў выдаваць Кастусь Акула. Мікола ўвайшоў у склад рэдкалегіі, і з таго часу пачалася яго зафіксаваная ў друку больш чым пяцідзесяцігадовая, нястомная, адданая і шчырая праца ў грамадскім жыцці беларусаў Канады. Праца гэтая абарвалася толькі з ягонай смерцю ў 1999 годзе, але і ў самыя апошнія гады, калі ён быў смяротна хворы, ён працягваў выдаваць інфармацыйны бюлетэнь ІНФА-ЗБК пра розныя падзеі беларускага жыцця ў Канадзе.



*З мужам Міколам Ганьком*

**В.** — *Хочацца тут узгадаць і вялікую дапамогу, якую аказала ЗБК сваім суайчыннікам. У 1989 годзе Мікола Ганько прывёз на радзіму сабраныя беларусамі і канадцамі медыкаменты на некалькі мільёнаў даляраў, якія былі размеркаваныя па шпіталях Беларусі. У тагачасных газетах шмат сведчанняў, наколькі ў чарнобыльскай Беларусі былі патрэбныя тыя лекі і медыцынскае абсталяванне. Былі арганізаваныя і паездкі беларускіх дзяцей, якія жылі на аздараўленні ў Канадзе. Але галоўнае — беларусы Канады, як і іншыя беларускія дыяспары, не давалі канчаткова зрусіфікаваць Беларусь. Яны пісалі пратэсты ў міжнародныя арганізацыі, а таксама дабіваліся праз свае ўрады рэагавання на этнацыд у адносінах да сваёй радзімы. І савецкі ўрад вымушаны быў лічыцца з гэтымі пратэстамі, змяншаць ціск так званага «інтэрнацыяналізму» ці «зліццё нацый», які меў на ўвазе дамінаванне толькі адной мовы і культуры на тэрыторыі Савецкага Саюза.*

**М. Г.** — Так, і многія артыкулы майго мужа былі пратэстам менавіта супраць русіфікацыі ў Беларусі. Адзін з апошніх яго лістоў — падрыхтаваны ад імя ЗБК зварот да амбасадара Рэспублікі Беларусь у Канадзе Міхаіла Хвастова, дзе выказвалася вялікае абурэнне і пратэст з нагоды папярэджання газеце «Наша




Ніва» за тое, што рэдакцыя ўжывае беларускую граматыку і правапіс, з якімі не пагаджаюцца сённяшнія ўлады Рэспублікі Беларусь. У лісце было напісана: «Правапіс і граматыка, якую ўжываюць газэты, школы, пісьменства і «ўсе» ўстановы ў Беларусі, ёсць плёнам палітыкі генацыду беларускага народу, што якраз пачынаўся ў 1930-х гадах, калі быў выдадзены дэкрэт наркамату БССР у справе замены беларускай граматыкі й правапісу «эрзацам» беларускай мовы, і дасягнуў вышыні ў 1937 — 1940 г.г.»

Мы так і не дачакаліся адказу з амбасады. Ды і што ім было гаварыць у адказ на факты, якія яны не маглі абвергнуць?

**В. —** *Адкуль у спадара Ганька была такая замілаванасць да мовы?*

**М. Г. —** Яго ўзгадавала беларуская літаратура, «нацыя паэтаў», як часта пішуць пра Беларусь. У нашым доме заўсёды гучала паэзія, захоўваліся аўдыёстужкі з песнямі, якія Мікола спяваў з асаблівай любоўю. Адзін з апошніх

*У сяброўскай грамадзе*





запісаў — выкананне песні «Сьпі пад Курганам Герояў», якую ён спяваў пад мандаліну. Яна напісаная на словы яго брата Міхася, як і яшчэ адна вельмі вядомая ў тыя гады песня, якая пачыналася так:

Як шырока і далёка
Беларуская зямля —
Заклікае вёску, горад
Кліч магутны юнака.



Вялікае ўражанне зрабіла на яго сяброўства з паэтам Алесем Салаўём, з якім ён пазнаёміўся ў Аўстрыі і пра якога ён напісаў: «Я Салаўя так любіў, як Багдановіча.» З Салаўём ён перапісваўся, дапамагаў грашыма, калі той паехаў у Аўстралію, і заўсёды шкадаваў, што той выбраў менавіта тую далёкую краіну. Вось што ён казаў у інтэрв'ю Лявону Юрэвічу: «Пазнаёміўшыся з Алесем Салаўём, я па-новаму адкрыў для сябе беларускую літаратуру й асабліва паэзію. Я зразумеў прыгажосць паэзіі, прыгажосць слова, калі яно напісанае майстрам, таленавітым майстрам. Гады, якія мы правялі з Алесем Салаўём, былі для яго найбольш творчыя, плённыя... Ён любіў роднае слова, слова, якое было зразумелае: ніколі не ўжываў наватвораў... У яго засталася вера, што праўда дасць свабоду нашаму народу.»

**В. —** *Праз усё сваё жыццё Вы пранеслі каханне да свайго мужа, як і Вы, мяркуючы па ягоных запісах, былі яго адзіным, на ўсё жыццё, каханнем... Што б Вы хацелі пажадаць нашай моладзі?*

**М. Г. —** З той першай сустрэчы ў нашым Культурна-рэлігійным Цэнтры, калі я, толькі прыехаўшы ў Канаду, сустрэла Міколу, я адчула, што Бог даў мне суджанага, пра якога я марыла з ранняга дзявоцтва. Якая ж дзяўчына не марыць пра свайго суджанага? Мае мары здзейсніліся тут, у Канадзе, і я пражыла жыццё з чалавекам, які быў мне блізкі па духу, з чалавекам рэдкай духоўнай чысціні і душэўнага святла. Мы абое былі з сялянскіх сем'яў, абое шчыра верылі ў Бога і любілі Беларусь. У нас ніколі не было разнагалоссяў. Нават зараз, калі я нешта згублю ў хаце, то звяртаюся да яго з просьбай «Міколка, дапамажы!», і гэтая рэч хутка знаходзіцца. У мяне адчуванне, што ён з вышыні нябёснай апякае мяне, як апякаў у жыцці зямным...

Я жадала б маладым такога ж шчасця.



# Зінаіда Бандарына

Творчасць Зінаіды Бандарынай — адна з цікавых і пакуль што недаацэненых старонак беларускай паэзіі. А між тым, у 20-я — 30-я гады мінулага стагоддзя выйшла не так і шмат паэтычных зборнікаў, напісаных жанчынамі.

Нарадзілася паэтка ў Гародні, хутчэй за ўсё ў 1910 годзе, у сям'і настаўніцы і вайскоўца. Пасля пераезду сям'і ў Мінск у 1920 годзе вучылася ў мінскай пятнаццатай сямігадовай школе. Першыя вершы надрукавала ў насценнай газеце у 1923 годзе і паказала іх Янку Купалу, з якім былі знаёмыя яе бацькі.

Пасля заканчэння сямігодкі два гады працавала загадчыцай дзіцячага садка ў мястэчку Койданава, а ў 1925 годзе паступіла ў Мінскі педагагічны тэхнікум, дзе вучылася на адным курсе з паэтамі М. Лужаніным, Н. Вішнеўскай, П. Глебкам, С. Дарожным, В. Казлоўскім. З 1926 года З. Бандарына пачала друкавацца ў часопісе «Маладняк», у тым жа годзе выпусціла сумесны зборнік з Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаум «Вершы», у які ўвайшлі сем яе твораў.

У 1927 годзе паэтка скончыла тэхнікум і паехала ў Сібір, дзе працавала настаўніцай. Вярнулася на Беларусь у 1928 годзе хворая на сухоты, працавала ў гомельскай газеце «Палеская праўда». На пачатку 30-х гадоў З. Бандарына паехала вучыцца на літаратурна-сцэнарны факультэт Інстытута кінематаграфіі ў Маскву, які скончыла ў 1933 годзе.

У 1931 годзе выходзіць зборнік вершаў З. Бандарынай «Веснацвет».

На жаль, у хуткім часе Зінаіда Бандарына надоўга замаўчала... Загадвала сцэнарным аддзяленнем Віцебскага кінатэхнікума (1933—1934), пасля пераехала ў Ленінград. Там З. Бандарына тры гады была аспіранткай Дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў (скончыла ў 1937), потым працавала на кінастудыях і ў тэатрах Масквы, у 1938 — 1939 гг. была рэжысёрам Тэатра юнага гледача ў Архангельску, далей да пачатку вайны працавала ў Горкім.

Ад пачатку вайны дабраахвотна пайшла санінструктарам у Панфілаўскую дывізію, была кантужана. У 1944 годзе Зінаіда Бандарына нарэшце вярнулася на радзіму, працавала ў часопісе «Бярозка», на Беларускім радыё (1945—1946), Доме народнай творчасці ў Гародні. У 1948—1950 гг. была загадчыцай філіяла музея Янкі Купалы ў Вязынцы, супрацоўніцай газет «Зорка», «Літаратура і мастацтва» (1950—1956).

Хутчэй за ўсё, менавіта асабістае знаёмства з Янкам Купалам і сяброўства з У.Ф. Луцэвіч вызначыла жаданне З. Бандарынай напісаць аповесць аб дзіцячых і юнацкіх гадах паэта «Ой рана на Йвана», якая выйшла ў 1956 годзе. Зінаіда Бандарына напісала таксама зборнік апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці» (1960), кнігі «Дыпломная работа» (1953), «Галіна Ільіна» (1959, апошнія дзве — на рускай мове). Была сябрам СП СССР (з 1957).

Памерла 16 красавіка 1959 года, пахавана на Усходніх могілках у Мінску.

Аксана Данільчык, кандыдат філалагічных навук



# Маё слова ў спрэчках...

З недалёкага мінулага — люты 1933 г.

Загаварылі. З усіх бакоў паляцелі скаргі на аднастайнасьць, падобнасьць нашых вершаў. І сапраўды не пазнаеш, ці то Валеры Маракоў (г. «Заклік» № 2), ці то модэрнізаваны Ю. Таўбін, ці ?? — Імя ім — легіён!

На паліцах кнігарняў паэтычная завадзь, і ніхто не хвалюе яе і яна нікога не хвалюе. Зрэдку хіба сваёй пярэстасьцю вокладка зацікавіць, і ўсё...

*«А улица корчится без'языкая,*
*Ей нечем кричать и разговаривать»*
(МАЯКОЎСКІ).

Новая якасьць у нашай паэзіі ў тым, што яна павінна гучэць «во весь голос», узьнімаючы на найвялікшую прынцыповую вышыню і палкую ідэёвасьць — кожны апаэтызаваны факт, кожную зьяву выкарыстаць у паэзіі. Узьнятасьць, усхвалёванасьць, палкасьць — эмацыянальным згусткам арганізуюць, накіроўваюць масу, і паэзія ня проста канстатуе ды пералічае факты, яна дае эмацыянальную зарадку.

Гіпэрбалічнасьць, некаторая касьмічнасьць і можа арэальнасьць, тое што гучыць у Маякоўскага, як:

*«Ужас из железа*
*выжал стон...»,* або
*«Версты улиц взмахами шагов мну»,*

а ў Лугаўскога:

*«Мы повернем тебя*
*в полоборота, земля,*
*Мы повернем тебя*
*в три оборота, земля,*
*Пеплом и зёрнами посыпая».*

Тое, што ў Есеніна гучыць як:

*«Покатились глаза собачьи*
*Золотыми звездами в снег».*

У Шэллі: *«Некоронованный король*
*великих массовых стремлений».*

Гэтая сіла ўзьдзейнічаньня эквівалентна таленавітасьці паэты. У чым-жа выяўляецца таленавітасьць? У гастраце і навізьне ўспрыйманьня і перадачы, у багацейшай эрудыцыі творцы. Бяз эрудыцыі, базаванай на ведах, на жыцьцёвай практыцы і навуковых даных і ня можа быць у нашыя дні сапраўднага паэты сацыялізму. Унівэрсалізм і дылетанства — яны мяжуюцца тут, але, унікаючы апошняга, паэта сваеасаблівасьцю сваёй нутраной структуры, сваіх нэрвовых ды мазгавых асяродкаў на працягу ўсяго жыцьця не сузірае, а творыць, заўжды сабіраючы ды суміруючы матэрыял для твораў.

І, можа, гэта і ня зусім пасуецца з тэорыяй паэтыкі, я лічу, што кожны паэта, асабліва пачынаючы, павінен прайсьці праз пявучую стадыю ў сваёй творчасьці. Стадыю, калі складаючы верш, ён пяе яго, а песьня патрабуе рытму, рыфмы, гарманічнасьці ў суладзьдзі кожнага вобразу, слова, эпітэта. Не, я ня зьбіраюся адраджаць стары і вядомы заклік — «Музыка, музыка прежде всего».

Наша эпоха дзеля нас — ліро-эпічна, а ня проста эпічна, у гэтым ломка старых канонаў, старых традыцый гэтак званых апавядальных твораў, адсюль найбольшае распаўсюджаньне ліро-паэмы, узаконеньне яе як новага жанру ў паэзіі. Нашыя крытыкі ня зусім зразумелі гэта, дый наогул трэба шчыра прызнацца, што ў нашых умовах паэзія дасюль ня мае свайго крытыка. Нават і сярод паэтаў замест дыскусіраваньня, таварыскага абмеркаваньня сваіх твораў, часьцей за ўсё спаткаеш гіронію ілжывага падхвальваньня або поўнага няпрызнаньня адным аднаго. Адкуль гэта, ці стварае гэта спрыяючыя ўмовы разьвіцьця паэзіі?! Успрыйманьне і разуменьне паэзіі глыбока індывідуальная рэч. Так, Валеры Маракоў п'е «прагнымі вуснамі ад крыніц Лермантава», шэраг паэтаў бязьлітасна эксплёатуюць Маякоўскага, крыху менш Уйтмэна, Верхарна ды расійскіх канструктывістых. Варта мелькам зазірнуць у недалёкія часы ды эпохі, каб пераканацца, што і там у пэўныя пэрыяды дэбатыравалася творчасьць Лермантава, а сам паэта залічаўся ў выключна плагіатара-авантурыста, або, скажам, няпрызнаньне за паэзію вершаў Некрасава, Надсона і дзесяткаў іншых. Але розьніца ў тым, што яны тады заваёўвалі сабе мэцэнатаў у асобах розных рэдактараў ды рэдакцый і праз іх друкаваліся, абараняючы права на творчасьць. Зараз нам не патрэбна гэта, бо мы маем права патрабаваць ад нашае крытыкі найвышэйшае аб'ектыўнасьці.

Наша паэзія — паэзія масы, і голас крытыка таксама павінен быць галасам масы. У творчым фарміраваньні кожнага — свой рост, свая перабудова і павінен быць свой твар.

У нашы дні той, хто мае патэнцыю быць сапраўдным паэтам, ня можа не стаяць у аванпосьце клясавай барацьбы, барацьбы за Камуну, але і ён часам ня ўнікае ад пэўных памылак, базаваных на сьветапоглядзе (дзякаваць спадчыне!). Дзе-ж той найудасканалейшы барометр, што дае паэту ўяўленьне аб сваім поступе, сваім ухіле? — Гэта бальшавіцкая грамадзкасьць, грамадзкасьць, якая ў большасьці ўспрыймае паэту праз друк, і задача друку, няхай праз трыбуну творчай дыскусіі, даць мажлівасьць кожнаму паэту падзяліцца цяжкасьцямі свайго росту. Ня трэба па рангах вылучаць лепшых і горшых, творчасьць кожнага сама заваюе сабе адпаведнае месца, і гэта ні за дзень, ні за месяц, у гэтым — гады, у гэтым дыялектыка. Трэба зразумець, што сваім падзелам П. ГЛЕБКА звужае рамкі нашага разьвіцьця паэзіі, зноў устанаўліваючы, як догму, творчасьць (на яго погляд!) выяўленых адзінак.



Цяпер да вобразнасьці. Для мяне неадступна гучыць:

*«У ног приютилась*
*девочка сиреневая,*
*и слезы, как рифмы,*
*текли по щекам»*
(ШАРШАНЕВІЧ).

Або: *«Оторви лоскуток жалости*
*от шуршащего платья любви»*
(Адтуль-жа)

Гэтыя вобразы чуждыя нам, яны маюць пэўную сацыяльную накіраванасьць, але па сваёй арыгінальнасьці, суладнасьці (на мой погляд) зьяўляюцца вузорамі вобразнага майстэрства, скульптурнасьцю ў вершы, аднаго з неабходнейшых кампанэнтаў паэзіі.

Аднак, я загаварылася і, напэўна, не аднойчы выклікала вялічэзнае абурэньне нашых крытыкаў, выбачайце!? Але ці можа жанчына-паэтка абыйсьці тэму злучнасьці грамадзкай і інтымнай лірыкі?! Хіба можа, абараняючыся, ня прыгадаць вялікага Гайнэ, гэтага пяшчотнага лірыка і гострага палітычнага барацьбіта, які ў сваіх вершах і паэмах, апяваючы каханьне і бічуючы кайзэраўскі ўрад, паказаў нязвычайную шырыню сваёй геніяльнасьці.

У нас у гэтай злучнасьці новае а[д]ценьне — падвойнасьць і вершы «для себя». Наш масавы друк патрабуе акрэсьленай тэматыкі. Патрэбнасьць гаварыць «во весь голос» сама дыктуе гэтую тэматыку. Аднак, застаецца ня вырашанае сваё жаночае, інтымнае і яго напаўголасы, напаўтоны. Але і яно патрабуе права на жыцьцё і прызнаньне.

Прынамсі калісьці т. Дворкіна («Маладняк», № 9), крытыкуючы мой «Весьнацьвет», абвінавачвала мяне ў няшчырасьці, базуючыся на разыходжаньнях у гэтак званай грамадзкай і асабістай лірыцы. Так і цяпер — я пішу вершы палітычна актуальныя і больш таго, для «Работніцы і калгасьніцы», старанна працуючы над больш простай і даступнай формай, стымул дзеля іх — новы творчы дзень будаўніцтва, пульс зьвязаны з маім пульсам. Мяне глыбока хвалюе кожная перамога, і ў гэтым вялізнае маральнае задавальненьне. Аднак, пэўныя творчыя няўдачы, вузка асабістыя пераживаньні жанчыны таксама нараджаюць лірыку, і мне цяжка вырашыць яе мастацкую вартасьць. Тады прыходзіць патрэба ў крытыцы грамадзкасьці і неабходнасьць дыскусійнай трыбуны.

*Літаратура і мастацтва. 1933. № 19 (9 ліп.) С. 3. Артыкул друкаваўся пад рубрыкай «Трыбуна творчай дыскусіі», ніжэй быў змешчаны верш З.Бандарынай «Памяці Клары Цэткін», датаваны 22-VI-33 г.*

**Публікацыя Віктара Жыбуля**

## Зінаіда Бандарына

**З кнігі «Вершы» (1926)**

### Шэптам дзіўным...

Шэптам дзіўным прасторы спавіты,
Завілося калоссе ў вянок.
І хвалюецца ў постаці жыта...
Шэры змрок загінуў даўно.

Заістужана чырванню неба,
Чырвань хмар палягла на ваду...
Празвінела ды водгулле следам,—
Гэта жнейкі на працу ідуць.

Сонца паліць, пячэ, не шкадуе,
Песня ймкнецца: «зажалі—дажнём».
Грамаду прывітай маладую,
Што ваюе на полі з сярпом.

Прытаміліся ногі і рукі,
Ды затое снапы, снапы...
Павязуць іх пад гоман і грукат
На гумно, дзе сумуюць цапы.

### На заводзе

Дык чаго глядзіш так падазрона,
Дык чаго пытаеш, ці люблю?
Важым перамогі мы на тоны
І вітаем чорную раллю.
За імшарнікам, за жоўтым кураслепам
Скалы новыя тарфяныя растуць,
Беларусь перад усім сусветам
Дэманструе моц сваю.
Дагніваюць шэрыя лапцёнкі,
Попелам лучына дагарыць,
Занядбаную калісь старонку
Да святла кіруюць дымары.



Ў кожным слове, у кожным рытме — сіла,
Маладосці сонечнай уздым,
Я калісьці шнур палёў любіла,
А сягоння вабіць фабрык дым.

*(«Чырвоная зорка», 1929)*

### Маладосць

Ветрык, ці быў ты калі маладым,
Смелым, бадзёрым і светлым, як ранне.
Ветрык, дзе лепшыя хвалі згубіў,
Дзе напаткаў адцвітанне?..

Люба мне бачыць сваю маладосць,
Думкай крылатай вітаці змаганне.
Ветрык, ці гэткім ты быў малады
Вольным арлом ці хупаваю ланню?

Ветрык, мой ветрык, навошта маўчыш.
Мо і табе крылле звязала каханне.
Можа таму і не спіш уначы,
Жальбы, нуда ў завываннях.

Ветрык, ці быў ты калі маладым,
Цешыўся сонцам і раннем.
Ў небе бяздонным горным арлом
Заўжды здавольваў жаданне.

### Не кажы...

Не кажы, што адну ты кахаеш,
Не кажы, што я люба твая.
Зорнай ночкай з табою другая,
Я ж сумую адна...
Адна...

Чула песні, спявае што вецер,
Пра цябе там таксама была;
Лепш бы ветру мне не паверыць.
Годзе сэрцу палаць...
Палаць...

Дый навошта тугою ўспамінаў,
Як пярсцёнкам душу спавіваць.
Дый навошта, навошта дзяўчыне
Так балюча кахаць...
Кахаць...

Беларускія нівы, азёры
Не на здзек гадавалі мяне.
Эх, разбіць бы кахання ўзоры...
Не паддамся нудзе...
Нудзе...

Вольнай птушкай пад хмары ў палессе,—
За змаганне жыцця — на зямлю.
Смутак сэрца майго не завесіць —
Свет шырокі люблю...
Люблю...

## Мае CREDO

Я зусім не баюся смерці
Ці не такім як я паміраць?!
Хто маю пуцявіну змерыў
Жыцця пал замураваў?!
Прэч ад мяне, малаверы!
Прэч, хто не верыць у сябе,
Экстазнасцю дзікіх прэрыяў
Сягонняшні наш разбег.
Слова маё ці вобраз
Прымусяць і жыць, і гарэць,
Знікне з дарогі тормаз,
Толькі б культуры перл.
Сягоння, учора і заўтра
Адчыняю «Новыя Амерыкі»
І віхрастай жывой дзікаркай
Вачыма ў тэорыях бегаю.
Гніллю, смяццём закінутым —
Смутак, туга, бездарож.
Бровы ўпартасцю скуты,
У жылах пульсуе кроў.
Жыла я дасюль, бы ў лесе,



Знала адно — Беларусь...
А сягоння наша Палессе
Кліча машынны грукат.
Прэч ад мяне, малаверы!
Прэч, хто не верыць у сябе!
Экстазнасцю дзікіх прэрыяў
Сягонняшні наш разбег!

*(Масква, 1929)*

***

Завіліся словы
Ў сінія туманы.
Даўнасцю сталеццяў
Даль звініць, звініць...
Завіліся словы
Ў сінія туманы,
Ранне аксамітнае
Прашаптала:
хочу жыць...
Сонца залацістае
Маладой вясны,
Шалясценнем ветрыка
Дадало:
Лю-біць!..
Завіліся словы
Ў сінія туманы.
Даўнасцю сталеццяў
Даль звініць, звініць...

*(Сібір. Больніца. 1928)*

## Навучы

Навучы, зеленакосы вецер.
Як сказаць ласкавае люблю.
Засмяялася асіна сівым веццем,
Прытуліўся ліст к лісту.
Навучы, зеленакосы вецер,
Як сказаць мне ласкава: люблю...
Пахіліўся дуб стары ў лесе,
Заспяваў віхор у сваю дуду.
— Многа год жыву на свеце,

Перажыў і радасць і тугу.
Толькі вось такіх не мог прыкмеціць,
Каб жылі з ласкавага: люблю...
Знаю, знаю, любы братка вецер.
Мо загіну, у полымі згару?
А лілеі ў бялявай цвецені
Зацвітуць на родным берагу.
Сонца кіне дыяменты-росы,
Упрыгожыць чарамі зямлю,
Загалосіць, бура загалосіць
Я скажу апошняе: люблю.
*(Менск. 30/1-27)*

## Была я...

Была я ў ранне зусім шчаслівай,
Сінелі ў жыце васількі,
І нечакана наўкол узраслі вы
Сівыя травы маёй тугі...

Іду далёка, іду дрыгвою,
Ў прасторах вольных гукаю ранне,
О дзе вы, дзе вы, кволыя словы...
Іду адна я, туга ў тумане.

Так... Усе жывём мы, не кожны любіць,
Ува ўсіх па-рознаму хварэюць душы.
А вецер вые ў віхураў трубы
І хмараў пража ў зорнай вышы.

Была я ў ранне зусім шчаслівай,
Сінелі ў жыце васількі,
І нечакана наўкол узраслі вы
Сівыя травы маёй тугі.

***

Забліскалі зоры трывожна,
Шлях млечны ўтокам срабрыстым.
Бліскучыя ніці над Сожам
Вадаспадам імклівяцца з высі.
Апоўначы мглістай русалкі



У туніцы з перлінаў-рос
Струменямі порсткімі скачуць,
Раскідаюць бялявыя косы.
Маўклівы дакор загушкае
У вецці зялёным вецер,
Варожыць русалка з краю
— Ці шчасце пуціну асвеціць?
І цягнуцца белыя рукі
Ў неба, дзе зоры ззяюць.
Ці промень жаданне зрушыў,
Ці мо гэта вера губляецца...
І белыя срэбныя ніці
Палошчуцца ў хвалях люстраных,
І хтосьці шапоча: засніце...
Мінуўшчыны нікне паданне.
*(Гомель. Верасень, 1928)*

**Публікацыя вершаў падрыхтавана Ірынай Гародка**



# Леанід Дайнека

**паэт, празаік. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. Аўтар кніг: « Галасы», «Бераг чакання», «Бацькава крыніца», «Футбол на замініраваным полі», «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды», «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Змітраўка 2-я ў Клічаўскім раёне на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.**



## Клятва на беразе возера Свіцязь

Рым заснаваны ў 753 годзе да н.э. А ў беларускай вёсцы Змітраўка-2 знайшлі абломкі керамікі, якой людзі карысталіся яшчэ 4 тысячы гадоў назад, — калі Рыма не было і ў паміне. У свой час гэты факт так уразіў маленькага змітраўчаніна Лявона, што цяпер мы маем цудоўнага пісьменніка Леаніда Дайнеку, аўтара дзесяці гістарычных раманаў.

Але першая празаічная кніга Леаніда Дайнекі — «Бацькава крыніца» — з'явіцца толькі ў 1976 годзе. Пачаўся ж раманіст з вершаў...

На пытанне «Чаму вы пачалі пісаць?» спадар Леанід адказаў: «Не ведаю. Мы ж не ведаем, ад чаго пачынаем дыхаць, хадзіць, глядзець на неба.» Адказ слушны. Тым не менш, усё мае свой пачатак. У дзяцінстве Лявон, як яго называлі аднавяскоўцы, вельмі любіў цікавыя жыццёвыя гісторыі, а яшчэ больш — кніжкі. Чытаць навучыўся ў чатыры гады. Да гэтага слухаў вершы, якія часта чытала яму па памяці маці:

*Не сядзіцца ў хаце*
*Хлопчыку маломму,*
*Кліча яго рэчка,*
*Цягнуць санкі з дому...*

Пазней Лявон, калі і сам пачаў складаць вершы, прысвяціў Якубу Коласу радкі:

*Магутныя словы над светам гучаць,*
*Свабоды, любові і праўды пячаць*
*На іх свае промні кідае,*
*Іх нельга змусіць пакорна маўчаць,*
*Іх нельга ад простага люду схаваць,*
*Бо сіла ў іх маладая.*

Бацька Леаніда Дайнекі Марцін Сцяпанавіч быў адукаваны чалавек, вучыўся ў Свіслацкай семінарыі. Дзед, Сцяпан Іванавіч, служыў вайсковым пісарам яшчэ ў царскім войску, падчас Першай сусветнай вайны. Напэўна, любоў да кнігі перадалася менавіта ад яго, бо дзед чытаў вельмі многа, і аднойчы даў унуку кніжку Жуля Верна «Вялікі лес», друкаваную яшчэ дарэвалюцыйным правапісам. Лявон яе «праглынуў» за адну ноч. Потым бацька прывёз з Бабруйска кніжку Янкі Маўра «У краіне райскай птушкі». Для хлопчыка, які прагнуў прыгодаў і новых уражанняў, кніга стала вялікім узрушэннем. На некалькі дзён ён перанёсся на востраў Новая Гвінея, у тропікі, туды, дзе жылі і змагаліся папуасы з каланізатарамі... І тады ўпершыню з'явілася жаданне таксама прыдумваць займальныя гісторыі, каб прыносіць людзям такую ж радасць.

І ў сем гадоў Лявон напісаў першы вершык. Дэбютны твор атрымаўся ў духу той эпохі — ідэалагічна вытрыманы і бадзёры:


*Сям'я (у цэнтры бацька Марцін, па правы бок маці Тэкля)*

*Нам не страшна атамная бомба,*
*Нашай гордасці словы — за мір!*
*Уперад ідзем мы нястомна,*
*Бо з намі ідзе Правадыр.*

Няцяжка здагадацца, што нязломны Правадыр — гэта Іосіф Сталін.

Прызнанне прыйшло адразу ж: дырэктар школы Ануфрый Кандратовіч сам, сваёю рукой, ды яшчэ і чырвоным алоўкам, перапісаў вершык у школьную насценгазету «За выдатную вучобу».

«Верш палітызаваны, але мне за яго не сорамна ані крышку: яго пісаў хлапчук, зусім дзіця, — тлумачыць Леанід Марцінавіч. — Якая ж тады была інфармацыя? Адно чорны дыск радыё на сцяне, кіно раз на тыдзень і раёнка. І ўсё на тым. Як бачыце, сістэма працавала выдатна: нават дзіця піша свой першы верш не пра зайчыкаў-вожыкаў, не пра ручаі, а пра Правадыра».

Аднак было б памылкай думаць, нібыта малы Леанід Дайнека толькі і пісаў пра камуністычныя подзвігі, пяцігодкі і ўдарную працу. Насамрэч, збольшага хлопчык складаў гумарыстычныя «куплеты», у якіх знаходзілі адлюстраванне вясковыя падзеі, дзіцячыя ўражанні, назіранні. Неяк раз у адной з суседніх вёсак праходзіў традыцыйны кірмаш. Дзесяцігадовы Лявон у гуляннях не ўдзельнічаў — ды і куды малому на танцы? Але ён свайго не ўпусціў: крыху паназіраўшы за дарослымі хлопцамі, склаў вершык:

*А на станцыі гулянка,*
*Заліваецца баян,*



*Тут і Міця, тут і Янка,*
*Саўка, Грышка ды Іван.*
*Сербіянка, сербіянка,*
*Вальс, лявоніха, гапак,*
*У кругу танцуе Янка,*
*Стаіць Міця, нібы грак.*
*Аж парваліся бацінкі, —*
*Ён танцуе, не глядзіць.*
*Вечарынка, вечарынка,*
*Без цябе не буду жыць.*

Самае цікавае, што такія песенкі вельмі хутка разыходзіліся па вёсцы. Зміраўчане так і казалі: «А гэта Лявон Марцінаў склаў». Некаторыя «лірычныя героі» нават злаваліся на аўтара. Але гэта не спыняла творчых памкненняў. Лявон пісаў вершыкі пастаянна. Дарэчы, на рускай мове таксама, асабліва, калі быў пад уражаннем ад нейкага твора пасля ўрока рускай літаратуры. Любімым рускім паэтам Дайнекі быў і застаецца Мікалай Някрасаў.

Пасля школы Леанід апынуўся ў Расіі: Калінінград, рыбацкі флот, потым — шахты Данбаса, на якія не ўзялі працаваць, бо хлопцу яшчэ не было 18 гадоў. Урэшце ён трапіў на Урал, дзе і скончыў тэхнічную вучэльню, пасля якой Леаніда забралі ў войска.

Менавіта з часоў вайсковай службы Леанід Дайнека вядзе адлік сваёй творчай біяграфіі, калі ў 1961 годзе ў газеце Уральскай ваеннай акругі «Красный боец» быў надрукаваны верш «Я служу на Урале». За яго паэту ў пагонах даслалі велізарны для салдата ганарар — 41 рубель. Звычайна ж радавы атрымліваў у месяц 3 рублі 80 капеек. Чутка пра тое, што на радавога Дайнеку звалілася нечуванае багацце, разляцелася вокамгненна. Грошы пазычалі ўсе, асабліва сяржанты. Але гісторыя мела сумныя наступствы: святкаванне паэтычнага поспеху са сваімі саслужыўцамі скончылася суровай вымовай.

І тут узнікае пытанне: як увогуле магчыма пісаць вершы ў войску, дзе такая жорсткая дысцыпліна? «Я стаяў у каравуле ля ракетных палігонаў, дзе ноччу лёталі гіганцкія ракетаносцы. На іх грузілі ракеты — і тыя знікалі ў невядомым накірунку. Стаіш ты на вышцы дзве гадзіны — пад дажджом, снегам... Шуміць тайга. Вецер. Калі ясна — зоркі ў небе. Сабакі брэшуць вартавыя. І пачынаеш пісаць вершы — без асадкі, без паперы. Радкі выспявалі проста ў галаве. Паэзія ратавала ад суровай армейшчыны.»

Так у войску даведаліся пра «схільнасці» радавога Дайнекі. Паштальён-яфрэйтар Віктар Салаўёў, які заўжды ездзіў па газеты, крычаў яшчэ здалёк: «Дайнеко, твои стихи опять опубликовали!»

«Мы садзіліся ў курылцы, палілі тытунь. І салдаты казалі: «Ну, давай, читай свои стихи». Цікава, што большасць з іх былі татары. Калі я стаў сяржантам, у маім падначаленні апынулася 10 чалавек, з якіх быў адзін беларус, астатнія — татары. Цудоўны народ!»



Першая кніга паэта «Галасы»,1969 год

Пасля службы ўзнікла пытанне: куды паступаць? Матэматыку малады паэт не любіў. Вабілі яго геаграфія, гісторыя, літаратура. Чамусьці — хімія. Пэўны час Леанід вагаўся між двума варыянтамі: юрыдычны інстытут у Екацерынбурзе ці журфак у Менску? І ўрэшце ён вырашыў ехаць у Беларусь.

«Падаваць дакументы прыехаў у вайсковай форме, а спякота стаяла невыносная. Так і хадзіў — у суконным галіфэ, кіцелі, вельмі пакутаваў ад гарачыні, але па статуце забаранялася расшпіліць нават адзін гузік.»

Як толькі Леанід паступіў на журфак БДУ і засяліўся ў славуты інтэрнат на Свярдлова, ён адразу ж апынуўся ў літаратурным жыцці: усё кіпела, віравала, па калідорах хадзілі звышнатхнёныя паэты, якія чыталі адзін адному вершы, хвалілі і крытыкавалі адзін аднаго. І маладому паэту ўсё гэта страшэнна падабалася. Увесь вольны ад вучобы час ён пісаў вершы. І менавіта за напісаннем верша пазнаёміўся з паэтам Анатолем Сербантовічам — маладым, яршыстым, тэмпераментным — які на той час ужо ўвасю грымеў. Анатоль заўважыў дужа занятага паперкамі хлопца і запытаўся:

— Што ты пішаш? Пакажы.

Паказаў. Той прабег вачамі:

— Прыходзь на літаратурнае паседжанне ў «Чырвоную змену».

На той час аб'яднаннем пры вышэйназванай газеце кіраваў Уладзімір Паўлаў. Ужо ў снежні 1963 года ў «Чырвонай змене» з'явіўся першы беларускамоўны верш Леаніда Дайнекі «Прадзеды», якім пазней адкрыецца першая кніга паэта «Галасы»:

*Якія яны, мае прадзеды,*
*Дняпроўскія плытагоны?*
*Яны ў навальніцу ладзілі*
*З напорам хваляў шалёных.*



Першая кніга прозы, 1976

*Яны жартавалі нявесела,*
*Збягалі з плытоў на прыстань*
*І мокрыя лапці вешалі*
*Над цяпельцам іскрыстым.*
*У вёдрах кіпела варыва,*
*Цыгаркі дружна дымілі...*
*Аб чым мае прадзеды марылі,*
*Пра што ўсю ноч гаварылі?*
*Напэўна, пра лёс, пра надвор'е*
*І пра сялянскую сціпласць,*
*Пра тое, што дзеці хворыя*
*Чакаюць бацькоўскіх гасцінцаў...*
*Вецер лізаў вуголле,*
*Дзесьці крычалі пеўні...*
*А тут гаварылі пра волю —*
*І ў сэрцах адвага спела.*
*У дзядзькоў барадатых*
*Вочы гарэлі гнеўна:*
*— Хутка пад панскія хаты*
*Пусцім чырвонага пеўня!*

Пасля публікацыі хлопца заўважылі на журфаку: «Го, дык ты, Дайнека, пішаш вершы!..» Нейкі час Леанід працягваў друкаваць беларускамоўныя тэксты, аднак «запас» скончыўся. І тут ён прыгадаў пра творы рускамоўныя. Хацелася як мага хутчэй пабачыць іх на старонках газет, часопісаў, пачуць на радыё... Маладыя гады, маладыя жаданні. Так Леанід Дайнека пачаў наведвацца яшчэ і на літпаседжанні рускамоўнай газеты «Знамя юности» пад кіраўніцтвам паэта Пятра Валкадаева. І што цікава: вельмі хутка творчая моладзь, у тым ліку і Леанід, вярнулася да беларускай мовы. «Язык» пачаў здавацца ненатуральным, чужым.

На тыя часы (1960 — 1970) літаб'яднанні пры газетах з'яўляліся творчымі цэнтрамі, дзе збіраліся літаральна ўсе. Запытайцеся любога сталага пісьменніка — з чаго вы пачыналі? — і ён вам адкажа: «Я хадзіў у аб'яднанне пры «Чырвонай змене». Зразумела, што такія сустрэчы давалі адчуванне значнасці і запатрабаванасці сваёй творчай працы, пашыралі кола знаёмстваў і — што, пэўна, найбольш значна — адкрывалі шлях да публікацый у рэспубліканскіх газетах. Што цешыла творчае самалюбства і прыносіла далёка не лішнюю ўстудэнцкай кішэні капейку.

«Канешне, ні ў якое параўнанне не ідзе сённяшні мізэрны, жабрацкі, зневажальны ганарар з тым, што было раней. Пісьменнік ператварыўся ў істоту нават не другога, а трэцяга гатунку. Улады не падтрымліваюць творчых людзей, хаця павінны б былі, бо менавіта мы дбаем пра беларускую дзяржаўнасць, народ, культуру. Мы ж не аднекуль з Марса — мы з гэтых палёў і сцежак. Ка-



лі я надрукаваў першую частку рамана «Меч князя Вячкі» ў часопісе «Маладосць» (люты 1985 года), праз месяц атрымаў ганарар, на палову якога купіў будаўнічых матэрыялаў на цэлы дом — лецішча ва «Ўзгор'і-2». А ў 2010 годзе ў серыі «Школьная бібліятэка» быў перавыдадзены мой раман «Жалезныя жалуды» накладам 21 тысяча экзэмпляраў. Заплацілі два мільёны сто тысяч рублёў. Проста здзек. Які там дом! На гэты ганарар маёй таксе корму не купіш».

Напрыканцы вучобы Леанід Марцінавіч пазнаёміўся з будучай жонкай, студэнткай біяфака Зінаідай Міхайлаўнай. Хутка пасля вяселля яго скіравалі па размеркаванні на Віцебскае тэлебачанне, дзе спадар Леанід узначаліў дзіцячую рэдакцыю. Працы хапала — і нават больш, аднак вершы пісаць не пакідаў. І ўрэшце «дапісаўся»: запрасілі на рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў, што адбылася ў чэрвені 1968 года на возеры Свіцязь.

«Колькі там сабралася цікавых паэтаў! А вялі семінары славутыя Янка Брыль і Уладзімір Караткевіч. Уладзімір Сямёнавіч — малады, энергічны, увесь час выдаваў хохмы — быў кумірам моладзі. Брыль жа быў мудрым, спакойным. Гэткай філасофскаю глыбай. Ён увесь час асаджаў Караткевіча: «Ну-ну, Валодзя, не гарачыся». То былі жывыя людзі. Не тое што зараз — такія ўжо «геніі» сустракаюцца...

Мы жылі на беразе чароўнага возера Свіцязь, увесь час гутарылі, а ўвечары — гулялі па беразе, любаваліся прыгажосцю... Рамантыка! Атмасфера была ўзнёслая, лірычная. І тады я цвёрда вырашыў: перайду на беларускую мову. Даў сабе клятву. З таго часу толькі беларускае мовы і прытрымліваюся. Я рады, што знайшоў правільную дарогу. Бо выказаць сваю душу, сваё сэрца можна толькі на роднай мове!»

На той час у выдавецтве «Беларусь» ужо стаяла ў тэмплане першая кніга вершаў маладога паэта Леаніда Дайнекі. Праўда, на расійскай мове. І выйсці



яна мусіла пад назвай «Голоса». Але пасля душэўнага пералому на Свіцязі Леанід літаральна за месяц напісаў новую кнігу — па-беларуску. У Віцебску маладая сям'я жыла ў драўлянай хатцы: без ацяплення, вада — з калонкі. Ужо і дзеці нарадзіліся — два сыны. І калі ўсе клаліся спаць, Леанід сек дровы, распальваў грубку, сядаў каля яе проста на падлогу і пісаў, пісаў, пісаў... Новыя творы даслаў у Менск, і ў 1969 годзе выйшла кніга «Галасы». Леанід Марцінавіч жартуе: «Ведаеце, Пушкін выдаў свайго «Яўгена Анегіна» тыражом 500 асобнікаў — і гэта на ўсю Расію. А мой зборнічак выйшаў накладам 3 тысячы экзэмпляраў. Так што мне вельмі пашанцавала». На «Галасы» станоўча адгукнуліся Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў.

Так Леанід Дайнека апынуўся ў літаратуры.

Пазней ён атрымае камсамольскую прэмію за паэму «Ключ», надрукаваную ў часопісе «Маладосць» у 1970 годзе. Разам з Дайнекам прэмію далі Яўгеніі Янішчыц і Алесю Крыгу. «Пасля цырымоніі ўзнагароджвання мы, радасныя, узрушаныя, пайшлі ў гатэль «Мінск», дзе жылі, адкаркавалі бутэльку віна і ўзнялі келіхі за нашую светлую будучыню. Прынамсі, у гэта шчыра верылася».

Што да прозы, якой славіцца Леанід Дайнека цяпер, то да яе пісьменнік звярнуўся ў 36 гадоў. Першы раман — «Людзі і маланкі» — крытыкавалі, але самому Леаніду Марцінавічу ён падабаецца. «І я кажу маладым — не бойцеся нічога! Тое, што задумалі, пішыце. Ідзіце сваёй дарогай. Некаму не спадабаецца, некаму спадабаецца. Усяляк бывае. Як казаў Анатоль Сербантовіч, тое, што я напішу, ніхто больш не напіша. Магчыма, напішуць лепш, — але не так, як я. Літаратура дае выказацца кожнаму інтэлекту. Бярыцеся за асадку, сядайце за кампутар — ствараце! Не закапвайце свой талент у зямлю.

*Твой першы опус крытык топча,*
*Як курыцу, яго скубе,*
*Не плач, літаратурны хлопча,*
*Уганаруюць і цябе!»*

**Наста Грышчук**



# Алеся Грыбок

**актрыса, прадзюсар. Студэнтка 5 курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. У 2011 годзе сыграла адну з галоўных роляў у мастацкім фільме «Вышэй за неба». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Радашковічах. Жыве ў Мінску.**



# Я веру ў сваю зорку...

***Хутка будзе ўжо год з таго моманту, калі мы выпадкова ўбачылі фільм «Вышэй за неба». Чаму выпадкова? Таму, што афіцыйна «Вышэй за неба» яшчэ не выйшаў, але дзякуючы Інтэрнэту мы яго ўсё ж такі ўбачылі. І інтарэс да стужкі расце з кожным днём. Нават за межамі Беларусі людзі цікавяцца: «А дзе яго можна паглядзець?» Гэта як быццам нейкі вірус, які перадаецца ад аднаго чалавека да іншага. Ты пачынаеш глядзець, пранікаешся праблемамі герояў, спачуваеш ім. Сёння мы звернем увагу на гераіню фільма Яну. Хтосьці кажа, што гэта проста разбэшчанае дзіцё багатых бацькоў, хтосьці, наадварот, паважае яе за «унутраны стрыжань», мэтанакіраванасць. Маладая актрыса Алеся Грыбок распавядзе нам, як яна прыйшла да гэтай ролі, з чаго пачынала і якія ў яе планы на будучыню.***

**Альдона Мартыненка.** — *Як атрымалася, што ты пачала здымацца ў кіно?*

**Алеся Грыбок.** — Тыя, хто навучаўся ў каледжы мастацтваў, так ці інакш траплялі ў кіно. Як кажуць, сярод «масоўкі»: «Калі ты першы раз трапляеш на здымачную пляцоўку, ты адразу разумееш тваё гэта ці не». На першых маіх здымках я правяла амаль суткі, з 8 да 12 гадзін чакалі пакуль нас загрэміруюць, потым у нейкім падвале «Беларусьфільма», дзе было вельмі холадна, мы здымаліся. Але ж для мяне ўсё гэта было як нейкі сполах, як феерверк. З гэтага пачалася мая любоў да кіно.

**А. М.** — *Калі не памыляюся, ты студэнтка Ўніверсітэта культуры і мастацтва, так?*

**А. Г.** — Так.

**А. М.** — *Якая ў цябе спецыяльнасць?*

**А. Г.** — Рэжысура святаў і абрадаў.

**А. М.** — *І ты працуеш па гэтай спецыяльнасці?*

**А. Г.** — Так, але я шмат працавала і ў іншых сферах: здымала тэлепраекты, рэкламу, здымалася ў кіно. На пятым курсе пачалі паступаць прапановы наконт рэжысуры канцэртаў, святаў. Я зрабіла дыпломнае свята і пасля гэтага мне прапанавалі прадоўжыць працаваць. Але ўсё ж такі, выбіраючы паміж актрысай і рэжысёрам, я аддаю перавагу працы актрысы.

**А. М.** — *Атрымоўваецца, што цябе з самага пачатку цікавіла сфера мастацтва?*

**А. Г.** — Калі я прымала рашэнне наконт маёй будучай прафесіі, я зрабіла выбар у бок рэжысуры. Мне здавалася, што гэта ў нейкім сэнсе зборная прафесія. Мы вучыліся спяваць, танцаваць, займаліся сцэнічнай мовай, пластыкай, грымам. Мне здавалася, што гэта вельмі добра: ты можаш быць і рэжы-

сёрам, і акцёрам. Але на сённяшні дзень я б лепей выбрала адзіную сферу і ў ёй больш глыбока навучалася. Мабыць, я сталею. (смяецца)

**А. М.** — *Што цікавей: працаваць перад камерай ці за камерай?*

**А. Г.** — Ты задала мне пытанне, якое мучыць мяне яшчэ са школы. (смяецца) Пасля здымкаў «Вышэй за неба» я зрабіла такую выснову: калі ты працуеш па-за камерай, усе ведаюць, што ты разумная, але ніхто цябе не бачыць. А калі ты працуеш у кадры, усе цябе бачаць, але думаюць, што ты крыху дурнаватая і ў цябе мазгоў не хапіла, каб працаваць эканамістам альбо бухгалтарам. (смяецца) Праца па-за камерай накіравана на людзей: ты назіраеш за акцёрамі, грымёрамі, тэхнікай. Аддаеш усё іншым. А калі ты працуеш у кадры, калі ты акцёр, ты працуеш на сябе, каб потым аддаць гэта гледачу. Таму тут стаіць выбар толькі паміж тым, каму што бліжэй.

**А. М.** — *Ты памятаеш сваю першую працу перад камерай? Каленкі не дрыжалі?*

**А. Г.** — Не, не дрыжалі. Там не было нават выбару: ты альбо працуеш, альбо не. Мне здаецца, была нейкая ўнутранная адказнасць. Ты прыйшла, ты ўжо зрабіла свой выбар і не маеш права падвесці гэтых людзей. Цябе ў любым выпадку заменяць і вельмі хутка. І ты ўсё ж такі ставіш сябе перад фактам, што перад табой вялікая каманда людзей, якія глядзяць на цябе ва ўсе вочы і чакаюць, калі ж ты народзіш праўду ў кадры. І ты робіш сваю працу.

**А. М.** — *Ты з дзяцінства марыла стаць актрысай?*

**А. Г.** — Не, не магу сказаць. Абсалютна сумленна я хацела стаць рэжысёрам. Спачатку педагогам-арганізатарам, яшчэ ў школе. Потым я падрасла і зразумела, што ёсць нешта большае. Нехта ж робіць вялікія гарадскія святы. Тады я думала, што яны вялікія і гарадскія. (смяецца) Усе марылі стаць актрысамі, спявачкамі ці танцоркамі, але я... Не, не магу сказаць.

**А. М.** — *А якой ты была ў школе?*

**А. Г.** — Рэвалюцыянеркай. (смяецца)

**А. М.** — *Наводзіла свае парадкі?*

**А. Г.** — Аднойчы настаўніца сказала мне, што са мной немагчыма спрачацца, таму што я ва ўнутраным сваім свеце проста рэвалюцыянер. Усе — за, Баба Яга — супраць. (смяецца)

**А. М.** — *У цябе ёсць якая-небудзь роля-мара? Каго б ты хацела сыграць?*

**А. Г.** — Не, я лічу, што я яшчэ не так шмат ведаю і не так шмат сыграла, каб самой выбіраць, каго я хачу сыграць. Ёсць цікавыя мастацкія творы, якія мяне вельмі ўразілі. Але я лічу, што мне пакуль рана рабіць такія заявы.

**А. М.**— *Да «Вышэй за неба» ў цябе быў зусім другі вобраз. Як ты лічыш, змена іміджу неяк змяніла твой характар?*

**А. Г.** — Канешне, нешта змяніла. Але для мяне гэта было абсалютна арганічнае дзеянне, пераход ад мяне адной да мяне іншай. Бо на той момант я перажывала нейкі, скажам так, эмацыянальны стрэс. І для мяне гэтыя змены адбыліся паступова. А вось для маіх блізкіх гэта быў, канешне, вялікі шок. Я выйшла з кватэры ў адным вобразе, а вярнулася ў іншым. І мае былыя босы ў адным прадзюсарскім цэнтры сказалі: «Сапсавалі нам Алесю». Разумееш, я была такая простая русавалосая дзяўчынка. Калі я прыходзіла на які-небудзь разбор палётаў, то мяне было вельмі проста зацюхаць, сказаць «А-та-та! Зрабі так! Ты дрэнна працуеш!». Я казала: «Так, так, канешне». А потым, калі з мяне зрабілі такую жанчыну-вамп, ужо стала цяжка мне нешта сказаць. Таму што цяпер, калі я заходжу ў кабінет, у мяне ўжо вочы па-іншаму гараць. Я магу сама грукнуць кулаком па стале і сказаць: «Так, мне, калі ласка, вось гэта, гэта і гэта. Інакш праекта не будзе!». Вось так «сапсавалі» дзяўчыну.

**А. М.** — *Як ты лічыш, чаму менавіта цябе ўзялі на ролю Яны ў «Вышэй за неба»?*

**А. Г.** — Цяжка сказаць. Я не ведаю, як адбываецца ў галаве рэжысёра, сцэнарыста ці іншага творчага чалавека прыняцце такога рашэння. Гэта — нейкая гармонія, узаемаразуменне паміж людзьмі. Калі чалавек глядзіць табе ў вочы і разумее, што гэта менавіта ты.

**А. М.** — *Як праходзіў звычайны здымачны дзень на «Вышэй за неба»?*

**А. Г.** — Ну... У каго як... Лёню Пашкоўскага, напрыклад, забіралі з дому на асабістым аўто. (смяецца) Не, я жартую, канешне. Ён проста жыў за горадам, таму яго забіралі, у яго больш за ўсё было здымачных дзён. Ну а мы... Прачынаешся раніцай, валачэш ногі на кухню, заварваеш сабе каву. Адно адрозненне ад звычайнага дня, што ты не наводзіш марафет, не фарбуешся, таму што цябе на пляцоўцы апранаюць, грыміруюць у кадр. Як на пахаванні. (смяецца) Потым рыхтуешся, пакрысе ўваходзіш у вобраз. Здымачны дзень складаецца з розных дробязеў, якія потым складваюцца ў такія звыклыя рэчы, якіх ты вельмі чакаеш. А потым пра сябе адзначаеш, якое яны прыносяць задавальненне, кожная такая дробязь.

**А. М.** — *Позна заканчваліся здымкі?*

**А. Г.** — Часам бывала, але гэта не як правіла. Я ведаю толькі што, мабыць, у Лёні Пашкоўскага яны заканчваліся заўсёды позна.

**А. М.** — *Бедны Лёня.*

**А. Г.** — Так! Раней за ўсіх уставаў, пазней за ўсіх клаўся. Самае цікавае пачынаецца, калі ты прыходзіш дадому. Калі я працавала прадзюсарам, я прыязджала і адразу клалася спаць. Калі ты актрыса, табе ўжо трэба прыняць ванну, прывесці нервовую сістэму ў парадак. Гэта не жарты, так і адбывалася. Напрыклад, падчас здымак бывала такое, што ты пяць гадзін запар плачаш, рыдаеш проста. Ты ўжо такога напрыдумваеш за гэтыя пяць гадзін, каб пратрымацца, каб на самой справе нешта сапраўднае было ў цябе ў вачах. Што самае крыўднае — гэтую сцэну потым выразалі з фільма. Нервовая сістэма заўседы рухомая і яе трэба ў канцы дня неяк супакоіць, каб хаця б заснуць. Бывала такое, што я ляжу, а ў мяне ў галаве ўсё гэта рухаецца, рухаецца, і мой бедны кот ходзіць вакол мяне туды-сюды, быццам кажа: «Калі ласка, гаспадыня, супакойся, спі». А я паўночы ўсё ніяк не магу супакоіцца. Таму прыхо-

дзіцца гарбаткі папіць, ванну прыняць з супакойваючымі зёлкамі. Ты развaжаеш, што зрабіла так, што не так, чаму нешта не атрымалася. Такая вось праца пасля здымачнага дня.

**А. М.** — *Што самае прыемнае ў гэтай працы?*

**А. Г.** — Хм... Па-першае, гэта людзі вакол цябе. Людзі, якія застаюцца з табой пасля праекта, пасля здымак, пасля сумеснай працы. Па-другое, гэта разуменне таго, што пэўны жыццёвы перыяд ты пражыў не проста так. Ты пакінуў нешта пасля сябе. Мастацтва існуе дзеля таго, каб дапамагчы чалавеку зразумець сябе. Калі ён перажывае, як кажуць «катарсіс», ён нешта пераасэнсоўвае. Можа нешта змяніцца цяпер у яго жыцці. Ну вось так, пакрысе мяняем свет. (усміхаецца)

**А. М.** — *А мінусы якія?*

**А. Г.** — Не ведаю. Мабыць, аддаеш шмат часу? Але сумленны чалавек, які робіць нейкую працу, заўсёды аддае шмат часу на яе. Нервуешся пастаянна? Ну дык жыццё наогул поўнае розных стрэсаў. Я не ведаю на што можна скардзіцца. Не ведаю. Мабыць, занадта добры настрой у мяне сёння.

**А. М.** — *Ты гатовая нечым ахвяраваць дзеля працы?*

**А. Г.** — Так. Нам здаецца, што блізкія людзі заўсёды нам усё даруюць і заўсёды радыя нас бачыць. Таму, па-першае, ахвяруеш тым, што рэдка бачышся з сям'ей, з бацькамі, з роднымі, ахвяруеш сустрэчамі з сябрамі. Бо лічыш,

*На здымках фільма «Вышэй за неба» з Аляксеем Яравенкам*





што яны заўсёды ўсё зразумеюць. Ты ахвяруеш, ахвяруеш, ахвяруеш, потым даходзіш да нейкай мяжы і разумееш, што трэба спыніцца. Разумееш, што некаторыя святы хочацца сустрэць з бацькамі, абавязкова наведаць лепшых сяброў ці Новы год адсвяткаваць дома. А потым гэты перыяд праходзіць, ты астываеш і зноў набіраеш, набіраеш, набіраеш, даходзіш да нейкай кропкі і зноў вяртаешся да сябе...

**А. М.** — *Як ты лічыш, слава псуе людзей?*

**А. Г.** — Не, слава псуе адносіны паміж людзьмі. Таму што некаторыя людзі глядзяць на цябе ўжо праз іншую прызму, прыпісваюць табе рысы, якіх у цябе няма. У мяне была такая сітуацыя пасля «Вышэй за неба». Мой добры знаёмы не запрасіў мяне на сустрэчу, і потым сказаў мне такую дзіўную рэч, што ў мяне проста мову адняло: «Мы падумалі, што ты пасля «Вышэй за неба» да нас ужо не паедзеш». Я была проста ў шоку. А што здарылася? Чаму тое, што я знялася ў кіно, значыць, што я стала пра вас інакш думаць? Прыйшлося растлумачыць чалавеку, што мяне нават абразіла тое, што яны зрабілі за мяне такія высновы. Некаторым людзям ты растлумачыш, а іншым нават і спрабаваць не будзеш.

**А. М.** — *Як сям'я, родныя адносяцца да твайго ладу жыцця?*

**А. Г.** — Не ведаю, трэба ў іх запытацца!

**А. М.** — *Крыўдзяцца, што на працы прападаеш?*

**А. Г.** — Канешне. Бацькі ніколі не скажуць сур'ёзна: кідай усё і едзь да хаты, але я ведаю, што яны вельмі сумуюць. І я вельмі-вельмі сумую. Магу нават калі-некалі ў гадзіну ночы маме адправіць смску аб тым, што я яе вельмі люблю. І мама потым раніцай мне тэлефануе ў 7 гадзін з пытаннем «Што здарылася?». (смяецца) Канешне, турбуемся адзін аб адным. Але яны таксама атрымоўваюць ад маёй працы нейкую долю пазітыву.

**А. М.** — *Ганарацца табой?*

**А. Г.** — Так, ганарацца. А ўвогуле, яны задаволеныя менавіта тым, што я шчаслівая. Яшчэ бацькі вельмі радуюцца, што я нарэшце пачала думаць пра сваё здароўе. Таму што, калі я працавала прадзюсарам, я пра гэта зусім забывала. Я аднойчы на здымках зламала палец на назе. Ноччу хуткая дапамога адвезла мяне ў лякарню, мяне там крыху перавязалі, а на наступны дзень я ў мінус 16 у чыстым полі ўжо здымаю, бегаю, кірую здымкамі. Таму што ніхто акрамя мяне гэтага не зробіць. Вар'ятка проста. (смяецца)

**А. М.** — *А чым займаюцца твае бацькі?*

**А. Г.** — Мая маці працуе апенатарам на АЗС, а бацька ахоўнікам на аб'екце. У Радашковічах, дарэчы, складана з працай. Гэта такая балючая тэма для гэтага горада. Там чамусьці адкрываюцца толькі прадуктовыя крамы. (смяецца)

**А. М.** — *А даўно ў Мінск пераехала?*

**А. Г.** — Так, пасля паступлення ў каледж... 8 год ужо... 8 год? Я такая старая, мама дарагая! (смяецца)

**А. М.** — *Што для цябе зараз самае важнае?*

**А. Г.** — Не скажу. Таму што яно вельмі асабістае і гэта вельмі проста парушыць.

**А. М.** — *Чым ты любіш займацца ў вольны час?*

**А. Г.** — Вельмі люблю бегаць. Калі некаторы перыяд не маю магчымасці займацца спортам, дык нават пачынаю сумаваць. *(усміхаецца)*

**А. М.** — *У паўсядзённым жыцці кантачыце з іншымі акцёрамі фільма?*

**А. Г.** — Канешне! Лёгка! Вельмі люблю гэтых людзей!

**А. М.** — *Засталіся добрыя адносіны, так?*

**А. Г.** — Так, канешне. Мы ж усе акцёры, спевакі, таму мы ходзім на спектаклі, на канцэрты. Аксана, напрыклад, вучыцца са мной у адным універсітэце. Час ад часу перасякаемся.

**А. М.** — *Ты задаволена сваёй працай у «Вышэй за неба»?*

**А. Г.** — Так я вам і сказала праўду! (смяецца) Канешне, не.

**А. М.** — *Чаму? Усе ж, наадварот, хваляць!*

**А. Г.** — Ну гэта так, ведаеце, на нейкай афіцыйнай тусоўцы табе кажуць, што ўсе акцёры проста зоркі. А насамрэч я вам раскажу, што яны думаюць! (смяецца) Калі сур'езна, то, канешне, ёсць рэчы, якія мы хацелі б зрабіць інакш, сыграць больш пранікнёна, больш рэалістычна. Але ж унутраная незадаволеннасць сабой вядзе да самаразвіцця, імкненне да чагосьці лепшага.

**А. М.** — *Як ты лічыш, што для акцёра важней: адукацыя ці вопыт?*

**А. Г.** — Вопыт, канешне! Паглядзіце на мяне: я чатыры гады не хадзіла ва ўніверсітэт! (смяецца) Калі я вучылася ў каледжы мастацтваў, я была так захоплена адукацыяй, што ў выніку атрымала чырвоны дыплом. Я шмат чытала, глядзела, хадзіла на розныя мерапрыемствы, сядзела ў гэтым каледжы з 8 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара, пакуль яго не зачыняць. Але потым я паступіла ва ўніверсітэт. Першы год навучання прынёс мне вельмі добры праект. Мы прывезлі яго з маёй былой аднакурсніцай з Санкт-Пецярбурга. Ён называўся «Современный Таперский кинозал». Гэта праект кампазітара Арсена Трафім, які агучвае на фартэп'яна чорна-белае кіно. Ой, цудоўны праект, цудоўны вопыт! Гэта быў для мяне шок. За тры месяцы я вырасла ў прафесійным плане на некалькі гадоў. Я рабіла такія рэчы, якія б ніколі ў жыцці не зрабіла! Мне прыйшлося ісці на «БТ», знаёміцца з нейкімі людзьмі, прадстаўляць гэты праект. Наогул была бязбашанная такая дзяўчына! (смяецца) Я сказала, што гэта цікавы праект, давайце яго зробім. У мяне з'явілася вельмі шмат сяброў, з якімі я і зараз падтрымліваю адносіны пасля гэтай працы. Я зразумела, што ніякая адукацыя не заменіць вопыт. Але кожны вопыт павінен усё ж такі быць умацаваны адукацыяй. Я ніколі не адмаўлялася ад працы за час вучобы ва ўніверсітэце, лічыла, што ні адна адукацыя не каштуе тых цікавых праектаў, якія мне прапаноўвалі. Таму працавала шмат. Але зараз, калі я стаю на парозе атрымання дыплома, я разумею, што трэба крыху прыпыніцца. Але я ўпэўнена, што калі за тыдзень да дыплома мне прапануюць нейкі праект, калі мне гэта будзе цікава, і я палічу, што для мяне гэта каштоўны жыццёвы вопыт, то я гатова адмовіцца ад усяго.



*Сцэна са спектакля «Магічны цырк Олі»*

**А. М.** — *Пасля «Вышэй за неба» на вуліцах пачалі пазнаваць?*

**А. Г.** — Так, ёсць крыху.

**А. М.** — *Падыходзяць, просяць сфатаграфавацца?*

**А. Г.** — Не, сфатаграфавацца не так часта і не так часта ўзяць аўтограф, колькі проста падыходзяць. Ці, напрыклад, бачаць мяне ў метро альбо ў транспарце, потым у Інтэрнэце пішуць «А я вас бачыў. Я вас бачыў!». Вось памятаю, калі мяне першы раз пазналі на вуліцы, гэта было нешта такое «Ааааа! Ды ладна?!». А цяпер некаторыя знаёмыя часам кажуць «Усё, Грыбок, з табой немагчыма нікуды выйсці! Усе цябе ведаюць, усе цябе пазнаюць. Пакуль ты з усімі пагаворыш...».

**А. М.** — *Ёсць назойлівыя прыхільнікі?*

**А. Г.** — Здараюцца часам непрыемныя рэчы. Ніхто мне не піша дрэнна пра кіно, ніхто мне не піша, што я кепская актрыса. У сувязі з тым, што я знялася ў пэўных сцэнах у «Вышэй за неба», некаторыя людзі дазваляюць сабе нейкія фамільярныя рэчы. Пішуць розныя глупствы, пытанні незразумелыя, назойлівыя патрабаванні сустрэцца. Але гэта хутчэй выключэнне, чым правіла.

**А. М.** — *Чаму беларускае кіно не вельмі запатрабавана сярод маладой публікі?*

**А. Г.** — А дзе беларускае кіно? Вы бачыце беларускае кіно ў кінатэатры? Колькі разоў на год гэтае кіно канкурыруе з расейскімі ці галівудскімі стужкамі? Вось і адказ на пытанне.

**А. М.** — *Як на твой погляд, пасля «Вышэй за неба» што-небудзь зменіцца? Можа гэта быў той рывок, які як раз і патрэбен?*

**А. Г.** — Канешне! Вельмі шмат пішуць наконт таго, што не чакалі, што можа быць такое беларускае кіно: сучаснае беларускае кіно, цікавае беларускае кіно. Моладзь шукае сваё адлюстраванне. Кіно дапамагае чалавеку разабрацца ў самім сабе. Таму, калі ён бача, што гэта ёсць на экране ці ў тэатры, то значыць ёсць такія ж, як я. Таму сучаснай моладзі не хапае беларускага кіно, ім не хапае ідалаў сваіх родных, сваіх беларускіх людзей, да якіх можна імкнуцца. Не замежных зорак, пра якіх здымаюць вялікую колькасць інтэрв'ю ці стужак, а вось яны — свае людзі, якія размаўляюць на тваёй жа мове і разумеюць твае праблемы.

**А. М.** — *Раскажы пра самы цікавы праект, у якім ты калі-небудзь удзельнічала? Што найбольш запомнілася?*

**А. Г.** — Больш за ўсе запамінаюцца праекты, якія ўздзейнічаюць на тваё жыццё, нейкім чынам паварочваюць падзеі ў іншы бок. Таму я лічу, што гэта «Таперский кинозал». Гэта быў найцікавейшы праект! Мне здаецца, што пасля яго ўсё і пачалося. Пасля яго мяне запрасілі здымаць тэлепраекты, з гэтага ўсё і пачало раскручвацца. Ён даў мне моцны штуршок у прафесійным плане. Ну і, канешне, фільм «Вышэй за неба», які паставіў перада мной пытанне аб маім будучым лёсе.

**А. М.** — *У цябе расце колькасць праектаў, ідэяў, планаў... Ці не гэта і ёсць поспех, тое, да чаго ўсе імкнуцца?*



**А. Г.** — Усё залежыць ад чалавека. Я не магу сказаць, што на сённяшні дзець я хачу дасягнуць поспеху. Чаго я хачу наогул? Чаго ты хочаш, Грыбок? (смяецца) Я імкнуся да гармоніі, унутраннай чысціні. Для мяне галоўнае не поспеху дабіцца, а рабіць тое, што мне падабаецца, тое, што будзе патрэбнае людзям, іх душам. І пры гэтым захаваць свой унутранны свет. Я, дарэчы, веру ў сваю зорку. Без гэтага ніяк. Калі ты верыш у сваю зорку, гэта надае табе сапраўдную супер-сілу. А можа гэта і ёсць поспех?

**А. М.** — *І напрыканцы, дай нашым чытачам пару парад, як дасягнуць гэтай гармоніі ў душы і як утрымаць гэты стан?*

**А. Г.** — Калі ты нечага хочаш, падумай, што ты робіш для гэтага. Калі ты ведаеш, чаго ты хочаш, калі ты нешта робіш, каб дасягнуць гэтага, то ніхто і нішто табе не перашкодзяць. Але сутнасць у іншым. Вось напачатку інтэрв'ю прагучала пытанне «Што для цябе самае важнае на сённяшні дзень?». Чаму я на яго не адказала? Таму што гэта і ёсць мая гармонія. І я пільна аберагаю гэту гармонію паміж унутраным і знешнім светам, паміж рэчаіснасцю і марай. Без гэтага нічога не атрымаецца...

**Альдона Мартыненка.**
**Фота Юліі Яфімік**




# Раіса Крывальцэвіч

празаік, паэт. Закончыла гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Выкладчыца ЕГУ. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1960 годзе на Навагрáдчыне. Жыве ў Мінску.



# З дня ў дзень

## У Вільні

У Вільні дождж і вецер. Дзяўчынка выйшла з машыны і пакрочыла пад парасонікам у суправаджэнні таты ў дзіцячы садок. Хлопчык у гумавых боціках паспеў атрымаць задавальненне ад лужынаў, ідучы «у групу».

Як усё мяняецца ў гэтым жыцці!

Учора было іначай. Прыгравала сонейка, галубок на Слуцко гатвэ буркатаў падобна задаволенаму немаўляці. На Валакупю ля ляску танцавалі матылькі — яркія лімоннікі — адзін, тры, пяць, сем! Як жа яны весяліліся, нарэшце расправіўшы крылцы! Выскачылі, бы непаслухмяныя дзеці на школьным перапынку — хутчэй нацешыцца воляй! Дарэмна шукалі якую мілую кветачку ці зялёную травінку — яшчэ не нарэслі! Над светла-шэрай леташняй сухою травою, што яшчэ не забылася пра халодныя абдымкі снегу, здаваліся нечаканым цудам лета. І птушкі спявалі, і дрэвы стаялі, абняўшыся, разамлеўшы ад цеплыні, і ветрык цалаваў — не трэба прасіць... Не хацелася ў сцены...

Горад адчувае вясну. Стаў рамантычны.

Прыгажосць слова, фарбы, душы, погляду...

Мілаш, Чурлёніс, Майроніс... Яны тут, у горадзе... На афішных тумбах ... Нагадваюць, што не толькі «патогу»(выгадна) ды «немокамас» (бясплатна), напісаныя на ўсіх вуглах, могуць быць нашай ежай...

*29.03.12*

## Дадому

Еду да бацькі. Дакладней, трэба казаць — да бацька. А раней было — да бацькоў... Нехта ў аўтобусе па тэлефоне пярэчыць-улагоджвае маці: «Ну, мама!...»

Я ўжо так не скажу... Слёзы напрошваюцца...

Елкі пры дарозе — усё тыя ж, высачэнныя, вяршыні шышачкамі спрэс убраныя. І дацягнуцца да іх хочацца, як у дзяцінстве. Як у той першай вандроўцы з бацькам на возе...

Здаецца, свет не пахіснуўся... Ёсць яркі сонечны дзень вясны, ёсць — дзякуй Богу! — бацька, ёсць шышкі на дрэве, ад якіх не адарваць вачэй ...

*10.04.12*

## Ва ўладзе Сонца

Як добра думаецца ў наваградска-слухавіцкім зацішку, куды не дастае халодны вецер, а толькі ласкавае сонейка...

Якія сонечныя жывёлкі — каты... І Казік, і Кася, і Бялянка... У кожнага — сваё месца, адкуль цешацца сонцам... Можа, таму такія ласкавыя...

Дымком пахне...

Шпакі на старых яблынях зялёна-сінімі пёрцамі на сонейку пераліваюцца, крылцамі распушанымі падрыгваюць — трымцяць песняю-любоўю да вясны. З усіх птушыных сілаў стараюцца, песню праз сябе прапускаючы, праз маленькае смарагдавае цельца з жоўтымі, быццам прасянымі, кропкамі — крупкамі...

Дзіўна гучыць песня — усё роўна як уцягваюць тоненькую ручаінку-коску, сплеценую з празрыстага блакітнага неба, цёплага сонечнага святла і дымнага хвалюючага паху ранняй вясны. Там, у птушыным гарлячку-гарлачыку гэты струменьчык натыкаецца-б'ецца аб радасць, што праменіць з птушынага сэрца, і такая пералівістая мелодыя атрымліваецца! Нагадвае тую, што выходзіла некалі з цацачнай птушкі-свісцёлкі, калі ў яе налівалі вады...

Цікава, што птушкі гэтыя, калі не на сонейку, — не пяюць, а заклапочана па раллі ходзяць, — шэрымі выглядаюць...

*11.04.12*

## З вакзала

У Мінску горача. Горад папсаваны шыльдамі «Макзавтрак, Бигтейсти, Бигбрэкфэст, Туризмбай».

У трамваі дыктарскі голас абвяшчае:»Вагон рухаецца ў парк.» Мужчына ў гумавых ботах: «Рухаецца, это что значит — рушится? Выпрыгивать надо?» Яго раздражняе: «Сказали бы — движется!»

Яшчэ некаторых смешыць казённая фраза з аб'явы са словамі «На падставе».... Успрымаюць як «падставіць каго» і хіхікаюць...

Сцяплела... У дзяўчат калені круглыя, спакуслівыя, калі сядзяць на лаўцы ў трамваі. Абцасы, шорты, разрэзы і выразы. Гэта — выклік, атака. Бедныя мужчыны... З іншага боку, самыя вінаватыя — жанчынам мала ўвагі!

У трамваі, хто першы, сядае як яму зручней — вядома ж, з краю, бліжэй да выхаду. А ты, другасны, што не паспеў, хочаш сесці — дык прасіся прайсці да вакна. Не ўстануць, а толькі ногі ўбок адсунуць — праціскайся, калі так хочацца ехаць седзячы. Культура такая. Учора нейкі студэнт у Марылі над галавою кефір з батонам еў і размаўляў з сябрам пра сесію. Марыля думала, зараз на галаву налье. Такія студэнты... Вунь Светка Казлова, як кандыдаткай стала, з радасцю выкладаць пайшла. Але хутка астыла: студэнты пісалі слова ў слова, аж рука адвальвалася, і злаваліся: «Девушка, помедленнее!»

Доўга едзем. Хочацца на сонца. Дужы красавіцкі вецер надувае жоўта-зялёны ветразь «палаткі» з садавінай. Яткі з экзатычнымі яркімі фруктамі — столькі аранжавага, жоўтага, чырвонага! — нагадваюць, што ёсць іншае жыццё... Нехта вырвецца, акунецца ў яго гэтым летам...

А нехта ўжо далёкі ад зямных жаданняў і цярпенняў — ён і яна нясуць пахавальны вянок з падпісанай стужачкай.

Фарбуюць і падмятаюць. Хутка свята Уваскрасення...

*12.04.12*



## Праводзячы сяброўку

Духмяная травеньская ноч. Нясцерпна, хвалюючa пахне ласкаю лета — скошанаю травою ... Быццам траву-зуброўку скасілі...

Майскія жукі вытанцоўваюць у паветры — апісваюць вясёлыя бесшабашныя кругі вакол ліхтара. Начныя палёты здзяйсняюць. Унізе іх цярпліва чакаюць галодныя наваградскія каты: калі ўжо налятаюцца, прысядуць! У начной цішыні чуваць хрумсценне...

Некалі мы таксама палявалі на хрушчоў, што кружыліся ўвечары на нашай вуліцы над грушай-дзічкай. Беднага жука клалі ў пушку ад запалкаў і слухалі, прыклаўшы да вуха, як той шаргоча, перабіраючы лапкамі... Дзеці неразумныя ...

*10.05.12*

## Вецер дуне...

Вецер дуне — снег паляціць. Белы яблыневы снег. Пялёстачкі — на траве, на раллі. Адзін у вядро з вадою ўпаў — прыгожа глядзіцца на вадзяной гладзі...

Мацней вецер дыхне і — завея травеньская ў садзе...

Яблыні як цвітуць! Белы цвет у зацішку разоры залёг, затрымаўся, ветрам знесены. Шпакі сярод белай квецені — яшчэ чарней, чым звычайна — чорным «адбіваюць».

Лыжку старую, у агародзе працуючы, знайшла. Алюмінеевая, без чаранкадзяржальна. Адна галоўка. У дзяцінстве мы іншых лыжак і не ведалі. І відэльцы ў хаце алюмінеевыя былі.

Чамусьці плакаць захацелася. Можа, таму, што зямля ў агародзе такая мяккая — мамінымі рукамі сто разоў перабраная, выпешчаная, нам пакінутая... Мамін — агарод, бацькава — хата. Спадчына...

Занесла, паклала на траву знаходку. А ў траве цвіце крапіва, такая, што не пячэцца. Белыя носікі кветачак высмоктвалі некалі малыя — салодкія былі ...

На сцяну хлява паглядзела... Там на цвіках — частка бацькавай гаспадаркі. Ці не тая гэта жалезная каністра, з якою па газу ў дзяцінстве хадзіла? Маленькі цёмнавокі і цёмнавалосы рухавы чалавечак хутка напаўняў ёмкасць «карасінаю». Стаяла, удыхаючы пах — падабаўся... Не ведала, што купляю ў былой сінагозе, а прадавец, жыдок Кроцін, мо некалі сюды маліцца хадзіў...

Добрая прылада працы — «спранжыноўка»! Чаго толькі не награбе з зямлі. Рабрыстае дно белага сподачка, палова шарыкавай ручкі з разьбою — памятаю прыемнае пачуццё скручвання з другою паловай — гатова! Аранжаважоўты кавалак глінянага гляка, шчарбаты пластмасавы грэбень...

А колькі цвікоў у агародзе знаходжу! Па штук 20 у дзень... Тоўстыя, іржавыя, сагнутыя часцей за ўсё пад прамым вуглом, з кантовымі шляпкамі. Бацька кажа — кузнечныя, у кузні зробленыя... Цікава, чаму іх так шмат... У дзяцінстве

круцілася каля кузні... Бацька там працаваў нейкі час малатабойцам («пасылалі, давалі зарабіць»).

Тады ўсё вечным, непарушным здавалася... Раз і назаўсёды ўсталяваным... Відаць, гэта нам, малым, абарона давалася ад нечаканасцяў свету...

Але ўжо няма тых дзвюх бярозаў каля вуліцы, што быццам «маці і бацька» былі, і за хатаю — зрэзаны пень старой грушы, што надзяляла нас дарункамі — цяпер пасядзець добра, падумаць...

Дрэвы былі першым моцным перажываннем смерці ... Спачатку ліпа, магутная і бачная здалёк, бо стаяла на самай гары, да якой дабіраліся з санкамі, каб весела знесціся ўніз, потым — груша-дзічка, дзе малымі палявалі на хрушчоў і чые сціплыя плады ніколі не заставаліся без нашай увагі...

Вяртаюся ў грады... Няхай сабе бацька й пасмейваецца — сяброўчыныя нізкія, з неглыбокімі баразнамі назваў «школьнымі», на мае высокія адрэагаваў: «Акопы ад бамбёжкі капаеш?»

Першыя ўзыходы... Якой жа сілы гэтая сонечная любоў, калі з цяжкай цёмнай імглы цягнецца, прабіваючы кволым цельцам цвердзь зямлі, пакліканы гэтай любоўю маленечкі парастак!

Добра ўвечары паліваць грады, усыпаныя пялёсткамі яблыні, думаць пра таямніцу нараджэння, што здзяйсняецца ў зямлі... Адчуваць да яе далучанасць...

*11.05.12*

## Дарога ў траўні

Буслы («буслэ!») за карэліцкаю ракою Руткай расцягнуліся па скошаным лузе радом. Паважна рухаюцца ў святочным бела-чорным адзенні. Вялікія здалёк, бы людзі.

Рапсавае поле. То ля самай дарогі, то ўдалечыні, амаль схаванае за ўзгоркамі, — да таго «лімоннае», што не верыцца, што гэта натуральная фарба. Здаецца, нейкае дзіця, высалапіўшы ад старання язык і моцна прыціскаючы да паперы аловак колеру цытрыны, дастаны з каробачкі з 24-ма (!) колерамі — той недасяжнай мары дзяцінства — ярка размалявала карцінку з летнім пейзажам і, здаволіўшыся, пабегла гуляць...

*19.05.12*

## Віленскае

Дрэвы ў салодкіх абдымках цішыні — не паварушацца! Неба — расцёртая ружовая акварэль — сонца заходзіць... Бліскучыя хмарачосы — старчма пастаўленыя каробкі і рулоны — добра ўпісваюцца ў гарадскі пейзаж... Шэрыя цагляныя сцены дамоў спавітыя зялёным плюшчом. Шыкоўныя аўтобусы — зручныя хаткі для турыстаў — застылі на заднім двары гатэля.

Усё засынае... Вільня сцішваецца сцяплелым чэрвеньскім вечарам.



Добра ў Вільні.

Удзень у гэтым горадзе шукаюць сябе. Тыя, хто згубіў ці яшчэ не знайшоў. Як некалі я. Ты дапамог мне знайсціся.

Тут можна вярнуцца да сябе, збочыўшы ў крывую вузенькую вулачку на святога Казіміра, ці святога Міхала, ці на Літарату. Альбо зазірнуць у арку дворыка — такая прыцягальная прастора!

У Вільні так цёпла ўсім. Гэты горад мае жаночае імя. Вільня шкадуе, мілуе і песціць, як гэта можа рабіць толькі жанчына. Як у маці, у яе хапае ласкі на ўсіх дзяцей.

Шчодрая на любоў, Вільня не адбірае. Вільня дае.

У Вільні — як у бацькоўскім доме — набіраешся спакою і радасці.

У яе завулкі хаваешся, як у абдымкі роднага, дарагога чалавека.

Поўная Божай ласкі ад храмаў, што на кожным кроку, Вільня дае Дух.

Тут у тралейбусе пераходзяць незаўважна з мовы на мову — старая жанчына лёгка пераключаецца ў размове з сяброўкаю з «герэй» на «добжэ». «Інсцітутаў не канчалі», а размаўляюць, ты ж другую мову да гэтай пары не адолееш...

Аднойчы чула доўгую тэлефонна-тралейбусную гутарку на літоўскай — потым польскай — потым беларускай. Паслядоўнасць, відаць, адпавядала глыбіні схаванага самаўсведамлення...

Вільня шматаблічная. Літоўка Данутэ, што вырасла ў віленскім «Шанхаі» і добра ведае, дзе знаходзіўся «Бамбей», пачуўшы маю размову па-беларуску, адразу заўважае, што гэта мова «тутэйшых». Данутэ сябравала з дзяцінства з тымі, хто так сябе вызначаў. Таму мову тутэйшых разумеее, хаця і любіць ужываць ходкі выраз: «Negirsi—nesupranti!» — «Без чаркі не разбярэшся». Данутэ — экстрасэнс, белы маг, і можа вылячыць, не дакранаючыся рукамі.

У старым горадзе шмат замежнікаў. Шукаюць забавы. Фатаграфуюцца. Смуглявы тварык у адтуліне драўлянай фігуркі ў літоўскім народным адзенні. Уставіў — і «літоўцаў» пабольшала...

Вільня амалоджвае, дае другое дыханне — натоўпы старых, ссівелых, ссохлых у шчэпку (ці як казала мама — «да гнату») турыстаў сунуцца да праспекта Гедыміна. Сядзім з Рутай на лавачцы ля Вінцаса Кудзіркі — аўтара літоўскага гімна, назіраем. Рута пытаецца, ці будзем мы ў такім пахілым узросце яшчэ соўгацца па ходніках гарадоў, і як будзем выглядаць? Ну, ужо горш не будзем!

У Вільні нястрашна старэць. Жанчыны тут асаблівыя. Сталага веку, яны ўсё роўна прывабныя. Нясуць у сабе прыгажосць. Вядома, гэта ад Вільні.

Добра ў старым месце. Добра ля храмаў, добра на вуліцах і ў завулках... Вільня лечыць душу...

Купіла ў Мікалаеўскай царкве абразок з Хрыстом. З Людкаю разам купілі. Яна адразу царкоўную жанчыну распытала, ці моляцца па-беларуску, і хто царквою кіруе («І тут Масква!») Таму на звароце іконкі і напісана «Изделие религиозного содержания».

Але так хацелася, каб з Мікалаеўскай дабраслаўляў Хрыстос у нашай навагрдскай хаце. Бацька «цвічке ўбіў», праз дзірачку дроцік працягнуў — прымацаваў у куце — цяпер мілуе нас Хрыстова рука дабраславенчым рухам.

Анюцiныя вочкі — кветкі Вільні. Нідзе не апярэзваюць яны так плошчы мілым воку жоўта-блакітна-белым пояскам, нідзе так пяшчотна не зазіраюць у душу нямецкія Stiefmutterchen — маленькія мачахі, літоўскія лайшвэс — удавіцы, браткі беларускія ...

Жанчына ў 19-м везла садзіць на лецішчы... Уверсе ліловыя прыветныя вочкі, унізе смешныя бародкі «з ямачкай» — на белым, бы атрамантам па паперы — ліловыя коскі...

Жанчыны, што прадаюць кветкі — адметныя... На іх хочацца глядзець. Адна віленская бабуля ў жоўтым плашчыку, жоўтай вязанай барэтцы, жоўтых чаравіках. І вядзёрка з жоўтымі нарцысамі стаіць...

Сярод тых, хто моліцца ў Вострай Браме, жанчынаў найбольш. Па сходах, па сходах угору, на каленях — да Святой.

Прыходзяць цяжкаю ступою, спачатку кійком — на прыступку, потым — самыя... Кладуцца — распасціраюцца крыжом на халодных плітах бажніцы — душу і цела аддаюць Цудоўнай Пані.

А на бруку перад Вострабрамскай капліцай нямецкім экскурсантам ужо два разы паўтарылі, што касцёл святой Тэрэзы адбудоўваў немец Глаўбіц. Трэба, каб гасцям прыемна было...

У каплічцы ля распяцця Хрыстова з польскім сцяжком у руках фатаграфуецца турыстка.

Шчоўкаюць фотаапараты і наверсе, у Маці Боскай Вострабрамскай. Мусіць, мала дзе так фатаграфуюць абраз, як гэты.

Тут пахне белымі лілеямі. Тут спяваюць па-літоўску і па-польску. Жаночыя галасы хвалююць моцным падабенствам да мамінага. У малітоўным спеве чуваць і скаргу-боль, і прымірэнне. Аблягчэнне для душы.

Цяпер можна вяртацца.

А дворнікамі ў Вільні болей мужчыны. У старым месце падмятаюць венікамі не пластмасавымі, ярка-зялёнымі, як на Львово ці на гатэльнай стаянцы аўтамабіляў... Тут мятуць натуральнымі бярозавымі «дзяркачамі», з дзяцінства знаёмымі, і на іх прыемна глядзець.

У старым горадзе заўсёды просяць — на жыццё ці на рэстаўрацыю. Прапануюць размяняць грошы ў бліжэйшай краме, калі «няма дробных». Найлепш адказвае Надзя, седзячы ў летняй кавярні за паўлітрам піва — мужчыне, што папрашайнічае: у нас няма мужоў, і мы не падаём... Што ж, амаль усё праўда — мы сядзім утраіх, Люда і Надзя незамужам і якраз толькі што ўслых шукалі ў гэтым пазітыўнае...

Няшчасны пайшоў, а Надзя ўспамінае брата, які адзначыў змены ў яе характары — пасля разводу стаў «нардзічаскім»...

У Вільні шмат жабракоў. Ёсць цікавыя.

Па дарозе ад Вострай брамы малады бадзяга жаласным голасам просіць па-нямецку: «Ich bin krank. Bitte, nur zehn Euro! Ich brauche nur zehn Euro!» — і агаляе чырвона-сінюю нагу. «Ja, ja!» — спачувальна ківае натоўп нямецкіх турыстаў і валіць далей.

Найбольш уражвае жабрачка Роза. Гэта яе вулічнае імя. На самай справе яе завуць Віда. «Дай хоць трохі, на шчасце», — кажа мне Роза-Віда восеньскім вечарам на Замкавай вуліцы. Рана сцямнела, яшчэ граюць вулічныя музыкі, толькі што загарэліся ліхтары ля маленькіх кафэ, і ты ідзеш, зачараваная вечаровым горадам, па яго святым бруку, адчуваючы свята ў душы...

Кажу Відзе, што яна ўпрыгожвае гэты горад... Радая гэтай магчымасці — бачыла Розу не раз за столікам улетку ў старым месце. Невялічкая, немаладая, з моцна падведзенымі вачыма, нашмінкаванымі шчокамі і вуснамі, у цудоўным, бы ў старасвецкай пані, капелюшы, у доўгім яркім адзенні — яна грае тут амаль штодня п'есу свайго жыцця.

Ёсць і незвычайны жабрак мужчынскага роду. Магутнага целаскладу, з капою збітых «у лямец» валасоў, з жабрачым скарбам — вялікім мехам за плячыма. Увечары ў цёплае травеньскае надвор'е мы з Рутай бачылі яго на галоўнай вуліцы — адпачываў, лежачы на лаўцы, мяшок пад галавою. І што яму цікаўныя прахожыя, калі Вільня — яго дом?

«Tu Adam Mickewicz 25.11.1824 opuszczal Wilno na zawsze.» Старая вуліца ў шыльдах.

Міцкевіч, Крашэўскі, Дастаеўскі, Стэндаль хадзілі па ёй. Можна чытаць гэтых мастакоў слова і перачытваць... Калі рукі дойдуць...

На Ўніверсітэцкую зайшла... Пара ўжо лепей арыентавацца ў горадзе. У іншым жыцці хацела б вучыцца тут на філфаку і на гістарычным адначасова і ўсе пяць гадоў памятаць, чытаць, любіць, ганарыцца Міцкевічам. І яшчэ шмат кім ...

Вільня — гэта людзі. Тут варта звярнуць увагу на «ЖЖ», як казала незабыўная, светлай памяці Таццяна Сапач. ЖЖ значыць жывое жыццё.

Я размаўляла з ёю толькі аднойчы, увосень 2010 года. А зімою Таццяна пайшла ... Але хіба паміраюць паэткі?

Удзячная Вільні за ўсіх, каго сустрэла тут.

І габрэйка Хая-Роза, якой — 86, і немка Анэліз Арндт (Анфіса Раманоўскі), якой хутка — 80, і літоўка Данутэ, якой — 46, і полька Філёня ў цудоўным капялюшыку з ружаю, з якою пазнаёміліся ў тралейбусе, і руская Надзя са Смаленшчыны (Людка ўсё даказвала ёй, што яна беларуска) — маё «цягніковае» сяброўства — ёй —58, і віленская мастачка з кветкамі, якая ніколі не працавала ў дзяржаўнай арганізацыі, а ўсё жыццё зарабляла на хлеб мастацтвам і гэта сталася яе найвялікшым шчасцем, і Рута-Яланта з Коўна, што так любіць спяваць у хоры, якой — 42, і Агне, што за сем гадоў вывучылася ў Нямеччыне на доктара археалогіі, якой — 40, — усе падобныя ў адным — яны любяць. Сваіх і чужых дзяцей, родных і сяброў, катоў, вершы, музыку, археалогію, гэты горад... І яшчэ — як кожную жанчыну — іх не абмінула каханне... Часта няпростае...



А Вільня поўная кахання. Берагі Вяллі — у словах любові... As miliu tave —Я люблю цябе — гэта сказала Неба. Ir as tave — І я цябе — гэта мой адказ.

*19.06.12*

## Певень і Сонца

Цяпер ведаю, чаму ўзыходзіць Сонца. З раніцы яго так настойліва просіць прыйсці адзін слухавіцкі певень!

У шэрай ліпеньскай раніцы яму не хапае цяпла і святла. «Кукарэку» гучыць як «Дзе ты? Прыйдзі! Чакаю!»

Певень стараецца доўга, мо дзесяць разоў паўтарае, і кожны раз яго голас кажа: «Жыць без цябе не магу!»

Певень імкнецца, каб Сонца ўчула ...

Сонца зважае на жарсную просьбу і з'яўляецца... Пачынаецца новы дзень...

І што за раніца без крыку пеўня, без Сонца?

*22.07.12*

## У дарозе

Ціхі сонечны ранак. Ціхамірнасць сонных у цёмна-зялёных стрэлках аеру рэчак — Рутка, Сэрвач... Непарушная гладзь азёрнай вады... Яркія кветкі з вясковых агародчыкаў — флёксы — усміхаюцца сонцу ... Казачная краіна Беларусь. Боскае хараство.

Ваўковічы. Нечаканы буслік блізка ля дарогі — зусім адзінокі.

Лугі, лугі... Жоўта-белы коцік палюе ў траве. А той раз — чорны быў.

Нёман. Пышнае круталобае кустоўе — палацы для ўсялякіх дробных стварэнняў боскіх. Для мурашкі Палашкі з паэмы Бядулі, напрыклад... У маёй сяброўкі Людкі дакладна такі голас, як у той старой радыёпастаноўцы. І кватэрная праблема, як у мурашкі Палашкі. Праўда, апошняй жучкі-павучкі ўсім калгасам хату збудавалі, а вось Людцы як у адзіночку крэдыт плаціць?..

Жанчыны вясковыя на прыпынку — у белых блюзачках з карункамі, «газавыя» хустачкі пад бараду — відаць, у цэркаўку сабраліся — нядзелька.

Птушкі на правадах — купкамі. Прыйшоў Пятрок — апаў лісток... Як па бацькавых прыкметах, то восень ужо вось-вось...

Вочы цешацца — не нацешацца краявідамі.

Палі ў новым колеры стаяць — спелыя: роўненькі вусаты ячмень — угору, цяжкія галоўкі пшаніцы нахіліліся долу. Палоска лесу ўдалечыні.

Прыгажосць...

Край вёскі. Мажная гаспадыня з надворку выйшла — у адной руцэ кіёк, другою спіну падпірае — ня можацца... Трактар сена прывёз. Жыць трэба. Ці па бацькаваму — трэба жыць, як набяжыць.

Застылыя постаці рыбакоў ля канаўкі. А на вазярцо з шыльдачкай з двух бакоў: «Платная рыбалка» — не жадаеце?

Вёска Пясочная перад Міром. Прыгожыя, але маўклівыя хаткі. Сівенькія, старэнькія гаспадары. Мужчына з вялікім жыватом, жанчына з кульбачкай — з брамкі выйшлі — аўтобус нясецца па вясковым бруку.

... Цуд адбыўся. Золата сонца ў небе. Золата абмалочанай саломы на зямлі — да небакраю.

Чорны коцік з пухнатым хвастом праз луг з палявання вяртаецца.

Засулле. Яшчэ адзін бусел ля дарогі шпацыруе смела — да чаго боты чырвоныя!

Недзе бегае па дарогах і твой зялёны «буслік»...

У Міры — запамінальная жанчына. Увесь аўтобус пазірае. Ідзе з дзецьмі за руку — стройная, вялікі сіні капялюш, доўгая сіняя спадніца на доўгіх нагах. Немясцовая, вядома ж. Каля касцёла — шыльда-распорка на ножках:»Искренне приглашаем! Шчыра запрашаем! Szczera zaproshamy!» Усё правільна — спачатку — мова начальства...

Паваротка на Мінск. Базарчык пад страхою. На зямлі нешта вялікае, бардовае раскладзена. Цыбулька. З кулак велічынёю.

Паміж асфальтам дзвюх дарог, на вузкай палосцы травы — на здзіўленне — ізноў буслік і зноў адзінокі. І аўтобус яго не бянтэжыць. Развітацца птушкі выходзяць, ці што?

У чырвонае выфарбаваны камень: «Лес — наше здоровье». Каля каменя — вялізны бутафорскі драўляны грыб. Чарнобыльскі — Мікола звычайна жартуе.

Паміж Міром і Мінскам — бярэзнічак — вачэй не адарваць.

Ёсць бярозкі, ствалом падобныя на ножку падбярозавіка — дужыя, з цёмным налётам-насечкамі на белай кары. Ёсць іншыя, па-дзявоцку танклявыя, гонкія — вершаліну поглядам як дастаць — імкнуцца да неба. Сярод цёмных елак і нахмураных рудаствольных хвояў — сама любоў і пяшчота, увасабленне паэзіі. Усё ў іх — светлыня, некранутасць, чысціня.

Елачкі ўздоўж дарогі як падрэслі — зялёныя антэны-вярхушкі — угору! Летам лягчэй набліжацца да Неба... Адчуваеш ласку яго...

*22.07.12*



# Дзіяна Балыка

**паэт, драматург, журналіст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг паэзіі: «Много-много дней» (1999 г.), «Окна настежь» (2001 г.), «Убегающая линия» (2003 г.), «Сейчас, сегодня, навсегда...» (2009 г.), «P.S. 101 стихоткровение для тебя» (2012 г.), шэрагу п'ес і кінасцэнарыяў. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій. Нарадзілася ў 1979 годзе ў горадзе Палярны Мурманскай вобласці. Жыве ў Мінску, Рызе і Маскве.**



# Я шчаслівая жанчына...

***Дзіяна Балыка. Чалавек з мноствам роляў, выконваць якія ў яе атрымліваецца аднолькава добра. Яна і кнігу па папулярнай псіхалогіі напіша, і п'есу створыць, якую будзеш чытаць са слязьмі на вачах, і верш прачытае так, што надоўга запомніш кожны позірк і інтанацыю, і анекдот раскажа, ды такі, што смяяцца некалькі дзён будзеш. А яшчэ Дзіяна прадстаўляе беларускую літаратуру за мяжой на разнастайных літаратурных фестывалях, праводзіць майстар-класы для пачынаючых пісьменнікаў. Чытачам «Верасня» Дзіяна распавяла пра свае ролі ў розных культурных кантэкстах, пра дом, а таксама пра тое, як успрымаюць беларускага пісьменніка за мяжой і на якія групоўкі разбіваюцца беларускія пісьменнікі.***

**Ася Паплаўская.** — *Дзіяна, ты доўгі час выдаеш у Маскве кнігі па папулярнай псіхалогіі: там і магчымасцяў больш, ды і грошы можна зарабіць. Але тым не менш у розных беларускіх тэатрах ідуць спектаклі па тваіх п'есах, у нас жа выходзяць твае зборнікі паэзіі. Што для цябе з'яўляецца першасным?*

**Дзіяна Балыка.** — Насамрэч, гэта пытанне самаідэнтыфікацыі, прыярытэтаў. Гэтае пытанне вельмі часта абазначаецца не толькі ў творчасці, але і ў самім жыцці. Калі чалавек займаецца нечым адным, у яго таксама пытаюцца, а што для вас больш істотна: сям'я альбо праца? А для маленькага дзіцяці першым пытаннем самаідэнтыфікацыі з'яўляецца: каго ты любіш болей — маму ці тату? Гэта — пэўныя культуралагічныя коды, у якіх мы існуем, нават не заўважаючы гэтага, бо яны ўваходзяць у нас з нараджэння.

Да пэўнага часу паняцця асобы, «я» проста не існавала. У чалавеку жылі духі, дома пасяляліся дамавікі і ён не індыфікаваў сябе як асобу, якая жыве асобна ад іншага свету. А калі пазней у філасофіі з'явіўся гэты панятак, усе заняліся пытаннем самаідэнтыфікацыі: а хто я, а кім ёсць іншы чалавек?.. «Я думаю, значыць, я існую», «Я пішу, значыць, я пісьменнік» і гэтак далей... Такім быў чалавек эпохі мадэрна — для яго было істотна вызначыць сваю сацыяльную ролю. Чалавек эпохі постмадэрна вяртаецца ў тое каменнае стагоддзе, калі ўсё было сінкрэтычным, калі літаратура ўзнікала як рытуал перад паляваннем, груба кажучы.

Такім чынам, чалавек эпохі постмадэрна мае велізарную колькасць роляў, і ніводная з іх не з'яўляецца больш прыярытэтнай за іншую. Усе гэтыя ролі праяўляюцца ў пэўным кантэксце. Калі я прыходжу дадому да матулі, я ні ў якім разе не драматург і не паэт, а дачка, у якой пытаюцца, ці апранула я цёплыя шкарпэткі і ці паставіла твораг у лядоўню. І я спакойна адказваю, не пачынаючы скандал, маўляў, мама, я пісьменнік, чаму ты пытаешся ў мяне пра нейкія шкарпэткі...

У мяне нават ёсць некалькі камплектаў візітных картак. Абапіраючыся на культурны кантэкст, у якім я працую на дадзены момант, я камусьці даю візітоўку, дзе напісана, што я драматург, паэт, празаік, камусьці я дам візітоўку, дзе напісана, сябрам якіх творчых саюзаў я з'яўляюся. Калі ты прыходзіш да чыноўніка, табе патрэбны адзін тып візітнай карткі і пэўны тон размовы, калі ты размаўляеш з творчым чалавекам на фестывалі ці недзе яшчэ, табе патрэбны іншы тып візітоўкі і, адпаведна, іншая лексіка. Гэта, дарэчы, і ёсць НЛП (нэйралінгвістычнае праграмаванне — А.П.), то бок, уменне размаўляць з чалавекам на ягонай мове дзеля таго, каб цябе зразумелі.

З пункту гледжання псіхалогіі — не класічнай, а маёй унутранай светабудовы — мне неабходна займацца рознымі рэчамі. Такім чынам я адчуваю сваю большую псіхалагічную ўстойлівасць. Калі ў мяне нешта не атрымліваецца ў драматургіі, доўга няма прэм'ер у тэатры, я думаю: нічога страшнага, я ж яшчэ і аўтар кніг па папулярнай псіхалогіі, а яны-та акурат выходзяць, усё добра, я прафесійна запатрабавана! Калі нешта не складваецца ў працы, я думаю, што я — жонка, у мяне ёсць дом, сям'я, ёсць, пра каго клапаціцца — я шчаслівая жанчына. Для таго, каб не ўпадаць у дэпрэсію, для мяне істотная гэтая псіхалагічная ўстойлівасць, мне трэба займацца рознымі рэчамі.

Я па сваёй прыродзе не сектант, я не магу доўга грукацца ў адны і тыя ж дзверы. Я не буду прыходзіць на Беларусьфільм і ламіцца ў розныя дзверы, даказваючы, што ў мяне добры сцэнар. Не — і ладна! Я стану займацца іншымі рэчамі і ў іх рэалізоўвацца. Гэтаксама я ніколі не стала б доўга і ўпарта змагацца за мужчыну, даказваючы яму сваё каханне. Гэта проста не мой спосаб існавання. У мяне няма чагосьці першаснага, а чагосьці другаснага. Мне аднолькава цікавыя розныя сферы жыцця: я люблю яшчэ падарожнічаць, фатаграфаваць, гатаваць ежу, вадзіць аўтамабіль...

**А. П.** — *Ты закранула тэму падарожжаў... Зараз ты жывеш на тры краіны: Беларусь, Расію і Латвію. Увесь час ездзіш: на выступы, фестывалі, проста свет паглядзець... Можа быць, такі лад жыцця «на колах» — самы плённы стыль для сучасных пісьменнікаў?..*

**Д. Б.** — У мяне такі лад жыцця, відаць, не таму, што я пісьменнік, а наадварот. Бо пісьменнікі часцей за ўсё па сваёй прыродзе інтраверты і часта яны дастаткова аўтычныя людзі, бо замыкаюцца на сваіх тэкстах і ўсё, што ў іх не атрымліваецца ярка, афарыстычна выказаць у камунікацыі, яны адлюстроўваюць пасля на паперы. Я ж, наадварот, экстраверт і, зыходзячы з маіх псіха-саматычных асаблівасцяў, у мяне ёсць страх стагнацыі. Усё, што людзі называюць стабільнасцю, маёй псіхікай успрымаецца як стагнацыя. Я не магу больш за месяц знаходзіцца ў нейкім адным горадзе, мне неабходна кудысьці ехаць, мне неабходна самой ствараць падзейны шэраг.

Часам у мяне пытаюцца, ці складана мне жыць на тры краіны?.. Але ж мяне ніхто не прымушаў жыць менавіта такім чынам, гэта вялікая праца і пэўная паслядоўнасць мной выбудаваных падзей, якая прывяла да таго, каб так жы-



ла наша сям'я. Прытым, што ў майго мужа акурат ёсць страх перад зменамі. Яму складана мяняць працу, пераязджаць у іншую краіну — і трэба ствараць для яго пэўныя матывацыі, каб мы жылі так, як мы жывем. Таму мае пераезды — гэта такі лад жыцця, я інача й не магу. Ведаеш, як кажуць, што дыябет — не хвароба, а форма жыцця. Гэтаксама і нашыя псіхалагічныя асаблівасці — форма жыцця. Мае асаблівасці штурхаюць мяне ўвесь час ехаць кудысьці.

Калі шчыра, мне б не хацелася, каб кола маіх інтарэсаў замкнулася на нейкім адным горадзе. Мне прыемна быць у Мінску, бо тут мае бацькі, тут я выспявала як асоба, тут маё першае каханне, тут я атрымлівала вышэйшую адукацыю, тут мае сябры — вельмі істотныя для мяне прывязкі. Але разам з тым мне вельмі прыемна і камфортна быць у Маскве, бо яна мяне развівае, там я атрымлівала другую вышэйшую адукацыю. Мяне цягне ў Еўропу, бо маючы шэнгенскую візу, я магу не адстойваць нейкія шалёныя чэргі ў пасольства, не прыніжацца на мяжы. Гэта ўсё паляпшае маю якасць жыцця. Нехта імкнецца да спакою — і ў гэтым ягоная якасць жыцця, а для мяне важна кудысьці ўвесь час бегчы, вучыцца нечаму новаму, спрабаваць праявіць сябе ў розных сферах...

**А. П.** — *Ты шмат ездзіш па разнастайных паэтычных фестывалях, куды цябе запрашаюць прадстаўляць нашу краіну. Як ты выбіраеш тэксты, якія будзеш чытаць, якім чынам рыхтуешся да выступу?..*

**Д. Б.** — Канешне, у кожнага фестываля ёсць нейкі фармат, ёсць заяўленая тэма. Зыходзячы з гэтага табе задоўга да пачатку фестываля, бо яны рыхтуюцца цэлы год, арганізатары дасылаюць тэхнічнае заданне, у якім прапісана, што ад цябе чакаецца. Апошні фестываль, на якім я была, адбываўся ў Сербіі. Ён быў прысвечаны святу віна. І ўсіх прасілі напісаць пра вінаград, пра «ісціну ў віне» хаця б пару радкоў, каб акрамя праграмных вершаў прачытаць і прысвечаны гэтаму святу верш. На фестывалях, звычайна, чытаюцца вершы не пра каханне, а пра паэта і паэзію, прадстаўляюць патрыятычную лірыку. Натуральна, калі ты прадстаўляе сваю краіну, трэба выступіць з праграмнымі тэкстамі.

Фестываль у Балгарыі, напрыклад, быў прысвечаны славянскай пісьменнасці, Дню Кірылы і Мяфодзія, а гэта вялікае свята ў Балгарыі. І, канешне, там чыталіся тэксты аб ролі кірыліцы ў свеце, аб пісьменнасці, аб ролі слова і гэтак далей. Едучы на фестываль, ты ведаеш тэмы круглых сталоў і можаш падрыхтавацца да дыскусій, ведаеш, колькі ў цябе выступаў. У цябе ўкладаюцца немалыя грошы, часта дзяржаўныя, і арганізатары нясуць вялікую адказнасць за тое, што будзе адбывацца на фестывалі. Часам арганізатары просяць выслаць нейкія тэзісы, тэксты, з якімі ты будзеш выступаць. Я не магу сказаць, што гэта непрыемная цэнзура, бо цябе неяк абмяжоўваюць і ты не можаш выказаць нешта вялікае і светлае (усміхаецца). Гэта проста адэкватны рэгламент. А паколькі такое мерапрыемства звычайна праводзіцца раз на год, хочацца, каб усё прайшло добра і прыгожа.

Часта адбываюцца нейкія нефармальныя сустрэчы. Напрыклад, я праводзіла майстар-класы для маладых аўтараў пасля літаратурнага конкурса «Слова.doc», які мы ладзілі сумесна з фондам Філатава. У якасці майстроў запрашаліся вядомыя рускія пісьменнікі. І тады прыехаў «бацька Чабурашкі» Эдуард Успенскі. Калі адбывалася дыскусія пра ролю сучаснай літаратуры ў літаратурным працэсе, ён так стаміўся, што ўсё прасіў: «Можна, я прачытаю свой любімы верш з сучаснай паэзіі?» Філатаў насцярожана даў яму прачытаць гэты верш, бо ён даўно знаёмы з Успенскім і ведае, што той здольны на розныя правакацыі. І тут Успенскі ўстаў і прачытаў мацерны вершык, а пасля сказаў: «Хопіць гаварыць пра ролю сучаснай літаратуры, хадземце піць у нумары!» (*смяецца*).

Розныя вясёлыя нечаканыя рэчы могуць спакойна жыць на фестывалях. Да таго ж, туды часта прыязджаюць вельмі адукаваныя, цікавыя людзі. Пасля таго, як я паразмаўляла з Успенскім, я зразумела, што для таго, каб пісаць для дзяцей, трэба валодаць каласальным інтэлектам, мець выдатнае пачуццё гумару. А гэта нашмат складаней, чым пісаць кнігі для дарослых альбо выдаваць навуковыя артыкулы.



**А. П.** — *Я ведаю, што на фестывалях ты чытаеш не толькі свае тэксты, але і вершы беларускамоўных паэтаў, якія сама і перакладаеш...*

**Д. Б.** — Так, я сапраўды перакладаю, праўда, не вельмі шмат. У мяне самой ёсць некалькі вершаў, напісаных на беларускай мове, бо ў момант іх напісання так адчувалася і пісалася па-беларуску. Калі я прадстаўляю Беларусь адна і гучаць розныя славянскія мовы, канешне, мне хочацца, каб і беларуская мова прагучала і прагучала прыгожа. Таму я чытаю вершы на беларускай мове. Свае і чужыя. Але я заўважыла, што на многіх славянскіх паэтычных фестывалях, у якой краіне мы б ні збіраліся, гучыць руская мова. Гэта ўсе краіны былога Саюза, дзе рускую мову вучылі і ведаюць. Да таго ж, як ні круці, гэта вялікая культура, літаратура. Усе чытаюць творы Талстога, Чэхава, Дастаеўскага і хочуць пра іх гаварыць.

Мне як беларускаму творцу часта гавораць: мы вам, беларусам, вельмі зайздросцім, бо вы існуеце ў білінгвістычным полі, у вас дзве дзяржаўныя мовы: ваша нацыянальная беларуская і руская мова, на якой пісалі пісьменнікі сусветнага ўзроўню Чэхаў, Гогаль, Дастаўеўскі і Талстой. Бо Пушкін — паэт нацыянальны, а вышэйпералічаныя пісьменнікі — творцы сусветнага маштабу і далёка не кожная краіна можа пахваліцца такім наборам аўтараў. У любым тэатры свету мараць паставіць Чэхава, разгадаць ягоную загадку. Нядаўна ў Галівудзе экранізавалі «Ганну Карэніну» — усе імкнуцца разгадаць загадку рускай душы. Часам замежнікам незразумела, чаму ў нас існуюць канфлікты праз нашую білінгвістычную сітуацыю, бо ім здаецца, што нашыя культуры мусяць узбагачаць адна адну. Яны пытаюцца ў мяне, чаму у нас няма рамана на беларускай і рускай мовах —Талстой жа пісаў свой раман «Вайна і мір» на французскай і рускай мовах?.. Гэта ж вельмі цікава, можа атрымацца вельмі займальная гульня словаў, калі тэкст будзе напісаны на абедзьвух мовах — кажуць мне замежнікі, калі я расказваю пра нейкія канфлікты, якія ў нас час ад часу ўзнікаюць на моўнай глебе...

**А. П.** — *Паколькі ты сама закранула тэму канфліктаў на моўнай глебе, цікава даведацца, якое маеш меркаванне па заўжды актуальным пытанні рускамоўных пісьменнікаў Беларусі? Адны сцвярджаюць, што немагчыма быць беларускім пісьменнікам, калі ты пішаш па-руску, іншыя прымаюць і беларускамоўных, і рускамоўных...*

**Д. Б.**— Я ўвесь час чамусьці сыходжу ў псіхалогію. Тут, я думаю, пытанне звязана з зусім іншай праблемай. Ёсць мастакі-адзіночкі, а ёсць мастакі, якім абавязкова трэба далучацца да нейкая творчай групы, на кагосьці абапірацца. Калі ты па прыродзе сваёй мастак-адзіночка, табе наагул не істотна, на якой мове ты пішаш. Ты працуеш заўжды ў супрацьстаянні да ўсяго сусвету. Прычым гэты сусвет, якому ты супрацьстаіш, можа быць прадметам твайго даследвання, можа быць з табой у канфлікце, бо літаратура нараджаецца ў канфлікце. Драматургія — дык дакладна, бо менавіта канфлікт з'яўляецца асновай любой п'есы. І мастак-адзіночка, які піша на беларускай мове, усё адно не стане групавацца ні з кім... Яму гэта не трэба, бо ў яго свая пазіцыя і адчуванне сваёй унікальнасці. А ёсць пісьменнікі, якім важна быць у групе, каб іх калегі ўхвалялі і падтрымлівалі іх накірунак дзейнасці — тады яны добра сябе адчуваюць.

У нас жа насамрэч груповак нашмат больш, чым проста тыя, хто піша паруску, і па-беларуску. Ёсць тусоўка камерцыйных пісьменнікаў і пісьменнікаў арт-хаўзных, груба кажучы. Іншымі словамі, тыя, хто выдаецца вялікімі накладамі, і тыя, чые кнігі выходзяць сціплымі накладамі, альбо наогул не выходзяць. Стварэнне тэкста — гэта хвароба, якая павінна знайсці нейкае ўхваленне. Калі ў аўтара атрымліваецца наладзіць дыялог з выдавецтвам, яго кнігі выходзяць, на іх ён атрымлівае водгукі ад чытачоў, не істотна, станоўчыя ці адмоўныя, тады ў пісьменніка закрытыя ўсе ягоныя сацыяльныя патрэбы ў паспяховасці, грошах і гэтак далей. Такому чалавеку, па вялікім рахунку, групоўкі не вельмі-та і патрэбныя.

Як толькі гэты камерцыйны складнік у пісьменніка адпадае і ў яго не атрымліваецца камунікаваць з выдавецтвамі і даходзіць да чытачоў вялікімі накладамі, яму становіцца патрэбная цэхавая падтрымка. Тады ён бяжыць на нейкія паэтычныя сустрэчы, дзе збіраюцца такія ж, як ён. Людзі па сваёй прыродзе — істоты статкавыя, яны групуюцца паводле сваіх інтарэсаў. І пісьменнікам, у якіх не закрытыя гэтыя сацыяльныя патрэбы, трэба згуртавацца, каб абмеркаваць, чаму адных друкуюць, а яны ж такое «барахло» пішуць, а нас, такіх геніяльных, не публікуюць...

Але гэтыя два тыпы — каго выдаюць і каго не выдаюць — далёка не ўсё. Ёсць жа яшчэ пісьменнікі-функцыянеры, якія прыладзіліся ў розныя саюзы і сядзяць на распіле дзяржаўнага бюджэту альбо грантаў. І яны носяць паперкі з кабінета ў кабінет, засноўваюць нейкія кулуарныя прэміі і ўзнагароды, пра якія іншыя пісьменнікі, якія не ўваходзяць у гэтую касту, даведваюцца пасля выпадкова са СМІ. Такія прэміі не для шырокага карыстання, яны — для «сваіх». І гэта адбываецца не толькі ў Беларусі, так усюды. У нас у асноўным дзве крыніцы прыбытку — бюджэт і гранты — паколькі ў нас мала насельніцтва. А ў Расіі ёсць трэцяя форма жыравання — на графаманах. Пісьменнікі засноўваюць выдавецтвы, выдаюць графаманаў за іх уласны кошт, а на гэтыя грошы пасля выдаюць творы нейкай сваёй касты.

З боку можа падацца, што ў нас ёсць падзяленне толькі на рускамоўных і беларускамоўных аўтараў, але насамрэч такіх падзелаў нашмат больш...

**А. П.** — *Я цябе ведаю не першы год і магу сказаць, што ты пісьменнік-адзіночка. Я маю рацыю?*

**Д. Б.** — Я адзіночка ў прынцыпе па жыцці. Мне падабалася працаваць у калектыве: я працавала ў рэдакцыі, была дырэктарам па развіцці ў мэблевай кампаніі, у турыстычным бізнэсе працавала... Але мяне заўжды раздражняла, што палову працоўнага часу займала гарбата, курылкі, абмеркаванне вопраткі, новых палюбоўнікаў, карпаратыўных вечарынак. Я — зацыклены на сваіх

інтарэсах чалавек, таму для мяне нашмат больш прадуктыўна цалкам самастойна адказваць за праект, несці за яго адказнасць, бо адказнасці я не баюся. Так, я адзіночка. Я думаю, што магу пражыць без камунікацыі.

Я адзіночка яшчэ і таму, што прыйшла ў літаратуру, груба кажучы, дварнягай. У мяне матуля — хатняя гаспадыня, а бацька — ваенны, людзі з літаратурай ніяк не звязаныя. Ніхто не думаў, што я стану пісьменнікам, хаця матуля, сама таго не жадаючы, адыграла вялікую ролю ў маім пісьменніцкім станаўленні. Каб навучыць мяне чытаць, яна брала сшыткі, выразала з іх кніжачкі, я сачыняла гісторыі, якія, мабыць, прыдумляюць усе дзеці, матуля іх запісвала і на вокладцы пісала: Дзіяна Балыка. Казкі пра тое і пра тое. Такім чынам, першыя кнігі, якія я прачытала, былі мае ўласныя. У матулі ж не было імкнення зрабіць мяне пісьменнікам, яна проста хацела, каб я пайшла ў школу падрыхтаваным дзіцёнкам. Калі чытаць — дык уласныя кнігі, калі лічыць — то грошы... Кубікі я не лічыла (*смяецца*).

Паколькі я прыйшла ў літаратуру ніадкуль, то мне давялося праходзіць свой уласны шлях. Я нарабіла памылак, якія ўжо нельга выправіць, не расшаркалася перад кім трэба ў свой час (смяецца), не вытрымала этыкет першай прэм'ернай пастаноўкі, бо я проста не ведала, што пасля прэм'еры трэба толькі дзякаваць і казаць добрыя словы. Прыйшла з вуліцы і пачала таптацца па паркеце сваімі валёнкамі (смяецца).

**А. П. —** *Давай вернемся да літаратурных фестываляў. Падчас нефармальнай камунікацыі як успрымаюць беларускіх пісьменнікаў? Аб чым у цябе, як у беларускі, пытаюцца?*

**Д. Б.—** Я заўважыла, што калі ты прадстаўляеш літаратуру вялікай нацыі, ты маеш права на нейкія ўніверсальныя абагульненні. Ты можаш пісаць пра што заўгодна. А калі ты прадстаўнік малой нацыі, малой літаратуры, цябе паўсюль успрымаюць як этнаграфічнае дзіва. Табе нельга як прадстаўніку маленькай нацыі рабіць нейкія абагульненні. Любы твой твор успрымаецца скрозь прызму той дзяржавы, у якой ты жывеш.

Я вельмі добра зразумела гэта падчас пастаноўкі маёй п'есы «Белы анёл з чорнымі крыламі» ў Польшчы. Яна выклікала вялікі рэзананс у тэатральным свеце. І ўсе артыкулы пра пастаноўку звяліся да таго, што вельмі страшна, што ў тэксце аўтара не прагучалі такія словы, як «таталітарызм», «апошняя дыктатура Еўропы», бо аўтар нават не разумее, што такія кепскія сямейныя адносіны, такая слабая медыцына можа быць толькі ў Беларусі. Аўтар жа думае, што і ў іншых краінах прагрэсіўнай Еўропы магчымыя тыя жахі, якія ён апісаў. Паколькі я доўга займалася журналістыкай, то я імкнуся да максімальнай дакладнасці ў сваіх п'есах — усе яны маюць рэальных прататыпаў і рэальныя жыццёвыя гісторыі, пакладзеныя ў аснову. Гісторыя, якая стала асновай для «Анёла» адбывалася акурат не ў Беларусі, а ў Расіі. Але калі б я была прадстаўніком Расіі і распавяла, што дакументальная аснова п'есы — Екацярынбург, то для славянскіх краін гэтая гісторыя стала б універсальным аб-



агульненнем. А для Галівуда гэта была б чарговай спробай зразумець рускую душу (*смяецца*). Такім чынам, мае тэксты часта ўспрымаюцца пад прызмай, што я — прадстаўнік народа, які знаходзіцца пад прэсінгам.

**А. П.** — *Ужо стала штампам меркаванне, што беларускія пісьменнікі пішуць пра вайну ды пра вёску. На жаль, нават маладыя аўтары толькі пацвярджаюць гэтую сумную выснову. Якія тэмы, на твой погляд, варта было б уздымаць беларускім аўтарам?*

**Д. Б.** — Я думаю, што прадстаўніком якой бы літаратуры ты не з'яўляўся, пісаць трэба толькі пра тое, што ў цябе баліць. Пра свой асабісты боль — толькі такая літаратура можа быць шчырай. Для мяне гэтая тэма абазначаная, як гарачая кропка. У мяне ёсць п'еса з такой назвай — яна не пра вайну ў Чачні, яна пра мае болевыя кропкі. Я напісала розныя гісторыі на тыя тэмы, якія мяне асабіста хвалююць. Я ў прынцыпе вельмі шчыры чалавек. Мне часта кажуць: як ты не баішся такія тэмы выносіць на шырокую публіку, як гэта церпіць твой муж?.. Мы ж ведаем, што гэта ты сама такая грэшная, няшчасная, што ты ўсё пра сябе пішаш. Я не баюся ніякай аголенасці. Ні цялеснай, ні літаратурнай, ні душэўнай. Я не імкнуся падавацца лепшай, чым я ёсць. А калі чалавек баіцца раскрывацца, то ён пачынае пісаць пра вайну і вёску, пра якую ён нічога не ведае. І ты чытаеш гэта і адразу адчуваеш, што табе хлусяць. Я заўжды за праўду — і ў жыцці, і ў літаратуры.

**А. П.** — *Ці існуе для цябе паняцце дом? Калі так, то дзе гэтае месца?*

**Д. Б.** — Доўгі час гэта было самым істотным пытаннем для мяне. Доўга ў мяне не было дома, я адчувала сябе ў гасцях. Пакуль не выйшла замуж, адчувала сябе ў гасцях у сваіх бацькоў, пасля я вельмі доўга была ў гасцях у свайго мужа. Я разумела, што гэта не мая кватэра, гэта не мой дом. Калі я выйшла замуж, у маёй галаве не адбылося разумення, маўляў, калі я жонка, то кватэра мужа належыць і мне. У мяне адбываўся вельмі балючы і складаны пошук дома. Калі я пыталася пра гэта ў маіх знаёмых, якія мянялі мужоў, як пальчаткі, яны не разумелі, аб чым я. Бо яны паўсюль адчувалі сябе дома: і ў кватэры мужа, і на здымных кватэрах...

Пакуль я не пабудавала на ўласныя зробленыя грошы кватэру, якая аформленая на мяне і з'яўляецца маёй уласнасцю, у мяне адчуванне дома не было. Мне адзін псіхатэрапеўт гаварыў, што ў мяне няма паняцця дома, і нават калі я пабудую кватэру, нічога не зменіцца. Як толькі я пабудавала сваё жытло, маё «я» пашырылася на гэтыя 80 квадратных метраў, на тую плошчу, на якую я зарабіла грошы. І ад гэтага ў мяне з'явілася неверагодная псіхалагічная ўстойлівасць. Пасля гэтага я стала дома — паўсюль. Цяпер я дома на здымнай кватэры ў Рызе, цяпер я дома нават у матулі, дзе я доўга не была ў гасцях. Нешта змянілася пасля набыцця сваёй кватэры ў маёй галаве.

**А. П.** — *Што ты можаш пажадаць чытачам «Верасня»?*

**Д. Б.** — Калі вы пачынаеце пісаць, то ведайце, што гэта — хвароба. Калі можаце не пісаць — не пішыце. Перад тым, як дазволіць сабе нешта сказаць, як нехта зацікавіцца вамі і захоча ўзяць у вас інтэрв'ю, вы пройдзеце сем кругоў пекла, вас будуць біць камянямі. І чым вы ярчэй будзеце гарэць — тым больш вам дастанецца. Пісьменніцтва — гэта шлях, на якім вельмі складана манетызаваць свой талент. Нават калі ты «пан», а не «прапаў», то ўсё адно гэта не тыя грошы, якія маюць людзі, якія сядзяць на нафтавай трубе. Калі вы захварэлі на літаратуру, то вам давядзецца з гэтым жыць. А калі вы ў гэта толькі гуляецеся, то пішыце вершыкі на святы сваім блізкім людзям. Бо адзіныя, хто будуць шчыра радвацца вашай творчасці, нават калі яна графаманская, гэта вашы родныя. Стварайце свой сямейны альбом — гэта прыемны занятак, які, безумоўна, развівае. Трэба разумець, што на шляху да літаратурных зорак церняў нашмат больш... Гэта, як мне падаецца, адна з самых складаных з усіх публічных прафесій. Каб займацца літаратурай, трэба адчуваць у сабе вялікую сілу.

**Ася Паплаўская**



# Генадзь Лапацін

паэт, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.



# Песні не хлусяць...

***Вёска Вялікія Нямкі ў песнях і аповедах Веры Фёдараўны Кірушкінай.***

Песні памятаюць тое, пра што не памятаюць іх выканаўцы. Нават самыя старыя і дасведчаныя жыхары веткаўскай вёскі Вялікія Нямкі не ведаюць, што калісьці іх вёска называлася Нямковічы. А песня, якую ў гэтай вёсцы спявалі на Каляды памятае пра гэта.

*Го-го-го, каза!*
*Го-го-го, серая!*
*Ня йдзі ты туда,*
*пад тыя сёлы,*
*Пад тыя сёлы,*
*пад Нямковічы.*
*Там цябе ўб'юць,*
*Шкурачку здзіруць.*
*Тваю шкурачку —*
*Шчэ й на шубачку.*
*Твае капыткі —*
*Шчэ й на чабаткі.*
*А твой хвосцік —*
*Шчэ й на дудачку.*
*Дзе каза рогам —*
*Там жыта стогам.*
*Дзе каза нагой —*
*Там жыта капой.*
*Лезь, каза, на печ,*
*Пакажы чапец,*
*Лезь, каза, на пол,*
*Пакажы хахол.*

З гэтай песняй мяне пазнаёміла жыхарка Вялікіх Нямкоў Вера Фёдараўна Кірушкіна.

Спачатку падалося, што Нямковічы — проста спрошчаны жыхарамі вёскі для зручнасці ўжытку варыянт афіцыйнай назвы. А, на самой справе, атрымалася, што Нямковічы — спрадвечная назва Вялікіх Нямкоў. Як бясспрэчны факт гэта прыводзіцца ў энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі», а В.М. Цемушаў у кнізе «Гомельская земля в конце XV — первой половине XVI в. Территориальные трансформации в пограничном регионе» даказвае гэта праз развагі над геаграфічнымі мапамі.

Не вызначаючы часу, калі гэта адбылося, народная легенда ўзнаўляе падзеі, у сувязі з якімі Нямковічы сталі Вялікімі Нямкамі і адначасова набылі сабе сястру — вёску Малыя Нямкі. Паводле гэтай легенды, у пана, які валодаў Ня-

мковічамі нарадзіліся дзве дачкі. І абедзьве нямыя. Сёстры сварыліся паміж сабой з самага дзяцінства. Не памірыліся яны і калі сталі дарослымі. Гэта вельмі хвалявала і засмучала бацьку, і ён вырашаў іх раздзяліць. Для гэтага ён перавёз адну з іх на другі бераг Бесядзі, дзе для яе заснавалі вёску, якая цяпер носіць назву Малыя Нямкі. Другая сястра засталася ў вёсцы, якая вызначаецца як Вялікія Нямкі.

Думаю: «З якіх глыбінь часу дайшла да нас гэтая песня, калі ўлічваць, наколькі адметна ў Вялікіх Нямках ставяцца да продкаў?» І сапраўды, такой ступені павагі да сваіх «радзіцеляў», як у Вялікіх Нямках, я не сустракаў ні ў адной вёсцы. Гэта я зразумеў, вывучаючы абрад «Свяча» — знакавы для большасці вёсак Веткаўшчыны. Узнікае «Свяча» на тэрыторыі Беларусі, а таксама на Украіне (пераважна — левабярэжнае Палессе) ў XV ст. Да нашагу часу абрад захаваўся на Гомельшчыне, Міншчыне і Магілёўшчыне, Смаленшчыне і Браншчыне. Заўважу, што ў Вялікіх Нямках, як і большасці вёсак Гомельшчыны, «Свячой» называюць як абрад, так і яго рытуальныя прыналежнасці, увасобленыя ў абраз з выявай святога апекуна вёскі (у Вялікіх Нямках — гэта «Пакрова») і свечкі ў вялікім падсвечніку, апранутыя ў спецыяльна пашытае для іх адзенне.

Паводле абраду, «Свяча» год знаходзіцца ў адным доме, а потым у дзень памяці святога апекуна вёскі пераносяцца ў другі. Увечары напярэдадні пераносу ў старых гаспадароў адбываюцца набажэнства і сумесная вячэра. Назаўтра, пасля пераносу, ужо ў новым доме адбываецца набажэнства і «абед», на які таксама запрашаюццв ўсе ўдзельнікі абраду.

У Вялікіх Нямках на сумесную трапезу запрашаюцца памерлыя родзічы. На пытанне, якія стравы ўжываюцца на «Свячы», Вера Фёдараўна адказала: «Цёпленькая. Штоб пара была. Радзіцеляў гукаім: «Чэсныя радзіцелі, хадзіця, будзіця вячэраць!» Цёпленькія, таму што, паводле народных уяўленняў, нябожчыкі харчуюцца парай».

Агонь свечкі, прысвечаны святому апекуну вёскі — хрысціянізаваны рэлікт вогнішча і хатняга агменю, якія належалі асобнаму роду, сям'і. Нашы далёкія продкі, збіраючыся вакол гэтага вогнішча вырашалі свае самыя надзённыя і вызначальныя пытанні. Такім жа чынам «Свяча» збірае каля сябе вёску, вуліцу, асобны край вёскі. І ў Вялікіх Нямках гэта сапраўды вялікая рада з удзелам і тых, хто ўжо даўно пакінуў гэты свет, але нябачна знаходзіцца побач з жывымі...

Жыццё паўтараецца. Яно ставіць перад намі праблемы і пытанні, стварае сітуацыі, аналагічныя тым, што паўставалі перад нашымі продкамі. Продкі вучаць нас жыць на сваёй зямлі так, каб не нашкодзіць сабе і сваім блізкім.

Запаветы продкаў, іхнія погляды на жыццё, захаваліся ў старадаўніх песнях, прыкметах, легендах. Па ўяўленнях Веры Фёдараўны, ведаць іх, значыць, быць чалавекам адукаваным: «Мая матка грaзда граматная была. І малілась Богу грaзда, і ўсё знала, і ўсё мне расказыла. Я ад маткі панавучылась». Маці яе звалі Анюта Рыгораўна Цітушкіна.

Некаторымі са сваіх ведаў «прыкарённая нямкоўка» Вера Фёдараўна Кірушкіна падзялілася са мной. «Прыкарённая» — вызначэнне, якое зрабіла мая субяседніца. І растлумачыла: «І радзілася ў Німках, і ўзрасла ў Німках, восімсят чатыры гады пратаптала сцежачкі, аттрудзілась тут, атработала».

Ужо зразумеўшы, што Нямковічы ў песні зусім не выпадковасць, запытваю: «Нямковічы — гэта Нямкі?» — «Да. Нямкі. Эта ж у Песні. А хто яго зная, хто складаў эту песню. Па-мойму, Нямковічы — эта Нямкі».

***З аповедаў Веры Фёдараўны Кірушкінай***

# Календар

***

Ай, добры вечар, ай, добрым людзям.
Славен-весел, славен-весел наш мілы Божа! *(Прыпеў)*
Ай, у Пецькі, у пана стаіць на дварэ яблана.
Пад той абланай цясова карваць
На той карвації Божжая Маці.
Радзіла яна Божжая дзіця.
Назвалі яго Ісусам Хрыстом,
Ісусам Хрыстом,
Святым Раждзяством.

***

Дзелаюць жа казу. Ніпраўдзіваю казу вадзілі. А хлапца якога-нібудзь надзенуць. Шубку вывірнуць валоссем наверх. Маску надзенуць ціпа казы. Прадаюць маскі. І каза тая ідзець. Тады рогі здзелаюць якія-нібудзь, дугу здзелаюць, дугу прыбяруць. І ходзюць з казой. І завецца «каза», «на казу пойдзім».

***[Раней масак не было...]***

Вырязалі із бумагі, з кардоны. І выряжуць. І вочы здзелаюць. І тая самая маска.

***[Рожкі з чаго рабілі?]***

Былі рогі. Кароў мы дзяржалі і коз. Рогі пазбіваюць. А хлапцы паназбіраваюць. Праўдзівыя рогі. Казіныя. Ці кароўскія.

***

Як спаць лажацца дзеўкі, мы ж на хвацеру хадзілі дзіўчатамі, дак хазяйка нас возьмя да замкне замком дзеўка к дзеўцы. А тады ўжо: «Што ты бачыла

ва сне?» — пытая. Мы ўжо расказыім, што бачылі. «А-а-а, дак ты скора замуж пойдзіш. Найдзіцца табе».

***

***[Вы сказалі: «Хазяйка вас замком замыкала». ]***

Што хату... Етым замком. Напрымер, мы ўдзвёх ляжым с падругай. У тыя адзяванні, і ў тыя. Яна возьмя у етыя дзірачкі замкне замок. І варажба. Плацці двом замкне. І каго ўбачыш ува сне. Штоб разамкнуў гульню вашу.

***[А калі багата дзевак, як замыкалі?***]

Нашто ім багата замыкаць. Дзвёх замкнуць. Можа, чытырёх.

У старыну так дзелалі.

***

***[Як выбіралі хату, дзе гуляць?]***

Выбіралі хвацеры мы, наймалі на цэлаю зіму. Вот, напрымер бы ў нас: дзесяць дзевачак, восем дзевачак. І бяром хату... ну, вечарынкі. Гармошкі прыходжаюць, граюць. І работалі мы. Я сама хадзіла на хвацеру. Счытаіцца «на хвацеру ходзім». Прялі мы, візалі сеткі, вышывалі. К лампі. Лампу павесім. А тады кружком дзеўкі работалі ўвечары. Лампа такая гарашчая, кірасінка. Павесім на дрот. Так прясць харашо была, а вышываць. Ета ж нада зоркасць... відна... Там жа хрэсцікам вышываць гаразда трудна была. А тады гармонь прыдзя, пакідаім усё, і танцы. Да часу, да двох танцуім.

***[Як выбіралі хату?]***

Былі ж хазяйкі, адна жыла. Адна жэншчына жыве, а хата бальшая. Ей скушна, яна маладзёж пусця і весяліцца з дзеўкамы тымы.

***

На Каляды кладуць на Кут сена на дзве нядзелі: ад Раждзяства, ад первае Куцці, первая Куцця як станя, я сама ў мех натаптываю сена і кладу на Кут, і што б сена тоя ліжала да паследнія Куцці, да трэцція. Ета ад ската тожа очэнь памагая. І ета сена, як тры Куцці атляжыць, забіраюць на Хряшчэнне і скату кладуць, усяму скату. І ў гнёзды нада класць ета сена, як содзіш гусей ці вутак, ці курей — у гнёзды нада класць ета сена, штоб вывадак харошы быў.

***

У нас напроціў, як мы жывом, вулка к вадзе. Тут была ўсігда Ірдань. З цэрквы прыходжылі мір людзей. Аж лёд тряшчыць. Ішлі з пратасэямы, з крыстамы. Ішлі людзі на эту Ірдань, на ваду. І свяцілі тут у пельцы ваду. Мы тут бралі эту ваду. І ціпер ходзяць. Хлопцы прасякіюць пельку на тым месці, дзе Ірдань была. І бяруць ваду.

***

Пад Раздво, раздвенскія празнікі, Піліпаўка канчаіцца, начынаіцца Мясаед, Раждзяство, Новы год, Хряшчэнне — дзве нядзелі, дак у нас ніхто нічога ні дзелалі, світкавалі. Ета для ската. Святыя вечары зваліся. Ні прялі, ні такога грубога нічога ні дзелалі. Усё новая штоб работалі. Ні шылі, ні зашывалі плахога. І бірэмінныя ходзюць жэншыны, дак нільзя на етыя нядзелі, еты святыя дзве нядзелі, нічога ні дзелалі, штоб было ўсё харашо ў дварэ і са скатом, і з людзямы. Дак ета спраўлялі мы ўсягда святыя вечары.

І ў Пост. У Пост тожа нільзя абы чаго дзелаць. Такія ё дні святыя. Во Благавешчанне асобенна. Нічоганька ні дзелаюць. Як Паска, Благавешчання. Адзін дзень святкуюць, но сільны-сільны Благавешчання.



*В. Ф. Кірушкіна*

***

Нядзеля масліная, дак нічога ні дзелалі ад ската, ні прялі, ні шылі нічога, штоб старая, новая можна шыць, а старая, паношаная, нільзя. Эта ад ската. Штоб карова цялілась харашо.

***

Ад Стрэчання. Стрэчанне пітнацатага была, дак гукаюць вясну у нас, устрячаюць вясну. Так, маладзёж, мы ж дзіўчатамі сабяромся к вадзе, к Бесідзі на гару, к кладбішчу туды, маладыя дзеўкі і хлопцы. Дзеўкі пяюць, хлопцы танцуюць. І гуляім цэлы вечар.

***

Вісна-вісна вясёлая,
Прынясі к нам яечка дзябёлая...

***

На морі вуткі купаліся,
На беряжочку сушыліся,
Па сілязеньку журыліся.
Сілязень кажа: «Ты, вутачка,
Я палячу, а ты тутачка».

***

Пасею рожу за гарою,
Нашлю дожчычка стараною.
Стараной дожчык, стараной,
На маю рожу зялёнаю,
Штоб мая рожа ўзыходжыла,
Чырвоным цветам расцвітала,
Зялёны садзік украшала.
Там паміж рожы дзевачка ходзя,
Свайго хлопчычка за ручку водзя.
Атарве цвяточык, за шапачку торня яму.
А ён сарве цвяточык, ёй за складачку.

***

Вербу пасвячонаю ад вербнага Скрысення кладуць, вербу ў каробкі, штоб гусіняткі былі, штоб была чым ганяць, каго ганяць.

***

Сонца гуляя на Паску. Яно ж круглая — сонца. А то разбігаіцца ва ўсе бакі, разнымы такімы кацелачкамы разбігаіцца. «Гуляя сонца, — гаварылі, — на Паску». А тады зноў у места ўсё сойдзіцца. І зноў круглая, як і нада. А то рыссыпаіцца сонца. Ета расказыюць, хто бачыў. А я ні разу ні бачыла такова.

***

На Ушэсце ў жыта ходзяць, правяряюць паля. Якія ўсходы, якоя жыта. А жыта, як абычна, на Ушэсце красуіцца, цвіціць. Тожы гулянкі. Такія гулянкі! З гармонямі, маладзёж. Весяліліс так, гулялі, красіва было. І цэлінькі дзень. Дак як пагода, ні атарвацца! Травы ж зялёныя, цвіцець усё! Красата! І цвяты пазацвітаяць, і жыта цвіцець, дак душа радавалась. А ціперь ужэ етага німа, што тады было.

***

Стрялу у нас не. Ета ў тым баку, за Малымі Німкамы «Стрялу» водзюць. І песьні не было «Пушчу стрялу да па ўсём сялу...» Мы такія ні пелі песьні. І дзе які горад, там такі і норад. У тым баку пяюць: у Перялёўцы, у Малых Нямках.



***

Венікі да Пітра вяжуць, штоб яны не абсыпаліся. Яны крэпка дзяржацца шчэ. Послі Пітра ліст слабея. Асыпаюцца венікі. Як парысся, дак ліцяць лісцікі. А да Пітра венікі вяжуць.

***

Мы работалі, пацанамы былі, кала цэрквы, дак як Троіца, дак нада ж, во, явар кладуць, дак мы, ужо, пойдзім з большым братам, брат шчэ ў міне быў з дваццаць сёмага года, пойдзім у явара на луг, па вадзе, бярэм, явара етага панарываім, прынясом у цэрькву, па палу сыпалі. Гаворяць, штоб не балелі ногі ў людзей, рукі, дак сыпалі еты явар.

***

У нас, тама, як магазін стаіць, праход к ряцэ. Дак там у нас Купалля ўсягда атмячаюць. Сільна назвозжаюць каткоў з машын, груды панастаўліваюць у тры ряды. А тады запаліваяць тыя каткі. І маладзёж, і танцуюць, і выпіваюць. І цэлінькаю ноч гуляюць.

***[Раней не было каткоў.]***

Палілі дровы. Нагатуюць дроў. Там жа кала саду зараснік ё кустоў. Хлапцы панацягваюць. Палілі ўсё раўно. А ціпер етыя каткі. Як сталі машыны. Так каткі гаразда палюць.

На Купалля варожуць. Вянкі пускаюць. Вянкі паплятуць дзеўкі, шыбаюць. Як адзін к аднаму ўстрячаюцца. Пра замуж... Калі мне замуж іціць, штоб паказалі вянкі. Варожуць на вянкі на Купалля.

***

На Спаса яблакі свецяць. У каго памерлі малыя дзеці, дак нільзя мамкам тым яблак есць... А чаго нільзя... Гаворяць: «На тым свеці дзіцям ні дадуць. Усім будуць дзеткам, каторыя маткі ні елі яблак, будуць даваць. А этым дзеткам не дадуць. Гаворяць: «Вашы маткі паелі вашы яблакі». Дак мамкі, у каторых малыя дзеткі папамерлі, ні ядуць. Каторыя веруюць Богу. Да Спаса. А Спас пройдзя, тады ядуць.

***

На Троіцу «май»... Чаго ж, кажуць, абторкаюць... Як Ісуса Хрыста хувалі, як ён нарадзіўсь, тры тысячы ці трыста тысяч младзенцаў пагубілі. Хацелі яго ўнічтожыць... Дак ён уцікаў на этым коніку ехаў, такі малы конік... Ослік... На ослику ехаў... Дак людзі шыбалі яму этыя веткі... Дарогу ўказывалі, куды ехаць у Русалім. Дарожку яму паказалі, веткі этыя кідалі. Дак эта і торкаюць веткі на Троіцу. Эты рогаль кладуць — явар. Я сама ўсігда явар эты па ўсёй

хаці параскідаю. І ўсю нядзелю ляжыць. Іх у ваду кідаюць... І ўмывайся, і рукі, і ногі. Эта, кажуць, помашч.

## Первы зажын

Жэншчын такіх адбіралі, ужо пажылых старух, каторыя ні пілі, ні балыліся. Такіх харошых жэншчын падбіралі штукі тры-чатыры з сірпамы ўжо дзелаць зажынкі. Пойдзяць, па снапу, можа, па два нажнуць, а тады назаўтря брыгада ідзець цэлая жаць.

## Барада

Бараду дзелалі. Так жыта стаіць, а так возьмуць накрыж, і завязыяць тут вузлом. «Барада» завецца. Як ужо канчаюць жаць жыта. А тады кладуць скібачку хлеба з солляй. Як маячок стаіць. Ета, гаворяць, гасцініц жніву. Штоб і ён без гасцінца ня быў. Бараду так дзелалі.

***

Ніпагодлівая сёдні пагодачка,
Ніпагодліва была,
А ліні ж, дожчык, і нагонь хмарку
На чужую старану.
А на нашу староначку
Пашлі Бог пагодачку.
А дожч праганяй на чужую староначку.

***

Ні давала мне мая мамачка
А ў полазі паляжаць,
Пасылала міне мая мамачка
Яравоя жыта жаць.
Як пашла ж я жаці,
Як лігла я спаці,
І ўсей дзянёк праспала.
Ні дайду я да новых варот,
Я і павалілася.
— Ой, рятуй жа, рятуй, дружок мілінькі,
Я і ўтамілася.

[А яна ж ні жала, а ліжала у абабку. Біремінная была. А дамоў прышла і пачала кала двара печь. Роды падышлі. Дак: «Ой, рятуй жа, рятуй, дружок мілінькі. Я і ўтамілася...»]



# Святыя мучанікі. І святы вялікія і маленькія

***

Я ад людзей чула, што былі бітвы бальшыя ў старая ўрэмя, ніванасімая кровапраліція, дак Пакравіцільніца — Бажжая Маціць Пакравіцільніца абкрыла сваім амафорам усё ваеннае вастанія. Як абкрыла амафорам сваім, дак вайна замірылася.

***

Пакрыў яе. І кажуць у Пісаніі, што гаразна была неізбежная вайна. Такая вайна была. Ета да рэвалюцыі... Што падалі людзі ўсякія: і мірныя жыцілі, і ваенныя... Ніяк не было ўнаць. Дак трэбалі Пакравіцільніцу эту. Дак неба растарылася, эта пішыцца ў Пісаніі, іна абгарнула сваім этым пакровам. Як толькі абгарнула этым пакровам сваім, усё сціхла, усё ўспакоілась. І вайна ўспакоілась. Іе і завуць — Пакравіцільніца.

***

Панціліймон ета тож такі мучанік, як Ісус Хрыстос. Яго каталі, распіналі і ў калёсся закладалі жывога, калёсся тоя ганялі. Вялікі мучанік. І ён прайшоў у святыя. Эта святы Божжы ўрач. Урач ён завецца Панціліймоній еты. Урач нябёс.

***

Дзевушку змей паймаў, на малюнку дзевушка ляжыць, а іна гаразна плакала, прасілася, штоб ён ні ўбіваў іе. А ён нічога. І нарваўся еты Юрый-Ягорый с кап'ём. І закалоў змея тога. І спас дзеўку. Ета спаісіцель тож.

***

Мікалай Чудатворыц — эта ўсіх рэк, акіянаў рукавадзіціль, марэй. Бальшы рукавадзіціль. Расказываюць, што ён па етаму дзелу бальшы начальнік. І спасая ўсіх людзей на марях. Ета, гаворяць, бальшы спасіціль.

## Сон Божжай Мацеры

На гарэ, на Сіяні
Пад трёмы абразамі
Там спала, начавала Прячыстая Божжая Маць.
Прышоў к ёй Ісус Хрыстос.

На калені ўпадаў,
Сваю маць пабуждаў:
«Маць мая радзімая,
Маць мая шчасцімая,
Ці ты спіш, ці ты так ліжыш?»
А іна атвячая:
«Сынка мая татапільная,
На ўвесь свет азіратальная,
Я ні сплю, я так ляжу,
Пра цібе, сынок, сон бачу.
Кажыцца цібе ўзялі,
На крэст ручкі твае распіналі,
Гарючую кроў пралівалі
І гваздзём твае ножачкі прыбівалі».

*Я столькі знаю. Можа, ён і далей ё. А я столькі знаю «Сон Божжай Мацеры». Я з дзецтва вывучыла. І знаю столькі.*

***

Запрошлы год, дак я ні знаю, ці ета — праўда, ці... Адна баба расказывала, што прыздалася Божжая Мацерь, ета па той вуліцы, пад самаю Антонаўку, дак гаворя: перыд дваром раскрылася Божжая Мацерь. Но нідоўга, гаворя, пабыла, мінут пяць. Што-та і казала яна, но ні запомнілі. І ісчэзла, дзе і дзелась.

***

І малыя святы, Андрэйцы ё, Сава, Варвара — нічога такога ні делалі: ці лён абчысалі, ці абдзіралі, ці прялі. Етага ні дзелалі. Тожа, гаворюць, нільзя етага ад ската, у такія святы, штоб скот здаровы быў.

***

Як распісываліся яны, пад ногі слалі на росьпісі рушнік. На рушніку стаялі. У іх жа німа, дак дачка сказала: «Вазьмі. На Багоў сваіх павесіш. Ніхай вісіць». Ета ж Багі і ё.

## З клопатаў пра дожч

Ё крыніца. Як німа дажчу, лета сухоя, дак хадзілі к крыніцы. Но яна очэнь далёка, туды, у полі ў нас крыніца тая. Дак к той крыніцы хадзілі. Жэншчыны сабіраліся і хадзілі, і малілісь Богу. У нас такая жэншчына, яна старая дзева, яна і ціперь ішчэ жыве, ёй ужэ восемьсят чатыры гады. Яна очэнь моліцца, харaніла ўсіх, хто памрэ. Тада ж ні цэрькваў ні было, дак яна ўсё дзелала, малілась на пахаранах. Яна пяе сільна красіва. І кнігі ў іе ё царькоўныя з Евангелем. Яна хадзіла на крыніцу, служыла. І, вот, глядзіця, памолюцца, прыдуць — і дожч пойдзя. Наверна ж, ё што-та на свеці.



## З клопатаў пра жывёлу

***

Ціперь, карову тожа, як ацеліцца карова, ішчэ цялёначак там, у пуні, дак тожа макам абсыпаюць. Ета старыя бабы учылі: «Як ацеліцца, дак бяры мак і абсыпай кароўку, тры разы па карові: «Як етага маку змяе-чарадэйніцы ў гнаі ні падабраць (тожа слова нада), так етае скаціны ні няць і малакака ні атабраць». Пасыпаюць мачком. Ета такія нашы спасенія хазяйскія.

***

Мак сыплюць, як содзюць курак ці гусак, мак пасыпаіш па яйцах, як пакладзеш яйцы: «Сколькі етых макавых зірнятак, штоб столькі было цыплінятак». Ета словам нада.

## Як выганялі кароўку на пашу

Выганяю я сваю кароўку на выган, здаю Госпаду Богу на сахраннасць.
Храні, Госпадзі, маю кароўку і вечырам, і утрам, і днём. Яна замалёвана і зарысована, і плашчаніцай Гасподняй абкрыта.

## Ад скідкі

**Загавор скаціны ад скідышы**

*Загаварываяць скаціну, штоб ні скінула. Як пагуляя карова, штоб ні скінула загаварыяць.*

Госпаду памалюся, Прячыстай Мацеры пакланюся.
Первым разам, ляцеў Ісус Хрыстос, нёс дзевіць ключоў і дзевіць замкоў, і сеў у пуні на вароты.
І залатыя замкі замкніціся, крутыя горы закаціціся, і да ўрэмя, да пары, да слышнага часа.
Прыдзя слышны час, залатыя замкі разамкніціся, крутыя горы разайдзіціся і ўсе ўзоры младзенца на выхад дарогу ўкажыця.

# Бабкі старыя калісь шэпталі...

***

Бабкі старыя калісь шэпталі. Калісь і ў міне дзеціраслі, дак пазавеш калі. Вот так спужаіцца дзіцёнак, ні спіць, крычыць, дак пазавеш: «Спасіця хадзіця!»

Етая бабка адна гаварыла, а я запісыла. Кажа: «Імей сваю бумажку, дак ты пачытаіш кала дзіцёнка, і палуччае.

***

Госпаду Богу памалюся, Прячыстай Божжай Мацеры пакланюся. Прызываю Госпада Бога на помашч, Прячыстаю Божжаю Мацерь на радасць.

Гаварю, выгаварыю пужанні, ліканні ў Сярожы (як завуць дзіцёнка) з белага ліца, з буйная галавы, з чорных броў, з рыцівага серца, і з усяго пажылля.

Як Ісус у залатым крэслі, стань усё дзіцёнку на месці.

## Ета дзеткам малінькім

*(Пальчыкі перабіраць)*

Сарока-варона на прыпічку сядзела,
Дзеткам кашу варыла.
Усім роўна дзяліла.
Етаму дала, етаму дала,
Етаму дала, а етаму ні дала. (Маленькаму)
Пальчык-мальчык, скок на палічку,
Стрэў маладзічку.
Маладзічка ні з дабра,
Іму штонікі дала.

## Як калышаць

Коў-коў ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чуравічкі
Малы-невялічкі.

## Як атучаюць дзіцёнка ад грудзі

Шла каза рагатая (ішчэ і пальцамы),
Шла каза багатая
Шла каза з поля,
Хто цыцу сасе, таго сколя.

## З вясельнага

Як свадзьба ўжэ заканчываіцца, ужэ трэцці дзень гуляюць свадзьбу, у каго два дні. А тады сабіраюцца ... Ета ўжо канец свадзьбы... Бяруць курыцу, а калі і дзве... Длінныя-длінныя цапкі падзелаюць, папрывязываюць курыцу жывую і нясуць ад маладыя к маладому. К маладой сабіраюцца, тады застолле пабудзя, ловяць курэй, прывязываюць на длінны цапок. Застолля пабудзя, ловяць курей етых, прывязываюць на длінны цапок, як боўт, бальшы такі, і нясуць па вуліцы. Жэншчыны танцуюць, пяюць пад гармонь, і курыцу тую тросяць. Прыходжыюць да маладога, курыцу тую развязыюць с цапкоў і пряма на вуліцы ўбіваюць іе, скубуць і варюць суп на дарозі, кала двара тога. І ета канец свадзьбе.



## Пра незвычайнае

У нас во ета вулка, што к Бесідзі, на тым баку, дак тут ўсігда была Ірдань на Хряшчэння. У нас жа цэрьква гаразда, як магазін, дак на тый бок, церьква гаразда красівая стаяла, і ўсігда была Ірдань, хадзілі маліцца Богу. Дак ета ні гаразда даўно было, можа, гадоў дзесіць прайшло. Пагнала я гусей ранінька утрам. І гусі маі паплылі на тэй бок, дзе касілі ў саўхоз сена, не пускалі гусей. Дак я села ў лодку, гусі перыплылі, дак я паехала за гусямі. Уз'ехала пасярёд Бесідзі, пасярёд как раз, як загулі калёсы, лігкачаць калёсы.... І гляджу, дак звозчык сядзіць. Сядзіць... Тройка коней бяжыць, і ён у павозцы такой красівай сядзіць, вожкамі ўпраўляя. Я ж бачу сваімі вачамы ета. А я думала, ета сторaж едзя, тый, што ганяя гусей. Сцярёг, штоб не пускалі гусей. Я тады так расцірялася, думаю: «Што ж мне ціперь дзелаць? У які бок мне ехаць? Назад ехаць сюды ці туды ехаць на тэй бок? Ну, — думаю,— паеду ўжо куды я ехала, туды і паеду», Переяехала на ту сторану, вылізла на берег, думаю: «Дай-ка ж я пагляжу: і дзе ж тая тройка коняў. Ці я яе ўбачу, ці не». Вылізла на берег, і я ў тэй бок пагляджу, я і ў тэй: нідзе нікаво, дажэ камар нідзе ні літая. І дзе тая тройка дзелась? Хто іх зная. Я багата каму расказывала, дак гаворяць: «Эта табе прыздалось так. Можа, ета і ў самам дзелі, толькі мы ні далжы етага бачыць. Ета ж арданнае места. Богу малілісь усігда на етым месці. Вот яно і прыздалось. Вот такі ў кубанкі, такая дзюбка, шапка з дзюбкай, як калісь дапрызыўнікі хадзілі. Ваенная адзёжа на ём. Ета ж я ўгледзілась. Ета я сваімі вачамы бачыла.



# Ларыса Раманава

**паэтка, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі: «Аддай асалоду Богу», «Птушкі і рыбы» і «Святая вада». Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Покаць на Чачэршчыне. Жыве ў Ветцы на Гомельшчыне.**



# «Няма нічога ў цябе, чалавек, акром душы»...

*У адной са сваіх малітваў Кірыла Тураўскі кажа: «Таму што ўся праўда чалавечая быццам палатно з павуціны, якое лёгка рвецца і гіне».*

Чалавечаму розуму недаступныя таямніцы Бога. Мноства цудаў (у людскім разуменні) адбываецца дзякуючы ПРАЦЫ ДУШЫ — малітвам веруючых людзей, а таксама — малітвам святых пакутнікаў, «блажэнных» (бажавоўкаў) — людзей не ад гэтага свету. Дзякуючы іх малітвам матэрыяльныя рэчы могуць пераўтварацца і асвячацца. Многія святыя, да прыкладу, прападобныя Сергій Раданежскі, Серафім Сароўскі асвячалі калодзежы, крыніцы. І ў той час, і цяпер веруючыя п'юць ваду з іх, каб былі здаровымі душа і цела.

У наш час большасць людзей найбольш клапоціцца пра свой знешні выгляд, дабрабыт і камфорт, чаго не скажаш пра ўнутраны свет. Між тым, душа (як і цела) павінна быць чыстай і прыгожай!!! Не «чорнай», як аднойчы было трапна заўважана.

З вуснаў многіх сучаснікаў і сучасніц (асабліва ў падлеткаў, маладых хлопцаў і дзяўчат) непамерна часта зрываюцца брыдкія словы — найпершы паказчык «бруднай», «непамытай» душы. Іх можна пачуць дзе заўгодна, нават у дзіцячых размовах у садку, вядома ж, і ў сем'ях. Пачынаючы асвойваць свет дарослых, дзеці, якіх па традыцыі называем анёламі, ужо ў 3-4 гады (!) ўжываюць ненарматыўную лексіку.Часам бабулі вучаць сваіх родных унукаў, унучак вымаўленню нецэнзурных словаў — дзеля сваёй пацехі. Вырастае новае пакаленне. Ці лепшае яно, чым папярэдняе?.. Скрозь і побач у нашым не то жыцці, не то — жывёльным, ці раслінным існаванні (даволі часта бачыш людзей, якія «даследуюць» сметнікі на цэнтральных веткаўскіх вуліцах) — паныласць, азлабленне, варожасць і недавер да блізкіх і знаёмых, абыякавасць да сябе, сваіх дзяцей, п'янства, фізічныя і псіхічныя хваробы. Усё гэта — вынікі недахопу ўвагі і любові да сваёй адзіна-адзінай, вечнай, нятленнай душы. І — не толькі да сваёй... Вядома, як заўсёды, наш час багаты на «падзьвіжнікаў» (тых, хто стварае подзвіг). Як заўсёды, свет трымаецца на дабрыні, любові, праўдзе і працы, павазе да чалавека, без якіх не можа абысціся сапраўдны чалавек.

Выкарыстанне ненарматыўнай лексікі ў асяроддзі моладзі ў сённяшні час з'яўляецца адным з першых паказчыкаў дарослацсі, спосабам вылучыцца, «паказаць сябе». Гэта лічыцца нормай. Відаць, у свой час такім людзям ніхто не распавядаў, што мова — гэта адзенне душы, пры дапамозе мовы душа пераклікаецца з Сусветам.

А ці ёсць душа ўвогуле? Што яна сабой уяўляе? Адказам на гэтыя пытанні — у сусветнай філасофіі, культуралогіі, міфалогіі, культуры, фальклоры,

літататуры народаў свету (ды іншых сферах чалавечай дзейнасці) прысвечана мноства даследванняў, назіранняў, выказванняў. Так, яшчэ да ўзнікнення хрысціянства чалавек надзвычайных здольнасцей, старажытнагрэчаскі філосаф, матэматык Піфагор лічыў наяўнасць душы галоўным, што вызначае чалавека: «Няма нічога ў цябе, чалавек, акром душы».

У беларускай традыцыі сямейнага выхавання дзецям з малых гадоў прывівалася цікавасць і любоў да родных словаў і адначасова — адмоўнае стаўленне да кепскіх, павага да бацькоў, блізкіх, знаёмых. Бывалі выпадкі, калі ў вясковых сем'ях прынята было называць сваіх бацькоў на «Вы». Такая з'ява назіралася яшчэ ў 1960-70-я гады.

На Гомельшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне ў вышэйназваныя гады і пазней, таксама — у нашы дні, ёсць пэўныя патрабаванні да людзей, у чыіх дамах знаходзіцца праваслаўная аброчная ікона-»Свяча», і да тых веруючых, хто прыходзіць да яе абракнуцца. Як і ў царкве, у доме каля «Свячы» нельга сварыцца, брыдкасловіць. Павага да сваіх блізкіх, да саміх сябе (не кажучы ўжо пра ўшанаванне абраза) выяўляецца ў наступных дзеяннях пераносу «Свячы»: «Хазяйкі — «свацьцейкі» гавораць адна на адну. Тая — адтуль на каленках, тая — адтуль, пахрысьцяцца, паклоны аддадуць, цалуюцца. Мужыкі на каленках стаяць. За руку паздароўваюцца... Тады ж мужчына не ругаіцца, есьлі «Сьвяча» ў домі. Ругацца — ета ж бальшы грэх! Перад іконай, як прыняць у двор, тожа, як і маладыя, хлеб аддаюць з аднаго двара ў другі. «Сьвяча» — ці народам, ці Богам суджана»... (*Паводле Настассі Іванаўны Грыньковай, 1930-2004 гг., пас. Ляда Веткаўскага раёна, зап. Л.Д. Раманава у 2000 г.*).

Надта цікавым і патрэбным для сучаснікаў уяўляецца знаёмства з уяўленнямі аб душы (язычніцкімі, хрысціянскімі) ў мясцовых носьбітаў культуры (друкуюцца ніжэй). Мы размаўлялі найбольш з жанчынамі сталага ўзросту, якія маюць жыццёвы досвед, — жыхаркамі вёсак Веткаўскага, Чачэрскага, Гомельскага, Добрушскага раёнаў Гомельскай вобласці.

Згадайма: «... Таму што ўся праўда чалавечая — быццам палатно з павуціны, якое лёгка рвецца і гіне»... Быццам рэха на гэыя словы з малітвы Кірылы Тураўскага гучыць аповед пра чалавека, які прасіўся «работнікам» у рай, дзе сэнс «праўды чалавечай» — працы зямной — нішто ў параўнанні з душой чалавека «нігрэшнага».

## У Царстве Нябесным

Уміраюць людзі; во як толькі абярнецца на той свет, а душа яго жывець. І ні канца, ні краю ні будзя яго душэ. І што пападзе? Во, як гаварылі мне. У пост расказвалі. Папаўся хлопец у Царства Нябеснае. Саснілася яму Царства. І што вы думаеце? Ён ува сне пабачыў — так харашо там, што нійдзе на свеці так німа, як у том свеці. Ну, ён і гавора на іх у Царстве: «Вазьміце міне сюды ў работнікі». Прасіўся ў іх. Дужа там харашо. А яны яму сказалі: «Нам сюды работнікі не нада. Нам толькі нада, людзі штоб ні грэшныя.» — «Ну, ні возьміця міне ў работнікі, дак вазьміце міне хоць за стоража. Штоб я хоць сторажам быў, так хачу сюды». Яны так падумалі, і кажуць: «За стоража, мажа, і возьмім».

Ну, хлопец праснуўся і расказвае: «Я пабыў у Царстве Нябесным».

І ён тады, прайшло тры дні яму... І захварэў апендыцытам цераз тры дні. Здзелалі аперацыю, ён і памёр. І памёр, дак сторож указаў яму ета места — на самых варотах вырылі яму ямку.

Во як Царства... А людзі ціпер ніхто не веруць, ніхто не веруць. А душа ж толькі во абернецца адсюль на Той Свет. Ета макаў цвет — Свет, белы Свет — макаў цвет. Вецер во дыхнуў — так і німа. Вецер дыхнуў — і душа абярнулася, а труп ляжыць недзвіжыма. Ета грэшнае цела. А душа пайшла за грахі наверх (*Паводле Гарбузовай Параскевы Аляксееўны, 1912-2011 гг., зап. у в. Бабічы Чачэрскага раёна Л.Д. Раманава ў 1999 г.*).

## Калі душу адпускаюць хоць з пекла, хоць з раю?

Ёсць душа ў чалавека... Вот так ляжу адна ў хаці... Колькі разоў так і ноччы — уздыхнеш. Думаеш, наверна, ёсць душа ў чалавека. А хто гавора — ета на серца кроў капае, так уздыхаеш. Ва ўсіх душа ёсць....

Калі душу адпускаюць хоць з пекла, хоць з раю? Многа бывае случаяў, што душа, як ідзе сорак дней, тут ходзя. Будзеш ляжаць, і так вот, будуць зваць — не адгукайся. Мне разоў сколька было: «Насць, а, Насць!» — матка звала. А я маўчу. Бачыла: як-та Пятрок гукаў. Я думаю — не буду адгукацца...

Сорак дней душа пасля смерці ходзя, і дома, і паўсюль. І дзьверы, бывае, самі адкрываюцца. Пасля сарака дней яна атвячае за грахі. А ў паследні, саракавы дзень, як атпраўляюць, яна ўжо ў паследні дзень бача сваіх. У царкве далжна быць уся свая радня. Сваю скацерку ў царкву пад воздух кладзеш. Свяшчэньнік рэжа хлеб, выразая з хлеба хрэсцік і ложа на скацерку. І сам бярэцца за краёк, і ўся радня — бяруцца, і паднімая: разоў пяць, шэсць ці дзесяць, пакуль чытая малітву. Еты хлеб, клінок, дае табе. Прыходзіш з цэрквы, сталоў па шэсць было, сваіх, чужых пазавуць. Еты хлеб крышыш у канун, усім даеш. Еслі дзелаіш сорак дней, то проскурку пакрышыш. Дзіцям даюць проскурку, штоб спалі, здаровыя былі. І проскурку ў канун крышыш — ета ж самае тое. Як прычашчаешся, паспавядаюць, ваду, па капельцы даюць, і проскуркі...Я ўсігда ў Спасаўку спавядаюсь. Як атправа, скацерку бяруць сваю, тканую на доску, ці бяруць салфеткі. Хоць жонка, калі муж памёр, калі матка, то — дачка.

Сорак дней, як хто памрэ, складаюць платочак насавы вот так, на два, на чатыры ражкі, ставяць на яго стакан з вадой, на платочак. Уранні, сонца ўсхо-

дзя, пад стол выліваюць ваду, у Чырвоным Куце пад стол. Як сонца заходзя, бярэш светленькай вадзіцы, нальеш чарачку. На дзень чарку пераварачаюць, стаіць пустая на платочку. Іншы раз глянеш — вады паменшала — Радзіцелі прыходзяць! Тады прыгледзелі — кот. Падыйдзя, пап'е...

Як матка дзіцёнка прыспіць, тое дзіця з русалкамі ходзя. На Граной нідзелі ёсць такі дзень: як на Родзічы, бліны пякуць, і етых дзіцей памінаюць. — Чаму менавіта бліны пякуць на Родзічы? — Калі пара йдзе, кажуць, ета столькі на волі яго душа, покуль пара йдзе. Калі яму угодкі — свечку ставяць, лампадачку запаляць. Ета свечка гарыць, ці лампадачка — душу атпускаюць хоць з пекла, хоць з раю... Толькі яны — прыдзя канец — усе будуць у адных гадах, у срэдніх гадах будуць іцці на атвет. Ніхто не прыйшоў аттуль. Не, нічога там німа. Узяў бы хто вярнуўся, пераказаў, што там, штоб людзі зналі. Не... Той будзе гараваць болей, хто нявінны. За мяжу падзяруцца...

Маці прыспіць дзіця — ета, кажуць, нячысцікі дзіцёнка забіраюць, а галаўню падложаць. Як пахрышчаны дзіцёнак — яны не пашкодзяць. Як у дарозе перахрысціцца — светласць дзіцёнку будзя. (*Паводле Н.І. Грыньковай, нар. у пас. Ляда, 1930-2004 гг., зап. Л.Д. Раманава ў 2001 г.*).

## За адно слова мацернае...

За адно слова мацернае на сем метраў зямля гарыць пад нагамі ў таго, хто ругаецца. Адным словам «б...» ругаеш сразу тры мацеры: першая маці — зямля-карміцелька, другая — Мацер Божая, трэцяя — маці родная. (*Паводле Вольгі Кірылаўны Лукомскай, 1921 г.н., в. Бабічы Чачэрскага раёна, зап. Л. Д. Раманава ў 1998 г.*)

## Людзі даўжны быць святы

Усе дзеці, любые дзеці — усе ат Бога. Еслі Бог не дасць табе дзяцей — у цібе ні будзя. Вазьмі вон з Бібліі пісанне: заключыў Бог чрэва Сары — і не было дзяцей. А к старасці, у дзевяностых гадах, яна радзіла. Як даў ёй... І — многа... Еслі Бог не дасць душу, то ты — нішто. І хаця ты і з мужыком будзіш жыць, як ты не будзеш старацца — дзяцей не будзе. Усё ад Бога. Паэтаму вон і ў цэркві пяюць «Святая святым...» Адзін свят Ісус Хрыстос. Людзі далжны быць святы ўсе. Патаму што ў іх Дух Святы сушчэствуе, ат Бога данны. Бог удыхнуў Дух у уста Адаму. І Адам падняўся і пайшоў. Дак людзі даўжны быць святы. Но мы самі сваімі грахамі сібе асквярнілі. Ніхто нас не скланіў, мы самі сібе скланілі. Адам саграшыў, адзін чалавек саграшыў — і ўсё пайшло па нітачке. Усё пайшло ат Адама, ва грэхах усе й раждаюцца. Па ўсём перадаецца. Мы ўсе вінныя перад Богам: адзін чалавек саграшыў, усе ў ём саграшылі. Адзін чалавек васкрэс, Гасподзь, із мёртвых — і ўсе ўваскрэснуць. Адным чалавекам. Чэраз



адно васкрасеніе Ісуса Хрыста усе будуць людзі жывыя. Гасподзь уваскрасіў Сам Сабою ўсех.

Ета так гаворуць: «Вой, у пяткі зайшла душа». Душа, наверна, у чэлавеку — так прэдпалагаюць. Яна малая. І ета ж Дух — душа. Дух. Ета невідзімы Дух, но он ёсць. У нас адна ўмірала жэншчына, да дзьверы адкрыла — заходзіла адна. Толькі аткрыла, клубок такі, раз — пакаціўся, сразу, гавора, пад ногі, і пакаціўся. А тады яна прышла, гавора: «Што й та такоя?» — «Да во, гавару, — памерла». Яна гавора: «А-а-а! А я дзьверы аткрыла, мне — клубок пад ногі». Гавора: «Штось такоя... белае такое, празрачнае. Ну як воблачка якое. Рас! І, гавора, пад ногі, і пакацілась. Я гавару: «Наверна, ета душа іе. Атышла. А дзьверы закрыты. І вот, як уміраюць, дзьверы нада, наверна, усё-такі, праўда, адкрываць. Ну ета ні кажды бача.

Не будзе душы — не будзе чалавека. Дух Святы, каторы Гасподзь удыхнуў Адаму, Ён усё жывіць. Еслі Гасподзь атымя Дух Свой — усё на зямлі памрэ. Патаму што ўсякая душа жывіцца чыстатою і Духам саграваіцца. Еслі хто пахуліць Духа Святога — не прасціцца. Ні ў етам свеці, ні ў том. Нікагда Гасподзь не прасьціць хулу на Святога Духа. Патаму што ўсё чэраз Святы Дух сушчэствуя. Во як Гасподзь дзержа!.. Гасподзь даў такую красату чэлавеку, прыроду — ета ж наш зямной рай. Мы ж жывём на зямле. Ты ж сматры — какіе места красівые, усё... ета ж наш рай. Ну на небе, канешна, луччы рай. Там усё бажэствяннае. Там — святыя. Там — радасць. Там — дабрата... Там ні нада ні замкоў, там ні страшна... Мы ўрэмянна жывём. А туды на вечнасць пойдзім. І за каждае гнілое слова, каторае с уст сыходзя, нада будзя перад Богам даць атчот. Как страшна будзе стаяць перад Госпадам... Усе грахі аткрыюцца перад табой. Усе! Будуць усе стаяць і відзець, што грашыла, што дзелала. Вот как будзя стыдна. Закрыць грахі — нада прычашчацца, нада іспаведывацца. А у нас у каждага — і слава, і дзела...І паглядзіш ўзглядам — там пазавідывала, можа, саблазніўся чым. І нюхам... Так, панюхаеш... Ой, нільзя ж есць! А яно ж смачна пахне — нада ж з'есць. І вухам — хто-та мацюгаіцца, а я ж чую, памыслю што-та плахое. Нада Богу маліцца, штоб Гасподзь нам прасціў, і каяцца.

Ета еслі ў мацерныя словы ругаішся — Маць-сыру зямлю клянёш. Яна цібе кормя, адзявае, абувае... Божая Маць — каторая Спасіцеля нам радзіла, Госпада нашага Ісуса Хрыста. І свая маць, каторая нас пад серцам вынасіла, да сколькі начэй не спала, мы тожа кляном. Эта очынь бальшы страшны грэх. Нільзя ета слова памінаць нікагда.

Хто мацюгаіцца — на тым свеці за сквернасловіе падвесяць за язык. Будзеш вісець. З рота будзе скакаць што гадкае, як паміраць прыйдзецца.

Без Божага промысла нічога не будзе. І Бог усё зная — каго, у які час узяць. Гасподзь должан узяць столькі душ на неба, скольکі зрынута з неба было чорных ангелаў.

...Свяча гарыць. Еслі мы запалім свечку возлі іконы, яна абазначае... як табе сказаць: сімвал любві к Богу. Как агнём яна гарыць, так душа наша

далжна к Богу гарэць. Мы далжны вассылаць к Богу. Наша душа далжна гарэць к Богу. Як еты аганёк вот гарыць маленькі — так должэн аганёк запаліцца ўнутры, і паслаць к Богу малітву. Для етага і свяча, запаліваем свячу, стаім возлі іконы і молімся Богу. Агню пакланяцца — ета асталась ужо ат язычнікаў.

Як чалавек памірая... я чытала ў кніжцы — што как будта бы душа уходзя. І ёсць такі карыдор. Што вот яна ляціць туда, і невідна. Вот людзі, каторыя пабывалі там і вярнуліся апяць у сваё цела і сталі жыць, расказваюць, што — цёмны-цёмны карыдор, такі, як труба. Сразу — рас! — нас і засасала ў тую трубу. Засасала ў тую трубу — і цёмна, невідна. Кагда ён умірае, ты дала сьвечку. Кагда ты ўжо позна дала ... А вот іменна — як умірае. Яна ўжо з етай свячой і пойдзе. Запаліла ты, даеш. А душа атходзя. Душа атышла, а ты даеш — ета ты целу даеш. Цела дзяржыць, а душа пайшла.

... Душа чэлавека можа явіцца ў разных відах. І чэлавекам можа явіцца, і пцічкай якой-небудзь. Вот, другі раз паглядзіш на похаранах — пцічачка прыляціць, у акно пастукая: «стук» — у ваконца.

...Матка мая расказала. Гавора: «Адну пасадзілі дзевачку на печ. Раньшэ ж печы былі... Гавора: «Ну, лезь, лезь, там пагрэйся. Сёння ж дзяды прыдуць».— «Ой, мам, якія ж дзяды?» — «Ой, сёння ж Дзяды, даўжны прыйсці ўсе!» Ну, дзеці ж не знаюць. А тады, гавора, як аткрылісь дзьверы, як сталі йціць, як сталі йціць! А яна заве й заве. А яны йдуць і йдуць. І яна й гавора: «Усе, усе хадзіце». Ну, яна ж то ні бача. А дзевачка: «Мам, дак поўна ж хата!» Столькі ж найшло — і бабы, і дзяды ўсе. Каму Бог аткрые, той ета і ўбача. А каму не аткрыта — таму не дано ўбачыць. Не каждаму дано. (*Паводле Тамары Васільеўны Літвінавай, в. Пакалюбічы Гомельскага раёна, зап. Л.Д. Раманава ў 2002 г.*).

## Да душы ўзяць

Чуж чужына — ні радня ніякая, ні дваюрадная, ні траюрадная, ні чацьвяраюрадная, ні пяціюрадная — ніякая. Проста ён сам быў із Літвы — літовец, а яна — беларуска. Проста пазнакомілісь. І вот яны дружаць і дружаць, як свае. Родныя так ня будуць дружыць. Чуж чужына, напрымер. У нас усі так казалі. У нас дзед Майка казаў: «Куліна, ты ж на міне не ругайся. Я ж паехаў у Амерыку, там — чуж чужына. Не было ў міне нікога свайго. Я там з адной маладзічкай падружыўся. Я з ёй прыду, пагавару, і тым даволен, што я з ёй пагаварыў.»

... Людзей павысялілі... тож — несправядліва. Ета цэлая вайна людзям была... Папамёрлі ўсі... У нас усі мужчыны аткацілі... столькі мужчын аткаціла! І ў Закружжы... Усі паўміралі, што перасялілі... к душэ ўзялі... сваё кінулі... Наш Ягор быў у Зябраўцы... Дак наш Сяргей кажа: «На заводзі сусед работаў у Гомелі, дак гаворя: «Ой, твой хрёсны войдзя, на загародку аблакаціцца. Падыду к яму, ён горкімы слязамы плача. Льюцца слёзы... І кажа: «Так я дома ўсё кінуў. Усё ж не забярэш сюда. І прыехаў — чуж чужаніца.» І ішчэ як Аляксееўна на мяне гаворя: «Набрадзі наехалі!»

(*Паводле Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г.н., нар. у в. Амяльное, жыве ў Ветцы, зап. Г.І. Лапацін у 2011 г.*).

## Душа — як павучок...

Душа — як павучок... як кружава павучынае, лесніца. (*Паводле Наталлі Ягораўны Радзькоўскай, в. Бабічы Чачэрскага раёна, зап. Смірнова І.Ю. у 1988 г.*).



# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**

# Кніга незвычайных казак

***Вітушка С. Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі! / ілюстрацыі М. Анемпадыстава. Мінск: Зміцер Колас, 2011. 114 с.***

Вядомы грамадскі і культурны дзеяч Сяржук Вітушка адышоў у лепшы свет летам 2012 года. Аднак напрыканцы жыцця паспеў зрабіць яшчэ адзін падарунак людзям — не менш незвычайны і нечаканы, чым яго шырокавядомыя экскурсіі па «крывіцкай Мецы». А менавіта — выдаць кнігу featurerознафарматных казак.

«Дзінь-дзілінь: Пара гуляць у казкі!» — не проста назва, а заклік. Аднак ён чамусьці не разварушыў літаратуразнаўчых крытыкаў — патэнцыйных рэцэнзентаў (прынамсі нам больш-менш разгорнутых водгукаў не траплялася). Прагал недаравальны — ні для добрай кнігі, ні для памяці пра яе неардынарнага Аўтара.

Першы і найбольшы раздзел казак — «на розныя святы». С. Вітушка нязмушана «прывязвае» вядомыя сюжэты да некаторых святаў. Аўтарская фантазія разняволеная, не карыстаецца нацяжкамі ці апраўданнямі, таму перастварэнне атрымліваецца досыць натуральна. Так, у «велікоднай казцы для самых маленькіх і разумных» «Залатое яечка» дзеі, запазычаныя з аповеда пра курачку рабу, былі аргыгінальна разгорнуты С. Вітушкам для вытлумачэння традыцыі выкарыстання яек у беларускай культуры самага значнага рэлігійнага свята — Вялікадня. Шэсць Вітушкавых «казак на розныя святы», канешне, не маглі ахапіць нават самыя чырвоныя дні нашага календара. Аднак Аўтар, відавочна, і не збіраўся ствараць «фундаментальны» цыкл, расказваючы свае гісторыйкі ў якасці прыкладу, паказваючы, як можна іншым прыдумляць падобныя казачкі для сваіх дзяцей (нават экспромтам, калі хопіць фантазіі). Таму ў Сержука Вітушкі мы сустракаем аповеды пра розныя святы — як рэлігійныя, так і тыя, што, бадай, сталі свецкімі (Новы год, дзень Святога Валянціна, не кажучы пра Дзень горада — Менска). Аўтар падказвае, што можна лёгка выдумляць і цалкам новыя святы (sic!) — Свята Першага Непатаптанага Снегу, Свята Хрумсцення Першым Лёдам На Лужынах, Конкурс Прыгажосці Снегавых Бабаў, Пабудова Крэўскага Замка Са Снегу (карацей, паводле С. Вітушкі, і без Парыжа жыццё можна ператварыць у свята, якое заўсёды з табою).

Па форме творы забаўляльныя (як і мае быць у дзіцячай літаратуры). А вось па змесце яны сягаюць розных мэтаў. Тут і пазнавальнае інфармаванне — адказы на пытанні «чаму?» і «як?»; і духоўнае выхаванне — зразумела, найперш дабрыні; і гістарычная ды экалагічная асвета... Ну скажыце, хто дагэтуль у такой форме расказваў пра штучныя навагоднія елкі? А С. Вітушка даводзіць, што іх рэкамендуе сам Дзед Мароз, які ўбачыў «такую прыкрую рэч»: «Валяюцца на вуліцы святочныя елачкі, нікому ўжо не патрэбныя.




Іголачкі абсыпаліся, дзе-нідзе прычапіліся абрыўкі папяровых гірляндаў і залацістага дожджыку. Яшчэ зусім нядаўна калі іх так радасна спявалі, скакалі, карагоды вадзілі, а вось цяпер — куча смецця. Крыўдна стала Дзеду Марозу, і ён вырашыў нешта прыдумаць». І напісаў Дзед людзям ліст, каб яны ставілі «ў кватэрах не жывыя, а цацачныя елкі», расказаўшы пры гэтым, як іх можна па-святочнаму абыграць (казка «Як Дзед Мароз новае свята прыдумаў»).

Яшчэ з першага раздзела казак кідаецца ў вочы, што творы С. Вітушкі не проста нейкія казкі-выдумкі, — «падмацаваны» яны, не пабаюся гэтага слова, карэлізаваны і некаторымі рэаліямі — і гістарычнымі, і сучаснымі. Пацешыла, як майстравіта Аўтар «прыплёў» (у добрым сэнсе) Статут ВКЛ у «Казачку пра Вербную Нядзельку», расказаўшы тым самым не толькі пра «моду рабіць на Вербную Нядзельку такія ўпрыгожаныя галінкі і называць іх «віленскія вербы» або «віленскія пальмы»», але і пра ўзнікненне артыкула № 15 «Аб парубцы гаю» зводу законаў нашых продкаў, якім па сённяшні дзень ганарацца беларусы. Такая дакументальнасць павышае ступень праўдападобнасці мастацкага твора, не разбураючы яго спецыфіку казачнага жанру.

Трэці па ліку раздзел — «Казачкі на Дзень Волі» — паглыбляе згаданую карэляцыю, расказваючы пра сімвалы беларускай дзяржаўнасці — герб (канешне, «Пагоню»), сцяг і гімн. Праўда, па словах Сержука Вітушкі, ён не знайшоў і не склаў лепшай казкі пра беларускі сцяг, чым напісаў яго сябра Сяржук Сокалаў-Воюш, таму вырашыў тут змясціць ягоную «Баладу пра князя». Затое «Казка пра гімн» — гэта цэлая драматычная гісторыя пра тое, як паўставала галоўная дзяржаўная песня Рэспублікі Беларусь. Народнымі песнярамі на Парнасе быў перабраны шэраг выбітных твораў. Па падказцы вяроў-адраджэнцаў Касцюшкі, Каліноўскага і Булак-Балаховіча ўспомнілі пра вядомую песню Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...», якая была зацверджана ў якасці гімна падчас стварэння БНР у 1918 годзе. Аднак пакуль парнаскае веча раілася, людзі прыдумалі гімн «як умелі». У ім не знайшлося месца для высокіх нацыянальных каштоўнасцей і духоўнасці. Давялося адраджэнцам ізноў абуджаць народ. Калі звярнуліся з песнямі да моладзі, то тая моцна здзівілася: «Во якія песні прыгожыя! А чаму ж мы такіх не ведаем? Толькі пра чарку ды скварку спяваем». А калі «грымнулі» «змагарны гімн», то «радкі падхапіла і моладзь». «І тады паўсталі дзяды і бабы і далучыліся да агульнага хору. <...> І распраміліся грудзі, і праяснела ў галаве, і засвярбелі рукі — да працы, да змагання за адраджэнне нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны», — гэты заключны акорд казкі гучыць аптымістычным прывітаннем С. Вітушкі ў заўтрашні дзень беларускай краіны.



«Казкі-пагулянкі» — назва чацвёртага раздзела кнігі. І наводзіць яна, зразумела, на думку пра Вільню, дзе ёсць раён Пагулянка. Адпаведна тры з чатырох твораў ёй і прысвечаны. Прызнаюся, як чытач з цікавасцю даведаўся, адкуль у Вільні з'явіўся Вільнюс. Больш таго, паводле С. Вітушкі, назву трэба пісаць з мяккім знакам напрыканцы, бо гэта імя хлопчыка (як Генюсь, Ясь, Алесь) — пазашлюбнага сына самога князя Гедыміна. Дарэчы, мяккі знак, названы некім «сымбалем беларускае незалежнасьці», у С. Вітушкі сваім значэннем таксама выходзіць за межы арфаграфіі, становячыся выканаўцам жаданняў пры ўяўным дапісванні пальцам таго знака на помніку з надпісам «Вільнюс». Такі яшчэ адзін, вельмі своеасаблівы, але які канцэптуальны ўнёсак у беларускі культурны слой поліэтнічнай Вільні.

Пры чытанні казак складваецца ўражанне, што Аўтару падуладны інтэрпрэтацыі любых сюжэтаў, абгрунтаванні якіх заўгодна з'яў. Нават векавыя легенды ён бачыць па-свойму, ды так, што яны становяцца цікавейшымі за традыцыйны варыянт. Такой атрымалася «Казачка пра цмока Базылішка». Аўтар нібы прапануе глянуць на калізіі людзей і цмока вачыма апошняга, што ўвачавідкі трансфармуе і характары персанажаў, і сітуацыю ў цэлым. У выніку цмок не толькі не выглядае ўвасабленнем адмоўнага, але і сам паўстае ахвярай: людзі выцеснілі (у тым ліку сілай зброі) цмокаў, і толькі адзін Базылішак «вырашыў змагацца да апошняга». Ну, як такога не пашкадаваць! Да таго ж пасля таго, як ён апынуўся падманутым ваўком-пярэваратнем. Ваўкалак навучыў і цмока, як змагацца супраць людзей, але і Князю падказаў, што трэба рабіць у супрацьстаянні з Базылішкам. І хоць падказка ваўкалака Князю цалкам адпавядае версіі паводле легенды: цмок павінен быў зірнуць на люстраны шчыт — і здранцвець ад сябе самога, — Вітушкава кульмінацыя сталася ўсё адно нечаканай: «Заспаны Цмок, пачуўшы нейкі грукат і лязгат на двары, высунуўся з пячоры. А Князь яму тыц — і падсунуў пад самы нос шчыт-люстэрка. І ўбачыў наш Цмок сваё адлюстраванне. Паколькі шчыт быў пукаты, то адлюстраванне выйшла скажонае, страшэнна смешнае. Ад нечаканасці Цмок зарагатаў, ды так моцна зайшоўся смехам, што сэрца яго не вытрывала». Але і трагедыю Аўтар не схільны перабольшваць (хоць жа сам і зарадзіў зерне эм-

патыі да Базылішка), «выкручваецца» ўмела і па-мастацку прыгожа: «Яркай вясёлкаю ўзляцела на неба цмокава душа і пасялілася на вялікай аблачыне. З таго часу толькі аблокі на небе паказваюць нам, якія цмокі даўней вадзіліся на зямлі».

Сержука Вітушку таксама хацелася б выдзеліць і як драматурга, прычым асобна з шэрагу аўтараў п'ес дня сённяшняга. Вынікі яго драматургічнай дзейнасці спароджаныя як багатым пластом народнай культуры, так і тэндэнцыямі, зададзенымі сучаснымі аўтарамі.

Адроджаная праз творчасць Э. Акуліна (містэрыя ў 4-х актах «На Каляды», 1996), І. Сідарука (калядная гісторыя «Збавіцель», 1998; калядныя настроі «Меч анёла», 2004), С. Сокала-Воюша (калядная казка «Свецяць, свецяць зорачкі», 1993) і С. Кавалёва (п'еса-апокрыф «Братка Асёл», 1997) калядная драматургія засведчыла, што перарыванне працэсу яе развіцця за савецкім часам не стала пагібельным. Больш таго, сучасныя аўтары надалі новага дыхання п'есам па біблейскіх матывах, у тым ліку батлейцы, выйшлі на новыя мастацкія вышыні, і даўно наспела неабходнасць выпусціць асобным выданнем батлеечную драматургію (ці — шырэй — навагоднія п'есы), балазе, гэта літаратурная прадукцыя мела б несумненны попыт у самай шырокай чытацкай і глядацкай аўдыторыі[1].

У аглядаемай кніжцы С. Вітушка прапануе цыкл з трох батлеечных п'ес «Казкі — жывыя батлейкі». Як і іншыя, драматургічныя творы Аўтара («Анёл і Чорт», «Калядны канцэрт», «Скарб на Святога Яна») характарызуюцца асаблівай разняволенасцю ў разгортванні калізій пры наяўнасці некаторых намінальна знаёмых па фальклорнай батлейцы персанажаў.

Першая з названых прадстаўляе спрэчку Анёла і Чорта наконт праўдзівасці Божага нараджэння. У якасці аргументаў яны клянуцца тымі часткамі сваёй істоты, якія іх найперш характарызуюць: Анёл — крыламі і німбам, Чорт — рагамі і хвастом. Персанажы п'есы маюць класічныя характары: Анёл паступае сумленна, а Чорт спрабуе хітрыць і «дастае яшчэ адзін прыхаваны хвост».




1 Гл. падрабязней: Трафімчык А. Шлях да Батлеему: сучасная беларуская калядная драматургія // Новы Час, 2012, 21 снеж. С. 24.



**Анёл.** *Які хвост?! Ты ўжо кляўся хвастом. Гэта падман. Гэта супраць правілаў!*

**Чорт.** *А мы, чарты плюём на вашы правільныя правілы! У гэтым наша сіла, у гэтым наша перамога!*

Рассудзіць спрэчку прапануецца аўдыторыі, якая па аўтарскай ідэі павінна стаць на бок Анёла і выгнаць Чорта. Тым самым даказваецца, што перамога дасягаецца не за кошт метадаў, прымяняемых Чортам, а на аснове добрасумленнасці.

Наступная п'еса — «Калядны канцэрт» — створана па вядомых матывах нараджэння Ісуса Хрыста (Аўтар прапаноўвае і варыянт імя Езус). Канфлікт заключаецца ў нежаданні Чорта прыняць з'яўленне Збавіцеля. Цар Ірад таксама баіцца пасягальніцтва на сваю ўладу. Чорт ідзе да Ірада на службу, каб рукамі апошняга зрабіць сваю справу. Ірад кліча Смерць. А яна вазьмі ды прыйдзі па яго ж самога. Усё дзеянне перасыпана як устаўкамі ўрыўкаў з рэлігійных кніг, так і беларускімі каляднымі (і не толькі) песнямі.

Як і ў дзействе, у вобразах назіраем вялікую долю аўтарскай фантазіі. Цар Ірад у прыватнасці выпісаны з намёкам, аб чым сведчыць характэрная трасянка («Кругом адны ўрагі!»). Прадказваецца і яго канец:

**Ірад.** *...Слухай, смертухна-матухна, а давай па-харошаму. Ты мяне цяпер не чапай, пашкадуй.*

**Чэрап.** *А ты сам каго шкадаваў? Ці у цябе не прасілі літасці? Дык вось — і табе не будзе.*

Прычым Ірада з'ядаюць яго ж паплечнікі — Ваяка і Чорт.

У разгледжанай п'есе С. Вітушка стварае такую сітуацыю, што сутыкнення антаганістых сілаў, драматычнага сутыкнення характараў па вялікім рахунку не адбываецца. Аднак з іншага боку, калі браць пад увагу тэзу Алега Лойкі, што «характар праяўляе сябе ў зносінах са знешнім светам, у адносінах да іншых людзей, іншых характараў»[2], у п'есе С. Вітушкі назіраем рэалізацыю гэтага палажэння: героі паводзяць сябе дынамічна, што надае яшчэ большай святочнасці, жвавасці і яркасці каляднай урачыстасці.

Па фармаце гэтых дзвюх казак відаць, што яны, нягледзячы на арыгінальнасць (магчыма, нават трохі нечаканую), з'яўляюцца хутчэй батлеечным дыпціхам. Прычым да яго можна арганічна дапасаваць іншыя п'есы на калядную тэму. Тым больш што для батлейкі такі падыход сапраўды традыцыйны.

Трэцяя п'еса С. Вітушкі з'яўляецца «купальскай батлейкай» (такіх у айчыннай літаратуры хіба дасюль не было), створанай шляхам кампіляцыі вершаў класікаў. У ёй мы сустракаем знаёмага па пярэдніх п'есах Чорта. Умела карыстаючыся са спадчыны беларускай паэзіі, Аўтар рэалізуе вядомую фабулу з продажам душы. У С. Вітушкі гандаль вядуць Хцівец і Чорт:

2 Лойка А. Дзівосы прозы // Полымя, 2008, № 1. С. 122.

**Хцівец.**

*А я — ці не мог бы прадацца вашэці,*
*Каб быў я багатшы ад усіх на свеце?*

**Чорт.**

*Можна. Вельмі проста. А чаму ж няможна?*

Кажа Чорт у адказ і расказвае, як Хціўцу дасягнуць мэты, ад чаго апошні рады:

**Хцівец.**

*Вы-ра-ка-ю-ся ду-шы за гро-шы,*
*А нашто тая душа, калі маеш барыша?*

Ён выконвае інструкцыю Ведзьмы, становіцца па-чароўнаму відушчым і знаходзіць папараць-кветку, якая адкрывае яму незлічоныя багацці. Аднак нават іх аказваецца мала, калі Хцівец з гэтай нагоды балюе, усё прапіваючы. Багацце, такім чынам, было мройным. «Канец мне на гэтым», — заключае Хцівец.

Такім чынам, «Казкі — жывыя батлейкі» С. Вітушкі з аднаго боку выглядаюць як зварот да фальклорнага багацця і як пэўны яго вынік у XXI ст., а з іншага боку — п'есы гэтага Аўтара становяцца і своеасаблівым прыкладам (ці нават арыенцірам), які можна браць у разлік пры стварэнні батлеечнага рэпертуару ці пры яго пастаноўцы. Стварэнне казак С. Вітушкам выглядае, як гульня, чаго аўтар не хавае ў падзагалоўку. Тым самым пісьменнік падае яскравы ўзор, як можна творча падыходзіць да вядомых матэрыялаў, каб гэта было і цікава, і сучасна.

Падаваемы С. Вітушкам прыклад заключаецца не толькі ў разгортванні казачных падзей, але і ў стылі апавядальнасці, які сумяшчае як рысы фальклорнай паэтыкі, так і размоўныя элементы сучаснага чалавека, а таксама, можна сказаць, постмадэрнісцкія падыходы (цытаты, алюзіі, рэмінісцэнцыі і інш.). Да характэрных фальклорных прыёмаў Аўтара, што кідаецца ў вочы адразу, адносіцца, напрыклад, зачын казак у выглядзе фразы «жыў-быў» або часавага аднясення дзейства да даўніх часоў. Размоўнасць у творах С. Вітушкі праяўляецца не толькі праз выкарыстанне адпаведнай лексікі (такой, як: «усе слугі як слугі, а адзін аказаўся сапраўдным Шасцёркам-стукачом...», « шусь — і даў драла»), але і шляхам зваротаў да чытачоў: «што, не верыце?», «вось пабачыце». Што датычыцца постмадэрнісцкіх штрыхоў, то яны ў асноўным (калі не ўлічваць вышэй указанага творчага выкарыстання матэрыялаў іншых мастацкіх твораў) складаюцца з інтэртэкстуальных «фішак», даволі пазнавальных нават для дзіцячай аўдыторыі. Ці ж, напрыклад, маленькія чытачы, абазнаныя ў беларускім культурным пласце для іхняга ўзросту, не пазнаюць жартоўнай песні ў словах, якія завяршаюць першую казку: «І цяпер наша кура-шчабятура па садочку хо-о-одзіць ды ходзіць, куранятак за сабой водзіць»? Або адкуль ўзята жальба крумкача ў «Казцы пра герб»: «Гэта ж мая сарока-варона кашку варыла, дзетак карміла, гэтаму дала, гэтаму дала, гэтаму дала, гэтаму дала, а гэнаму не дала. Пажартавала. Кажа, ты маленькі, дурненькі, дроў не насіў, у печы не паліў, табе кашка на паліцы ў чарапіцы»? Многія моманты, праўда, трэба будзе дадаткова тлумачыць для дзетак: згаданы пасаж з цытаваннем артыкула са Статута ВКЛ хіба самому малому чытачу не асэнсаваць. А некаторыя інтэртэкстуальныя гульні С. Вітушкі разлічаны, відавочна, на дарослых: «Глянула сонца і ў наша ваконца!», «І тут знайшоўся адзін дабрадзей, зваўся Тарас. Трэба ісці, кажа, да Парнаса, я там ужо адзін раз быў, дарогу ведаю». Ёсць казкі, якія, можна сказаць, заснаваны на іншых мастацкіх творах: «купальская батлейка паводле вершаў Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Францішка Аляхновіча, Уладзіміра Караткевіча» «Скарб на Святога Яна» ці разгледжаная вышэй «Казка пра гімн». Аднак, падкрэслім, творчы метад С. Вітушкі пры ўсім пры тым не варта адносіць да якіх нетрадыцыйных кірункаў, — ідэйна яго творы даволі акадэмічныя. Аўтар толькі знайшоў як сказаць свежа, непаўторна, адметна. Магчыма, на практыцы ён піянерам не з'яўляецца, бо такі стыль, як думаецца, вусным чынам прымяняюць многія творчыя людзі стасоўна дзяцей і ўнукаў (але ж — verba volant). Ды С. Вітушка, не камплексуючы, вырашыў «задакументаваць» свае казкі ці гульню ў іх. І за гэта яму — вялікі дзякуй. Skripta manent.

**P. S.**

У якасці постскрыптума абавязкова трэба дадаць, што ў 2011 г. выйшла не толькі прааналізаваная кніга Сержука Вітушкі, але і зафундаваны радыё «Рацыя» аўдыёдыск з агучанымі вядомымі ў беларускім дыскурсе людзьмі казкамі Аўтара.

Чытайце, слухайце, атрымлівайце задавальненне!




# Вадзім Кажан

**журналіст, выкладчык. Закончыў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Працуе выклачыкам у Лепельскім аграрна-тэхнічным каледжы. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Віцебску. Жыве ў Лепелі.**




# Падарожжа па «цяжкому цэху» Беларусі

У сучасным свеце існуе столькі стыляў сучаснай музыкі, што можна лёгка заблытацца: рок, рэп, рэгі, даб стэп, хаус, транс... Я і сам з юнацтва блукаў па гэтым моры і ў рэшце рэшт спыніўся на Яго вялікасці Метале....

Спачатку, вядома, пачаў слухаць расейскія ды замежныя гурты, так бы мовіць, пачаў з «дыназаўраў»: «Коррозия Металла», «Ария», «Sepultura» , «Slayer», «Metallica», «Cannibal Corpse». Блага, у родным Лепелі на той час было некалькі адмысловых «кропак», дзе можна было набыць касеты з металічнай музыкай.

Упершыню пра існаванне беларускай «цяжкой» сцэны я даведаўся дзякуючы ўжо не існуючай цяпер «Музыкальной газете». Там была рубрыка «Legion Music Magazine», якую вялі Настасся Саматыя, Макс Квалера. На гэтых «чорных старонках» можна было знайсці рэцэнзіі на альбомы гуртоў розных экстрымальных жанраў музыкі, такіх , як «doom», «black», «brutal death», «grindcore». Таксама можна было прачытаць гутаркі з рознымі музыкамі «цяжкога цэху». Таксама на «чорных старонках» змяшчаліся агляды мінулых канцэртаў.

Так я даведаўся пра існаванне «гомельскай сцэны». Там ужо ў сярэдзіне 90-х гралі легендарныя «Gods Tower», бацькі — заснавальнікі славянскага «паганскага металу», «RASTA», першапраходцы беларускага «new metal», «ТТ-34». Увогуле, Гомель можна з упэўненасцю лічыць «нефармальнай» сталіцай Беларусі. Менавіта ў Гомелі «цяжкі цэх» развіваецца і надалей — тут граюць «Dragonflame», «Dis Tortion», «Vain of Hate», «Thelema», «Stormhold, ды той жа ўваскросшы «Gods Tower», які зараз гастралюе па суседніх Украіне, Расіі ды прыбалтыйскіх дзяржавах.

А хто толькі не выступаў у Гомелі!!! Гэта і самабытныя чарнігаўскія паганцы «Natural Spirit» і кіеўскія «Flying», польскія «VADER», грэчаскія «Rotting Christ», расійскія «Katalepsy», «Psylosybe Larvae», мінскія «Znich», «Litvintroll», «Posthumous Blasphemer», «Периальные Кондиломы».

Сталічная сцэна «цяжкога цэху» мае таксама самабытныя і яркія назовы: «Znich», «Inprudence», «Litvintroll», «Posthumous Blasphemer», «Периальные Кондиломы», «Wipping Twilight», «Пярэварацень», «Дрыгва»,»Massenhinrichtung», «Камаедзіца».

Пішучы аб лакальных сцэнах, нельга не ўспомніць «родную» полацкую сцэну — яркіх ваяўнічых паганцаў «Коло Прави», блэкстэраў «Raven Throne», патрыятычных «Devil's Walsh», бесшабашных наваполацкіх грайндкораўцаў «Anal Grind».

Што тычыцца мяне, то я з'яўляюся прыхільнікам «паганскай» музыкі. Мне даспадобы і іншыя стылі металу, такія, як «death», «doom», «gothic», «black»,

«grind». У кожным з гэтых стыляў цяжкой музыкі ёсць свае адметнасці: «death» вельмі тэхнічны ў выкананні, «doom» павольны, дэпрэсіўны, з «цягучымі» рыфмамі, «gothic» захапляе чыстым, амаль оперным, жаночым вакалам .

«Pagan» я пачаў слухаць праз «black», які зачараваў мяне сваёй ваяўнічасцю, антыклерыкалізмам, любоўю да паўночнай прыроды. А потым у рукі мне трапілі касеты расійскіх «Северных Врат» і яшчэ адных «бацькоў» — заснавальнікаў «Znich». На той час (1998 г.) я быў рамантычным юнаком і захапляўся гісторыяй, міфалогіяй і мастацтвам. Мяне адразу ўразілі «знічоўскія» радкі :

*Духі-ваўкі клічуць Багоў,*
*Шалёныя звяры вып'юць кроў,*
*Хапаюць дзевак, душу рвуць ,*
*Забіваюць ахвяру, агню прыдаюць*
*Неўры вякамі шануючы продкаў,*
*Клалі ахвяры Сонцу й Зямлі...*

Але «pagan» прыцягнуў маю ўвагу не толькі тэхнікай выканання і разнастайнасцю музычных інструментаў, бо тут побач са «звычайнымі» для «цяжкіх» стыляў музыкі інструментамі (электрагітары, барабаны, сінтэзатары гуку) ўжываюцца і аўтэнтычныя інструменты (арганы, лютні, бубны, сапілкі, дуды). Ён здзівіў мяне таксама сэнсавай напоўненасцю. Тут і шанаванне роднай зямлі, прыроды, старых звычаяў і традыцый, якія, да маёй вялікай радасці, пачалі

*«Znich»*





*«ТТ-34»*

адраджацца зноўку. Мы гэта ясна можам пачуць у песні «Вясна ідзе» гурта «Камаедзіца» з іх першага альбома «Дзеці леса»:

*Сонейка свеціць, Ярыла ляціць,*
*На белым кані, па ўсім полі*
*Вецер гудзе , Вясна ідзе...*
*Ля вогнішча карагод, весяліцца народ,*
*Ухваляе Дзядоў, сваіх уладароў...*

Хлопцы з «Камаедзіцы» на ўласным прыкладзе прапагандуюць здаровы лад жыцця, займаюцца спортам (варта толькі паглядзець на постаць вакаліста гурта Радана Лютага і адразу ўсё робіцца зразумела).

У песнях «pagan»-гуртоў можна адчуць і тугу па роднай зямлі, як у песні гурта «Пярэварацень» з іх першага альбома «Торны шлях»:

*«Белая Зямля пад чорнымі плямамі ,*
*шэрае неба зацягнута хмарамі,*
*Гарачае сонца больш не пылае, штосьці святое загінае....»*

Дарэчы, суседнія Украіна і Расія маюць даволі развітую «pagan»-сцэну . Шматлікія «суседнія» гурты як «Аркона», «Рарог», «Темнозорь», «Калевала», «Nocturnal Mortum», «Natural Spirit», «Сварга», «Невидь», «Butterflu Tample», вядомыя ўжо ў Еўропе і Амерыцы. З нашых «pagan»-гуртоў у Амерыцы і Еўропе ведаюць хіба што «ўваскрослы» «Gods Tower».

Музыку і тэксты гомельскіх «дзядоў» «Gods Tower» увогуле нельга не любіць. Яны граюць «pagan doom» і вынайшлі свой уласны гук гітары — ён нагадвае аўтэнтычны гук дуды.

Калі заглыбляцца ў тэксты «Gods Tower» (для тых, хто добра ведае ангельскую мову), то можна заўважыць, што яны прасякнуты любоўю да Айчыны і ўхваленнем свабоднага ведычнага духу.

Канцэртнае жыццё «цяжкога цэху» Беларусі ў апошні час значна ажывілася: да нас ужо прывозяць сусветна вядомых «дыназаўраў» «Marduk», «Morbid Angel», «Nile», «Kreator», «Lake of Tears», «Therion». Добрай традцыяй стаў таксама штогодні рэчыцкі фестываль «Metal Crowd», на якім выступаюць гурты не толькі з Беларусі і СНД, але і з еўрапейскіх краін. Самому мне двойчы ўдалося наведаць гэты фестываль. Фестываль ладзіць вакаліст мясцовага гурта «Apocryphal» Рыгор Руль. Добрай традцыяй стала і правядзенне ў Мінску фестывалю «Купальскае Кола», прымеркаванае да свята летняга сонцастаяння. Гэты фестываль ладзіць Віталь Супрановіч і «БМА Group». Ён жа ладзіў і канцэрт расійскіх паганцаў «Северные Врата» сумесна з мінскімі «Znich», на які мне давялося трапіць і яшчэ раз адчуць энергетыку «жывога» «цяжкога» металу, паскакаць у слэме, ды праспяваць ужо вядомыя хіты гэтых гуртоў. Дарэчы, «Znich» і «Litvintroll» выступалі ў мінулым годзе на літоўскім фестывалі «Kilkim Zaibu», які праводзіцца на Купалле (у ноч з 22-га на 23-га ліпеня), і на якім граюць гурты паганскай накіраванасці з усяго СНД і Еўропы . Мяркую, што і надалей буду наведваць «металічныя» канцэрты і адкрываць для сябе новыя імёны на «цяжкой сцэне» роднай Беларусі.

*«Litvintroll»*





# Вітаўт Мартыненка

**публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Дыскаграфія

## «Akute» — гурт дзвюх светлых кружэлак

*«Akute» — «Дзевачкі і космас», Мн., 2011, «Vigma».*
*«Akute» — «Не існуе», Мн., 2012, «БМAgroup»/»Vigma».*

Вось жа загаловак артыкула нарадзіўся насамперш, але ці гэтак адназначна ўсё ў творчасці магілёўскага гурта, — падумаў я, прыгадваючы адказ сваёй дачкі Альдоны на пытанне, якая кружэлка «Akute» ёй падабаецца найбольш: «Ну тата, яны ж такія розныя! Абедзве аднолькава моцныя». Як было пасля гэтага й самому не заглыбіцца ў творчасць новых куміраў беларускай моладзі мне, шчыраму фэну віртуозных і сцёбных панкаў «Глюкі», якіх таксама можна было назваць гуртом двух іранічных альбомаў. І гэта ж менавіта з іхніх аскепкаў утварылася трыумфальная цяпер «Akute» (ну ніяк не «Эк'ют»), якая за мінулы год здолела трапіць нават на разагрэў славутага «Placebo» ў перапоўненым Палацы Спорту. Брытанцы самі іх выбралі.

Напісаўшы неяк на адным з музычных сайтаў «Клёвы гурт, а вось дызайнера ў іх яўна няма», мушу ўсё ж прызнаць тут адэкватнае ўвасабленне задуманай ідэі калектыва, хоць насамрэч на вокладцы першага дыска аўтар аздобы нават не пазначаны, а за другі адказнасць узяў нейкі Алекс Дубовік. Мо музыкі хочуць, каб слухач больш увагі надаваў музыцы? І ці не слушна? Бо граць і запісвацца яны, лаўрэаты «БАСовішча», ужо навучыліся apriori. Таму ўсё вонкавае гэтак лаканічна: чорным па белым. Ну спярша крыху залацістага, бо адрасат — самае дарагое: «Дзевачкі і космас».

Абодва альбомы нават у аскетычнай аздобе напоўнены такімі згадкамі пра сваё бачанне жыцця: «Нішто не знікае й не з'яўляецца», «Nothing exists», «Не існуе». Нібыта імі «Akute» дае ключ ад творчага дому свайго. Дык уваходзім!

Вас адразу агортвае атмасфера пэўных памкненняў да мары ў жыцці. Хоць і без папсовага пустазвонства, яны адгукваюцца й на вакольную неўладкаванасць, але не сведчаць безвыходнасці. «Прамяні», «Шчасце», «Цішыня»— гэта не палітычныя дэкларацыі, а загалоўкі іхніх песень. Калі хочаце, тэмы першага альбома, разгорнутыя ў авангардных электронна-гітарных акордах і рытмах. І хоць некаторыя загалоўкі не такія адназначныя («Агонь», «Непазбежна», «Машына»), а часам нават і з доляй песімізму («Адзіноцтва», «Ctrl/Невясёлыя мы, нас няма нідзе»), але прага светлых пачуццяў у абгортцы наймоднейшых стылістычных дасягненняў сусветнага поп-мэйнстрыма (не russian-pops, а накшталт «A-ha», «Evanescence», «Океан Эльзи») наскрозь і тут: «Машына не мае душы? Машына кахае машыну». У іхнім поп-року адчуваюцца нават адгалоскі дачасна затухлага emo (у аранжыроўках найперш і ў тэкстах: «я памру, калі цябе не стане»).

Lisa Tran, новазеландская сяброўка маёй Альдоны, падзяляючы захапленні наватарскімі аранжыроўкамі «Akute», звярнула ўвагу й на мову, якая мілагучна кладзецца ў гэтыя зграбныя пасажы. Яна хоць і не прасякла, што «Адзіноцтва» лепш назваць «Адзінотай», але адзначыла саму гарманічнасць гукаў, іхнюю пластычнасць. Вось ён, вынік віртуознай прафесійнасці Стаса Мытніка (вакал, гітара), Рамана Жыгарава (бас і падпеўкі), Паўла Емяльянава (бубны), якія не менш за ТБМ зрабілі для роднай мовы ўжо ў першым альбоме «Akute».

Тым жа складам (толькі вось бубнар Паўлюк раптам стаў Філатавым, ну не замуж жа выйшаў) яны стварылі й гэтак адрозную кружэлку «Не існуе», дзе на першы слых вам здалося б, што ў «Akute» з'явіліся пільныя пераймальнікі ці паслядоўнікі. Але гэта яны, «Akute». Я б, праўда, хутка вызначыўся ў прыярытэтах на карысць другога альбома, а вось Альдона не змагла. Ухваляю!

«Akute» выразна развіваецца, жыве, сталее. Замест эмацыйнага звону дадалося мяккасці й пушыстасці музычнага саўнду, больш выразнымі сталі рытмы, больш адкрытымі эмоцыі. У стартавай песні «Кроў бы вада», якая ўзяла на сябе й ролю рэкламнага promo-сінгла, маглі б пацешыць сябе ўспамінамі нават пастарэлыя фэны Віктара Цоя. А вось асабіста я, ледзь разгарнуўшы буклет, прыгадаў свой улюбёны ў 80-я «Maanam», калі кожная нотка глыбока западала ў душу праз неймаверныя прычыны. А тут проста пастановачнае фота Каці Волкавай здолела нагадаць сам імідж колішніх куміраў. Але «Akute» не колішнія, сённяшнія, а паводле музычных фантазіяў нават заўтрашнія.

*Ты для мяне нібы кроў,*
*Я — бы вада.*
*Час надыходзіць ізноў,*
*Кроў, бы вада*
*Уцякае, уцякае, уцякае*
*І пацячэ ў нікуды.*

«Akute» не клічуць людзей на нейкае змаганне, на плошчу, а проста заклікаюць жыць, каб не праміргаць хуткаплыннае жыццё. Але што такое «жыць»?




Кожны разумее гэта па-свойму, а вось я, напрыклад, адчуў радасць жыцця нават ва ўзмацненні лінгвістычнага сцёбу поп-рокавых песень «Akute», які звернуты менавіта да нас, які наўрад ці адчуе хоць бы й тая новазеландка. Ну вось сам запісаны лацінкай загаловак песні «Moj rodny gut». Тут вам і вялікі Колас, і Hitler kaput, бо мы ўсё гэта перажылі, каб адчуць тонкую іронію ды ўжо пад яе ўплывам пацягнуцца да слухання песні як захавальніка нестандартных настрояў («усё, мой родны, gut — лепшыя памруць»). А яшчэ ж як зграна! Увесь альбом «Не існуе», гук якога стаў больш выразна гітарным, менш электронным, я назваў бы й больш хітовым («Шпіталь»!!!, «Ціха, як мая смерць», «Іголкі», паўакустычная «Зорка»). І ён нарэшце пераканаў, што «Глюкаў» больш не будзе, але нават іхнія фэны могуць не зацыклівацца на стылях, а йсці далей, за ўлюбёнай «Akute». Уключай мазгі ды слухай і танцуй, пакуль жывы. Для танцаў музыка «Akute» проста ідэальная, у чым можна было пераканацца на канцэртах гурта, за якімі тая ж Альдона аб'ездзіла ўсю Беларусь (Магілёў, Гомель, Бабруйск, Мінск).

Толькі не падманвайцеся загалоўкамі, бо яны не адназначныя, а з падтэкстам: «Спі» — хоць і не хіт, але зусім не калыханка («твае ракеты на пяшчотных крылах ветру»). Як і «Ліпкае» не цягне змружыць вочы («завісла ўсё ненавіснае, што навокал пахне крывёй»).

Галоўнае, што ў іхнім поп-року ні грама банальнай спрошчанасці дзеля люмпенізаваных слухачоў, а лёгкасць праз віртуознасць выканаўчага майстэрства й фантазіі «Akute». Дый у тэкстах, якія піша (ў абодвух CD) Раман Жыгараў, не стандартныя схемы ці загрузныя заклікі (як у мяне, напрыклад, у «P.L.A.N.e»), а шчырыя разважанні маладога чалавека над вечнай тэмай сэнсу жыцця: «...і нікому не належым мы з табою, таму што ўсе зоркі — халодныя лялькі, ніколі не плачуць,.. і я абяцаю, ты болей ніколі мяне не убачыш», «хто першы скончыцца — альбо дождж, альбо я?»

Карацей, «Akute» — жывая музыка для жывых, ды яшчэ нармальна арыентаваных.

## Раней «:B:N:» граў цішэй

***«:B:N:» — «Крок за крокам», Мн., 2012, «БМAgroup».***

Як паказвае практыка сусветнай рок-фанаграфіі, трэці альбом у гісторыі гурта становіцца пэўнай сімвалічнай вехай: камусьці ўжо не хапае энергетыкі, хтосьці пачынае штучна паўтараць свае ж поспехі дзеля просталінейных менеджараў, а нехта працягвае здзіўляць, ды яшчэ з улікам назапашанага досведу. Да якой катэгорыі залучыць топавы беларускі «:B:N:», які ў сярэдзіне восені 2012 выдаў акурат свой трэці альбом, мы і разбярэмся, бо адназначна тут не скажаш. Зрэшты, калі на аншлагавым прэзентацыйным канцэрце ў ста-




лічным клубе «Re:Public» выявілася шмат жадаючых падпяваць песням новага рэлізу, гэта казала пра многае. Альбом «Крок за крокам» выразна паказаў захаванне музычнай скарбонкі іхняга таленту, развіццё прафесійнага досведу бярозаўскіх музыкаў, таму на сёння, бадай, гэта самы хітовы альбом, які можна параўнаць акурат з трэцім «Мясцовым часам» (іхняя «Ўскраіна» перавыдавалася разоў пяць, бо ўсё там проста ззяе, але...)

Але чаму так пакутліва вышукваюць меламаны зніклы ў МС-вірах дэбютнік «Слота»? Ён не быў запісаны ўзорна, але дзівіў усіх і кожнага. Што да «:B:N:», дык хоць дачку маю зачапіў на ўсё жыццё «Жыве рок-н-рол!» (ну якая ж дзяўчына не адгукнецца на чары мелодыі «Дажджамі»!), я часцей за ўсё слухаю дэбютны «Не трывай» (песня «Крычыш» стала проста дэвізам жыцця). Ці пераўзыйдзе яго «Крок за крокам»?

Сябры, якія настальгічна ўспамінаюць тую прэзентацыю, усё ж знаходзяць нагоду для жартаў: «Альбом мае слушную назву хаця б таму, што «:B:N:» у ім зрабіў крок за «Крокам», выразна пахіліўшыся ў бок гранджу». Відавочная гіпербала, бо нельга параўнаць маштабы творчага даробку беларускіх гуртоў «:B:N:» і «Крок», але бярозаўцаў цяпер не назавеш адназначна прадстаўніком рок-мэйнстрыма з-за пацяжэлых аранжыровак. Але гэта й не банальнае калупанне досведу сіэтлскай рок-школы, а неверагодны «:B:N:аўскі» грандж. Я б назваў яго грандж-мэйнстрымам. Наўрад ці «:B:N:» саступіў у музычным развіцці, а ў тэкставым дык нават і падняўся. Там, дзеназіралася юначая павучальнасць («Табе ўсё мала», «Цябе ўжо няма», «Усё ад лені», «Не трывай», «Не забывай»), цяпер чуецца прага абмену досведам. Нават калі назвы нібыта павучальныя («Зрабі сябе сам»), хлопцы больш кажуць пра тое, як гэта зрабілі яны:

*Нас памылкі чужых вучылі,*
*І старэйшым глядзелі мы ўслед —*
*Імгненна час ішоў.*
*Дзверы сэрцы нам адчынілі,*
*І з'явіўся ў вочах цудны свет.*
*Я сам яго знайшоў.*
*І мы йшлі праз вятры і сцюжы,*
*Крок за крокам з'яўляўся новы шлях,*
*цяпер ужо для ўсіх.*
*Хто прайшоў яго, стаў той дужым,*
*Перамог у сабе ён болю жах,*
*сваім стаў для сваіх,*
*не памыліўся.*
*Мы,.. мы сябе зрабілі тымі, кім цяпер мы ёсць,*
*Нас жыццём кармілі, лёс дарыў нам маладосць...*

Згадзіцеся, тут ёсць над чым разважаць. А жывёльная рытміка праважуе або да дзеяння, або прынамсі да танца. У душы пасля такога хіта застаецца нібы цэлая праграма на будучыню: «Нас не зламіць нічым,.. мы... не звярнулі з сваёй дарогі, дзе перашкодаў шмат, размаўляць пачалі хіба гучней і не пайшлі назад...» Дае стартавая песня й ключ разумення агульнай канцэпцыі альбома, бо вобраз паступовага шляху, «крок за крокам», нездарма стаў галоўным і ў наступнай, загалоўнай песні альбома:

*Нас памятаюць залатыя зборы,*
*Муры палацаў, што глядзяць на зоры.*
*Мы там свае вадзілі карагоды,*
*елі смачна там.*
*Калі нас да зямлі хіліла ветрам,*
*А сцюжа накрывала сваім срэбрам,*
*Анёлы напаўнялі душы верай —*
*верылі у нас.*
*Гэй, гэй, залаты той час,*
*Гэй, гэй, не пакіне нас,*
*І у сэрцы б'ецца маладосць.*
*Крок за крокам і з паднятаю галавой*
*Мы вандруем і губляем свой супакой...*

Канцэптуальная цэльнасць трэцяга альбома «:B:N:» відавочная нават на першы пошчак раскатаў маторных гранджавых рыфаў. А пра нейкую загрузнасць тэмаў не дазваляе казаць заўважны аптымістычны пасыл прыктычна ўсіх песень: «год за годам мы маладзеем душой», «мы ідзем разам, верым у перамогу», «сотні прамянёў прарочаць светлы шлях», «прэч ад вінта, пайду на ўздым, буду па небе плыць», «у баку я аніколі не стаяў, усе цяжкасці трываў», «мой зорны час настаў, скрозь цемру я прайду», «але ўсё роўна я знайду цябе і ў мой шалёны дзень». Але не трэба думаць пра аднастайнасць творчых схемаў кружэлкі, бо малюе «:B:N:» і розныя варыянты адхіленняў, калі з-за памылковых арыенціраў «грошы цяклі, і галасы, а напрыканцы няма людзей» («Напрыканцы»). Гэта песімізм? Але ж светлыя высновы чакаюць слухача і тут: «Сціскаю я тваю далонь, і разам мы напрыканцы». Пасыл зразумелы кожнаму: ёсць нешта больш важнае за грошы ды ліпавыя галасы падтрымкі. Нават калі ўсе думаюць інакш, трэба не баяцца быць іншым, хоць «не можаш знайсці сябе сярод вас» (павольны драйв балады «Іншы» пераканаўча зацягвае ў «:B:N:аўскую» эстэтыку аптымізма).

Я назваў бы гэты альбом і калекцыяй геніяльных прыпеваў, якія шмат хто з задавальненнем запампуе ў тэлефоны на званкі: «праз туманы і праз дым, нават праз людскі натоўп, я ўсё роўна йду на ўздым, назаўжды наадварот», «то зычуць шчасця, то праклёны, такі мой кожны дзень шалёны», «да пабачэння, сябра, да пабачэння, восень, мы ведалі, што трэба, не ставілі двухкосся, мы будавалі наш музычны храм».

Не расчаруюцца альбомам і тыя слухачы, хто падсеў на «:B:N:аўскія» дуэты. Гэтым разам Кацярыну Муратаву запрасілі ў песню «Нас няма». Ці дасягне твор папулярнасці твора «Дажджамі» з Яўгеніяй Хіло, пакуль невядома, але на канцэртах Кацярына спраўляецца з абодвума дуэтамі.

Асобна мяне радуе ў беларускай рок-творчасці прысутнасць кантэксту нацыянальнай культуры. Акрамя «песняроўскага» фольк-каверу «Ружа», філасофскіх развагаў кшталту «Выраю няма» (мелодыя супер, з такіх яны і пачыналі), кідаюцца на слых і алюзіі класічнай літаратуры ў песні «На ростанях». Але каб мяне папрасілі вызначыць найлепшы хіт альбома, я назваў бы ўсе песні, акрамя яе, бо надта мудрагелістая структура, хоць прыпеў зноў жа эфектны.

Пры ўсёй стабільнасці складу калектыва, змены ёсць, але не выпадае надта засяроджвацца на іх (зноў тут Алесь Лютыч, вакал, гітара, кампазіцыя; Максім Літвінец, гітара; Сяржук Машковіч, тэксты; прыжыўся і бас-гітарыст Алесь Зайцаў, які колісь замяніў Максіма Шолахава, а тут і пяток тэкстаў напісаў). Бубнар Рамуальд Пазняк чамусьці пазначаны ў буклеце сярод запрошаных, а асноўным бубнаром названы легендарны «экзістэвец» Зміцер Харытановіч. Сярод гасцей і пара беларускіх рок-знакамітасцяў на клавішах: Лукаш Стэпанюк з беластоцкіх музпраектаў і тутэйшы Макс Івашын («NeuroDubel»). Крыху дапамог з тэкстамі і «айкюшнік» Яўген Бузоўскі.

## Бардаўская рамантыка песні

***Эдуард Акулін «Не магу жыць без крыл...», Мн., 2013, «БМАgroup».***

Жыццё раз-пораз падкідвае нам сведчанні справядлівасці базісных ісцін, толькі пільнуй, каб не закапацца ў маргінальных. Што да тэзіса аб неадназначнасці рэчаў, дык пакуль нехта плача з-за сонечнай спёкі, камусьці радасць ад шанцу пазагараць; калі некаму замінае дождж, дык шмат каму шчасце ад прыроднай помачы ў паліве агарода. Дый цяпер ва ўсеагульных стогнах аб крызісе, знойдзецца й той, каму толькі разгарнуліся ў гэты час жыццёвыя шанцы. Пераходзячы няўзнак да тэмы маскультуры і памятаючы пра закрыццё музычных лэйблаў, крамаў, цяжка не падзівіцца, што беларускі CD-рынак толькі пашыраецца. І базуецца гэта не на танным зайграванні з дрэнным густам (гэта пакінем памерлым), а на развіцці элітарных жанраў песеннай творчасці. За апошні год выбухнулі слухацкай інтрыгай і рэчыцкі гурт «Dialectic Soul» з унікальнай melodic-death-metal рок-операй «Сымон-Музыка» паводле Якуба Коласа, і сімфа-метал эксперыменты светлагорскага гурта «Re1ikt», які свой альбом «Рэкі прабілі лёд» запусціў у тыраж ажно двойчы, дадаўшы да тых выпускаў яшчэ і паўнафарматны DVD «Kryhachod». Высокая паэзія прываблівае не толькі фанаў элітарнага экстрыма, але і прыхільнікаў чуллівай бардаўскай лірыкі. Асабліва паказальнай стала прэзентацыя ў мінулыя Каляды трэцяга CD Эдуарда Акуліна ў сталічным Палацы Мастацтваў, куды людзей набілася ўтрая болей, чым умяшчае зала.



Эдуард Акулін — папулярны бард, знакаміты паэт і... рэдактар часопіса «Верасень», таму спрабаваў (ад залішняй сціпласці) не пусціць гэты тэкст у маю сталую рубрыку, але я нагадаў, што яшчэ ў камсамольскай «Чырвонай змене» 80-х, дзе я рэдагаваў музычны дадатак «Нотны аркуш», а шэф папракаў, што пішу пра нейкіх невядомых, я знаходзіў аргументы за публікацыю і, галоўнае, факты дзеля прывабы чытача. Так, ужо 18 студзеня 1991-га ў тым «Нотным аркушы» №2/173 быў змешчаны велізарны постар № 29 «Едрусь (!) Акулін» з песняй «Пяшчота лііўня» (фота У. Панады) і мая гутарка з бардам. І ўсё гэта ўжо тады пад рубрыкай «Зоркі на небасхіле», бо «Новае імя» было яшчэ раней, калі мы знаёмілі з першымі кніжкамі, тэлеролікамі, саматробнымі альбомамі.

Калі цяпер, праз 20 гадоў, з'явілася першая інфа пра юбілейны канцэрт (барду ў дзень прэзентацыі споўнілася 50 гадоў), у некаторых электронных СМІ пайшоў такі валацужны сцёб, што мімаволі хацелася прыгадаць дзіцячую класіку — Жуля Верна: «Калі вы чагосьці не ведаеце, гэта не азначае, што яго няма» — якую наўрад ці асілілі сецiўныя «інтэлектуалы»... Адказам для ўсіх стаў сам канцэрт, на якім ва ўмовах татальнага перааншлагу разышлося адсоткаў 10 новых тыражоў — Эдуардавай кнігі «Малітва воч» і кампакт-дыска «Не магу жыць без крыл...»

Пра паэзію нехта павядзе гаворку ў іншым месцы, а мяне асабіста, як музыколага, сёння радуе, што ў сваім новым альбоме бард Эдуард Акулін захаваў свой рамантычны шарм, у якім здолеў не паўтарыць былых знаходак. Дый прафесійны досвед дазволіў яму больш канцэптуальна скампанаваць структуру альбома, якую ўдала падкрэсліла прафесійная мастацкая аздоба Дар'і Бунеевай. Калі зазвычай бардаўскі альбом упрыгожвае банальны партрэт нейкай асобы з гітарай у руках, дык тут уладальнік кружэлкі адразу фіксуе сябе на пошуку тых крыл, пра якія гаворыць назва: пра што будзе ў песнях — пра крылы птушак, жамяры, сняжынак ці нават магутных ветракоў? А пакуль ён думае, навакольныя краявіды прамалёўваюць рамантычны вобраз нашай прарадзімы Крывіі, якой бы яна была, каб не хцівыя памкненні самазваных сяброў і сваякоў з захаду ды ўсходу. А была б яна, пэўна, такой, што мы ўсе б «не маглі жыць без крыл...», бо крылы нам дае Радзіма (гэта я ўжо, прабачце, сам сябе цытую, з шматкроць друкаванага ў прэсе апавядання «7 кіламетраў да ўласнага сэрца»).




А што да фоткі Эдуарда Акуліна, дык і яна, каляровая, займае адпаведнае месца на 4-й старонцы трохсчыннага дыгіпака, дзе побач меламан знойдзе і спадарожныя скрыпты асэнсавання багатага творчага шляху аўтара песень. Адным словам, не проста новы альбом, а эфектны музычны падарунак любімаму чалавеку.

Новых песень тут цэлы тузін, хоць пачынаецца альбом і адной-адзінай старой, яшчэ з гомельскага перыяду творчасці барда, якая нідзе пакуль не друкавалася:

*Памятаю, як ты ціха шаптала «Любы»,*
*Памятаю, як ты несла насустрач губы,*
*Памятаю тае музыкі ціхай гукі,*
*Памятаю, як ты не адхінала рукі...*

Класіка! Пасля шэрасці бязмоўнага брэжнеўскага застою беларусы, так і не «пабудаваўшыя першымі рускамоўны камунізм», як абяцаў чарговы крамлёўскі летуценнік Хрушчоў, нанова вучыліся казаць пра каханне на роднай мове. Песні Эдуарда Акуліна дапамагалі многім. І дапамаглі. Дый сёння дапамагаюць, як сведчыла атмасфера прэзентацыйнага канцэрту. І такіх падручнікаў па дыялектыцы кахання ў гэтым альбоме дадалося шмат: «Залатая мая», «Я адну цябе кахаю», «Жанчына», «Грэх», «Позна» («Позна нам крылы Бог падарыў,/ Позна, ды не магу жыць без крыл»), «Малітва воч» (а гэта ж назва найноўшай кнігі паэзіі). Гэта не схемы маскульта («Ты, ты, ты, толькі ты, толькі табе, толькі цябе»), хоць простыя рытмы зацягваюць гэтак жа, але глыбокая паэзія не адпускае значна даўжэй.

І глыбіню пачуццяў слухач знаходзіць не толькі ў lovesongs, але і ў разгортванні іншых тэм: «Мама», «Паходная», «Птах». Акулін валодае й філасофскай думкай, і фальклорнымі інтанацыямі, і асаблівай патрыятычнай шчырасцю. Усе песні ён стварае на свае вершы, але не цураецца й інтэрпрэтацыі чужых знаходак. Сярод іх тут літоўская паэтка Бірутэ Янушкайтэ («На шпілі званіцы»). Ну а колішні сябар, вялікі Анатоль Сыс, не надта й чужы, дзякуючы чаму Эдуард выявіў ягоны дух ідэальна («Журба»).

Што да іншых новых песень, дык таксама не кажыце, што вам не даводзілася чуць на канцэртах выдатную паэтычную оду «Янка Купала», якую ўжо здаўна выканаўцу падпявае ўся зала на публічных сустрэчах, а ў шапіках дагэтуль марна пыталі: «На якім яна дыску?» Дык вось: толькі на новым! А мелодыя такая, што ў лепшыя часіны мы яшчэ пачуем маштабныя аркестроўкі гэтага твора, факт (містэр Фінберг, чакаем)! Яна ўвойдзе ў «Greatest Hits» вялікіх беларускіх мелодый:

*Многа ці мала дзён мінавала —*
*Гаснуць знічы на вадзе,*
*Янка Купала, Янка Купала,*
*Янка Купала ідзе.*

Калі паўгадзіны спеваў слухачу падасца мала, дык камбінаваны фармат гэтага CD-digital-audio+ дазволіць бліжэй пазнаёміцца са сваім кумірам у 10-хвілінным фільме Адама Бяляцкага «О, Беларусь, мая шыпшына!», назву якому даў радок з хрэстаматыйнага верша Ўладзіміра Дубоўкі, бо акурат у згадках пра сваіх паэтычных куміраў (Купала, Багдановіч ды інш.) Эдуард Акулін яго і цытуе. У фільме вы ўбачыце паэта і барда ў творчых вандроўках, на сустрэчах з аматарамі паэзіі й песні, у музеі Максіма Багдановіча, дзе ён працаваў цягам 11 гадоў, у хатняй атмасферы, спанатрыце нават манеру пісьма, почырк вядомага аўтара.

